# РЫЖАЯ ЛІСІЦА

## 1

Ноччу зноў выпаў снег. Ён засыпаў дарогі, узрыхленую танкамі вуліцу і самі танкі, што стаялі тут на рамонце.

Сцежкі ад зямлянак да калодзежаў пратапталі яшчэ на досвітку. Дарога ж па вясковай вуліцы была схавана пад некранутым снегам да таго часу, пакуль Таццяна Батура з сынам Віктарам не працягнулі па ёй санкі.

Таццяна, у жакетцы, пашытай з выцертага салдацкага шыняля і пафарбаванай плямамі ў цёмна-зялёны колер, у доўгай чорнай спадніцы, ішла першай.

Віктар, у шыракаватай ватоўцы, ішоў следам, пазіраючы зрэдку на сякеру, прывязаную да папярочкі на санках.

За вёскай спыніліся.

Снег засыпаў усё навокал так, што не было за што зачапіцца воку.

— Пойдзем наўспрамкі,— сказала Таццяна, прыглядаючыся да заснежанага поля прыжмуранымі вачыма.

Малады шарпак, прысыпаны снегам, не трымаў чалавека. Ногі часта правальваліся па самыя калені.

Парожнія санкі пакідалі за сабой дзве роўныя вузенькія, ледзь прыкметныя палоскі.

— Ой! — раптам ускрыкнула Таццяна. Амаль з-пад яе ног, пырснуўшы снежным пылам, маланкаю выскачыла рыжая лісіца, абрывіста, як сабака, гаўкнула і, адскочыўшы далей, ленавата пацягнула свой пушысты хвост, замятаючы сляды.— Каб цябе ліха!

Віктар кінуўся наўздагон, але па мяккім снезе асабліва не разгонішся. Ён вярнуўся назад.

— Аж дыханне заняло,— паскардзілася Таццяна сыну. Яна стаяла, расшпіліўшы жакетку, расхінуўшы хустку.

Віктар моўчкі ўзяў з яе рукі почапку і пацягнуў санкі сам.

Таццяна пайшла следам.

— Ты ж хутчэй, сынок! Ад такой хады акалець можна,— папрасіла яна.

Яны перасеклі забалочанае возера, што вузкай палоскай цягнулася паўз лес, з рэдкімі прагалінамі сінявага лёду пасярэдзіне.

Адразу за возерам быў алешнік, затым дробны рэдкі сасоннік.

Адкрылася вялікая круглая паляна. Вакол раслі бярозы.

Бліжэй да сасонніку яны стаялі гусцей.

Сюды і ездзілі па дровы. З усіх дроў найлепш гарэлі бярозавыя, нават калі сырыя.

Бярозы, што выраслі на волі, былі прысадзістыя, з раскідзістым кучаравым галлём да самага долу, з тоўстымі камлямі, нягнуткія. Яны моцна трымаліся на зямлі, не баяліся ніякага ветру. Іх абыходзілі і дрывасекі: не ў кожнага хапала сілы калоць сплеценыя з адных акасцянелых сукоў кругляки.

— Гэтыя будзем секчы? — Віктар паказаў на бярозы, што раслі на паляне.

— Не,— адказала Таццяна.— Тыя, што ў густым растуць. На іх меней галля... Падай, сын, сякеру.— Тут, сярод ляснай нематы, ёй раптам падалося, што ў грудзях нібы і не было толькі што пякучага болю.

Першыя бярозкі Таццяна ссекла лёгка і хутка. А потым ёй зноў заняло дыханне, самлелі рукі і ногі.

— Цесная жакетка.— І папрасіла сына: — Падсякай ты, а я насіць буду.

— Можа, зноў баліць? — насцярожыўся Віктар.— Табе ж нічога цяжкага нельга рабіць...

— Ды не, Віцечка, усё добра,— і яна ўзяла ссечаныя дрэўцы і пацягнула іх за камлі да санак.

...Калі немцы адступалі, яны запрудзілі ўсю вёску гарматамі, машынамі, а самі, павыганяўшы жыхароў, занялі хаты. Людзі, у чым стаялі, паўцякалі ў лес. Віктар і маці, разам са сваімі суседзямі, хаваліся ў зарасніку калючай ажыны за Штонавым балотам. Спалі ў будане, заслаўшы мокрую і топкую зямлю альховым галлём і папаратнікам. Там маці і захварэла, прастудзіўшыся,— стаялі халодныя вераснёўскія ночы. Вярнуўшыся ў спаленую фашыстамі вёску, пакуль пабудавалі зямлянку, жылі ў гумне, дзе гулялі пранізлівыя скразнякі. І, замест таго каб адляжацца дзе ў цёплым, вылечыцца, маці на двухколцы, пазычанай у старога Саўкі, цягала з лесу бярвенні, жэрдкі, капала зямлю, спяшалася хутчэй пабудаваць зямлянку, бо наступала зіма. Тады яна і на-

дарвала сваё сэрца. Каб Саўка не памог ёй дабудавацца, яна адна ўжо не змагла б — ледзь ногі цягала....

— Што задумаўся? — кранула Таццяна за плячо сына, які раптам спыніўся, глядзеў некуды на другі край паляны...

— Ды гляджу, якую ссекчы,— спахапіўся Віктар.— Каб таўсцейшыя і без сучкоў. Нечага смецце вазіць.

Ён ссек бярозку, пачаў ачышчаць ад тонкага галля.

Назад яны вярталіся па тым жа следзе, які праклалі, калі ехалі ў лес. Нагружаныя санкі яшчэ глыбей рэзалі снег палазамі, цяжка было цягнуць.

— Ой, прысяду трошкі,— кінула почапку Таццяна, калі яны адолелі большую частку дарогі, апусцілася на дровы. Віктар прымасціўся побач. У яго таксама гулі ногі, асабліва спіна.

Тут іх і ўбачыў Саўка. Ён, у латаным і пералапленым кажушку, у зялёных ватніках, пашытых з саматканага палатна, у старых валёнках, цягнуў саначкі ім насустрач. На саначках ляжалі мяшок, сякера і маленькая салдацкая рыдлёўка.

— Адпачываем, Таццяна Раманаўна? — прыпыніўся ля іх.

— Ды нешта сёння не вельмі,— паскардзілася жанчына.

— Трэба табе ехаць па дровы з такім здароўем,— паківаў галавой Саўка.— Сказала б, як-небудзь прывёз бы...

— На тых кульгавых?

— Хай кульгавых, а ўсё ж коні. Цягло. Не на сабе...

— Дзякуй вам,— паднялася жанчына.— Паехалі, сын, а то плечы пачынаюць дубянець.— І спытала ў Саўкі: — А чаму ж самі? Пры конях і...

— Я не па дровы. Паеду пагляджу, што там на балоце. Можа, дзе рыбіна якая ёсць.— І, ад'язджаючы, нагадаў: — Дык не саромейся, Раманаўна. Гавары. А то і старшыні скажы...

## 2

Іван Сувіга і Андрэй Чмель стаялі недалёка ад танка і цікавалі, як два маладзенькія танкісты ў чорных камбінезонах, зняўшы гусеніцу і расцягнуўшы яе на снезе, выбівалі молатам спрацаваныя «пальцы».

Іван, каржакаваты, худы з твару, быў у зялёных бур-

ках з нямецкага фрэнча і ў нязграбных, вялікіх на яго нагу бахілах, а Андрэй у старых падшытых, са скуранымі заднікамі валёнках з зухавата закасанымі халявамі, у рабрыстым танкісцкім шлеме і ў танкісцкай ватоўцы ахоўнага колеру, з металічнымі бліскучымі гузікамі. Месцамі ватоўка была замурзана мазутам, а месцамі прапаленая ці прастрэленая.

Гэтую ватоўку і шлем падаравалі яму танкісты ў першы ж дзень іх прыезду ў вёску.

А прыехалі яны ў канцы лістапада, перад самым снегам, неўзабаве пасля таго, як быў вызвалены ад фашыстаў Гомель.

Танкі занялі ледзь не ўсю вуліцу, ад былой школы і амаль да самага яе канца. Вуліца ўгадвалася па абгарэлых дрэвах, якія некалі раслі пад вокнамі хат. Хаты ўсе спалілі немцы. Не згарэлі толькі калгасная кантора, некалькі гумнаў, што былі ў калгаснікаў на планах, і калгасны свіран. Можа, гэта і прывабіла сюды танкістаў. Іх склад быў у адным з гумнаў, а жылі яны ў калгасным вялікім свірне разам з тымі жыхарамі вёскі, якія паспелі там пасяліцца пасля адступлення немцаў.

У дзень прыезду танкістаў ля калгаснай канторы наладзілі танцы. Сабраліся дзяўчаты з усёй вёскі. Прыйшлі і некаторыя маладзіцы. Танцавалі ўвесь вечар. На пыл растаўклі мёрзлую зямлю перад ганкам. Ігралі ўдвух. Адзін танкіст на трафейным акардэоне, а Андрэй на яшчэ даваенным з аблезлымі планкамі і падклеенымі мяхамі гармоніку.

Ці той танкіст не ўмеў іграць, ці гучанне таго акардэона было нейкім нязвычным, толькі ўсе, і танкісты і мясцовыя жыхары, часцей прасілі граць Андрэя.

Андрэй так спадабаўся танкістам сваім граннем, што маёр, іх камандзір, у той жа вечар падараваў яму ватоўку і рабрысты шлем.

Хлопцы выйшлі на вуліцу, каб перахапіць паштальёна. Можа, з месяц таму Андрэй паслаў заяву ў ваенкамат, каб яго ўзялі на фронт, і абавязкова танкістам, і цяпер з нецярпеннем чакаў павесткі.

Чакаў павесткі і Іван. Усіх яго равеснікаў даўно пабралі, некаторыя з іх ужо і пораху панюхаць паспелі, а яго як забылі. Але яму пакуль што і не выпадала ісці на вайну. Трэба было дарабіць матцы кросны, бо тыя, што былі, згарэлі. Ставы і навой ён ужо змайстраваў. Засталося зрабіць набілкі, панажы і тое-сёе з дробязей.

Разасланы пад жнівеньскія росы лён у полі не згарэў. Маці паспела да снегу падабраць яго. Цяпер сушыла ў зямлянцы на печы і мяла. Лён быў доўгі і аж адліваў блакітам. Каб былі кросны, да вясны можна б яшчэ наткаць палатна.

Зямлянкі пазасыпала снегам, і толькі там-сям у садах тырчалі чорныя, у большасці сваёй бляшаныя комíны. Ды дзе-нідзе ля зямлянак цямнелі нізкія, часовыя, з тонкіх сасновых жэрдачак і галля хлеўчукі для каровы, калі ў каго яна ўцалела.

Так што нішто не перашкаджала ўбачыць паштарку яшчэ здалёк.

Пошту насіла Маня Рудзянкова, маладая адзінокая жанчына.

Іван і Андрэй, угледзеўшы яе, пайшлі насустрач.

— Дачакаліся ўсё ж,— яна спынілася, чырвонымі ад холаду рукамі пакорпалася ў сваёй брызентавай торбе, падала Івану паперку.— Трымай, калі так не церпіцца.

— Павестка,— глянуў на паперыну і зніякавеў хлопец, а потым нечакана абрадаваўся.— Гэ, яшчэ тыдзень у запасе...

— А мне? — расчаравана спытаў Андрэй.

— Табе яшчэ пішуць.

— Можа, дзе згубілася? — не адставаў Андрэй.

— Пала́хай,— яна падставіла торбу хлопцу, а потым зачыніла яе перад самым носам. З торбы дыхнула пахам настылых газет.

Падбег, размахваючы доўгімі рукавамі ватоўкі і задзіраючы вышэй галаву, каб было лаўчэй глядзець з-пад насунутай на вочы велікаватай яму бацькавай шапкі, Віктар, задыхана спытаў:

— А нам што ёсць?

— А ты дамоў ідзеш? — пацікавілася паштарка.

— У школу. Калі што ёсць, я вярнуся...

— Няма. Бяжы, хлопчык, у школу, бяжы,— сказала жанчына яму, потым яшчэ паглядзела ўслед, уздыхнула і скіравала да зямлянкі, у якой жыла Таццяна Батура.

— Я ў райком камсамола пайду,— пагразіўся Андрэй. Але яго ўжо ніхто не чуў. Паштарка адышлася далёка. Пайшоў дамоў і Іван.

Андрэю не цярпелася. Асабліва цяпер, калі Івану прынеслі павестку. Той і не прасіўся, а яго бяруць, а ён жа не адну заяву паслаў — і ні гу-гу... Ну, не могуць

цяпер, дык хоць бы напісалі, калі возьмуць. А што, калі сапраўды схадзіць у райком паскардзіцца?

Андрэй наўспрамкі па прысадах пайшоў дамоў, заграбаючы валёнкамі лёгкі і сыпкі снег.

Жыў ён з маці і з меншай сястрычкай у цагляным пограбе. Яго склаў яшчэ перад вайной бацька, знакаміты на ўсю ваколіцу пячнік. Ён і хату мерыўся з цэглы паставіць, ды не паспеў. А добра было б, каб паспеў: цагляная не згарэла б. Але ім і так пашчасціла. Не трэба было зямлянку капаць. Адвалілі зямлю ад тарцовай сцяны пограба, прабілі акно. Паставілі печ. Насупраць печы заслалі палок. У пограбе было цеснавата, але, галоўнае, добра ў ім трымалася цяпло.

Ля ўваходу ў пограб Андрэй патупаў нагамі, абтрусіў снег з валёнак. Зайшоўшы, не стаў распранацца, дастаў з-за комінка вокладкі ад нейкай кнігі, перахопленыя гумкай. Там ляжалі пісьмы ад бацькі, ад старэйшага брата, нейкія квітанцыі, Андрэеў камсамольскі білет. Ён быў новенькі, яшчэ і фарба не выветрылася. Андрэй паступіў у камсамол, як толькі вызвалілі іх раён ад немцаў. Ён узяў білет, схаваў ва ўнутраную кішэню ватоўкі, сказаў сястрычцы, якая на печы гуляла ў лялькі з анучак:

— Прыйдзе матка, скажаш, пайшоў у раён.

Райком камсамола быў у невялікім пакойчыку нізкай і доўгай драўлянай будыніны. Іх некалькі такіх уцалела тут.

Амаль увесь пакой займалі два сталы, засланыя газетамі, абгарэлы сейф, які, відаць, пабыў у пажары. На сейфе і на доўгім вузкім падаконніку высокімі стосікамі ляжалі нейкія паперы, кнігі, газеты, папяровыя скруткі. За сталом, прыціскаючыся спіною да падаконніка, сядзеў маладжавы хлопец у вайсковай гімнасцёрцы, з медалямі на грудзях. На лобе над левым вокам была ружовая ўпадзіна — след цяжкага ранення. Калі сакратар гаварыў, то чырвоная скура ва ўпадзіне над вокам быццам дыхала. І як Андрэй ні стараўся, каб не глядзець на тую ўпадзіну, яго позірк як магнітам цягнула туды.

Акрамя сакратара ў пакоі былі яшчэ дзве дзяўчыны. Адна з іх марудна ляпала на пішучай машынцы, другая, прысеўшы на кукішкі, адчыніла сейф і перакладала там нейкія паперкі.

— Што ў вас, таварыш Чмель? — спытаў сакратар.

— Я ў ваенкамат пісаў...— пачаў Андрэй.

— На фронт?
— Танкістам.
— Не хвалюйцеся, таварыш Чмель. Трэба будзе, знойдуць... Канцэрт танкістам рыхтуеце?
— Хор збіралі... Сёння пачынаюцца заняткі ў школе. Са школьнікамі развучым танцы, вершы. Танкісты таксама выступяць.
— Гэта добра,— пахваліў Андрэя сакратар.— Звярніце, калі ласка, увагу на падлеткаў. Да нас даходзяць чуткі, што яны са зброяй забаўляюцца.
— Ды забаўляюцца,— пацвердзіў словы сакратара і Андрэй.— Пойдуць у школу, не да снарадаў будзе.
— Добра, калі так,— усміхнуўся сакратар.— Але... Майце на ўвазе, Вера Мінаўна — настаўніца маладая, нявопытная, да вайны якіх два курсы педінстытута скончыла, так што... памажыце ёй там. Гэта вам, лічыце, камсамольскае баявое заданне. Канцэрт — раз. І падлеткі каб там са снарадамі не вельмі — два. Дарэчы, кантору пад школу абсталявалі?
— Знайшлі некалькі паламаных парт, іх немцы ў сад павыкідвалі, калі ў школе стаялі. Адрамантавалі. Пакойчык для настаўніцы адгарадзілі. Грубку жалезную паставілі. Танкісты памаглі зварыць.
— Гэта добра. Памагайце ёй. Дзеці амаль усе парасосткі, па колькі год не вучыліся...
— Гэта яшчэ нічога. А вось што ні кніжак, ні сшыткаў...
— Папера і кніжкі будуць. Пазней трохі. Абяцалі прысласць. З Паволжа ідзе груз. А пакуль як-небудзь самі ўжо. Абы дзеці па танках не лазілі, а то падарвуцца яшчэ... Вось так, таварыш Чмель. Шчасліва! — але толькі Андрэй выйшаў, як сакратар вярнуў яго назад. Ён падняўся за сталом, абцягнуў рукой гімнасцёрку, правёўшы вялікім пальцам па-за рэменем, узяў скрутак паперы, што ляжала ў яго за спіной на акне.— Вазьмі. Плакаты. З аднаго боку чыстыя. Папера добрая. Пісаць можна. Люба! — папрасіў ён дзяўчыну, што друкавала на машынцы.— Дайце яму некалькі чарнільных парашкоў. Вось так, таварыш Чмель. Усё зразумела?
— Зразумела,— даволі бадзёра адказаў Андрэй, хоць і па іншае ён ішоў у райком. Але яго радавала, што яму ёсць прычына сустрэцца лішні раз з настаўніцай.

## 3

На заняткі ў першы дзень прыйшло зусім мала вучняў. Многім не было чаго надзець і абуць, сядзелі дома, нават на вуліцу не выходзілі. А галоўнае, людзі не верылі ў вучобу, якая пачыналася сярод зімы. Маўляў, іх дзеці потым пойдуць вучыцца па-людску з першага верасня. А цяпер усё роўна там ніякай вучобы не будзе: ні падручнікаў, ні сшыткаў, нават няма звычайных алоўкаў.

На ганку былой калгаснай канторы, дзе цяпер мелася быць школа, сабраліся тры сябры: Віктар Батура, хударлявы, рослы, у сваёй шыракаватай ватоўцы, Рэнька, драбнаваты, шустры хлопчык, у бацькавым бастонавым сінім летніку, і Колька Салавей у матчынай чорнай плюшавай жакетцы. З-за гэтае шырокай і кароткай жакеткі яго яшчэ называлі Жучком. Ён і сапраўды быў чорненькі, блішчасты, як той жучок, якіх багата плавае ў возеры пад лесам і якіх хлапчукі называлі рыбаловамі.

У клас заходзіць хлопцы не спяшаліся, а цешыліся капсулямі. Клалі на сучок у масніцы — сучок быў моцны, як металічны,— жоўценькую бліскучую пілюльку і білі па ёй дзічаком, невялікім круглым каменем. Чуўся гук, падобны на стрэл з дробнакаліберпай вінтоўкі, з-пад каменя ва ўсе бакі пырскалі іскры. Пахла порахам і прыпаленым смалістым дрэвам. Яны білі па капсулю тады, калі на ганак падымалася якая-небудзь дзяўчынка. Дзяўчынка, усклікнуўшы ад нечаканасці, апромеццю кідалася ў дзверы.

Вось да ганка наблізілася Севярына, Касіна дачка. Кася да вайны жыла ў Ленінградзе, а ў вайну недзе на Волзе ў чужых людзей. Пачуўшы, што Займішча вызвалілі ад немцаў, прыехала ў родную вёску, дзе ў яе была сястра і родны дзядзька Саўка.

Севярына, бледнатварая, тоненькая, як лазінка, але апранутая была лепей за ўсіх сваіх вясковых равесніц. На ёй былі беленькія валёначкі ў чорненькіх галёшыках, чырвонае паліто з каўнерыкам з хваста рыжай лісіцы. Касмылёк рыжай поўсці быў прышыты для красы збоку да шэрай вязанай шапачкі. У руцэ яна несла чорненькі тонкі партфель. Яна брала ўвагу хлапчукоў сваёй непадобнасцю на вясковых дзяўчынак, якія хадзілі абы ў чым: у матчыных ватоўках, цяжкіх бахілах, у хустках з якой мешкавіны.

Віктар паклаў на абпалены сучок аж тры капсулі ад-

разу, і як толькі Севярына паднялася на прыступкі, урэзаў па іх дзічаком. Стрэл быў такі, што хлопцы, абстраляныя і не такой зброяй, аж скалануліся. Севярына ж не кінулася апрамеццю ў дзверы, а толькі спынілася, паглядзела на падлогу, дзе бабахнула, а потым вызваліла з сіняй вязанай рукавічкі правую руку, перахапіўшы партфель левай, пакруціла тоненькім беленькім пальчыкам ля сваёй скроні, надзела рукавічку і пайшла ў клас.

— Гэтую і мінай не злякаеш,— першы парушыў маўчанне Рэнька.

— Толькі капсулі патрацілі,— шмаргануў носам і Віктар.— Але нічога. Новых навыцягваем.

— Навыцягваеш,— кіўнуў галавой Колька.— Усе снарады ў гумне пахавалі. І вартавы стаіць. З вінтоўкай.

— Пад снегам ля танкаў іх нямала пагнутых засталося,— сказаў Віктар.— Не ўсе пахавалі. Ля крайняга танка і паглядзім. Яго яшчэ не рамантуюць, і там нікога няма.

— Матор чакаюць,— паведаміў Рэнька.— У нас камандзір жыве, казаў...

— Які камандзір,— хмыкнуў Колька.— У камандзіра жоўтыя пагоны, а ў твайго танкіста простыя. І ніводнай зорачкі.

— А ў яго ордэн,— не здаваўся Рэнька.— Сцяжок і зорачка на такім беленькім. А вакол лісцікі залатыя. Я рукамі мацаў.

— Які ордэн? — зноў хмыкнуў Колька.— Гэта значок, што гвардзеец. Такія значкі ва ўсіх танкістаў.

— Ордэн! — стаяў на сваім Рэнька.

— Значок,— пярэчыў Колька.

У гэты момант адчыніла дзверы і выглянула на вуліцу настаўніца. Круглатварая, з тоўстай залацістай касой. У белай кофтачцы ў тонкую сінюю палосачку і ў чорнай вузенькай спадніччы. На нагах у яе былі даволі зграбненькія хромавікі, наглянцаваныя да люстранога бляску. Ад іх востра пахла ваксай.

— Ну, хлопчыкі, заходзьце,— і яна паспяшыла схавацца ў памяшканне, бо ёй холадна было стаяць у адчыненых дзвярах.

У калідоры трымаўся прыцемак. Раней тут свяціла адно акенца, якое выходзіла ў сад, але яго засланілі, адгарадзіўшы пакойчык настаўніцы.

З калідора былі дзверы ў вялікі і светлы пакой. У ім было аж чатыры акны. Збоку, бліжэй да глухой сцяны

стаяла грубка-галандка, якую абляпілі дзяўчынкі, грэліся. Далей ад дзвярэй стаялі парты. Яны былі не аднолькавыя. Тры вузенькія, на дваіх, дзве большыя, але з адарванымі вечкамі і адна зусім доўгая, стаяла апошняя, паўз самую сцяну. На тую, апошнюю, і кінуліся сябры. Заняўшы месца, не маглі ўседзець спакойна, выпіхвалі адзін аднаго з парты, пакуль хто не звальваўся на падлогу. Тады сябры і іншыя хлапчукі, што былі ў класе, кідаліся на яго.

Калі ў клас зайшла настаўніца, яна ўбачыла ў праходзе паміж парт цэлы клубок ватовак, жакетак, стрыжаных нажніцамі, «лесвіцай», галоў, рознакаляровых бахілаў.

— Дзеці! — крыкнула настаўніца нечакана звонкім голасам.

Клубок ледзь не імгненна на вачах разваліўся. Хлопчыкі селі за парты, прыціхлі.

— Усе на месцах? Там ніхто пад партай не схаваўся? — пажартавала настаўніца.— І гэта ўсе? Небагата. Але нічога, будзем вучыцца... Зараз паглядзім, колькі вас і ў які клас прыйшлі...— і яна стала правяраць прысутных па спісе, які склала загадзя, калі яшчэ з Андрэем Чмялём хадзілі па зямлянках, запісвалі вучняў. У першы клас прыйшло пяць чалавек, у другі — чатыры, у трэці — пяць, у чацвёрты — шэсць.— Мяне, дзеці, завуць Вера Мінаўна... Цяпер скажыце, хто з вас прынёс якія падручнікі ці сшыткі?

Руку падняла адна толькі Севярына. Яна прынесла падручнік па арыфметыцы і агульны сшытак у клетачку.

— У мяне таксама ёсць.— І Рэнька дастаў з унутранай кішэні свайго бастонавага летніка скручаны ў трубачку сшытак з жоўтай паперы.— З папяровага мяшка сшыў. У такіх мяшках прывозілі танкістам сушаныя абрыкосы.

— Дык і ў нас такія мяшкі ёсць,— загулі дзеці.

— Пакажы,— узяла ў хлопчыка сшытак настаўніца, пагартала каляныя лісты, паспрабавала пісаць на іх алоўкам, а потым, прынёсшы чарнілку-невыліванку, паспрабавала чарнілам.— Добрая ж папера. Рашаць задачкі можна. Так што, дзеці, да наступнага разу зрабіце ўсе такія сшыткі. Будзем вучыцца на такіх, а там, можа, прышлюць нам і сапраўдныя... Пакуль усё паўторым, дык і прышлюць. Колькі вы гэта не вучыліся? Дзве зімы. Ну што ж, пачнём усе з першага класа...

Дзеці засмяяліся.

— А ўспомнім усё, тады разбяромся па класах...— працягвала настаўніца.— Думаю, вы ўсе будзеце вучыцца толькі выдатна. Бацькі вашы як даведаюцца, што вы вучыцеся выдатна, хутчэй разаб'юць ворага і закончаць вайну. Будзем старацца вучыцца?

— Будзем! — ледзь не хорам адказалі вучні.

— Ёсць пытанні? — абвяла вучняў уважлівым позіркам настаўніца.

— А як вучыць урокі без кніжак? — пацікавіўся Віктар.

— Як тваё прозвішча? — спытала ў яго Вера Мінаўна.

— Батура. Віктар Батура.

— Віктар Батура, калі хочаш што спытаць, трэба падняць руку. І калі настаўніца дазволіць, то трэба падняцца, а не сядзець, як ты...

— Забыўся,— засмяяўся Віктар і падняў руку.

— Калі ласка, Віця,— звярнулася да яго Вера Мінаўна.

Віктар падняўся, паўтарыў сваё пытанне пра падручнікі.

— Пакуль заданне на дом буду вам дыктаваць.

— А я думаў, задання не будзе,— здзівіўся Віктар і сеў, глянуў на Севярыну, што сядзела наперадзе, збоку, бліжэй да акна. Ён бачыў бледную шчочку, кончык носіка, на скроні сінюю жылку. Яму хацелася, каб яна хоць раз глянула на яго, а яна сядзела нейкая засмучоная, не зводзіла вачэй з настаўніцы. Але нічога, гляне яшчэ, і неаднойчы. У адзін жа клас хадзіць будуць — у чацвёрты.

— Бачу, што вы ўсе ўжо дарослыя і разумныя дзеці і, думаю, вам лёгка будзе вучыцца, а мне цікава будзе вас вучыць...

Віктар зноў падняў руку.

— Вера Мінаўна,— звяртаўся ён да настаўніцы, а паглядваў на Севярыну.— А мы будзем усе разам вучыцца ці па класах?..

— У дзве змены,— адказала настаўніца.— Зранку будзе першы і трэці, а пасля абеду — другі і чацвёрты.

— А я падумаў, калі ў адну, не памесцімся ў класе, як усе збяруцца,— і зноў глянуў на Севярыну. Яна не варухнулася. «Сядзіць як калода,— раззлаваўся ў думках Віктар.— Падумаеш, начапіла рыжы хвост, дык і нос задзерла...»

— Можна? — праз прачыненыя дзверы пачуўся голас з калідора. А потым паказаўся і сам Андрэй Чмель. У адной руцэ ён трымаў свой рабрысты шлем, у другой — папяровы скрутак. Твар разгарэўся, з чупрыны аж падымалася пара.

— Калі ласка,— дазволіла яму зайсці настаўніца і пачырванела.

— Прабачце, што перашкодзіў,— вінаваціўся Андрэй.— Я быў у райкоме камсамола, і мне перадалі...

— Праходзьце, што ж вы ў парозе? — запрашала Вера Мінаўна.

Андрэй падышоў да акна, кінуў на падаконнік свой шлем, спыніўся ля першай парты. Усе, асабліва хлопчыкі, прыціхлі. Яны любілі Андрэя. Ён быў лепшым у вёсцы гарманістам і самым моцным хлопцам. Не было нікога ў іх Займішчы, каго б Андрэй не палажыў на лапаткі. Нездарма ж ён працаваў кавалём. Калі немцы спалілі кузню, ён на яе месцы паставіў будан з фанеры і з лістоў перагарэлай бляхі, што трапілася пад рукі, змайстраваў горан і нават мех з салдацкай палаткі. Каваў сам не толькі нажы, карцы з гільзаў, сякеры, а нават танкістам памагаў. Тыя часта заглядвалі да яго ў кузню, каб ці болт які адкаваць, ці разьбу паправіць... Хлопчыкам рабіў ножыкі-складанчыкі.

— Дык вось... Я быў у райкоме...— расказваў Андрэй.— Гаварыў з сакратаром. Што ён мне сказаў? Ён сказаў, што ўсе дзеці павінны вучыцца. І каб вы вучыліся, выдзеліў вам вось гэты скрутак паперы. Плакаты. На адным баку намалявана, а на другім чыста. Папера выдатная. Можна зрабіць сшыткі, будзе на чым пісаць... І яшчэ. У нас у вёсцы танкісты рамантуюць танкі. Хутка паедуць на фронт дабіваць фашыстаў, вызваляць далей нашу Беларусь. І ўсе іншыя землі, захопленыя ворагам. Мы, дарослыя, рыхтуем для іх канцэрт самадзейнасці. У райкоме сказалі, каб і дзеці хадзілі на рэпетыцыі. Рэпетыцыі робім вечарам. Так што сёння прыходзьце. Усе. Усім будзе што рабіць. Хто будзе танцаваць, хто спяваць, хто вершык раскажа... Дамовіліся? А цяпер я вам раздам паперу,— і ён, разгарнуўшы скрутак, пачаў кожнаму вучню даваць па два плакаты.

— Ну вось, дзеці, заўтра з сшыткамі і прыходзьце,— і настаўніца адпусціла дзяцей дамоў.

— Цяпер можна і вучыцца,— сказаў Віктар, выходзячы з класа, сказаў знарок гучна, бо якраз праходзіла мі-

ма Севярына, і яму хацелася, каб яна як адгукнулася на яго словы.

А яна нават і не глянула.

## 4

У класе засталіся Андрэй і настаўніца. Ён стаяў, прыхінуўшыся да парты, а яна — ля акна, крыху засланяючы яго сабой.

— Ну вось,— падняў вочы на дзяўчыну Андрэй. Паглядзеў ёй у твар, спыніў позірк на яе кофтачцы.

— Ну дзякую вам... за паперу! — яна сумелася, нагнула галаў. Крыху пастаяўшы, падышла да парты, узяла сшытак, які быў ёй за класны журнал, спынілася, чакаючы, пакуль выйдзе Андрэй.

— Вам не холадна? — ён і не думаў выходзіць.

— Ды не,— варухнула вострымі плячыма.

— А ў пакоі вашым?

— Ой, дзякую,— засмяялася яна.— Дзякую вам за ваша стараннне. Атрымаўся такі добранькі пакой. Утульны, светленькі. За грубку дзякую. Такая цёпленькая. Адно паленца ўкінеш, а яна ўжо і грэе. Толькі вось...— і замаўчала.

— Што толькі?

— Усё роўна нічога не зробіце...

— Вы скажыце. Усё зробім,— упэўнена заявіў Андрэй.

— Сцяна, дзе ложак, вельмі халодная. Ні дзірак, здаецца, ніякіх, а цягне ад яе, як праз трубу.

— А паглядзець можна? — заклапочана спытаў Андрэй.

— Калі ласка,— і яна першая выйшла з класа, адкрыла дзверы, нефарбаваныя, цяжкія, зробленыя ледзь не з адных аполкаў. На дзверы не хапіла шалёўкі, якой адгарадзілі пакой.

У пакойчыку ля акна стаяў невялікі столік. Андрэй знайшоў на папялішчы абгарэлы станок са швейнай машыны, абцёр наліплы на ім попел, ачысціў ад акаліны, прыладзіў зверху два кароткія абрэзкі з дошак, і атрымаўся даволі зграбны столік.

Ля сцяны прымасціўся вузкі салдацкі ложак. Іх багата засталося такіх на школьным папялішчы. Тыя, што былі менен пакарэжаныя агнём, разабралі людзі. Прыцягнуў Андрэй такі ложак і настаўніцы. Масціў яго апол-

камі, прынёс саломы на матрац. Цяпер ложак быў заслаы шэрай салдацкай коўдрай.

— Светленькі, утульненькі...—прабурчаў Андрэй, спыніўшыся пасярод пакоя.— Але нічога. Раздабуду фарбы, пафарбуем і стол, і ложак, а то непрыемна і глядзець на гэтую ржу.

— Ой, я ўжо і не ведаю, як вам і дзякаваць.

— Я тут, Вера Мінаўна, ні пры чым. Я выконваю заданне камсамола. Мне было даручана ўладкаваць вас... Як магу, так і раблю... Дык дзе тая халодная сцяна? — і ён нахіліўся над ложкам, памацаў сцяну ў некалькіх месцах, заглянуў пад ложак.— Халодная ж... Можа, мох дзеці павыцягвалі? Зараз гляну,— і ён выйшаў з пакоя. Не паспела настаўніца і агледзецца, як Андрэй пастукаў у акенца, каб выйшла і яна.

Яна накінула на плечы цёмна-сіняе з чорным цыгейкавым каўнерыкам паліто і, прытрымліваючы яго за полы, выйшла. Спынілася перад агароджай, за якой стаялі абламаныя акацыі і праз якія добра была відаць тая сцяна, ля якой стаяў ложак.

— Бачыце,— і Андрэй паказаў на два вянцы знізу. Яны былі глыбока пасечаны асколкамі.— Дзе ж тут дзьмуць не будзе...

— Я і не бачыла,— здзівілася дзяўчына.

— Я таксама. Колькі разоў міма хадзіў і не заўважыў. Ды яно, каб убачыць з вуліцы, трэба добра прыгледзецца. А тут кусты... Асабліва ўлетку... Гэта яшчэ на пачатку вайны немцы бомбу скінулі. Станцыю бамбілі, а адна бомба сюды папала. Узарвалася за канторай,— і ён паказаў на яму, недалёка ад агароджы. Настаўніца не бачыла, глыбокая яна ці мелкая, былі відаць толькі выкаўзаныя краі. У яму, як з гары, звычайна коўзаліся дзеці.

— Што ж зрабіць? — і яна вачыма паказала на пабітую асколкамі сцяну.

— Зробім,— паабяцаў Андрэй.— Найду якога пакулля, заканапачу дзіркі, а потым глінай замажам,— і, убачыўшы, як туліцца ў паліто Вера Мінаўна, сцяміў: — Ой, што ж я вас на холадзе трымаю? Ідзіце, а то прастудзіцеся,— абапёршыся адной рукой на слупок агароджы, лёгка перакінуў сябе на вуліцу. Яму хацелася пабыць яшчэ з настаўніцай, і ён спыніў яе: — Прабачце, ледзь не забыўся. З дзецьмі пагаварылі, а з вамі не дамовіліся...— Ён падняўся на ганак, стаў з-пад ветру, засланіў дзяўчы-

ну сабой.— Я пра тое, каб дзеці хадзілі на рэпетыцыі. А што? У хоры могуць спяваць? Могуць. Танец могуць развучыць? Могуць. Вершык які раскажуць. Танкістам дзеці спадабаюцца. Абавязкова. У многіх свае недзе дома засталіся...

— Колькі тых дзяцей прыйшло? — ацвярозіла настаўніца Андрэя.

— А колькі іх прыйшло? Я і не падлічыў. Бачу, што небагата...— сумеўся Андрэй.— А цікава ўсё ж, хто не прыйшоў.

— Пойдзем, пакажу,— ёй і сапраўды было холадна стаяць, і яна юркнула ў дзверы першая, не чакаючы яго.

— Цікава, цікава,— зайшоў ён услед у яе пакойчык.— Калі мы з вамі хадзілі, запісвалі вучняў, усе абяцалі прысласць дзяцей у школу.

— Абяцанні і засталіся абяцаннямі,— настаўніца падала яму сшытак, а сама павесіла сваё паліто на цвік адразу за дзвярыма, прысела каля металічнай грубкі, паклала на яе далоні.

— Лічу, што трэба тэрмінова абысці ўсіх, хто не прыйшоў у школу,— сказаў Андрэй, прабегшы вачыма спіс прозвішчаў, перад большасцю якіх стаяла дробненькае «нб».

— Я думала сёння пахадзіць... Ой! — падхапілася настаўніца, сціснула далоні на грудзях.— Гэта ж вы зайшлі, я і забылася. Хацела каго з вучняў папрасіць, каб паказаў, дзе хто жыве... Каб усе жылі на сваіх месцах, абышла б па чарзе, а то ж хто дзе, хто ў сваёй зямлянцы, хто ў бацькавай, хто ў свіране якім...

— Гэта не бяда,— узрадаваўся Андрэй яшчэ адной магчымасці пабыць з настаўніцай разам.— Я вам пакажу...

— Ой, мне проста няёмка. І першы раз вы са мной хадзілі...— аднеквалася Вера Мінаўна больш для прыліку.

— Нічога... Павінен жа выканаць да канца камсамольскае даручэнне,— расплыўся Андрэй у шчаслівай усмешцы.— Я зараз забягу дамоў і прыйду...

— Буду чакаць,— і яна праводзіла хлопца доўгім і крыху здзіўленым позіркам, нібы раптам убачыла яго ўпершыню.

## 5

Віктар, Рэнька і Колька ішлі па вуліцы і пра нешта спрачаліся. Паглядзець, дык іх нішто і не цікавіла наўкола, так былі занятыя сваім. А яны неўзаметку пільна прыглядваліся да кожнага танка, якія стаялі ўздоўж вуліцы, дакладна прыкмячалі, колькі танкістаў было ля якой машыны і што яны рабілі.

У канцы вуліцы пад старой, абгарэлай з аднаго боку бярозай стаяў танк, які яшчэ не пачыналі рамантаваць. Яго зусім нядаўна прыцягнулі на тоўстым тросе, які зараз доўгай вужакай вісеў на магутных круках спераду.

За танкам стаялі парожнія металічныя скрынкі. Ля іх ляжала некалькі снарадаў з пагнутымі жоўтымі гільзамі. Хлопцы, схаваўшы ў кішэні згорнутыя плакаты, узялі па аднаму цяжкому снараду і, спатыкаючыся, ледзь не пабеглі ў канец саду, далей ад вуліцы. Там іх пакідалі, некаторы час стаялі, зморана дыхаючы, лізалі снег.

— Ну давай, Віць,— папрасіў сябра Рэнька.— Пакуль ніхто не бачыў...

Віктар агледзеўся, папляваў на далоні, пацёр імі адна аб адну, узяўся за гільзу і з размаху ўдарыў па яблыні тым месцам, дзе снарад злучаўся з гільзай. Ударыў адным бокам, потым другім. Снарад пахітаўся ўлева, управа іываліўся. Так ён разрадзіў усе тры гільзы.

Порах высыпалі ў адну кучу, яе засыпалі снегам.

— Як сцямнее, падпалім,— сказаў Віктар.

Раней, калі зямля не была яшчэ мёрзлая, порах з гільзы не высыпалі, а заганялі гільзу з порахам у зямлю капсулем уверх. Потым выкручвалі капсуль і праз адтуліну ад яго падпальвалі порах. Гільза выстрэльвала з зямлі і з гулам ляцела ўверх... Потым, калі зямля замёрзла, порах высыпалі ў адну кучку і ў прыцемках падпальвалі. Святло ўспыхвала ледзь не на ўсю вёску.

Капсулі з гільзаў таксама павыкручваў Віктар. Іх даставаць было няцяжка. Гэта мог бы зрабіць кожны. Паставіш цвік у выемку на краі капсуля, ударыш каменем, ён і павернецца. Павернеш некалькі разоў, а потым яго і рукой няцяжка выкруціць. І ўсё ж капсулі выкручваў таксама Віктар. «Гэта трэба ўмець рабіць»,— гаварыў ён таварышам. І тыя не пярэчылі. Бо ён, Віктар, акрамя капсуляў умеў адкручваць ад снарадаў і ўзрывальнікі. Раней за імі ўсе ганяліся, бо з іх даставалі маленькія металічныя цыліндрыкі накшталт напарсткаў, толькі

што не пабітыя кропкамі, гладзенькія. Вызваліўшы ад беленькага дынаміту, іх раздавалі жанчынам, і тыя бралі іх за напарсткі, хоць яны былі і нязручныя. Ды лепшых па тым часе не было.

Але, пасля таго як аднойчы ўзрывальнік узарваўся ў Рэнькавых руках, калі ён увечары, седзячы ля грубкі, разбіраў яго на часткі, апаліў хлапчуку рукі і так ударыўся ў бляшаную трубу, па якой ішоў дым з грубкі ў комін, што тая аж пагнулася, ужо мала хто з хлапчукоў адважваўся выкручваць узрывальнікі.

Віктар выкруціў капсулі з гільзаў, раздаў іх таварышам, а потым дастаў з аднаго снарада ўзрывальнік, шпурнуў яго далей у куток саду, дзе снег быў глыбейшы, а снарад падняў, абцёр ад снегу і сунуў пад рэмень на жываце, прыкрыўшы поламі ватоўкі.

Дома Віктар даставаў са снарада тое жоўтае, што было ўсярэдзіне. Другім хлапчукам бацькі забаранялі рабіць гэта, а Віктар ужо апустошыў не адзін снарад, і нічога. Тым жоўтым парашком людзі лячылі каросту. Прыносілі за яго хто яйка, хто малака, хто сушаных яблык. Што ў каго было.

Толькі яны выйшлі на дарогу, якую ўжо добра ўкаталі за якіх пару дзён пасля апошняй мяцеліцы, да іх падляцеў на самаробных драўляных каньках Рыгор Пуляй. Ён яшчэ раней хваліўся, што робіць сабе канькі, яму, канечне, ніхто не паверыў, нават пасмяяліся. Каб хто іншы пахваліўся, а то Рыгор Пуляй, які не тое што выкруціць узрывальнік са снарада, а нават падысці да парожняй гільзы баяўся. Рыгор не стаў нічога даказваць, а вось узяў ды і падкаціў на гатовенькіх.

Канькі былі зроблены з высокіх драўляных брусочкаў, абчасаных трохкутнікам. Знізу былі прымацаваны палазкі з тоўстага дроту. У брусочках былі прасвідраваны дзіркі для вяровак. Канькі тонкімі вяроўкамі былі прывязаны да бахілаў так моцна, што тыя аж пакарабаціліся і зморшчыліся, пераціснутыя. З-за халявак тырчалі бярозавыя сукаватыя палачкі, якімі туга падкручваліся вяроўкі.

І вось зараз Рыгор у сваім куртатым, з рукавамі ледзь не па локці палітко, якое яшчэ насіў да вайны і з якога даўно вырас, стаяў на сваіх каньках, з усмешкай на круглым твары, нечым падобным на дзявочы, і не хаваў свае радасці ад таго, што вось зрабіў, што задумаў, хоць яму і не верылі.

Каб як збіць яму гэтую радасць і не страціць свае годнасці перад ім, сябры ледзь не ў адзін голас пахваліліся:

— А мы сёння ў школе былі...

— А мой бацька пісьмо прыслаў. Сёння паштарка прынесла.

Хлапчукам, як кажуць, нечага было сказаць. Яны стаялі і маўчалі. Яны нават падаліся ў гэты момант Рыгору нейкімі бездапаможнымі, пакрыўджанымі. І каб як суцешыць іх, ён сказаў:

— А сёння багата каму прынесла пісьмы паштарка.

Хлапчукі яшчэ нейкі час моўчкі пастаялі, а потым, як па камандзе, усе разам пабеглі. Крыху прабеглі па дарозе, затым наўспрамкі кінуліся да сваіх зямлянак. Марудней за ўсіх бег Віктар. Яму замінаў цяжкі снарад. Ці ён забыўся на яго, ці сапраўды яму вельмі трэба быў той снарад, толькі не кідаў яго, мацней прыціскаў да жывата пад ватоўкай.

Рыгор Пуляй кінуўся ўслед за хлопцамі, хацеў спыніць іх, сказаць, што сёння было пісьмо толькі ад яго бацькі, ён чуў, як пра гэта гаварыла сама паштарка, калі заходзіла да іх у зямлянку, але так і не сказаў. Пашкадаваў таварышаў. А потым нетаропка ехаў па пустой вясковай дарозе на сваіх такіх удалых каньках, ехаў без усялякага імпэту, сумны і расчараваны, што яго канькі не толькі не ўразілі таварышаў, а нават зусім не зацікавілі. А ён жа дома нарыхтаваў і драўляных брусочкаў, і тоўстага дроту назапасіў, спадзяваўся, што хлопцы папросяць і ім зрабіць такія.

## 6

Віктар аж засопся, пакуль дабег да свае зямлянкі.

Іхняя зямлянка, як і ва ўсіх, была за папялішчам, у садзе. На фоне белага, яшчэ не стаптанага снегу выразна жаўцеў прамавугольнік дзвярэй — дзверы звонку былі ўцеплены жытняй саломай — ды тырчэў чорны бляшаны комін. Вакол коміна снег растаў, адступіўся, і з-пад яго як бы вылузнулася чырванаватая плямка зямлі — гліна.

Віктар пастаяў крыху перад дзвярыма, аддыхаўся, памацаў снарад, каб ён раптам не extraваліўся, калі будзе сам спускацца па крутых прыступках у зямлянку, а га-

лоўнае, каб не ўбачыла маці, што ён зноў прыцягнуў гэтую жалязяку, як яна гаворыць, каб не пачала дакараць яго, што ўсё ў яго не так, як у нармальных дзяцей, што ён калі-небудзь зломіць сабе шыю... А галоўнае, расхвалюецца. А ёй жа нельга хвалявацца...

Віктар зачыніў за сабой вонкавыя дзверы, спусціўся па прыступках, локцем таўхануў тонкія і лёгкія дзверцы ў зямлянку.

У зямлянцы заўсёды трымаўся густы прыцемак, бо святло цадзілася ў яе праз адзінае невялічкае акенца, якое было пры самай зямлі і прытым ледзь не напалову прысыпанае снегам. Цяпер жа, пасля вуліцы, тут здавалася зусім цёмна. Віктар пастаяў у парозе, пакуль не пачала знікаць цемра і не з'явілася спачатку белаю плямаю, а потым больш выразна печ, а за ёю драўляны, з бярозавых жэрдачак ложак, у кутку зямлянкі, паўз ложак стол.

Віктар больш пільна паглядзеў на стол, ці не ляжыць на ім які канверт. Яму падумалася, калі б было пісьмо ад бацькі, яно абавязкова ляжала б там.

На ложку, упаўшы ніцма на падушку, ляжала яго маці. Відаць, як прыйшла з вуліцы, так і ўпала, не распрануўшыся, у сваёй жакетцы, у бурках. Нават снег не абабіла з бахіл. Ён яшчэ не паспеў і растаць, толькі набракнуў вільгаццю, пацямнеў.

Звычайна, калі маці адпачывала сярод дня, а адпачывала яна часта, то абавязкова разувалася, ногі накрывала жакеткай. Можа, ёй раптам стала так дрэнна, што толькі і здолела дабрацца да ложка, на большае ўжо і сілы не хапіла. Можа, хадзіла па ваду? Ён жа прынёс ёй перад школай цэлае вядро і прасіў, каб сама не хадзіла. Віктар зазірнуў у вядро, якое стаяла на падлозе ля дзвярэй на невялічкай фанерцы, каб не забрудзіцца аб зямлю. Яно было амаль парожняе. Толькі на самым дне блішчала, можа, у палец вады. Значыцца, па ваду не хадзіла, але нешта рабіла, ці то што зварыць паставіла ў печ, ці мыла які посуд, што столечкі вады засталося... А можа, ніяк ад учарашняга не адыдзе. Перапаміліся яны з тымі дровамі. Ён таксама натаміўся добра, нават болей за маці, бо дома яшчэ пасек тыя дровы, нанасіў у зямлянку, пакладаў паўз печ, каб сохлі. У яго так балелі рукі і ногі, здавалася, за ноч не адыдуць. А яна ўчора легла спаць не вячэраўшы і раніцай нешта кволілася...

Віктар падышоў да печы, стаў на нізкую круглую калодку, якая была за табурэтку,— такіх дзве, крыху вышэйшых, стаялі і ля стала,— катануў снарад пад пляскатую падушку,— сена ў ёй ужо спрасавалася, утаўклося. Снарад пракаціўся, ціха кляцнуўся аб крайні, бо іх, снарадаў, там ужо ляжала некалькі штук. Потым распрануўся і шпурнуў ватоўку, пад якой замест коўдры спаў ноччу, і ціха, каб не шлёпаць па падлозе бахіламі, падышоў да ложка.

— Мам, а мам! — паклікаў ціха.

Насцярожана прыслухаўся. Нагнуўся бліжэй да яе. Дыханне было роўнае і спакойнае. Відаць, заснула. Падышоў да печы, адкрыў заслонку, угледзеўшы невялікі чыгунок, выцягнуў яго рукой. Ён быў поўны. Значыцца, маці яшчэ не абедала. Узяў адну бульбіну з румяным прыгарачкам зверху, чыгунок пасунуў зноў у печ, паставіў засланку на месца.

Пад прыпечкам была невялікая палічка, там стаялі міскі, лыжкі, у слоіку соль, а ў папяровым мяшку сушаныя абрыкосы.

Калі гэтыя абрыкосы прывезлі з вакзала ў вёску для танкістаў і згружалі іх у гумно, то некаторыя папяровыя мяшкі лопаліся. Абрыкосы рассыпаліся. Хлапчукі іх бралі тады колькі хацелі. Салдаты не адганялі. Віктар напхаў той смакаты поўныя кішэні, за пазуху і нават у шырокія халяўкі бурак. Калі дома вытрусіў усе абрыкосы, дык іх набралася нямала.

Віктар нагроб жменьку абрыкосаў, разуўся, залез на печ. Седзячы, з'еў бульбіну, а потым, улёгшыся ямчэй, схаваўшы ногі пад ватоўку, грыз абрыкосы, думаў пра бацьку, чаму так доўга ад яго няма нічога. Ужо не адзін месяц прайшоў, як іх вызвалілі ад немцаў. Некаторыя ў іх вёсцы паспелі атрымаць і не па аднаму пісьму. А ён маўчыць, не спяшаецца падаць вестку.

Усплывала ў памяці, як з туману, даваеннае жыццё. Помніцца, як перад самай вайной усе мужчыны з іхняе вёскі сабраліся на поплаве, што пачынаўся адразу ж у канцы вуліцы. З імі быў самы сапраўдны камандзір, які прыехаў у тую раніцу з раёна. Замест вінтовак ва ўсіх былі драўляныя палкі. А яго бацька быў з трашчоткай — такая драўляная рамачка з зубчатым колцам усярэдзіне, да якога прыціскалася фанерка. Калі круціць колца, то чулася траскатня. Вось той трашчоткай і махаў яго бацька, схаваўшыся за купінай.

Ледзь не з усёй вёскі людзі высыпалі на поплаў. Усім было цікава паглядзець, як дарослыя гуляюць у вайну. Прыходзілі і жанчыны. Яны маўкліва стаялі ды часта ўздыхалі.

Яго маці, заўсёды ажыўленая, гаваркая, вясёлая, у той дзень была вельмі зажураная...

А хутка Віктар праводзіў свайго бацьку на вайну.

Ледзь не да самай станцыі бацька нёс яго на руках. Віктар, паклаўшы галаву яму на мулкае плячо, глядзеў на дарогу і нічога не бачыў — слёзы туманом засланялі вочы.

Маці ішла побач, несла невялічкі сіні чамаданчык з фанеры.

«Усё было б добра, сынок, каб ты толькі не плакаў»,— некалькі разоў за дарогу шаптаў яму бацька на вуха і калоўся сваёй мокрай шчакой у яго худую шыю.

Калі вярнуліся са станцыі, маці ўпала на ложак якраз так, як і зараз. Праляжала да самага вечара...

Канечне, каб бацька прыслаў пісьмо, яна ажыла б, павесялела б. Ды калі б ён, Віктар, ведаў яго адрас, ён напісаў бы яму пра маці, можа б, і пусцілі бацьку хоць на колькі дзён дамоў... А калі ўзяць ды напісаць пісьмо самаму галоўнаму іхняму камандзіру? Вось толькі б раздабыць дзе добрай паперы. Узяць ды папрасіць у Севярыны? Няўжо пашкадуе якіх пару лісткоў? Калі іх вырваць з агульнага сшытка, ён ніколькі не зменшыцца. Там жа іх багата. Можа, болей сотні. Хоць пакуль яшчэ нікому пісаць не трэба. Яшчэ трэба тыдзень-другі пачакаць. Не будзе і тады ад бацькі ніякай весткі, то можна будзе напісаць камандзіру.

Сагрэўшыся, Віктар неўпрыкметку задрамаў. Заснуць моцна не паспеў, бо адразу ж пачуў незнаёмы голас у хаце.

— Ці ёсць тут хто? А то знадворку — як сляпая, нічога не відна.

Віктар падымае галаву і бачыць: у парозе стаіць Кася, маці Севярыны. Як яе завуць па-даросламу, ён не ведае. Яе ўсе ў вёсцы ведаюць за Касю.

Яна была высокая, худая. Галава абапнута ў шэрую вязаную хустку так, што тырчыць толькі нос. Шырокае і доўгае паліто. Каўнер з рыжай лісіцы.

— Вам каго? — цікавіцца Віктар.

— Твая мама дома? — у сваю чаргу пытаецца Кася.

Віктар толькі намерыўся шмаргануць з печы і разбу-

дзіць маці, як раптам пачуўся яе нейкі звялы, нібы з апошніх сіл гаварыла, голас:

— Я тут, Касечка. Праходзь...

— Ой, я знадворку нічога не бачу,— смяецца Кася і вобмацкам, кранаючыся рукою сцяны, ідзе да стала.

— Дзіва што...— маці садзіцца на ложку.— Ідзі сюды бліжэй, Касечка, тут ля стала калодачкі, прысаджвайся.

— Ды не турбуйся ты, Таццяначка, найду як-небудзь...— яна ўрэшце ўселася, паправіўшы паліто, каб не пакамечылася пад ёй.

Віктар бачыў, як маці прыгладзіла крыху растрапаныя валасы, мацней закруціла на патыліцы куклу, нешта паклала пад падушку, як паперыну якую, падышла да стала, села на другую калодку насупраць Касі, сказала:

— Мой Віктар дома, а я і не чула, як прыйшоў.— Спытала ў сына: — Ты даўно дома?

— Нядаўна, толькі на печ узлез,— адказаў ён.

— Мая Севярынка ўжо даўно прыбегла,— глянула на Віктара Кася.— А там у іх і ніякай вучобы не было. Пагаварылі пра канцэрт для танкістаў, далі па два плакаты на сшыткі і адпусцілі.

Таццяна ўгледзелася ў каўнер Касінага паліто, прыўзнялася, памацала яго рукой, а потым ці ўсхліпнула, ці ўсміхнулася, Віктар і не разабраў, уздыхнула.— Ніколі такі і ў руках не трымала. А ён мякенькі, цёпленькі...

— Звычайны,— прыкметна сумелася Кася.— Гэта ж была цэлая ліса. З галавой, хвастом... Да вайны ў тэатр хадзіла ў ёй. На плечы накінеш... А тут Севярынка падрасла, паліто трэба, ды і сабе... Дык я хвост абрэзала ёй на каўнерык. І сабе зрабіла каўнер. Аж яно і добра. А ў эвакуацыі ледзь не прадала за масла. Якраз Севярынка захварэла... А потым усё ж пашкадавала. Падарунак мужа. Думаю, не вернецца з вайны, не дай бог, хоць памяць будзе...

— Гэта ж і мой абяцаў мне такі каўнер. Лісіцу, казаў, застрэлю. І грошы на стрэльбу сабраў, а тут вайна. Забіў лісіцу...— маці хуценька, неўпрыкметку кранулася далонню вачэй, моцна сціяла вусны, яны аж пабялелі, задумалася.

— Ды цяпер гэтых лісіц багата,— падаў голас з печы Віктар. Яму не хацелася, каб маці зайздросціла Касі,— бацька прыйдзе, не адну заб'е. А можа, і я злаўлю.

Маці толькі моўчкі глянула на сына.

— Ды багата,— сказала яна.— У лес пайшлі па дро-

вы, дык з-пад ног выскачыла. Так налякала,— і зноў задумалася.

— Гэта ж я да цябе, Таццяначка, прыйшла па дзелу, людзі падказалі,— і далей загаварыла Кася цішэй, ледзь не шэптам, але Віктар усё роўна добра яе чуў.— Гэта ж у маёй Севярынкі пайшлі па адной ручцы нейкія прышчыкі. Можа, і дыятэз які. Ці не ад малака. Яна ж яго, можа, болей года ў вочы не бачыла, і раптам... А можа, і ад рыбы. Учора Саўка багата яе з возера прывёз і нам даў. Казаў, яе там пад лёдам як насыпана. Ну, мы з ахвоткі і накінуліся... Добра, калі дыятэз, а раптам якая кароста? Мне людзі казалі, што ў вас нейкі парашок ёсць, памагае...

— Ды памагае,— маці глянула на сына.— Віктар, у цябе ёсць гэны парашок?

— Зараз будзе,— хлопчык жвава падняўся, дастаў з-пад падушкі цёплы, разагрэты на чарэні снарад, усеўся за комінам і, заціснуўшы снарад нагамі, пачаў доўгім завостраным зубам ад бараны выдзёўбваць з яго жоўты парашок. Пастукае па зубе цяжкім пальцам ад танкавай гусеніцы, вытрусіць парашок на кавалак газеты, перавярнуўшы снарад дном уверх, і зноў пачынае дзяўбці. Насыпаўшы поўненькі мяшэчак парашку, злез з печы, падаў Касі, пачаў абувацца.

— Яго трэба перацерці з якім тлушчам,— раіла Таццяна, а потым, угледзеўшы, што сын апранаецца, спытала: — А ты куды?

— Па ваду схаджу,— буркнуў Віктар.

— А гэта вам,— сказала Кася і паклала невялічкі пакецік з фарбаю.— Дала б болей, ды разышлася ўся.

Кася, калі прыехала ў іхнюю вёску, прывезла з сабою шмат фарбы. Яна была ў яе толькі цёмна-зялёнага колеру. Але людзі ўсё роўна куплялі. І ў хуткім часе ўся вёска насіла цёмна-зялёныя кофты, штаны, хусткі...

Прынёсшы вады, Віктар зноў узяўся за клямку ў дзвярах.

— Абедаць жа будзем,— хацела спыніць яго маці.

— Я зараз,— крыкнуў ужо з-за дзвярэй.

Але Віктар вярнуўся не хутка. Пакуль абышоў сваіх сябрукоў, дамовіўся, у колькі раніцай паедуць на рыбу, хто што бярэ з сабой, і дзень кончыўся. Ля свае зямлянкі сустрэў Касю. Гэтак доўга яна праседзела ў іх. І пра што яны толькі гаварылі?

— Хіба так можна позна? — упікнула яго жанчына.—

Не трэба пакідаць маці адну, яна так за цябе перажывае...

«Чаго ёй перажываць за мяне?» — не разумеў Віктар.

І ўсё ж Касіны словы на яго падзейнічалі. Спачатку ён нічога не думаў гаварыць маці пра тое, што заўтра зранку збіраецца па рыбу, а цяпер, як толькі ўвайшоў у зямлянку, сказаў:

— Я заўтра, мам, на рыбу паеду. Сама ж чула, Саўка прывёз багата. Добра?

— Слухай, Віцечка,— распачала маці зусім пра другое.— Сыночак ты мой. Павыкідвай ты снарады. А раптам не дай бог...

— Ды яны так ніколі не ўзарвуцца. Каб узарваліся, трэба капсуль...— але ўпэўненасці ў яго голасе не было: неяк непрывычна загаварыла з ім маці.

— Я прашу цябе, сынок...

— Добра...

## 7

Яшчэ на досвітку, калі і зоркі не згаслі ў небе, Віктар, Рэнька і Колька, паклаўшы на саначкі мяшкі, сякеры, рыдлёўку, скіравалі на возера. Дома сказалі, што яны хочуць вярнуцца так, каб паспець яшчэ ў школу, а на самай справе баяліся, што іх апярэдзяць, таму і спяшаліся. Думалі, кінуцца ўсе па тую рыбу, бо па вёсцы распаўзлася чутка, што яе там вельмі багата.

Ішлі моўчкі. Глуха парыпваў снег. Навокал ні агеньчыку. Над галавой сінела неба, а навокал у смузе злівалася з зямлёй. Стаяла немата і нерухомасць, як у якой заснежанай пустыні.

— А раптам ваўкі,— прашаптаў Мікола.

— На цябе першага і нападуць,— хмыкнуў Рэнька.— На жакетку тваю падумаюць, што чорнае цялё...

— А сякеры для чаго? — спытаў Віктар.

— Рукі затрасуцца — сякеры не ўтрымаеш,— блазнаваў Рэнька.

— А я пораху крыху прыхапіў,— паведаміў Віктар.— Як што, дык запалім. Ваўкі больш за ўсё баяцца агню.

Пакуль дайшлі да возера, прыкметна пасвятлела.

З гэтага боку возера раслі альховыя кусты. Іх па самыя вяршкі засыпала снегам. Снег замёў і возера. І толькі пасярэдзіне цягнуўся вузкай стужкаю аголены лёд — вецер пазносіў снег.

— Дзе тут тая рыба? — усумніўся найбольш гаваркі Рэнька, калі яны ступілі на чысты лёд.— Ніякіх пелек...

— Саўка ж сюды ехаў,— сказаў Віктар.— Сам бачыў... Можа, пашукаем яго пелькі?

— А як ты іх знойдзеш? Возера вялікае,— Колька і так стаміўся за дарогу, пакуль ішлі па сыпкім снезе, нават расшпіліў верхнія гузікі ў сваёй плюшавай жакетцы.— Давайце тут вось і рабіць пельку. Калі рыба ёсць, дык ёсць...

— І то праўда,— узяўся за сякеру Віктар і пачаў секчы лёд пасярэдзіне прагаліны. Узяўся за сякеру і Рэнька, якому стаяць у бастонавым летніку было холадна. Крыху адпачыўшы, далучыўся да сяброў і Колька.

Лёд калючымі пырскамі разлятаўся ў бакі, біў па тварах, пападаў на шыю. Абкалолі даволі ладную крыгу. Калі тая, глуха трэснуўшы, асела, з-пад лёду патыхнула гнілой вадой.

— Рыбай і не пахне,— шмаргануў носам Рэнька.

— Зараз убачым. Давайце падымем крыгу,— загадаў Віктар.

Спачатку хацелі яе прыўзняць рыдлёўкай. Падважылі. Драўляная ручка затрашчала. Тады крыгу раздрабілі сякерамі на кавалкі. Пад лёдам вада вымерзла. Ледзь прыхопленая марозам зямля правальвалася пад нагамі. Рыбы не было.

— Няма...— зніякавеў Рэнька.

— Няма ж,— прысвіснуў Колька і дапытліва глянуў на Віктара.— Можа, Саўка ў Негарэлае ездзіў?

— Ты што? — запярэчыў Віктар.— У Негарэлым вады, калі нам з табой — дык з галавой. Там ніколі да дна не замерзне,— і, падумаўшы, рашуча сказаў: — Вось што, хлопцы. Давайце раздзелімся і аббяжым возера. Два па краях, а адзін пасярэдзіне. Калі Саўка браў тут, то мы знойдзем яго пелькі. Ты, Рэнька, пойдзеш ад лесу, я з гэтага краю. А Колька хай пасярэдзіне, калі ваўкоў баіцца.

І сябрукі пабеглі кожны сваім кірункам.

— Віцька-а-а! Рэнька-а-а! — пачуўся раптам радасны голас Колькі. Ён бег не па заснежаным лёдзе і хутка апярэдзіў сваіх таварышаў.— Сюды-ы! Хутчэ-эй!

Калі яны падбеглі да яго, то ўбачылі, што Колька стаяў ля вузкай і доўгай пелькі. Побач з ёй былі вялікія глыбы лёду. На дне пелькі бялела некалькі растаптаных аўдотак. Снег навокал быў прашыты лісінымі слядамі.

— Гэ, ды тут і рыжая пабыла,— заўважыў Віктар.— Хлопцы, а як бы злавіць лісіцу?

— А ты рыбкі накідай на дарозе ад лесу і да свайго парога, сама ў зямлянку прыбяжыць,— засмяяўся Рэнька.

— Эх, дарэмна адразу не ўзялі санкі,— пашкадаваў Колька.

— Збегай прывязі,— папрасіў Віктар Кольку.

Колька, коўзаючыся з разгону па ледзяных прагалінах, пабег па санкі.

А Віктар і Рэнька заспрачаліся, дзе ім высякаць пельку. Рэнька хацеў секчы адразу ля Саўкавай, Віктар жа даводзіў, што лепей будзе зрабіць пельку далей, на чыстым лёдзе. І, не чакаючы згоды, распрануў і кінуў на лёд ватоўку, пачаў секчы. Да яго далучыўся і Рэнька. Распачалі абсякаць вялікую крыгу, каб болей набраць рыбы. Колька, які неўзабаве прыбег з санкамі, таксама ўзяўся за сякеру.

— Каб па мяшку ўсім было,— марыў Рэнька.

— Я чуў, яна з алеем вельмі смачная,— сказаў Віктар.

— І ў суп укінеш, дык не пусты,— зазначыў Колька.

— І танкістам можна даць. Абмяняць на якую кансерву,— яшчэ далей ішоў у сваіх марах Рэнька.

Хлопчыкі і не заўважылі, як падышоў да іх Саўка. Віктар, скасавурыўшыся, нечакана побач убачыў вялікія чырвоныя бахілы, а потым старыя валёнкі, цёмна-зялёныя ватнікі. Падняўся і згледзеў Саўку. Бародка і апушчаныя вусы ў яго пабраліся інеем.

— Ну што, мальцы? Рыбкі захацелася? — Яго белыя бровы папаўзлі ўверх. Так заўсёды пачынаў смяяцца Саўка. Спачатку нібы здзівіцца, а потым ужо ўсміхнецца сваім бяззубым ротам.

— Канешне,— адказаў Віктар і зноў узяўся секчы.

— І думаеце, яна тут ёсць? — не адставаў ад хлопчыкаў стары.

— Для вас жа была,— зыркнуў праз плячо на яго Рэнька.

— То для мяне...

— Будзе і для нас,— упэўнена заявіў Колька. Зняў сваю плюшавую жакетку, кінуў на санкі і зноў нахіліўся над пелькай.

— Паглядзім, паглядзім,— стары прысеў на край хлапечых санак, закурыў.— А вы дзяўбіце, дзяўбіце, калі

рыбкі захацелася. А ты, Віктар, не стой,— сказаў ён, калі той разагнуўся, каб агледзецца, ці багата зроблена і колькі яшчэ трэба зрабіць.— Не стой, малец, не стой, а то застудзішся.

— Вас не папросім,— агрызнуўся Віктар.

— Дзед, ваша рыбка цю-цю! — падтрымаў сябрука і Рэнька.

— Мая не ўцячэ, мая мяне дачакаецца,— нібы і не заўважаў Саўка настрою хлопчыкаў.— А пакуль я на вашу пагляджу. А можа, вы яшчэ і пашкадуеце дзеда, адваліце і мне якога паўвядзерца аўдотачак, а то сілы ў мяне ўжо не вельмі, каб вазіцца з крыгамі. А калі дадзіце і парачку вядзёрцаў, таксама не адмоўлюся. Я не люблю адмаўляцца, калі даюць. А то і мяшэчак магу ўзяць. Самі ж хочаце па мяшку. Дык і мне. Каб усім было аднолькава.

Хлопчыкі і не слухалі Саўку, яны толькі яшчэ з большай зацятасцю махалі сякерамі.

— Да вы, мальцы, спакайней,— не сунімаўся стары.— А то і сабе і мне вочы павысякаеце. Дык я век свой пражыў, а ў вас жыццё наперадзе.

Нарэшце абсечаная з усіх бакоў вялізная льдзіна варухнулася, як жывая, і нібы крыху апусцілася.

— Вы што, пляскатай рыбкі захацелі, што прыдавілі яе? Кругленькая не падабаецца? — дудзеў Саўка.

— Дзед, прымерзнеш да санак гэтай самай,— не стрываў Рэнька.— Тады і санкі панясеш на сабе.

— Дзякуй за клопат, унучак,— нават ласкава адказаў яму дзед.— Але яшчэ трошкі пасяджу, нядоўга ж засталося чакаць. А потым я памагу вам даставаць рыбку. Добра, калі яе мала, а калі багата? — і ўбачыўшы, што хлопцы сіляцца паварушыць крыгу, параіў: — Не, мальцы, так толькі пупкі надарвяце. Вы яе на кавалкі...

— Ведаем,— буркнуў Віктар.

Ільдзіна лёгка раскалолася. Калі з пелькі паднялі першыя кавалкі лёду, то пад ім была чорная зямля, пакрытая рэдкай замёрзлай рыжай травой. Рэнька не паверыў вачам сваім, ускочыў у пельку, разгроб дробны лёд рукамі. Потым выкінуў яшчэ некалькі вялікіх кавалкаў лёду. Пад імі таксама была адна зямля.

— Ну што ж вы не хапаеце рыбку? — падышоў да пелькі Саўка.— Няма, значыцца. Вільнула хвосцікам — і будзь здароў. А вам жа так хацелася рыбкі. І ў школу з-за яе не пайшлі,— ён з усмешкаю агледзеў панылых

хлапчукоў.— Ну што ж, мальцы? Прыйдзецца вас выручаць. А то маткі не паверацъ, што ў рыбу хадзілі, падумаюць, у шкодзе якой былі.

Саўка дастаў невялічкую сякерку, заткнутую за рэмень, якім быў апяразаны па кажушку, падышоў да свае пелькі і ад яе прачарціў сякеркай доўгую палоску.

— Вось тут, мальцы, і сячыце.

— Тут няма, а тут будзе? — не паверыў Віктар.— Праз якія два крокі...

— Абавязкова будзе,— і растлумачыў: — Там, дзе вы зрабілі пельку, узгорачак, а тут канаўка. Не глыбокая, але канаўка. Тут некалі пераезд быў. Вось рыбка, калі вада стала вымярзаць, і сабралася ў глыбейшым. Але мароз і тут яе дастаў. Ну што стаіцё? Не верыце старому? Я гэта балота ўласнымі нагамі абтаптаў, кожную ямку ведаю, ведаю, пад якім карчом якая жаба квакае. Так што не стойце, не мерзніце дарэмна.

Віктар першы ўзяўся моўчкі секчы лёд...

Калі хлопцы зрабілі пельку, паднялі льдзіны, то спачатку не паверылі і вачам сваім. На дне і сапраўды вузкай канаўкі аўдоткі ляжалі пластом. Як спрасаваныя.

А ў другой палове дня, калі сонца, не паспеўшы і падняцца, зноў хавалася за лес, кідаючы халодныя промні на блакітны снег, Віктар і Рэнька, упінаючыся, цягнулі цяжкія санкі, на якіх ляжалі тры мяшкі, набітыя мёрзлымі аўдоткамі па самыя чубы. Колька ішоў збоку і падтрымліваў санкі, каб раптам тыя не перакуліліся, бо мяшкі, як ні стараліся пакласці іх роўна, хіліліся на адзін бок. Хлопцы, ад'ехаўшы ледзь не палову дарогі ад возера, спыніліся. Паглядзелі, ці не цягне свае санкі Саўка. Яго не было відаць. Саўка, памогшы насыпаць у мяшкі рыбы, загадаў:

— А цяпер, мальцы, дамоў! Пакуль насы не паадпадалі...

— Мы ж і вам паможам,— падахвоціўся Віктар.

— Дзякуй, мальцы, дзякуй! Мне не холадна, у мяне кажушок, а ў вас... Так што вязіце сваю рыбку, я вас даганю.

Віктар і яго сябры адчувалі сябе няёмка, што пакінулі старога аднаго на возеры, і часта азіраліся. І ўжо калі былі ля самай вёскі, убачылі, як сярод празрыстага алешніку рухалася чалавечая постаць.

— Саўка едзе,— радасна крыкнуў Рэнька.

Можна было ісці дамоў праз школу, так яно было б і

бліжэй, але ім не хацелася, каб іх убачыла настаўніца. І таму яны, даўшы кругаля, пацягнулі санкі з рыбай у сваю вуліцу з другога канца.

Яшчэ здалёк убачылі Севярыну. Ды і цяжка было не заўважыць яе ў чырвоным паліто на пустой заснежанай вуліцы.

— І нясе ж гэтага снегіра,— не вытрываў Рэнька і ўпотайкі акінуў позіркам свой бастонавы летнік, з закасанымі рукавамі, увесь, асабліва на жываце, у наледзі, у дробнай лусцэ.

— Ну і што? — з адкрытым выклікам спытаў Віктар.

— Ды яна такая...— і Рэнька, сумеўшыся, не ведаў, што сказаць далей.

— Якая? — не адступаўся Віктар.

— Не такая, як нашы,— растлумачыў Рэнька.

— Каб нашых так адзець, нашы яшчэ і лепшыя былі б,— сказаў Віктар.

— Каб ды калі б ды раслі ў роце грыбы,— засмяяўся Колька і шчыра прызнаўся: — З такой не ведаеш, як і пагаварыць.

— Нічога, пагаворым,— запэўніў Віктар.

— А вось і слабо,— падахвоціў яго Рэнька.

— Слабо? Ды я хоць зараз,— смеліўся Віктар.

І калі Севярына моўчкі абмінула іх, збочыўшы з наезджанай дарогі на цалік, Віктар кінуў санкі, дагнаў дзяўчынку і хоць мерыўся спытаць пра сённяшнія ўрокі, раптам выпаліў нечакана для сябе:

— Ну як кароста? Прайшла?

Дзяўчынка спалохана глянула на яго, потым яе шчочкі пабраліся чырвонымі плямамі, і яна крыкнула праз слёзы:

— Дурны! — і з усіх ног дала лататы.

— Пагаварыў? — праз рогат спытаў Рэнька.

Ад смеху хапаўся за жывот і Колька.

— Нічога, мы яшчэ пагаворым,— пагрозліва сказаў Віктар, схапіўся за почапку і, не чакаючы напарніка, пацягнуў санкі, а на Кольку крыкнуў: — А ты глядзі, каб не пападалі мяшкі!..

Мяшкі з рыбай развезлі кожнаму па чарзе. Свой мяшок павёз Віктар дамоў сам, сказаўшы таварышам, што з ім ён справіцца і адзін. Ён падвёз яго да самых дзвярэй зямлянкі, скаціў з санак на дол, санкі адштурхнуў крыху ўбок, каб не стаялі на сцежцы і не заміналі хадзіць. Паспрабаваў перакуліць мяшок праз парог, каб

потым скаціць яго па прыступках уніз, але ў яго не хапіла сілы гэта зрабіць. Ён глянуў у зямлянку, каб паклікаць маці на дапамогу, але, убачыўшы яе на ложку — яна і цяпер ляжала якраз так, як і ўчора,— не стаў будзіць, вярнуўся назад. Упёршыся нагамі ў верхнюю прыступку і ўхапіўшыся рукамі за чуб мяшка, пацягнуў яго на сябе з апошніх сіл. Мяшок павіс над прыступкай, а потым нечакана кульнуўся праз чуб уніз і, грукнуўшы дзвярыма, якія адразу адчыніліся, чмякнуўся ў зямлянку. Віктар пачаў хутчэй адцягваць яго далей ад парога, каб зачыніць дзверы, бо белым туманом плыў у зямлянку холад.

— Хто там? — прыўзнялася Таццяна, села на ложку.— А, гэта ты, сын. Дзе гэта так доўга прападаў? Я тут перадумала ўсякае...

— Во, рыба,— паказаў на мяшок вачыма Віктар. Потым ён захацеў паставіць яго, схапіўся за чуб, але млелі, не хацелі слухаць пальцы, падгіналіся калені, у вачах мітусіліся жоўтыя з карычневымі абадочкамі кругі.

Таццяна паднялася, прашаркала бахіламі па земляной падлозе, падышла да мяшка. Віктар развязаў яго, стаў прытрымліваць мяшок, каб рыба не сыпалася на зямлю. Але яна змёрзлася за дарогу суцэльным камяком. Ён адламаў некалькі рыбак, паказаў маці:

— Ты паглядзі, якая буйная,— хваліўся Віктар.

— Мой ты карміцель,— усхліпнула стрымана жанчына, прыціскаючы да грудзей стрыжаную галаву сына. Стрыгла яна яго сама перад школай, папрасіўшы ў Саўкі нажніц, якімі стрыгуць звычайна авечак. Дарэчы, гэтыя нажніцы былі адны на ўсю вёску. Засталіся выпадкова. Саўка сынкаваў імі памідоры і павесіў на сучок на яблыні. І забыўся. Вось яны і не згарэлі. Цяпер у вёсцы ўсе па чарзе пазычалі гэтыя нажніцы.

— Ты што, мама? — паглядзеў ён на распухлы матчын твар, на вочы з набраклымі павекамі, нібы яна перад гэтым доўга і цяжка плакала, насцярожана спытаў: — Можа, што пачула?

— Ды не,— паспешліва адказала тая.— Ажно пакуль цябе не было, перадумала ўсялякае... Лезе ў галаву абышто... Думаю, можа, воўк які сустрэўся ці на міну натрапілі,— яна ніжэй нагнулася над мяшком, каб як схаваць свой твар ад пільнага пагляду Віктара, загаварыла нечакана радасна: — Ой, якая рыбка! Ды ўся такая лад-

нenькая. Цяперака будзем анігадкі... А ты, сын, распранайся, абедай. Там бульба і кампот...

— А ты? — Віктар распрануўся, шпурнуў на чарэнь сваю ватоўку з наледдзю на полах.

— Я не хачу, нядаўна паснедала.

Пасля абеду Віктар хацеў памагчы маці перабіраць рыбу, але яна не дазволіла яму, сказала, каб лез на печ і грэўся, а то і захварэць можна.

Віктар ляжаў жыватом на цёплай чарэні, схаваўшы ногі пад цёплавільготную ватоўку, упёршыся падбародкам у свае рукі, і сачыў за маці, якая сядзела да яго спіною. Яна адрывала ў кожнай рыбкі галаву, выцягвала зялёны камячок мерзлых вантроб, а тое, што заставалася ад аўдоткі, кідала ў вялікі чыгун. Маці працавала неяк вяла, здавалася, у яе ўсё валіцца з рук, і сама яе постаць была нейкая гаротная, якая часам бывае ў вельмі пакрыўджаных ці прыніжаных людзей. Віктара трывожыў настрой маці, яе незразумелая хваравітасць. Разоў колькі маці запытальна глянула на яго, і ён прачытаў у яе паглядзе дакор, што ён не адпачывае, не грэецца, а сочыць за ёй.

Віктар пасунуўся далей на печ, лёг на няроўную падушку ад схаваных пад ёй снарадаў, і думкі самі сабой пераключыліся на Севярыну. Трэба нешта прыдумаць, зрабіць, каб яна не задзірала перад ім нос. А што? Успомнілася, што ў яго пад печчу паўмяшка рознакаляровага пораху-саломкі,— там і сіні, і чырвоны, і жоўты, і, здаецца, зялёны,— і там жа павінны валяцца гільзачкі ад белых адстраляных ракет. Яшчэ з восені хлопцы, ды і сам ён таксама, рабілі цацкі з тых гільзачак. Насыпалі ў іх порах, загіналі, а збоку, ля донца, прабівалі цвіком дзірачку. Праз тую дзірачку і падпальвалі порах. Гільзачка кідалася ва ўсе бакі, падлётвала, скакала, круцілася на адным месцы, патрэскваючы рэдзенькімі іскрамі. А як хутка плавалі па возеры караблікі, выструганыя з тоўстай сасновай кары з прымацаванымі на іх гільзачкамі! Яны кідаліся па вадзе, як маланкі, пакуль не заблытваліся ў густой асацэ. Потым перасталі гуляць у тыя гільзачкі, бо іх болей не было. А Віктар некалькі гільзачак схаваў. Калі такую цацачку выпусціць у класе, во будзе! А як кінуцца ўцякаць дзяўчынкі! Ад смеху можна лопнуць...

## 8

Спачатку Віктар нікому не думаў гаварыць пра сваю «жывую» цацку, якую ён задумаў пусціць у класе. Нават сваім сябрам. Хай і для іх гэта будзе знянацку. Здзіўляць дык здзіўляць.

У гэты дзень Віктар прыйшоў у школу крыху пазней, чым Колька і Рэнька: заваждаўся дома са сваёй цацкай.

Вакол школы слаўся рыжы дым, які густымі клубамі вывальваўся з ямкі, што была ў школьным садзе. Дым слаўся і па вуліцы, вісеў над дарогай, нібы толькі што па ёй праехаў танк і надыміў.

Ля школы, ля самай агароджы, стаяла Вера Мінаўна ў сваёй беленькай кофтачцы і некуды ў дым крычала:

— Хлопчыкі, пара на ўрок! Вы чуеце?

— Зараз прывяду,— сказаў ёй Віктар і кінуўся праз агароджу да ямкі. З ямкі на яго голас вылезлі Колька, Рэнька, Рыгор і яшчэ некалькі хлапчукоў з малодшых класаў.

Пакуль яны ішлі ў памяшканне, Рэнька з Колькам, перабіваючы адзін аднаго, расказалі Віктару пра тое, як яны разам з Рыгорам Пуляем прынеслі ў ямку ад бомбы два цяжкія снарады ад самаходак, павыкручвалі з іх узрывальнікі, паставілі снарады на дне ямкі і падпалілі тое жоўтае, што было ў іх сярэдзіне. Яно кіпела, плавілася на чорную смалу і густа дыміла.

— Гэта што? Дым, і толькі,— ніколькі не здзівіўся Віктар.— Вось я прыдумаў!

— А што? — дапытваўся Рэнька, які прывык да таго, што Віктар ніколі не меў ад яго сакрэтаў.

— Убачыце,— загадкава сказаў Віктар і ўсеўся на задняй парце пасярэдзіне, каб быць якраз насупраць праходу між меншымі партамі, што стаялі наперадзе.— Мне трэба тут сядзець...

— Ну скажы, Віць... Мы нікому ні гу-гу,— не адставаў Рэнька.— Мы ж табе заўсёды гаворым.

— Толькі нікому! — і ён вытыркнуў з доўгага, крыху падкасанага рукава ватоўкі белую алюмініевую гільзачку з дзірачкай збоку.

Хлапчукі добра ведалі, што гэта такое, самі не раз пускалі такія цацкі, а вось каб такую штуковіну выпусціць у класе, нікому не стукнула ў галаву.

Зайшлі ў клас і дзяўчынкі. Некаторыя з іх селі за

парты, а другія, паклаўшы сшыткі, кінуліся да грубкі грэць рукі.

Віктар падрыхтаваў гільзачку, запалкі, сядзеў і не зводзіў вачэй з дзвярэй. Вось яны адчыніліся, парог пераступіла Севярына, павіталася з усімі разам, тупнула валёнкамі, хоць на іх і не было снегу, скіравала да свае парты.

Віктар падпаліў сваю цацку і кінуў пад парту, на якую вось-вось павінна была апусціцца Севярына.

Гільзачка, раскідваючы вогненныя пырскі, заскакала там, як у клетцы. Севярына кінулася да дзвярэй, спатыкнулася, расцягнулася на падлозе.

А тым часам гільзачка вылецела з-пад парты, ударылася ў сцяну над галавой у Віктара...

У гэты момант і зайшла ў клас Вера Мінаўна.

Гільзачка ўрэзалася ў вушак дзвярэй, абсыпаўшы іскрамі настаўніцу, адскочыла ў акно і, разбіўшы шыбу, вылецела на вуліцу.

Вера Мінаўна сілілася нешта сказаць, але толькі варушыла вуснамі.

Першая апомнілася Севярына. Паднялася, абцярушыла полы паліто ад смецця, дакорліва глянула на Віктара. Пад яе позіркам той радасна ўсміхнуўся. Дзяўчынка тоненькім пальчыкам пакруціла ля скроні і села на сваё месца.

— Хто гэта зрабіў? — нарэшце прамовіла настаўніца.

Усе маўчалі.

— У вас што, языкі папрысыхалі? Ці, можа, няма смеласці прызнацца? Нашкодзіць дык вы смелыя, а як...

— Я,— падняўся Віктар.

Вера Мінаўна які час моўчкі глядзела на яго, уражаная яго ўчынкам і яшчэ болей яго прызнаннем.

— Вось што, Батура. Больш я гэтага цярпець не магу. Ідзі дамоў і каб без маткі не прыходзіў. Ну што стаіш?

Віктар ведаў, што нічога не скажа хворай маці. Лепей за ўсё было б папрасіць у настаўніцы прабачэння, даць слова болей нічога такога не рабіць. Ён і пакаяўся б, каб не Севярына.

— Я чакаю,— дабівалася свайго Вера Мінаўна.

Віктар моўчкі вылез з-за парты, як не на ватніх нагах дайшоў да дзвярэй. Не вытрываў, азірнуўся на Севярыну. Пад яго позіркам тая апусціла вочы і пачырванела.

Ён яшчэ некалькі мінут пастаяў на ганку, спадзеючы-

ся, што настаўніца ўсё ж спахопіцца і пакліча яго. Але дарэмна спадзяваўся. Яго ніхто не паклікаў.

Што ж рабіць? Хіба пайсці і зашыцца, як тая мыш, у сцірту?

У некаторых вяскоўцаў на планах уцалелі сцірты саломы. Снапы і клычанка. Снапы пайшлі на зямлянкі. Імі спачатку накрывалі жэрдкі зверху, а потым прысыпалі зямлёй. Клычанку бралі на матрацы, а ў каго засталіся каровы, рэзалі на мешанку. Ля адной сцірты, якая далей за іншыя была ад вёскі, ледзь не ў полі, збіраліся хлапчукі. Натачылі сабе там нор, гулялі ў хованкі ці збіраліся разам у зацішным логаве, куды не залятаў халодны пранізлівы вецер, цесна сядзелі, абаграваючы адзін аднаго, расказвалі, што каму прыходзіла ў галаву. Часам да іх завітваў Андрэй Чмель, апавядаў розныя цікавыя гісторыі, вычытаныя з кніжак яшчэ да вайны...

Хоць на планах не адна была сцірта, але хлопцы ведалі толькі сваю. Эх, каб не хварэла маці, а была здаровай, ён, Віктар, зараз бы пабег у сцірту, зашыўся б там глыбей у якую нару, хай тады пашукалі б яго. А так... А так прыйдзецца ісці дамоў, не стаяць жа на ганку, пакуль вучні высыплюць на перапынак. Хоць дома можна сказаць, што забалела галава. Яна сапраўды нейкая цяжкая. Тым больш што раніцай маці за снеданнем мацала яго галаву, пыталася, ці не баліць яна пасля рыбалкі. Так што маці паверыць яму, загадае лезці на печ выгравацца. І ён палезе і спакойна пракачаецца да вечара. А заўтра таксама не пойдзе ў школу. Калі настаўніца не забудзе пра яго ўчынак, ён можа і зусім не хадзіць. Хай Севярына вучыцца. І ўсе астатнія. Яны ж нічога не разумеюць. А ён, Віктар, ведае, што з гэтай вучобы пакуль ніякай карысці. У наступны клас не перавядуць, як ні старайся: пачалі ж вучыцца сярод зімы! І без кніжак. Не вучоба, а смех адзін...

Віктар ціхенька, каб не ляпнуць дзвярыма і не разбудзіць маці, калі яна раптам спіць, зайшоў у зямлянку.

Асвоіўшыся вачыма пасля сонечнай вуліцы, глянуў на ложак. Маці там не было. Заглянуў на печ — не было яе і там. Падумаў, што, можа, яна без яго надумалася выкінуць снарады, паклала на санкі ды і павезла куды далей ад зямлянкі. Але снарады ўсе да аднаго ляжалі пад падушкай за комінам на печы. Віктар падышоў да матчынага ложка паглядзець, якая дома хустка. У яе іх за-

сталося толькі дзве. Адна тонкая жоўтая з чырвонымі ружамі і доўгімі махрамі, гаруска. А другая таўсцейшая, цёплая, няпэўнага колеру. Яна іх дзве абапнула, калі ўцякалі ў лес ад немцаў,— ночы ўжо стаялі халаднаватыя,— вось яны і засталіся. Калі маці выходзіла да каго на хвілінку пазычыць чаго ці па ваду, то завязвала горшую. А калі ішла ў сельсавет, то брала лепшую. А гэту, старую, накідвала зверху, каб цяплей было.

Нідзе не было ні той, ні другой хусткі. Віктар падумаў, што, можа, якая з іх завалілася за падушку, адхінуў яе і ўбачыў канверт. Ён таропка схапіў яго, выцягнуў невялічкі аркуш паперы, на якім было напісана друкаванымі літарамі: «Дарагая Таццяна Раманаўна! З глыбокім жалем паведамляем, што ваш муж малодшы лейтэнант Батура Дзяніс Філімонавіч загінуў смерцю храбрых...»

Віктар адчуў, што яму няма чым дыхаць. Здавалася, застанься хоць на імгненне ў зямлянцы, ён задыхнецца. Ён выскачыў на двор, забыўшыся прычыніць за сабой дзверы. Пабег чамусьці не пратаптанай сцежкай праз сад, а па цаліку на вуліцу, а там па дарозе. Незашпіленыя полы ватоўкі білі па каленях, шапку ён трымаў у руцэ, не адчуваючы стрыжанай галавой холаду. Ён ні пра што не думаў, нават не думаў пра жудаснае паведамленне, не думаў, куды і чаго бяжыць. Бег, і ўсё. Інакш проста не мог. Нібы ў гэтай імклівасці невядома куды і было яго выратаванне ад няшчасця. Спыніўся перад самай школай, убачыўшы на ганку сваіх таварышаў,— там быў якраз перапынак. А каб не таварышы, можа, пабег бы і далей па вёсцы, а потым за вёску, а там па зімовай дарозе да лесу, а можа, і праз лес, пакуль хапіла б сілы. А тут спыніўся перад школай, як перад неадольнай перашкодай. Сябры пачалі крычаць яму, махаць рукамі. Ён павярнуўся, пабег назад. Танкісты, што корпаліся ля танкаў, не звярнулі ўвагі на яго ці проста не заўважылі, калі ён бег туды, а калі вяртаўся назад, адзін з іх, які доўгім ключом прывінчваў гайкі ў заднім зубчатым коле, спытаў:

— Что случилось, мальчик?

Але Віктар нават і не азірнуўся, пабег яшчэ хутчэй.

Ускочыўшы ў зямлянку, распрануўся, шпурнуў ватоўку на печ, разуўся, узлез на чарэнь, адкінуў падушку з камкаватым сенам і пачаў малаціць кулакамі па цёплых снарадах з усёй сілы. Але ніякага болю не адчуваў. Ма-

лаціў, пакуль не стаміліся рукі, не пачалі гарэць, як абвараныя, кулакі. А потым у грудзях яго нешта як развязалася, лопнула, вырвалася на волю рыданнем. З вачэй хлынулі слёзы, затуманіўшы ўвесь свет. Наплакаўшыся, зніякавеў, адчуўшы, што ў яго не хапае сілы нават сядзець. Ён паклаў падушку на снарады, упаў галавой на яе.

Спаў доўга. Калі прачнуўся, на стале блішчала курная газнічка. Болей дыміла, чым свяціла, бо яе запраўлялі не газай, а саляркай, якую бралі ў танкістаў. Патрэсквалі дровы. Відаць, гарэлі пад «казой» на прыпечку, кідаючы ружовыя водбліскі на жоўтую земляную сцяну, на гліняную падлогу. Цвірчэла на скавародзе. Моцна пахла падпаленым алеем.

Насупроць прыпечка на калодачцы сядзела маці і не зводзіла вачэй з агню. Тонкія рукі з шырокімі напрацаванымі далонямі ляжалі на прыполе. У правай руцэ яна трымала кароткі нож, які скаваў Андрэй Чмель з абломка старой касы. Твар быў засяроджаны і змрочны. Але на ім не было таго адчаю, той заплаканасці, як учора. Больш спакою ці проста зажуранай застыласці. Яна прыкметна схуднела за апошнія дні. Нос завастрыўся і нібы пабольшаў. Нічога ж амаль не ела. Віктара накорміць, а сама і за стол не сядзе. А можа, што ўсё без хлеба. Бульба і бульба. Ды кампот які. Ну, зараз вось рыба... Дзе ж тут не схуднееш? Потым жа — хвароба. А зараз гэтае паведамленне. Цяпер Віктар ведаў, чаму апошнімі днямі яна ляжала ў роспачы на ложку. Яна, відаць, у той жа дзень, як Віктар першы раз пайшоў у школу, атрымала паведамленне пра бацьку. Але яму, сыну, не прызналася. Можа, нічога не хоча гаварыць яму? Не хоча рабіць яму балюча? А можа, не верыць яшчэ ў тое паведамленне, думае, памылка... Не хоча нічога гаварыць яму, і не трэба. Ён таксама не прызнаецца, што ведае ўсё. Хай думае, што ён, Віктар, нічога не ведае.

Ён пазіраў з печы на маці і думаў, чым бы яе суцешыць, што такое зрабіць, каб яна хоць крыху ўзрадавалася, павесялела...

Цяпер ён будзе не толькі насіць ваду, калоць дровы, а будзе рабіць усё, што трэба. Каб маці не ведала ніякіх клопатаў, каб яна хутчэй ачуняла. Потым будзе хадзіць у школу і старацца так паводзіць сябе, так вучыцца, каб яму не было ніякіх заўваг ад настаўніцы. Ён заўтра ж пойдзе ў школу, усё ёй растлумачыць, папросіць праба-

чэння, дасць слова болей нічога дрэннага не рабіць. Папросіць нічога не гаварыць маці. Вядома, ён усё гэта расказажа не ў класе пры ўсіх, а толькі адной настаўніцы. А потым, калі са школай у яго ўсё ўладзіцца, ён зловіць рыжую лісіцу. Абавязкова зловіць. Не зрабіў гэтага бацька, зробіць ён, Віктар, яго сын. Больш некаму. Ён адзін у маці застаўся. І яна павінна адчуць, што ў яе ёсць сын, які ўсё разумее. Ён ніколі не дапусціць, каб маці журылася з-за яго. Ён пойдзе ў школу і будзе вучыцца. А калі стане дарослым, пабудуе маці прыгожы дом. А пакуль што ён зловіць лісіцу...

— Ты, Віцечка, прачнуўся? — відаць, маці адчула на сабе яго позірк.

— Толькі што,— і ён пацягнуўся лежачы, маўляў, не прачнуўся яшчэ добра, а толькі прачынаецца.

— А я выскачыла на хвілінку... Думаю пайду ў танкістаў папрашу алею рыбу пасмажыць. Старшына, дзякуй яму, выпісаў пляшачку. Вярнулася, бачу, ты на печы спіш. Не стала будзіць. Думаю, няхай паспіць. Можа, захварэў? — яна глянула на яго ўстрывожана.

— Не. Галава трохі забалела. Цяпер прайшло.

— Ну і добра,— паднялася маці, стала варушыць на скавародзе рыбу.— Зараз вячэраць будзем.

Але не паспелі яны сесці за стол,— маці толькі паставіла скавараду,— у зямлянку зайшла настаўніца. Вера Мінаўна спынілася ў парозе і, відаць, у прыцемку не ўгледзела Таццяну, а спачатку заўважыла яго, Віктара.

— Гэта так прыйшоў з маці? — адразу накінулася на яго.

— Што ж вы там стаіце ў парозе? — падала голас Таццяна.— Праходзьце.

— Дзякуй, я ненадоўга,— не кранулася з месца Вера Мінаўна.

— Павячэралі б з намі,— запрашала настаўніцу гаспадыня.— Учора мой Віцька рыбкі прынёс...

— А што ў школе натварыў, вам не расказаў ваш рыбак? — строга спытала Вера Мінаўна.

— Ён нічога не гаварыў,— сумелася маці.

— Я паслала яго, каб прыйшоў з вамі, а ён...

— Ён мне сказаў, што галава забалела,— нічога не разумеючы, гаварыла Таццяна.

— Галава забалела!..— абурылася настаўніца.— Гэта ва ўсіх нас ад яго выхадак баляць галовы. Сёння прынёс

нешта такое, што ледзь вочы не павысмальвала... Як зайшлі ўсе ў клас, ён пусціў сваю скакалку. Яна чуць Севярыну не пакалечыла. Добра, што разбіла акно і вылецела на вуліцу. Не ведаю, што было б... Севярыніна маці прыбягала, нарабіла крыку. Не школа, кажа, а чорт ведае што. А я пры чым? Хіба іх гэтаму вучу? Яшчэ і слухаць не хочуць. Сказала ж вашаму, каб з вамі прыйшоў, а ён не прызнаўся дома...— і ўжо звярнулася да Віктара: — Што ж ты не сказаў? Пабаяўся? Бач, які тут баязлівы, а ў школе... Ну што маўчыш? Яшчэ твайму бацьку на фронт напішу, што ты тут вырабляеш...

— Вады...— прастагнала Таццяна.

Віктар не разабраў, што сказала маці, глянуў на яе і ўбачыў, як яна, зрабіўшы адзін крок да ложка, пачала хіліцца. Ён кумельгам кінуўся да яе, паспеў падтрымаць, памог легчы на ложак.

Твар у жанчыны скамянеў, вочы закаціліся, вусны сутаргава варушыліся, нібы яна сілілася нешта сказаць.

— Мамачка-а-а! — не сваім голасам закрычаў Віктар.

Таццяна адкрыла вочы, неяк здзіўлена паглядзела перад сабой, нібы не ведала, дзе знаходзіцца.

— Вады...— ледзь чутна прашаптала.

Віктар кінуўся да вядра, што стаяла ў парозе ля дзвярэй, сутыкнуўшыся з настаўніцай, закрычаў:

— Я болей не пайду ў вашу школу, чуеце? — ён схапіў карэц, які быў ля вядра, зачэрпнуў вады.

Маці амаль не піла, памачыла засмяглыя вусны, зрабіла, можа, адзін глыток, крутнула галавой, што болей не хоча. Віктар паставіў карэц на стол, зноў падышоў да маці. Яна паглядзела на яго, перавяла позірк у парог, дзе нядаўна стаяла настаўніца. Яе там не было, выйшла.

— Не трэба так, сынок,— прашаптала.— Яна ж вас вучыць.

— А няхай...— І болей нічога не сказаў.

— Не хвалюйся, сынок. Мне лепей. Мне добра. Яшчэ трошкі паляжу, падымуся... А ты вячэрай, не чакай мяне. А то і рыбка твая прастыне.

У зямлянку зайшоў Андрэй Чмель. З ім вярнулася і Вера Мінаўна. Відаць, яна яго і прывяла. Настаўніца спынілася ў парозе, а Андрэй, зняўшы свой рабрысты шлем, падышоў бліжэй да ложка, павітаўся.

— Ну, як вы сябе адчуваеце, Таццяна Раманаўна? — пацікавіўся.— А то мне сказала Вера Мінаўна... Мы хо-

дзім з ёй па зямлянках, у каго дзеці не хочуць вучыцца. Трэба, каб усе вучыліся. Вось так... Можа, Таццяна Раманаўна, урача выклікаць?

— Не, Андрэйка, не трэба... Не трэба. Гэта пройдзе, яно ўжо прайшло,— яна паспрабавала сесці, абаперлася на рукі, але тыя падламаліся, не трымалі. Яна зноў упала на падушку, вінавата ўсміхнулася.— Ну во! Гэта ж трэба так адлежаць рукі. Памлелі...

— А ты, стралок,— звярнуўся даволі строга Андрэй да Віктара.— Замест таго каб снарады з танкаў цягаць, лепей маці памагаў бы...

— Яму ж і пабегаць трэба,— сказала разважліва Таццяна.— Калі ж тады і гуляць, як не цяпер? Падрасце, не пабегае. Ды ён і памагае... І дравец наколець, і вады прынясе. Во і па рыбу з'ездзіў,— яна глянула на скавараду, у якой стылі смажаныя аўдоткі.

— Добры хлопец расце,— пахваліў Віктара і Андрэй. Віктар стаяў ля ложка з карцом у руках і не разумеў, чаму раптам прыйшоў гэты Чмель, ні з таго ні з сяго пачаў хваліць яго.— Ну, бывае, калі што не так, на тое і дзяцінства. А так хлопец здольны, кемлівы. Галава ёсць...

— Канечне, вучань ён добры,— падала голас і настаўніца.

Віктар не ведаў, куды сябе дзяваць, што гаварыць. І калі маці захацела сесці, ён паставіў хуценька карэц на стол, кінуўся памагаць.

— Я сама, сынок,— яна села, памаўчала трохі, быццам бы прыслухоўваючыся да сябе.— Ну во, здаецца, усё і адлегла. Хвароба нейкая незразумелая. Раптам наваліцца, а потым, як і няма яе... Ну што ж вы стаіце? Праходзьце, Андрэйка, Вера Мінаўна! Віцька, прынясі яшчэ адну калодку, ды ўтраіх і пасядзіце...

— Дзякуем вам, Таццяна Раманаўна, дзякуем,— стаў аднеквацца Андрэй.— Нам яшчэ з Верай Мінаўнай трэба зайсці да некаторых даведацца, чаму дзяцей не пасылаюць у школу. Людзі цяпер, самі ведаеце, кладуцца рана... Так што, Таццяна Раманаўна, мы мусім пайсці... Але калі вам якая помач трэба, гаварыце, мы пастараемся... Можа, дроў трэба ці яшчэ што?

— Дзякуй, Андрэйка...— было відаць, што маці радуе такі клопат, у яе і твар пасвятлеў, знікла зажуранасць, панылансць.— І Саўка абяцаў каня, так што дзякую, якнебудзь абыдземся...

— Ну добра,— Андрэй надзеў свой рабрысты шлем і

потым пацягнуў яго за вушы, відаць, шлем яму быў крыху цеснаваты.— Папраўляйцеся тут, не хварэйце...

— Ой, я не ведаю, як і дзякаваць вам,— расчулілася жанчына.

— Няма за што, Таццяна Раманаўна, няма за што,— кіраваўся да дзвярэй Андрэй.

— Сядзь, сынок, павячэрай, а то, можа, дзень цэлы не еўшы,— Таццяна паднялася, сама падышла да стала, з'ела адну рыбку.— А смачная...

— А калі б яшчэ з хлебам,— усеўся ямчэй ля стала Віктар.

— Яно і з бульбай нічога,— маці зноў адышлася да ложка.

— Паела б добра,— упікнуў яе сын.— Хварэеш, што не ясі...

— Не, сынок, гэта ў мяне на пагоду. Можа, адліга будзе,— яна паправіла падушку, прылегла.— Ты, сынок, на мяне не глядзі. Мне багата не трэба, а ты расцеш, вучыцца трэба.

— Не пайду я ў школу,— сказаў Віктар.

— Усе будуць вучыцца, а ты...

— Ні кніжак цяпер, нічога. Якая гэта вучоба? Абы хадзіць. Пайду з восені... Цяпер буду памагаць табе... А то сама і сама... Так ніколі не ачуняеш,— ён яшчэ хацеў прызнацца, што збіраецца злавіць рыжую лісіцу, але стрымаўся: няхай гэтая радасць будзе нечаканай для маці.

— Ой, сынок,— толькі ўздыхнула Таццяна.

— Можа, табе кампоту падаць? — спытаў Віктар.— Ці абрыкосаў?

— Не трэба, я потым... сама...— яна скінула з ног буркі, адвярнулася тварам да сцяны, нацягнула на сябе коўдру.

Віктару пачулася раптам, нібы маці ўсхліпнула. Прыслухаўся: было ціха. Можа, яму толькі падалося?

Ён паставіў скавараду на прыпечак, накрыў яе пагнутым бляшаным кружком, патушыў газнічку, дастаў з печы ватоўку, апрануўся, пастаяў ля дзвярэй, прыслухваючыся, ці не спыніць яго маці, потым ціхенька выйшаў.

У цёмна-сінім небе вісеў нізкі чысты месяц, адкідваючы ад дрэў на снег цёмныя, рэзка акрэсленыя цені.

Віктар па вузкай сцежачцы, парыпваючы снегам, выйшаў на дарогу, а потым па ёй у самы канец вёскі.

Яму хацелася паглядзець, ці блізка падыходзяць лісіцы да чалавечага жытла.

## 9

Калі Віктар назаўтра раніцай прачнуўся, то ўбачыў, што маці зноў паліць на прыпечку пад трыногай. У невялікім чыгунку кіпела бульба.

— Чаму — не печ? — пацікавіўся ён.— А то чарэнь халаднаватая.

— Дровы, сынок, кончыліся. Думала ж прапаліць у печы, кінулася, а дроў пару палак, толькі пад «казу»,— яна анучкай абгарнула чыгунок, узяла яго ў рукі, адцадзіла бульбу, зноў чыгунок паставіла на «казу».— Хай трохі пастаіць, дойдзе.

— Можа, я з'езджу па дровы? — Віктар дастаў з пячуркі анучкі, сеў на чурбак і пачаў абувацца.— А што? На пару дзён прывязу... Дамоўлюся з Рэнькам ці Колькам Салаўём... Ім таксама дровы трэба.

— Не, сынок. Толькі натомішся. Лепей я да Саўкі збегаю. Абяцаў жа...

— Тады і я з ім паеду,— узрадаваўся Віктар. Учора, пасля таго як ён убачыў лісіцу, якая нечага скакала па снезе недалёка ад сцірты саломы,— ён нават трохі прабег за ёй,— хацеў зайсці да Саўкі, параіцца з ім, як можна злавіць хвастатую. Але ў акенцы іхняй зямлянкі было цёмна, ён падумаў, што там ужо спяць, і вярнуўся дамоў.

— Ну добра, калі ён паедзе,— пагадзілася маці.— Ты снедай тут, а я збегаю да яго.

— А можа, я? Пабыла б дома...

— Нічога, мне лепей,— і яна стала апранацца.

Яна з раніцы звычайна адчувала сябе няблага. Магла тое-сёе зрабіць па гаспадарцы, магла схадзіць і па ваду. Слабела звычайна пад вечар. Асабліва ў апошнія дні, а больш дакладна, пасля таго, як з'ездзілі на санках па дровы.

Віктар амаль на хаду з'еў некалькі рыбінак, напіўся нагбом з гаршчэчка кампоту, апрануўся хуценька і пайшоў услед за маці. Ён думаў, калі Саўка не зможа сёння з'ездзіць па дровы, ён хоць пагаворыць з ім пра лісіцу. На паўдарозе сустрэў маці, якая вярталася дамоў. Яна сказала, што Саўка пайшоў на канюшню, яго там і трэба шукаць.

На месцы былога калгаснага двара — кароўнікі і канюшню немцы спалілі разам з вёскаю — цяпер пабудавалі невялічкі хлеў з сасновых жэрдак. Сцены ўцяплілі хваёвым галлём. У тым хляўку і паставілі трох калгас-

ных коней. Усіх астатніх, што былі ў людзей, немцы забралі ў абоз разам з іх гаспадарамі. Пакуль што не вярнуліся ні гаспадары, ні коні. А гэтых, трох, пакінулі чырвонаармейцы. Два кульгалі, а адзін быў з прастрэленай шыяй і ўвесь час хіліў галаву ўлева. Салдаты казалі, што калі коней падтрымаць, то яны яшчэ падужэюць і не адзін год папрацуюць. Цяпер усе спадзяванні былі толькі на гэтае скалечанае цягло. Праўда, хадзілі чуткі, што да вясны нібы дадуць у калгас яшчэ коней, але ў гэта ніхто не верыў, і ў першую чаргу сам старшыня калгаса, які загадаў цеслярам рабіць ёрмы. Кожнай карове, што ўцалела ў вёсцы, па ярму. А іх было болей дзесятка. Казалі, што, можа, прыйдзецца араць і на сабе. Адным словам, коней, якіх даглядаў Саўка, пакуль што нікому не давалі. І раптам Саўка ўзяўся прывезці ім дроў на кані. Чаму ён так уважліва паставіўся да маці, Віктар не ведаў.

Ля канюшні стаялі дзве цяжкія мажары на высокіх колах. Іх пакінулі вайскоўцы. Ніхто не ўяўляў, як іх можна выкарыстоўваць. Іх і парожнія не ўсялякі коньададолее, не тое што з грузам. Стаялі тут і новенькія розвальні, якія зрабілі нядаўна і на якіх яшчэ нікуды не ездзілі. Вось у гэтыя розвальні і запрагаў Саўка каня.

— Я думаў, ты спіш, што сам не прыбег, а прыслаў хворую матку,— пачаў дакорліва стары.

— Яна сама,— насупіўся Віктар.

Саўка моўчкі прывязаў лейцы да аброці, абышоў каня, агледзеў збрую, памацаў дугу, церазсядзельнік.

— Ну што, малец, садзіся,— і сам укленчыў на салому, натапыраны ахапак якой ляжаў на санках, счакаў, пакуль усядзецца Віктар, потым ціха тузануў лейцамі:

— Ну, паехалі! — крыкнуў ён, памахаў лейцамі ў паветры, нібы збіраўся ўдарыць каня па клубах, але так і не ўдарыў яго за ўсю дарогу, хоць часта нокаў, пасвістваў, размахваў лейцамі. Конь ішоў даволі лёгка, без натугі, ледзь прыкметна пакульгваючы на правую пярэднюю нагу.

— Гэта ж перадалі з раёна,— расказваў Саўка,— што хутка, нібы вясной, калі паша адкрыецца, прыгоняць кароў. З Расіі! Коней таксама. А колькі тых коней і кароў будзе, не сказалі. Відаць, самі не ведаюць. Але колькі ні будзе, у чыстым полі не паставіш. Ды і нельга. Сёння ля канюшні сляды ваўка бачыў. Трэба старшыні казаць, каб стрэльбу дзе дабыў. Паганяць трэба шэрага.

А то яшчэ залезе ў хлеў, не дай бог... Старшыня сказаў, што кароўнік будуць рабіць. Мяне паслаў паглядзець, дзе які лес ёсць будавацца. Можа, кажа, і на школу падбярэш. Чуеш, малец? Пра школу думае, а вы вучыцца не хочаце. А што мне той лес глядзець, я яго ведаю як свае пяць пальцаў. Малады ў нас лясок, адзін маркоўнік, але падабраць тое-сёе можна. Вакол паляны за возерам нядрэнны, потым за Негарэлым... Я яшчэ ўчора падумаў, калі мне старшыня пра лес сказаў, што з'езджу і дроў вам прывязу. Аж твая матка сама прыйшла... Як ведала. Добрая ў цябе матка, толькі нешта кволіцца часта. Так што, малец, беражы яе,— і Саўка азірнуўся на хлопчыка, нібы хацеў праверыць, ці слухае ён яго.— А вы неслухі такія, што ў матак толькі і шчыміць сэрца з-за вас. Жалезнае сэрца трэба... Но! — ён замаўчаў на нейкі момант, махаючы лейцамі над галавой.

— Ваўка не бачыў, а лісіцу бачыў. Учора,— сказаў Віктар.

— Ды развялося хвастатых,— пачаў Саўка і пра лісіц.— У вёску нават ходзяць. Мышэй ім мала, курацінкі захацелася. Сёння ля коміна зямлянкі яе след бачыў. Ці грэлася, ці ў комін паглядзець хацелася, што там на вячэру... Узяла б ужо ды і ўскочыла. Глядзіш, каўнер быў бы, каб не абсмылела толькі,— засмяяўся стары.

— А лісіцу можна злавіць? — спытаў Віктар.

— Голымі рукамі яе не схопіш. Хоць, калі яна ловіць мышэй ды калі тых мышэй пад снегам багата, вельмі блізка да яе можна падысці. Але без стрэльбы нічога не зробіш. Трэба стрэльба. Каб я сваю закапаў дзе на плану, уцалела б, а то схаваў у хляве пад сенам, сена згарэла, і стрэльба згарэла... А каб стрэльба, то схаваўся б у сцірце, сядзі і чакай. Яны пад вечар, а больш пад раніцу блізка падыходзяць. Вакол сцірт заўсёды мышы. А што без стрэльбы?.. Калі добры сабака, тады нечага сядзець і чакаць, прыйдзе хвастатая ў госці ці не. Сляды ўбачыў, пайшоў па слядах. Сабака абавязкова падыме яе. Тады толькі глядзі, куды пагнаў, і ідзі напярэймы. І хвастатая — твая. Можна на лісу і капкан паставіць. Да вайны былі ў мяне капканы. Пагарэлі таксама. Вобшчам, малец, карціна такая. Лісіцы ёсць, а ні стрэльбы, ні сабакі, ні капкана... Канешне, лісіцу можна спаймаць і на кані. Асабліва па маладому снегу, калі яшчэ шарпак не ашклеў. Конь скача хоць бы хны, а ёй, караткалапай, цяжкавата. Грузне. Доўга не прабяжыць. Ну,

кіламетраў колькі праскача, потым бяры яе цёпленькую. Некалі яшчэ да калгасаў жыў у нас такі Цімох. Раскулачылі яго потым. На кані лісіц лавіў. Праўда, коні ў яго былі дабрэнныя, не гэткія калекі. Гладкія, неператомленыя, аж танцуюць. Любіў коней Цімох і ўмеў гадаваць іх. Ён кожную зіму па першаму снегу адну, а то дзве рыжых спаймае. Дык у яго і жонка ў каўнярах хадзіла, і дочкі, і сыны ў рыжых шапках. Але ў нас з табой, малец, няма такога каня, на гэтых кульгавых і старую курыцу не дагоніш... Яно, вядома, лісіцу можна забіць і даўбешкай, каб толькі лісіца блізка да цябе падышла... Я да вайны куратнік вартаваў. Прыйшоў, значыцца, на куратнік, прылёг у світцы на ганку, узяў мяне сон. А ноч цяпленная была. І вось чую, як нехта мяне тузае за рукаў. Глянуў, а гэта хвастатая хоча мяне за рукаў ад дзвярэй адцягнуць, каб у куратнік пралезці... Да гэтага часу шкадую, што не было пры мне якой палкі... Але самыя лепшыя каўняры з лісянят. Знайсці такіх, каб самі елі, пасадзіць у клетку і добра харчаваць. Мясам. Узімку — каўняры. Аж блішчаць. Але ў нас няма лісянят, няма чым іх карміць, каб нават і былі,— засмяяўся Саўка, зноў занокаў на свайго кульгавага, замахаў лейцамі над галавой...

— А я ўчора прыцемкамі выйшаў за вёску,— пачаў Віктар.— Бачу, сядзіць. Я бліжэй. Не ўцякае. Падышоў так, што каб камень які, то дастаў бы. Потым адбегла крыху, зноў сядзіць. Я зноў за ёй. Яна трохі адбяжыць і прысядзе. Пабаяўся адзін далёка ў поле гнацца...

— Яна ж не дурная. Бачыць, хто за ёй гоніцца...

— Я падумаў, можа, якая падбітая. Хацеў да вас зайсці, каб навучылі, як яе злавіць. Падышоў да зямлянкі, а ў акне цёмна.

— Трэба было зайсці,— шчыра пашкадаваў Саўка.— Я дома быў. Пагаварылі б... А то вечар праседзеў адзін. Лямпы няма, а газнічку не палім. Ад яе галава баліць. Чаду багата. Дык мы дзверцы ў грубцы адчынім і сядзім са старой. Гамонім. Нам і хапае святла.

— Дзядзька Саўка, а калі на танку за лісіцай? Дагнаць можна? — спытаў Віктар і насцярожыўся. Думаў, што стары пачне смяяцца з яго пытання. Саўка ж адказаў даволі сур'ёзна:

— Не ведаю, малец. Гудзіць вельмі. Спужне здалёк. А потым лісіца вёрткая, а ён цяжкі... Трэба спытаць у танкістаў, яны ведаюць.

Калі прыехалі ў лес і ў лесе, калі Саўка падсякаў бярозы, а ён выбіраў не страйнейшыя і танчэйшыя, а больш няўдалыя, крывыя, а Віктар цягаў іх, не заўважаючы, здавалася, што яны часам і занадта цяжкія, ён толькі і думаў, як злавіць лісіцу, злавіць неадкладна, пакуль не пачала ліняць на вясну... А што, калі сапраўды папрасіць танкістаў? Правяраюць жа яны танкі пасля рамонту. Замест таго каб проста так ездзіць, можа, захочуць паганяцца за лісіцай. І калі прывезлі дровы, згрузілі іх ля зямлянкі, Віктар хуценька паабедаў і, сказаўшы маці, што зараз вернецца, пабег да танкістаў.

Ля танка, што стаяў на вуліцы недалёка ад іх селішча, нікога не было. Яго, відаць, ужо адрамантавалі. Вакол танка не валяліся скрынкі, адпрацаваныя гусеніцы, ключы. Усё было прыбрана, люкі зачынены, на гармату надзелі кароткі брызентавы чахол. Танк стаяў і чакаў, калі прыйдуць танкісты, завядуць яго... Ён пусціць з труб ззаду чорны з сінім дым, крутанецца на месцы, уздзіраючы снег да самай зямлі, выруліць на дарогу, праедзе па полі аж да самага лесу. Танкісты пераканаюцца, што машына ў баявой гатоўнасці, паставяць яе ў калоне адрамантаваных танкаў.

Знайсці б танкістаў з гэтай машыны, можа, удалося б дамовіцца. Але дзе іх будзеш шукаць? Не будзеш жа стаяць ля танка і чакаць іх. Невядома, калі яны прыйдуць. Можа, сёння, можа, заўтра, а можа, і праз некалькі дзён.

Ля танка, што стаяў пад абгарэлай бярозай у канцы вуліцы, корпаліся танкісты. Віктар скіраваў туды, спыніўся на адлегласці, блізка падыходзіць асцерагаўся: а раптам ведаюць, што гэта ён з сябрамі браў у іх снарады.

Падняўшы металічныя крацістыя шчыты ззаду вежы, танкісты схіліліся над маторам, нешта там адкручвалі ці закручвалі. Чулася бразганне металу аб метал.

Віктар цярпліва чакаў, пакуль яго заўважаць.

Вось адзін з танкістаў прыўзняўся, падняў нейкае вузкае кола з дробнымі зубчыкамі ўсярэдзіне, агледзеў яго, кінуў у снег. Заўважыўшы Віктара, усміхнуўся. На яго круглым запэцканым аўтолам твары бліснулі белыя маладыя зубы.

— Ідзі сюды! — паклікаў ён Віктара.

Віктар зрабіў некалькі крокаў, але вельмі блізка падысці асцерагаўся.

— Слухай, гвардзеец, у вашай вёсцы нямецкіх шпіёнаў няма?

— Няма,— збянтэжыўся Віктар.

— Чуеш, Нікіфар,— сказаў белазубы свайму таварышу.— Гвардзеец кажа, што нямецкіх шпіёнаў у іхняй вёсцы няма.

— Не можа быць,— адазваўся той, не падымаючыся.

— Няма ў нас ніякіх шпіёнаў,— ужо больш рашуча запэўніў Віктар.

— Хай па-твойму будзе,— пагадзіўся белазубы.— Але скажы тады, хто ў нас мог забраць некалькі снарадаў, што засталіся ад бою. Дні два таму былі, а сёння няма. А што такое адзін снарад? Гэта падбіты нямецкі танк, гармата або кулямёт. А іх жа некалькі ўзялі. Не, наш чалавек, патрыёт, не мог узяць. Іх мог узяць толькі нямецкі шпіён, каб аслабіць нас. Дык не ведаеш нічога пра шпіёнаў?

— Не-е,— апусціў вочы хлопец.

— А мы во з таварышам падумалі, што ты прыйшоў сказаць пра шпіёна.— Нечакана пацікавіўся: — Бацька твой ваюе?

Віктар толькі ніжэй апусціў галаву.

— Ясна,— сказаў танкіст ужо без усмешкі.— Але нічога, гвардзеец, мы яшчэ пакажам фашыстам свінню смаленую.

— Тут лісіц багата,— памаўчаўшы, сказаў Віктар.— Рыжых. Аж у вёску заходзяць.

— Можа, гармату даць схадзіць на паляванне? — засмяяўся белазубы.

— А на танку дагнаць яе можна? — пасмялеў Віктар.

— Лісіцу? Як піць даць. Мы на ім «тыграў» і «пантэр» ловім, ды так, што ад тых толькі болцікі і гаечкі ва ўсе бакі пырскаюць. А ты пра лісіцу,— танкіст нагнуўся над металічнай скрынкай, што стаяла ля танка на снезе, пачаў у ёй перабіраць ключы.

— А каб лісіцу спаймаць? А што? — раптам Віктару падалося, што з танкістамі, ва ўсялякім разе з гэтым белазубым, можна дамовіцца.— Яна доўга ўцякаць не можа. Прабяжыць як да лесу і падае. Тады і бяры яе.

— Чуеш, Нікіфар,— зноў звярнуўся белазубы да таварыша.— Ён не гармату прыйшоў прасіць, а танк,— хіхікнуў, а потым нечакана сур'ёзна і павучальна сказаў Віктару: — Запомні, гвардзеец, танк не для таго, каб ім забаўляцца. Гэта вельмі сур'ёзная машына. Гэта баявая

машына. На кані ты ж не станеш ганяцца за мышамі. На мышэй ёсць кот. А на лісіцу ёсць сабака. Завядзі сабе добрага сабаку, ён усіх лісіц пераловіць. Хоць усіх не трэба. Ведаеш, колькі мышэй знішчае лісіца? Не ведаеш? Спытай у настаўніцы...

— Слухай, канчай,— крыкнуў другі танкіст белазубаму.— Падай зубіла!

Віктар яшчэ трохі пастаяў ля танка і пасунуўся дамоў, задумлівы і расчараваны. Было сорамна за сябе, што з такой драбязой сунуўся да танкістаў. Яны ж фактычна пасмяяліся з яго. Але ўспомніў маці, як яна глядзела на каўнер з лісіцы, калі да іх заходзіла Кася, і яго жаданне злавіць лісіцу ўжо не ўяўлялася недарэчным.

Але як жа злавіць тую лісіцу?

Можа, і сапраўды завесці сабаку? Цяпер іх, кажуць, багата беспрытульных. У райцэнтры, калі базар, зграямі бегаюць, шукаюць, чым пажывіцца. Скарынку пакажы, любы пабяжыць за табой. Але дзе ўзяць тую скарынку? У саміх хлеба няма.

Што ж рабіць? Што прыдумаць?

Раптам пачуўся такі магутны выбух, што аж зямля затрымцела. Паветра рассек такі тонкі і востры посвіст, нібы пранесліся хуткакрылыя птушкі,— праляцелі асколкі. Над школай, марудна разбухаючы, падымаўся чорны слуп дыму. Ветрам адхіляла яго ўбок, і ён распаўзаўся пісягамі, засцілаючы вуліцу, ахутваючы дрэвы.

Віктар кінуўся да школы. Ён бег і бачыў, што танкісты, якія рамантавалі танкі, таксама беглі па дарозе, павыскоквалі людзі з зямлянак. Некаторыя не паспелі і апрануцца. Адна жанчына бегла ў ватоўцы наросхрыст, без хусткі і чамусьці з доўгім драўляным апалонікам у руках.

За школай ля ямкі, што засталася яшчэ ад бомбы і ў якой звычайна коўзаліся малыя, тоўпіліся людзі.

Ямка, чорная ад узадранай выбухам зямлі, нібы пабольшала. З яе яшчэ падымаўся дым. Нешта курыла на яе дне. З акна ў настаўніцкім пакоі павыляталі шыбкі. Сцяна пад самай страхой была пасечана асколкамі, як хто сякерай нарабіў метак. Павыхоплівала зялёны мох на страсе, жаўцела ўспораная салома.

Віктар агледзеўся, каб знайсці каго з таварышаў, але нікога не было.

Пераляканыя вучаніцы абступілі настаўніцу, якая выскачыла неапранутая і цяпер стаяла на марозе ў сваёй

белай у блакітную палосачку кофтачцы. На лобе вырас вялікі сіняк, на шчацэ запяклася кроў. Кроплі крыві рассыпаліся і па кофтачцы. Вера Мінаўна расказвала жанчынам дрыготкім голасам:

— Я толькі сабралася ісці на ўрок. Думаю, дай гляну ў акенца, ці не сядзяць мае хлопцы ў ямцы. Яны заўсёды перад урокамі там збіраюцца. Бачу, адны шапкі тырчаць. А потым усе як падхопяцца. Паўзуць, бягуць, спатыкаюцца. А яшчэ падумала, што, можа, хто з дзяўчынак іх на ўрок паклікаў. А потым мільганула думка, ці не здарылася што, калі так уцякаюць. І тут шкло зазвінела, а мяне як кіне на дзверы, яны як грымнуцца на падлогу, а я на іх. Падхапілася, выбегла, а ля ямы нікога. Толькі дым. Дзе яны, не ведаю.

— Яны пабеглі туды. Я ля акна якраз стаяла, бачыла,— і Севярына паказала ўздоўж вуліцы, якая праз шлях ішла ў напрамку лесу.

Віктар адразу зразумеў, куды пабеглі яго таварышы, але яшчэ трошкі пастаяў, прыслухоўваючыся да гаворкі.

— Гэта добра, што снарад у ямцы ўзарваўся,— гаварыў невысокі танкіст у замасленым камбінезоне.— Асколкі ўверх пайшлі, а то б...

— Яны ж палілі іх там. І ўчора палілі. Я на іх крычала, што школу падарвуць, самі загінуць, яны яшчэ смяяліся, маўляў, снарады ад агню не ўзрываюцца,— ледзь не плакала Вера Мінаўна.

— Ну, нічога,— спрабаваў усіх супакоіць танкіст.— Можа, пасля гэтага зразумеюць, што зброя не цацкі, што з ёй гуляць небяспечна.

— Ну хай прыйдзе дамоў, я яму пакажу цацкі,— сказала жанчына ў ватоўцы наросхрыст і памахала ў паветры доўгім апалонікам. Гэта была маці Колькі Салаўя. Яна раптам накінулася на танкіста: — А вы таксама... Не можаце вартавога паставіць.

— Стаіць, мамаша, вартавы, стаіць,— адказаў танкіст.— Але мы, безумоўна, зробім вывады і прымем дадатковыя меры. А вы таксама паглядзіце, што хаваюць вашы дзеці дома.

Віктар зайшоў за школу, азірнуўся, ці не ўгледзеў яго хто, а потым пабег, часта коўзаючыся, па вуліцы, па якой, як ён даведаўся, скіравалі яго таварышы. Севярына, вядома, не магла сказаць куды, але Віктар здагадваўся, дзе яны маглі быць.

Хлапчукі сядзелі ў логаве, раскапаным у сцірце. З жоўтай саломы толькі тырчалі шапкі.

Віктара сустрэлі вучні дружным смехам. Яму падалося, што смяюцца з яго. Спыніўся, агледзеў сябе, сваю ватоўку, месцамі парваную на жываце аб сучкі бярэзін, якія цягаў да саней. З дзірак тырчалі абдзіркі. Штонікі з саматканага зялёнага палатна былі акуратна залаплены на каленях латкамі такога ж колеру. Здаецца, нічога смешнага не ўбачыў.

А хлапчукі смяяліся, проста душыліся смехам. Віктар як ні стараўся дапытацца, чаго яны смяюцца, так нічога і не высветліў. З-за смеху яны і слова не маглі сказаць.

— Ды скажаце вы ці не, чэрці? — крычаў Віктар.

— Ба-ба-х-хнулі! — хапаючы паветра, прагаварыў Рэнька і зноў заліўся смехам.

— Вы што? — ужо насцярожыўся Віктар. Смех яму раптам здаўся нейкім ненатуральным, хваравітым. Рэнька ляжаў на спіне, махаў нагамі і рукамі, і ў яго аж трэслася галава. Колька сядзеў, шырока разявіўшы рот, і, здавалася, не дыхаў. Вочы яго слязіліся. Рыгора нібы ахапіў неадольны працяглы кашаль. Калі хто раптам з хлопцаў сунімаўся трохі, яму варта было глянуць на таварышаў, і яго зноў аж калаціла са смеху. Было такое ўражанне, што хлопцы ўжо і самі станіліся смяяцца, хацелі стрымацца, супакоіцца, але не маглі. Віктару аж жудасна стала ад усяго гэтага. Ён ледзь не кінуўся назад у вёску клікаць людзей.

— Во! — праз смех раптам выціснуў з сябе Колька і павярнуўся спіною да Віктара. Матчына плюшавая чорненькая жакетка была пашкуматана. Усю спіну як хто выхапіў. Тырчалі сіняваты вацін, матузкі шэрай падкладкі. І калі ён затуляў полы, то спіна ў палатнянай зялёнай кашульцы агалялася.

Цяпер смяяўся і Віктар, хоць і не так залівіста.

Раптам смех аслабеў, страціўшы свой націск, сваю выбуховую сілу. Чуліся толькі асобныя гукі, падобныя на ўсхліпы. Тады павярнуўся да ўсіх плячом Рыгор Пуляй. Плячо яго цеснага паліто было зрэзана, як брытвай. Праз дзірку бялела сподняя рубашка, у чорных плямах, як у сажы.

І зноў выбух смеху. Але не такі моцны, як спачатку.

— Дык як там было? — калі смех аціх, спытаўся Віктар.

— Толькі пачало кіпець у снарадах,— пачаў таропка

Колька, нібы баяўся, што яго апярэдзяць,— я ўзяў капсуль, што тады выцягнулі з гільзы ля крайняга танка, і крыкнуў, што кідаю. Усе з ямкі, як хто. Хто на нагах, хто на пузе. А яно ж слізка. Добра, што спачатку капсуль не ў снарад трапіў, а міма. А то б усім нам там каюк. Знайшоў я капсуль, кінуў у снарад, а сам наўцёкі. Толькі з ямкі, а тут яно і бабахнула. Мяне ззаду за жакетку схапіла, падкінула, а потым аб зямлю бац. Я падхапіўся і трушком. Чую, спіна мерзне, аж яно вось што,— і ён зноў усім паказаў сваю спіну.

Хлапчукі зноў зарагаталі.

— Там маткі валасы на сабе рвуць, не ведаюць, дзе вы, а вы тут рагочаце,— нечакана побач з Віктарам вырас на краі логава Андрэй у сваім рабрыстым шлеме. Ён быў не зашпілены. Ватоўка таксама была расхрыстана. Твар расчырванеўся, відаць, юнак бег усю дарогу.— Нарабілі і яшчэ весяляцца. Маліцеся богу, што жывыя паазаставаліся... Ну што расселіся? Падымайцеся, пайшлі.

Ніхто не крануўся з месца. Усе моўчкі глядзелі на Андрэя. Нікому не хацелася ісці ў вёску, асабліва дамоў. Ведалі, што там іх чакае.

— Пайшлі, пайшлі! — загадваў Андрэй.— Ці вы папрымярзалі там? Пайшлі, па дарозе і пагаворым. Пайшлі! Я ж абяцаў вас прывесці на ўрок. Здаецца, ад заняткаў вас ніхто не вызваляў.

Ісці ў школу хлапчукі не былі супроць. Нават з ахвотаю. У школе, вядома, настаўніца будзе крычаць, але трапкачом ці якім рэменем, як дома, вучыць не стане. А пакуль яны адседзяцца ў школе, маткі супакояцца. Тады і дамоў не страшна будзе вярнуцца.

Па чарзе пачалі вылазіць з логава, абцярушвацца ад саломы.

— Я чуў, што танкісты будуць па зямлянках зброю шукаць,— сказаў Андрэй, калі яны ўжо набліжаліся да вёскі.

— А ў нас зброі няма,— сказаў за ўсіх Віктар.— Хіба што снарады. Ды і то на лякарства ад каросты.

— Хе! Ім снарады ўжо і не зброя. Бачылі, як бабахнулі. Ды каб не ў ямцы, то і школу б разнясло. А вы — не зброя. Зброя, ды яшчэ якая. Самая магутная на вайне...— і Андрэй прапанаваў: — Наогул, хлопцы, нам неяк трэба сабрацца і пагаварыць пра зброю. А то яна часам вам здаецца цацачкай. Зброя — гэта вельмі і вельмі сур'ёзная рэч. Гэта такое, што лепей і не чапаць, калі не ве-

даеш, што да чаго. А то і плюснуць не паспееш, як ад цябе толькі рожкі ды ножкі застануцца. Ды і тых ніхто не знойдзе. А то ў вас на вучобу ці на рэпетыцыю няма часу, а са снарадамі забаўляцца...— І ўжо ля самай школы сказаў: — Каб сёння ўсе былі на рэпетыцыі. Калі прыйсці, скажа настаўніца. Можа, і пасля ўрокаў застанемся. Я вам і пра зброю раскажу. А можа, каго з танкістаў запрашу...

Але апошніх слоў не чуў Віктар. На падыходзе да школы ён адстаў ад усіх, а потым сігануў за вугал...

## 10

Вера Мінаўна з дзяўчынкамі стаяла на вуліцы і не заўважала, здавалася, марозу. Нават галасы жанчын яна ўспрымала абыякава, нібы яны і не тычыліся яе, хоць больш за ўсё тут гаварылася пра школу.

— Гэта ўсё з-за школы,— крычала жанчына з апалонікам.— Каб сядзелі дома па зямлянках, былі б пад наглядам. А так сабралі іх у кучу, аж скура на іх гарыць... А настаўніца нічога не бачыць. Ды і дзе ёй бачыць, калі каваль у яе галаве, а не дзеці...— але апошніх слоў Вера Мінаўна не чула. Бо жанчына гаварыла іх, кіруючыся дамоў. Па дарозе яна яшчэ гразілася сыну.— Хай жа ён прыйдзе дамоў, я яму пакажу. Усё жыццё помніць будзе снарадзікі...

Андрэй, які прыбег з кузні, убачыўшы настаўніцу, падляцеў да яе, крануў за плячо:

— Вам жыць абрыдла, што не апрануліся,— і пачаў хуценька расшпільваць сваю танкісцкую ватоўку, каб накінуць ёй на плечы.

— Ой, не трэба! — і паспешліва сказала вучаніцам: — Пайшлі, дзяўчаткі!

Школьніцы маўкліва зайшлі ў клас, а настаўніца ў свой пакойчык, пераступіўшы дзверы, што ляжалі на падлозе, сарваныя з завесаў.

У пакойчыку падалося яшчэ халадней, чым на вуліцы. Праз разбітае акно цягнула марозным скразняком. Вера Мінаўна прысела ля грубкі, якая яшчэ была крыху цеплаватай, абхапіла яе рукамі. Яна хацела такім чынам уціхамірыць дрыжыкі, якія пачыналі працінаць яе.

— Тут яшчэ болей акалееш,— зайшоў у пакойчык і Андрэй. Ён зняў цёмна-сіняе з чорным цыгейкавым каўнерыкам паліто, што вісела на цвіку ля дзвярэй, і на-

крыў ім настаўніцу. Вярнуўся ў калідор, падняў дзверы, прыставіў іх да дзвярнога праёма, закрыўшы яго, можа, болей чым напалову. Узяў з ложка бухматую падушку і сунуў яе ў акно. У пакоі стала цемнавата, як надвячоркам.

— Трэба зашкліць, а то...— сказала Вера Мінаўна.

— Але чым? — хмыкнуў Андрэй, пастаяў у роздуме сярод пакоя.— Вось што, Вера Мінаўна.— Я зараз збегаю ў кузню, прыхаплю малаток, цвікі. Трэба ж дзверы павесіць. І пашукаю, чым зашкліць акно. А вы тут не сядзіце. Нельга на такім скразняку. Ідзіце на ўрок...

— Які ўрок? — нават абурылася настаўніца.— Які цяпер можа быць урок? У мяне ў вачах тая яма стаіць. А раптам хто не паспеў з яе выбрацца? Страшна падумаць. А вы пра ўрок...

— Не можа быць,— запэўніў яе Андрэй.— Каб такія жэўжыкі ды не выбраліся.

— А дзе ж яны? Мы нават не ведаем, дзе яны.— Ледзь не ўсхліпнула Вера Мінаўна.

— Я ведаю, дзе яны. Я прывяду іх. Зараз жа,— і ўсміхнуўся.— Ім жа адмяні ўрокі, дык кожны дзень будуць ірваць снарады, абы не вучыцца.

— Вы жартуеце, а мне не да жартаў,— упікнула яго настаўніца.— Я ж гаварыла, што з імі трэба строга. Трэба было сабраць, расказаць бацькам, што яны тут вытвараюць. Можа б, правучылі як след... А то пазаўчора ракету пусцілі, учора снарадамі надымілі, а сёння ўзарвалі снарады. Я баюся падумаць, што будзе заўтра... Кожны дзень жывеш і чакаеш, што вось-вось нешта здарыцца. Не, я не магу так. Я не магу так! Вы гэта разумееце? Ой, якая я дурная, што пагадзілася ісці сюды працаваць! Не, я напішу заяву і паеду дамоў. З мяне хопіць. Хай хто другі паспрабуе тут...

— Добра, добра, Вера Мінаўна,— пагаджаўся з усімі яе думкамі Андрэй. Ён ведаў, што зараз дзяўчыне пярэчыць нельга. Усё роўна не пераканаеш. Толькі болей расхвалюецца. Яшчэ сапраўды напіша заяву і пакіне школу. І таму ён рабіў выгляд, што пагаджаецца з ёй, нават падтрымлівае яе.— Добра, Вера Мінаўна, добра. Сапраўды, гэта не вучоба, а чорт ведае што. Ды калі б гэта яшчэ толькі ў нас. А то ж яно па ўсяму раёну так. Вунь у Мікалаеўцы такія смаркачы, як нашы, знайшлі міну, залезлі ў склеп, схаваліся, значыцца, і пачалі яе раскручваць. Ну і бабахнула. Усіх напавал... Нашы хоць

жывыя... А тое, што пра іх фокусы не расказалі маткам, мне здаецца, правільна зрабілі. Ім і так гора хапае. Прыгледзь малых, абагрэй іх, накармі. А няма чым. Ад мужчын звестак няма. Мала яшчэ хто прыслаў пісьмы. А некаторым прыслалі такія, што лепей бы іх і не было. Чалавек бы жыў надзеяй, а так... Вы ж паглядзіце на іх, усе аж счарнелі. А іх пасяўная чакае. Коней якіх тры калекі... Адным словам, Вера Мінаўна, дамовімся так. Я абяцаю вам, што хлопцы болей і ў рукі не возьмуць ніякіх патронаў. Я пагавару з імі сам... А цяпер ідзіце на ўрок. Я прывяду хлопцаў, а потым адрамантую ваш пакойчык,— і засмяяўся.— Мы яшчэ сёння з вамі рэпетыцыю правядзём.

— Ой, ён яшчэ пра канцэрт думае,— абурылася настаўніца. Але ў яе голасе ўжо не было ранейшай разгубленасці.

— Дамовіліся? Вы на ўрок, а я па хлопцаў... А потым яшчэ пагаворым. Добра? — ён стаяў у дзвярах, чакаючы адказу.

— Ну добра, добра,— цяпер яна сказала так, нібы хацела заспакоіць юнака. Калі Андрэй выйшаў, яна паднялася, павесіла паліто зноў на цвік ля дзвярэй, заглянула ў клас, сказала, што зараз пачнуць урок, вярнулася зноў у свой пакойчык, зняла забруджаную кофтачку, нацягнула чорны, яшчэ даваенны матчын світэр, які тая аддала дачцэ, калі выпраўляла настаўнічаць. Потым адхіліла крыху падушку ў акне. У вузкай палосцы святла прыдзірліва агледзела свой твар, ручніком выцерла кроў, потым тым жа ручніком пацёрла аб пабеленую сцяну, запудрыла сіняк. Узяла сшытак-журнал і пайшла ў клас. Дзеці, як ніколі, былі паслухмяныя. Не паспела яна праверыць дамашняе заданне, як у клас зайшоў Андрэй з вучнямі. Вера Мінаўна акінула хлапчукоў устрывожаным позіркам, спытала адразу ва ўсіх:

— А дзе ж Віктар Батура? Ён жа быў ля школы...

— Ён ішоў разам з усімі,— здзівіўся і Андрэй, не ўбачыўшы хлопчыка.

— Ён пабег дамоў,— сказаў Рыгор.

— Ён не будзе хадзіць у школу,— паведаміў Рэнька.— У яго маці хворая.

— З Віктарам я пагавару,— паабяцаў Андрэй настаўніцы.— Зараз займуся акном. Потым прыйду з гармонікам,— і аб'явіў усім у класе: — Сёння рэпетыцыя. Каб усе былі. І я хачу з хлопцамі пра зброю пагаварыць,—

і нечакана спытаў у настаўніцы: — У вас, дарэчы, Вера Мінаўна, ёсць іголка з ніткай?

— Іголка з ніткай? — здзівілася настаўніца.

— Тут аднаму падрыўніку трэба спіну адрамантаваць,— і Андрэй паклаў руку Міколу на плячо.— А то матка дома не пазнае. Пакажы сваю спіну народу, не саромейся.

Колька, які хаваўся за таварышамі, падаўся наперад, павярнуўся спіной да класа. Вучні засмяяліся. Не стрымалася і настаўніца.

— Залатаем яму спіну, залатаем,— паабяцала Вера Мінаўна.— А пакуль, хлопцы, распранайцеся і сядайце на свае месцы...

Андрэй непрыкметна выйшаў з класа.

## 11

Бярозавыя дровы ляжалі ля самых дзвярэй зямлянкі. Здалёк іх нельга было і ўбачыць: зліваліся з белым снегам. Зблізку выдзяляліся абсечаныя камлі і чорныя сучкі на ствалах — нібы хто на снег сыпануў жменю смецця. А потым ужо можна было разгледзець і кожную бярэзіну. Яны былі кароткія, з тоўстымі камлямі і танклявымі верхавінамі,— дрэўцы раслі ў раскошы, на волі. Ім хапала месца і святла. Яны не спяшаліся цягнуцца ўверх, не шкадавалі зямных сокаў на раскідзістае галлё. Сукаватыя, іх цяжка было падсякаць, а яшчэ цяжэй калоць на дровы.

Адна бярэзіна была пасечана на кароткія цуркі. Некалькі з іх, танчэйшых, былі расколаны на палавінкі. У тоўстай, з агрубелай парэпанай карой і з засохлымі сучкамі, тырчала сякера.

Відаць, маці пачала калоць дровы і не здолела. А можа, ёй наогул стала блага?

Віктар ледзь не скаціўся па прыступках у зямлянку.

Маці, не распрануўшыся, ляжала на ложку, звесіўшы крыху ногі. На бахілах раставаў наліплы снег. Відаць, зусім нядаўна яна ўвайшла з надворку.

— Мама! — паклікаў яе яшчэ з парога Віктар.

Таццяна не спала. Яна прыўзняла галаву, глянула на сына.

— Гэта ты...— яна агледзела сына, нібы не верыла вачам сваім ці хацела пераканацца, што ўсё на ім цэлае.— А я чаго толькі не перадумала. Пабег ты, я кіну-

лася паліць у печы, а дроў няма. Думаю, насяку трохі. Толькі пачала, а тут і бабахнула. Гляджу, над школай дым слупом. Ва мне ўсё самлела, счапіла пальцы ў руцэ, расчапіць не магу. А ногі адубелі як не свае. Хачу пайсці, а ногі ад зямлі не магу адарваць. Навокал ні душы. І дыханне заняло. Не ведаю, як я ўжо нагнулася, грабанула снегу ды ў рот. А той снег як вата, не чую, што і халодны. Але адпусціла. Выйшла на вуліцу. Ад людзей пачула, што нікога не забіла. А цябе ўсё няма. У галаву лезе абы-што. Думаю, можа, не сказалі мне, як і што там, пашкадавалі. Куды пайшоў, не ведаю. У школу ж не збіраўся...

— Я да танкістаў хадзіў. Раптам выбух. Пабег да школы. Там хлопцы снарад узарвалі,— сказаў Віктар пра выбух, як пра нешта дробязнае, нязначнае.

— Ой, слава богу, што ты ў школу не пайшоў,— аж перахрысцілася маці.

— Ды нікому нічога. Толькі ў адным акне павылятaлі шыбы...— стараўся супакоіць яе Віктар.

— Ой, не давядуць да дабра гэтыя снарады. А ты іх на печ яшчэ нацягаў. Колькі прасіла, каб павыносіў, чаго чакаеш? Пакуль і тут, не дай бог... Падумаеш, аж кроў у жылах стыне. Павынось іх, сынок,— прасіла яго маці.— Я сама павыносіла б, але цяжкія яны.

— Павыношу. Зараз жа,— паабяцаў Віктар і палез на печ дastаваць снарады.

— І дроў няма абед зварыць...

— Зараз будуць,— ён падкаціў да краю чарэні снарады, павыносіў і склаў іх за дзвярыма, а потым па аднаму перанёс на старое селішча і пакідаў іх у былы пограб. Снарады глыбока правальваліся ў сыпкі снег, іх не трэба было і закопваць.

Затым Віктар наадсякаў з бярэзін самых тонкіх вершалінак і занёс абярэмак у хату. Пасля абеду зноў пайшоў секчы дровы. Яму хацелася хутчэй іх пасекчы і пакалоць, каб яны не рупілі, а галоўнае, каб быў час прыдумаць, як злавіць лісіцу. Можа, прыйдзецца прасіць Андрэя, каб скаваў у сваёй кузні якую пастку.

Спярша ён сек бярэзіны на цуркі, а потым калоў іх. Танчэйшыя на палавінкі, а таўсцейшыя на некалькі частак. Хутка гэтак разагрэўся, што мусіў зняць ватоўку, застаўся ў адной кашулі. Працавалася лёгка, а галоўнае, не пастаіш. Толькі спынішся на якую секунду, мароз і хапае цябе за спіну. Не заўважыў, як надышоў вечар.

Усё навокал пасінела. А бярозавыя дровы, здавалася, яшчэ болей пабялелі.

Віктар раскалоў апошнюю цурку, разагнуўся, размашыста выцер рукою пот на лобе, ссунуўшы шапку на патыліцу. Глянуў на лес. Ружовае неба над лесам блякла на вачах. Па полі нібы рухалася чорная кропка. Віктар падумаў, што гэта ўжо ў яго вачах мухі лётаюць, заплюшчыў вочы, зноў глянуў на лес. Кропка выразна цямнела на пасінелым снезе. Няўжо так рана выйшла на паляванне лісіца? Не дачакалася, пакуль лепш сцямнее. Відаць, галодная. Хоць пакуль дабрыдзе да сціртаў, дык яно і добра ссутоніцца. Віктар глянуў на вёску. Ужо павінен быў прыйсці і Рэнька. Абяцаў жа. Не могуць яго так доўга трымаць у школе. А можа, зайшоў дамоў, а там не пусцілі.

Віктар адчуў, як холад працяў яго. Ён хуценька апрануў ватоўку, шчыльней затуліў полы, падперазаўся матузком, выцягнуўшы яго з кішэні. Агледзеў насечаныя дровы. Куча была ладнаватая. Цяпер трэба паперанасіць іх у зямлянку, скласці паўз печ. Паляжаць дзеньдругі, падсохнуць, лепей гарэць будуць. Ён нагнуўся, каб накласці сабе на левую руку дроў, і ў гэты момант з'явіўся Рэнька. Ён як з-пад зямлі вырас.

— А мне дома нічога не было,— радасна пахваліўся ён.— Маці толькі сказала, што скруціш ты сабе галаву, сын, і ўсё. А я сказаў, што не скручу.

— Бачыш,— паказаў Віктар на лес, стоячы з абярэмкам дроў.

— Што? — не зразумеў яго Рэнька.

— Лісіца...

— А-а... Ды іх цяпер багата. Ну што ты хацеў? — пацікавіўся Рэнька. Ён ведаў, што раз Віктар прасіў яго зайсці пасля заняткаў, то ў яго ёсць нешта сказаць яму.

— Давай паўносім дровы, потым пагаворым,— папрасіў сябра Віктар.

— Добра,— ахвотна пагадзіўся Рэнька.— Летнік толькі зніму, каб не запэцкаць.

Ён распрануў свой бастонавы летнік з закасанымі рукавамі, акуратна склаў і кінуў на непасечаныя бярэзіны, застаўшыся ў тоўстай безрукаўцы, відаць, пашытай са шматка старой ватняй коўдры.

Удвух хутка паўносілі дровы. Склалі ля печы. Іх не так і мала было, ледзь не да пячурак.

— Ой, натаміліся вы, дзеткі,— пашкадавала іх Тац-

цяна.— Разувайцеся і лезьце на печ грэцца. Я зараз вам кампоту падам.

Рэнька ўнёс свой летнік, паклаў на дровы, распрануў безрукаўку і на вачах неяк змізарнеў. Ён быў худы і нейкі ўжо вузенькі. А можа, такое было ўражанне, што ён аказаўся без свае целагрэйкі і шырокага летніка, у якіх выглядаў таўставатым круглячком.

Хлопцы ляжалі жыватамі на ледзь цеплаватай чарэні — маці яшчэ не паспела добра прапаліць у печы,— пілі кампот з цяжкіх латунных карцоў — іх багата накаваў Андрэй Чмель з гарматных гільзаў,— гаварылі прыглушана, каб не чула маці.

— Ну што ў вас там у школе? — пацікавіўся Віктар.

— Урокі як урокі,— відаць было, што Рэньку не асабліва і захаплялі заняткі. Гаварыў пра іх абыякава, а таму адразу ж перайшоў на іншае.— У канцы заняткаў прыйшоў Андрэй. Выняў з акон у класе некалькі шыбак і зашкліў імі акно ў настаўніцы. А ў класе паўстаўляў фанеркі. Казаў, будзеце ўзрываць снарады, усе шыбкі замяніць на фанеркі, паседзіце тады ў цемры. А потым пра гранаты расказваў, пра міны, пра снарады. Казаў, калі калупаць са снарада серу і нечакана ўдарыць чым жалезным, ну, напрыклад, тым жа кастылём па самому снараду, узнікне іскра, і снарад узарвецца. Я прыйшоў дамоў і ўсе снарады выкінуў. У мяне іх і было толькі два.

— Я свае таксама выкінуў у стары пограб. Там снегу поўна... Не буду даставаць парашок. Хай у бальніцу ходзяць. Кажуць, у раёне ўжо бальніца адкрылася...— памаўчаўшы крыху, Віктар, нібы між іншым, спытаў пра канцэрт. Калі ён і пра заняткі цікавіўся, дык хацеў пачуць што-небудзь пра Севярыну. А гэты балбатун Рэнька нічога не сказаў пра яе. Можа, зараз скажа?

— Андрэй распытваў,— пачаў ён зноў пра Андрэя,— хто што ўмее. Ну танцаваць, спяваць, вершык які... Часу да канцэрта мала, вучыць некалі, а хто што ўмее. Колька вершык раскажа. А ўсе ў хоры будуць. Ой, ледзь не забыўся. Севярына будзе паказваць нешта такое, вой, забыўся... Ага, эцюд нейкі. Андрэй будзе іграць вальс, а яна паказваць. І што гэта ў яе там за эцюд? У нашых дзевак нямашака такога... Засталіся ўсе паглядзець на той эцюд. А я пайшоў. Калі ты не ходзіш, я таксама хадзіць не буду.

— Ты адзін пайшоў? — спытаў Віктар. Яму хацелася,

каб з Рэнькам усе хлопцы пайшлі дамоў, не засталіся глядзець Севярыну.

— Адзін,— сказаў Рэнька. Ён даеў размяклыя абрыкосы, дапіў кампот, перакуліўшы карэц уверх дном. Потым паставіў яго на комінак. Туды паставіў свой карэц і Віктар.

Які час хлапчукі маўчалі. Віктар думаў пра Севярыну, а Рэнька чакаў, што ж хоча сказаць яму сябар. Не паклікаў жа ён яго толькі для таго, каб разам насіць дровы ў зямлянку. Сам жа казаў, пра нешта хоча пагаварыць.

— Бачыў? — прашаптаў на вуха сябру Віктар.— Лісіцу?

— А-а... Ну?

— Смяяцца не будзеш?

— Не. Слова.

— Трэба злавіць. На каўнер. Але пра гэта маўчок. Трэба прыдумаць, як гэта зрабіць,— і Віктар таямніча замаўчаў.

— Каб танкісты далі пісталет, то і рабіць бы нечага. Пабег, бах, і гатова,— і Рэнька нават прыцэліўся пальцам ва ўяўную лісіцу.— Але танкісты пісталета не дадуць... Хіба самім зрабіць?

— З чаго? — спытаў Віктар.— Канешне, каб знайсці якую вінтоўку. Іх у лесе багата. Але цяпер пад снегам...

— А калі з кулямёта? — і ў Рэнькі аж вочы заблішчэлі ад гэтай думкі.

— А дзе той кулямёт? — Віктару ўсе прапановы Рэнькі пачыналі здавацца несур'ёзнымі.

— А крайні ж танк рамантуюць. Сёння яшчэ да школы забягаў, думаў, можа, якія медныя трубачкі там ёсць. Хачу зрабіць газнічку. Бачыў кулямёт. Яго знялі з танка, і ён ляжыць побач. Можна ўзяць, падстрэліць лісіцу і зноў на месца палажыць. У мяне і дыск з патронамі ёсць. Поўненькі. Пад снегам схаваў у нашым садзе. А што? Засядзем з кулямётам у сцірце... Лісіца падыдзе мышэй лавіць, а мы...

— Добра. Заўтра і возьмем той кулямёт... Слухай, Рэнька, начуй у нас. Месца хопіць,— запрасіў сябра Віктар.— Яшчэ пагаворым...

— Не, пабягу,— не пагадзіўся Рэнька,— маці спахопіцца. Я ёй сказаў, што толькі аднясу табе дамашняе заданне,— і Рэнька каўзануў з печы, пачаў збірацца, а ўжо ў дзвярах паабяцаў: — Заўтра прыбягу.

## 12

На другі дзень Віктар увесь дзень сек дровы. Тацця-на некалькі разоў выходзіла паглядзець, ці не пабег ён куды: пасля выбуху ля школы яна вельмі баялася за сы-на. Каб маці залішне не мітусілася з-за яго, Віктар сам пачаў патроху насіць дровы. Пасячэ, пасячэ, а потым возьме абярэмачак і занясе ў зямлянку. Няхай бачыць, што яе сын дома, і залішне не хвалюецца. І хоць за дзень Віктар перанасіў ладна дроў, яшчэ нямала іх і застава-лася. Калі Рэнька прыбег, то ім абодвум было яшчэ што рабіць.

— Я паўз танк ішоў, каб паглядзець кулямёт,— ад-разу ж паведаміў Рэнька.— Ляжыць... Цяпер там танкі-сты, але пачне змяркацца, яны пойдуць.

Віктар прапусціў міма вушэй тое, што ён сказаў. Спы-таў пра іншае:

— Рэпетыцыі не было?

— Не. Сказалі прыходзіць увечары. Андрэй у кузні за-няты. Нешта куе там з танкістамі... Будзем насіць дровы?

— А каго сёння выклікалі? — Віктар усё ж спадзя-ваўся пачуць пра Севярыну.— Каму там паставілі «вы-датна»?

Віктару здавалася, што Севярына абавязкова павінна вучыцца толькі на «выдатна».

— Кольку паставілі «добра» за вершык,— не мог зра-зумець Рэнька, чаго ад яго дабіваецца Віктар. Заўва-жыўшы, што Віктар стаіць у нейкім задуменні, паціка-віўся: — Можа, не трэба насіць дровы?

— Трэба,— спахапіўся хлопец.

Яшчэ не пачало брацца на змярканне, а яны перанасі-лі ўсе дровы. І нават кару, якая паадлятала ад камлёў, падабралі. Віктар сказаў, што яна добра ідзе на распал-ку, не горш за смалістую лучыну гарыць.

Тацццяна, якая сядзела ля стала, блізка да сябе пад-сунуўшы газнічку, і нешта латала, сказала хлопцам:

— Перакусіце ды лезьце на печ. Я сёння добра яе на-паліла...

— Мы, мам, хочам на санках пакатацца,— папрасіў-ся Віктар.— Мы тут блізенька, па дарозе.

— Толькі ж блізенька...

Віктар прыхапіў у калідорчыку на прыступках зага-дзя падрыхтаваны стары мяшок, кінуў яго на санкі. У іх былі шырокія груваcткія палазы. На такіх санках лепей

дровы вазіць, чым катацца. Але па наезджанай слізкай, як шкло, дарозе яны беглі нядрэнна.

Спачатку вазілі адзін аднаго па чарзе. Каб атрымаць права сесці на санкі, трэба было іх так разагнаць, так раптоўна кінуць убок, каб твой напарнік вылецеў у снег. Так яны і мяняліся па чарзе. Той, каму ўдавалася даўжэй утрымацца, радасна і гучна, колькі ставала голасу, смяяўся. Паглядзець, дык дурэюць дзеці, і больш нічога цікавейшага для іх няма на гэтым свеце.

Ля танка скіравалі ў чужы сад. Там быў невялікі ўзгорачак, відаць, засыпаная снегам разабраная зверху на цэглу печ на месцы згарэлай хаты. З таго ўзгорачка яны спускаліся на санках разам.

— Ляжыць? — спытаў Віктар, які, як ні ўглядаўся, не бачыў ля танка кулямёта.

— На месцы.

Яны зноў каталіся на санках. Але цяпер не было ў іх ранейшай ажыўленасці. Рэнька яшчэ б, можа, і разгуляўся, але Віктар раптам стаў маўклівы, часта пагляддаў на захад. Яго ахапіла нецярплівасць. Хлопец хацеў, каб хутчэй звечарэла. І ўсё ж у іх ставала вытрымкі даехаць аж да школы. Калі павярнулі назад, то напаткалі Андрэя, які, павесіўшы гармонік на плячо, ішоў у школу на рэпетыцыю.

— Можа, пойдзем са мной? — спыніўся ля іх.— Чым праціраць штаны на санках, лепей паспяваем...

— Мы не ўмеем,— буркнуў Віктар, прыкметна раздражнёны, што Андрэй затрымаў іх.

— Навучым,— запэўніў яго Андрэй.— Ніхто нічога адразу не ўмее... Не хочаце спяваць, будзеце танцаваць.

— Што мы, дзеўкі? — засмяяўся Рэнька.

— Вас і дзеўкі любіць не стануць, калі не будзеце ўмець ні пець, ні танцаваць.

— А нам і не трэба,— і Віктар крыкнуў на Рэньку: — Вязі, твая чарга,— і плюхнуўся на санкі.

— Пачакайце,— стаў на дарозе Андрэй.— Я сур'ёзна. Канцэрт для танкістаў. Вы разумееце, ім жа хутка ў бой. А потым... Пець і танцаваць — як жа без гэтага? Вы ж салдатамі будзеце. Вы думаеце, салдаты толькі для таго, каб страляць?.. Хіба не бачылі, як танкісты танцуюць. Асабліва камандзіры. Танкісты ходзяць на рэпетыцыю.

— Ну і няхай,— сказаў Віктар.— Рэнька, паехалі!

Рэнька пацягнуў, падалося, санкі без ахвоты. Віктар

не зводзіў вачэй з Андрэя, які чамусьці стаяў і глядзеў на іх. Раптам пад самым вухам пачулася «Здравствуйте, мальчики!». У Віктара аж дыханне перахапіла. Ён адразу пазнаў голас Севярыны. Ні ў кога не было такога голасу — пяшчотны, кволенькі, нягучны. А потым ён убачыў спіну дзяўчынкі. Выходзіць, Андрэй стаяў, чакаючы яе. Вось яны разам і пайшлі. Канечне, думаў Віктар, каб і ў яго была такая ватоўка, такі шлем, можа б, і ён пайшоў разам з усімі і пець, і танцаваць. А куды палезеш у адных лахманах?

— Віць! — спыніўся Рэнька.— Здаецца, танкісты пайшлі.

— Паехалі хутчэй! — падхапіўся Віктар.

Ля танка і сапраўды нікога не было.

Але там не было і кулямёта.

— Ён толькі што ляжаў тут,— разгубіўся Рэнька.— Сваімі вачыма бачыў... Калі пад'язджалі з табой.

Віктар моўчкі узяў санкі за почапку і пацягнуў іх на дарогу.

— Канечне, схавалі,— стараўся апраўдацца Рэнька.— Мы самі вінаваты. Бегалі тут...

— Пры чым тут мы? — сказаў нечакана спакойна і развежліва Віктар.— Проста пасля выбуху ля школы ў іх строга стала. Загад ёсць. Каб не кідалі зброю. А ты, кулямёт, кулямёт. Толькі час страцілі...

Замоўклі. Віктар ішоў задумлівы, пануры. Рэньку хацелася хоць чым усцешыць сябра, і ён ліхаманкава думаў, як памагчы яму.

— Слухай, Віць, а калі ў яе запусціць ракетай? У гільзачку пораху, а дзірачку не збоку прабіць, а знізу, каб ракета прама ляцела. А што? Падпаліць — і ў лісіцу...

— А навошта яна нам смаленая? — хмыкнуў Віктар.

— Смаленая не трэба,— Рэнька памаўчаў трохі, а потым зноў прапанаваў: — Слухай, Віць, а калі да той ракеты вострую стралу прыставіць? А што? Наскрозь праткне, тады лісіца не ўцячэ.

— Гэта калі пацэліш,— Рэнькава думка Віктару падабалася, і ён пачаў думаць, як і з чаго зрабіць тую стралу, як прыладзіць яе да ракеты.

Нейкі час моўчкі шкрабалі дарогу цяжкімі бахіламі.

— Слухай, Віць, а калі тых гільзачак багата ўзяць,— Рэнька аж спыніўся ад нечаканай думкі.— Дзірачкі знізу. Да санак прыладзіць і падпаліць. Санкі паляцяць, як

куля. Ніякая лісіца не ўцячэ. Помніш, як з гільзачкамі насіліся лодачкі па вадзе?

— Багата трэба гільзачак...

— Ну і што? У хлопцаў ёсць. Калі ўсе сабраць, сотня набярэцца.

— Пакуль іх сабярэш...— Віктар не мог так доўга чакаць.— Слухай, Рэнька, а навошта нам тыя вільзачкі? Маленькія. А калі на санкі гільзы з танкавай гарматы?

Не паспеў Віктар выказаць сваю думку да канца, як у яе паверыў Рэнька. Ён ужо ўяўляў, як яны з Віктарам сядзяць на санках, а тыя хутчэй ветру нясуцца па полі.

— Мы ж тады за адзін вечар усіх лісіц пераловім. Падляцеў да рыжай, за хвост — і ў мяшок,— і раптам пашкадаваў: — Якія мы дурні былі, што порах папалілі. Дзе яго цяпер возьмеш? Снарады танкісты хаваюць у гумне. Ля гумна вартавы...

— Хто папаліў, а хто і схаваў,— загадкава сказаў Віктар, а потым прызнаўся.— У мяне яго, можа, паўмяшка. Пад печчу.

— Вось здарава! — узрадаваўся Рэнька.— А гільзы? Іх жа ўсе Андрэй на карцы перакаваў.

— А тыя, што ля крайняга танка?.. Нядаўна ж капсулі даставалі,— нагадаў Віктар.— Можа, яшчэ ляжаць. Калі ляжаць, то іх зараз жа трэба і забраць.

— Возьмем,— паныла адазваўся Рэнька. Яму ніяк не хацелася зараз шукаць у снезе тыя гільзы.

Узышоў яркі месяц. Хлопцы і не заўважылі, як ён падняўся над зямлёй. Разам з імі па снезе сунуліся і іх доўгія цені.

— Каб адразу дадумаліся да гільзаў, можа б, ужо не адну лісіцу злавілі,— упікнуў таварыша Віктар.— А то прыдумаў кулямёт... Паехалі, зараз і возьмем іх...

— Паехалі! — узахвоціўся і Рэнька.

## 13

Андрэй і Вера Мінаўна, застаўшыся ў класе пасля рэпетыцыі, пісалі праграму канцэрта. Канцэрт складваўся цікавы. Былі хор, чытальнікі, танцоры і нават балет. Бралі ўдзел школьнікі, вясковыя дзяўчаты, танкісты. А галоўнае, канцэрт быў вялікі. Гадзіны на дзве, не менш. Вера Мінаўна хацела скараціць яго, зняўшы слабейшыя нумары, але Андрэй быў супроць. Выступіць па-

вінны ўсе, хто толькі хоча, гаварыў ён. А чакаць, пакуль усе добра падрыхтуюцца, нельга. Танкісты паедуць на фронт. Танкі амаль усе адрамантаваны і стаяць калонай узбоч вуліцы ля школы. Люкі зачынены, на гарматах брызентавыя чахлы. Гаварылі, што чакаюць камандзіра, які паехаў у штаб на нараду, і што ён, відаць, прывязе загад.

— А дзе ж мы пакажам канцэрт? — спытала Вера Мінаўна.

— Як дзе? У школе,— сказаў Андрэй.

— Сцэны ж няма. А танцаваць на падлозе — ніхто нічога не ўбачыць.

— І праўда. Як гэта мы пра сцэну не падумалі? — і адразу ж знайшоўся: — А калі паставіць парты, заслаць іх дошкамі? З любога кутка ўсё ўбачыш. Але дзе ўзяць столькі дошак?.. А што, калі папрасіць старшыню калгаса, каб памог? На кароўнік прывезлі некалькі бярвенняў. Кажуць, іх будуць распілоўваць напалам, каб болей было. Ужо і сталюгі паставілі. А калі ўгаварыць, каб пару бярвенняў пусцілі на дошкі? Дошкі ўсё роўна спатрэбяцца, не прападуць. Адным словам, трэба ісці да старшыні.

Старшыня калгаса Аксён Давыдавіч Рукавіца быў дома. Ён сядзеў на нізенькім услончыку перад грубкай, у якой гарэлі дровы, падставіўшы калені агню. Выграваў свой даўні раматус. З-за гэтае хваробы яго не ўзялі і на вайну. Аксён Давыдавіч скардзіўся, што калі з раніцы добра не пагрэе ногі, то ўдзень і не паходзіш. Хоць хадзіць яму і не было куды. Хіба на якую нараду ў сельсавет ці ў раён. А так сядзі ў сваёй зямлянцы і кіруй, тым больш што і калгасная кантора была тут. На стале, побач з хлебам, накрытым белым настольнікам, ляжаў і невялічкі стосік папак з паперамі — уся калгасная канцылярыя. А за рахункавода была старшынёва дачка. Але яна толькі лічылася. Усе справы пакуль што вёў ён сам. Хоць спраў тых было вельмі мала. Не было гаспадаркі, не было і спраў. Але справаздач усялякіх даводзілася пісаць багата. Пісала іх пад бацькаву дыктоўку дачка. У яе быў добры почырк. Яна да вайны на «выдатна» закончыла сямігодку.

Убачыўшы ў дзвярах настаўніцу і каваля, Аксён Давыдавіч падняўся, абуў валёнкі, зашпіліў гімнасцёрку, сеў за стол і сказаў амаль афіцыйна:

— Слухаю вас, таварышы.

Калі яны расказалі пра канцэрт, ён нейкі час маўчаў, а потым паклікаў дачку:

— Нюра!

Аднекуль з-за печы выйшла ў зялёнай з самаробнага палатна сукенцы заспаная дзяўчына. Села за стол, дастала са стосіка папак канторскую кнігу, аловак, паклаўшы перад сабой кароткія белыя з маленькімі кулачкамі рукі, чакала, пакуль бацька пачне дыктаваць.

— Так,— у роздуме сказаў Рукавіца.— Значыцца, трэба людзі на канцэрт і дошкі для сцэны? Пішы, Нюра, нарад. Першае. Саўку і Міхайлу распусціць два хлысты на дошкі і зрабіць сцэну ў былой калгаснай канторы, дзе цяпер школа. Другое, Кавалю Андрэю Чмялю разам з настаўніцай запрасіць на канцэрт не толькі танкістаў, а ўсіх калгаснікаў...— і сказаў гасцям: — Хай людзі паглядзяць адзін на аднаго, а то пазашываліся ў зямлянкі, як краты, і свету не бачаць... Вось так. Якія яшчэ ёсць просьбы, таварышы? Няма? Добра... Вось што яшчэ, таварышы. Ледзь не забыўся. Перад канцэртам я вазьму слова. Трэба людзям сказаць, што рабіць сёння і заўтра. Карацей, пра сучасны момант. Вось так. Вы, Андрэй, і вы, Вера Мінаўна, абыдзіце ўсіх людзей, запрасіце. А ты, Нюра, на адной назе да Саўкі.

У дзень канцэрта Андрэй у кузні не рабіў. Вера Мінаўна адпусціла вучняў дамоў рыхтавацца да выступлення.

У Андрэя і Веры Мінаўны, такім чынам, быў час абысці ўсіх калгаснікаў. Андрэй хацеў, каб яны хадзілі паасобку, хутчэй бы ўсім аб'явілі пра канцэрт. Але настаўніца сказала, што яшчэ дрэнна ведае вяскоўцаў, а тыя таксама не ўсе ведаюць яе, так што лепей хадзіць разам. Андрэй толькі ўзрадаваўся. Ён і сам хацеў гэтага, а прапанаваў ёй хадзіць паасобку толькі таму, каб не быць занадта назойлівым, а галоўнае, праверыць яе прыхільнасць.

Яны стараліся нідзе не затрымлівацца, хацелі вярнуцца ў школу, каб заспець Саўку з Міхайлам, паглядзець, як яны зрабілі сцэну. Заглянуць у зямлянку, аб'явіць пра канцэрт і хутчэй за дзверы. Затрымаліся толькі ў Івана Сувігі і Таццяны Батуры.

Андрэй вельмі хацеў пабачыць Івана яшчэ раней. Карцела ўдакладніць, калі ён ідзе ў армію, але часу не выпадала. Пасля таго як яны разам чакалі паштальёна, ён бачыў яго толькі адзін раз у кузні. Забег, папрасіў

каваłак дроту на восі для сукала і пабег. І словам не перакінуліся. Цікава, ці паспеў ён зрабіць матцы кросны?

Іван Сувіга быў дома. Ён на высокай калодцы раўняў сякерай вузкую кароткую дошчачку. Па ўсёй зямлянцы былі параскіданы абрэзкі дошак, стружкі. У кутку стаялі новенькія кросны.

Іванава маці ў парозе малола на ручным млыне. Два драўляныя кругі стаялі адзін на другім. Ніжні быў нерухомы, а верхні трэба было круціць рукамі за драўляную ручку. Пасля вайны ўсе стараліся абзавесціся такімі млынамі, калі, вядома, было што малоць.

Меншы Іванаў брацік сядзеў у стружках на падлозе і будаваў з розных драўляных абрэзкаў хаткі.

— Які канцэрт? — аж замахаў рукамі Іван, калі даведаўся, чаго зайшлі Андрэй з настаўніцай.— Заўтра ў ваенкамат ісці, а не ўсё зроблена. Гэта ж учора сабраў кросны, глядзі, матка, ці ўсё ёсць? І чаўнок зрабіў, і цэвак нарабіў, і сукала. Усё, кажа, а сёння агледзелася, панажы не тыя. Я зрабіў ёй панажы на двое нітоў, а ёй трэба на чатыры. Кажу, хопіць і такіх. Дык не. І слухаць не хоча. На чатыры ніты — і толькі.

— А як жа? — умяшалася ў гаворку яго маці. Яна была маладжавая светлавалосая жанчына з буйным добрым тварам.— Я ж хачу посцілак наткаць. А іх можна ткаць сама меней у чатыры ніты.

— На штаны няма палатна, а яна думае пра посцілкі,— сказаў Іван так, нібы працягваў нясконачаную спрэчку з маці.

— Нічога няма, усё пагарэла...— маці і не пярэчыла.— Ложка нечым заслаць,— яна глянула на ложак, засланы выцертай шэрай салдацкай коўдрай...— А панажы будуць, дык хоць посцілак натку. Я ж да вайны, ведаеце, якія посцілкі ткала? З вобласці прыязджалі, на выстаўку бралі... А ён мне не хоча панажы зрабіць, якія трэба. Я сказала, у армію не пушчу, пакуль не зробіць.

— А дзе ты фарбу для сваіх посцілак возьмеш? — сказаў Іван.

— А ты думаеш, сын, фарбы не будзе, ці што? Цёмназялёнай во людзі прывезлі, а там яшчэ хто якой прывязе. Магазіны, кажуць, у раёне адкрываюцца. Можа, туды прывязуць. Фарбы будуць, раз немца прагналі. Ты панажы рабі, а не пра фарбу думай.

— Панажы, панажы...— бурчаў Іван.— У мяне і дошкі шырокай няма.

— А дзе вузкія ў адну,— параіў яму Андрэй.

— Я так і думаў,— сказаў Іван.

— Прыходзьце, цётка, на канцэрт. І ты, Іван, прыйдзі.— І засмяяўся Андрэй: — А то пойдзеш ваяваць і з нявестамі не развітаешся.

— Зраблю, дык прыйду,— паабяцаў Іван.— А калі?

— Як сцямнее.

— І я хачу на канцэлт,— кінуў свае абрэзкі і падбег да маці Іванаў брацік.

— І яго вазьміце,— параіў на развітанне Андрэй.— Малому цікава...

Таццяна была дома адна. Віктар недзе бегаў. Настаўніца пашкадавала, што няма хлопца, з ім яна якраз і хацела пагаварыць.

— А дзе ж ён? — пацікавіўся Андрэй.

— Увесь дзень дома быў. Вады прынёс, падлогу падмёў. Прыбег Рэнька, пашапталіся і пайшлі. Сказалі, катацца на санках. А дзе яны носяцца, не ведаю.— Таццяна сядзела на ложку.— Я таксама ля печы ўправілася, прылегла крыху. Задрамала. І работы той небагата, дзве міскі памыеш, а стомішся неўма як. Калі здароўя няма, хадзіць цяжка, не тое што рабіць...

— Гэта добра, што вам сын памагае,— сказала настаўніца.— Але хай бы і ў школу хадзіў. Урокаў цяпер небагата.

— Ой, што ж вы стаіце? Прысядзьце во ля стала,— і счакаўшы, пакуль Вера Мінаўна і Андрэй уселіся на чурбакі, працягвала.— Думаеце, не гаварыла? Гаварыла. Але не слухае. Не пайду, кажа, пакуль не ачуняеш. Потым, кажа, пайду. Вельмі самаўпраўны. А калі падумаць, можа, і нічога, што не ходзіць. Колькі тут вучыцца? Некалькі месяцаў. У наступны клас не перавядуць. Можа, няхай ідзе з наступнага года? — і Таццяна дапытліва паглядзела на настаўніцу.

— Куды іх пераводзіць? — даверліва сказала настаўніца.— Яны ж за два гады ўсё забылі. Як і не вучыліся. Хто два класы скончыў, хто тры — усе аднолькавыя. Хоць бы паўтарыць усё да вясны...

— І гойсаць абы-дзе не будуць,— Андрэй па-свойму адносіўся да вучобы дзяцей.

— Яно то так,— уздыхнула Таццяна і паабяцала: — Я з ім пагавару.

Зразумеўшы, што гаворка пра вучобу скончана, Андрэй падняўся:

— Таццяна Раманаўна, сёння канцэрт. Прыходзьце з сынам.

— Ой, дзеткі, тут і так сэрца баліць,— і жанчына замаўчала.

— Старшыня калгаса сказаў, каб усе былі. Гаварыць будзе. Што на фронце, як будавацца, як вясной сеяць... Цікава ж паслухаць. На людзях пабудзеце. А што вы з зямлянкі не выходзіце? На людзях яно ж і весялей. І сын няхай паглядзіць, як яго аднагодкі спяваюць, танцуюць. Можа, у школу ахвотней пабяжыць.

— Чакаем вас, Таццяна Раманаўна,— запрасіла жанчыну і настаўніца.

— А што? Можа, і прыйду,— і ледзь улоўная ўсмешка кранула яе вусны.— Дзякуй вам, што не забываеце, зайшлі во.

Калі Андрэй з настаўніцай вярнуліся ў школу, Саўка з Міхайлам закончылі рабіць сцэну. Яны сядзелі на партах, адпачывалі, дымілі самакруткамі.

— Добрая ж сцэна атрымалася,— пахваліў старых Андрэй.

— Аж самім у скокі хочацца,— відаць было, што самі цесляры былі задаволены сваёй работай.

Сцэна была высокая — на вышыню парт,— цягнулася паўз глухую сцяну ад грубкі-галандкі, якая стаяла бліжэй да дзвярэй, да акна. Дошкі былі шчыльна падагнаны адна да адной, роўныя. Андрэй ускочыў на сцэну, прайшоўся, пагушкаўся, крутнуўся ў вальсе, растапырыўшы рукі, спыніўся на краі сцэны, ледзь не дастаючы галавой да столі, сказаў:

— Выдатная сцэна. Лепшай і не трэба. Артысты на сцэну будуць выходзіць з-за грубкі,— і ён па-за грубкай злез са сцэны.— Пройдуць. Толькі табурэтку паставіць, а то высакавата,— і спытаўся ў Саўкі з Міхайлам: — А дошкі ў вас ёсць? Пару штук, гаворыце, засталося. Можа, зробім лаўкі перад сцэнай? Хай старыя сядзяць. А маладзейшыя пастаяць. І ўсім усё відаць будзе.

## 14

Віктара і Рэньку больш за ўсё турбавала, як кіраваць санкамі, калі пагоняцца за лісіцай. Яна ж не будзе ўцякаць, як па масніцы. Яна будзе віляць, кідацца ў бакі, а то і паверне назад. Ці пачне бегаць кругамі. Лісіца таму і лісіца, што вельмі хітрая. І як бывае ў такім узросце,

адна думка, адна праблема іх захапіла цалкам. Як зрабіць руль? Перабралі ў памяці ўсе рулі, якія ведалі. Аўтамабільны руль бачылі. А як дзейнічае, не ўяўлялі. Падышоў бы веласіпедны, каб замест кола прыставіць палазок. Але веласіпеднага руля ў іх не было. Успомнілі, як яны, катаючыся з высокай гары, тармазілі санкі звычайнай палкай. Яе апускалі пад апошнюю папярочку і прыціскалі да зямлі. Санкі спыняліся. Калі тую палку паварочвалі ў адзін бок, санкі кідаліся ў другі.

Вырашылі і цяпер зрабіць такі ж руль. Знайшлі бярэзіну, прывязалі да апошняй папярочкі так, каб руль лёгка рухаўся ў бакі. Віктар сеў на санкі і сказаў, каб Рэнька трушком цягнуў іх па дарозе. Рэнька пабег, а Віктар пачаў, прыціскаючы палку канцом да дарогі, паварочваць яе то ўправа, то ўлева. Санкі добра слухаліся рулявога. Праверылі руль і на цаліку. Руль зарываўся ў снег глыбей, санкі былі яшчэ больш падатлівыя.

Пасля ўзяліся за гільзы. Іх і порах завезлі і схавалі ў сцірце. Калі адна гільза не пацягне санкі, тады паставяць усе тры.

Яны прывязалі напоўненую порахам гільзу да санак, адцягнулі іх далей ад сцірты, каб не загарэлася салома, падпалілі порах. Ён зашыпеў, а потым чырвоным хвастом, як у вялізнай лісіцы, шуганула з гільзы полымя і раптоўна апала. Санкі не зварухнуліся. Стала ясна, што не толькі тры гільзы, а нават і сотня іх не пацягнуць.

— Канешне, вялікая дзірка,— здагадаўся Рэнька.

— Агонь павінен выбівацца праз маленькую дзірачку, тады ў яго сіла будзе,— падхапіў яго думку Віктар.— Хай агонь вылятае праз дзірку ад капсуля. А з другога боку гільзу трэба заткнуць чым.

— Лепей спляскаць і загнуць,— параіў Рэнька.— Заткала вылеціць.

Зноў насыпалі пораху ў гільзу, канец запляскалі і крыху загнулі.

Запалілі порах.

Агонь з трэскам і посвістам вырываўся на волю. Санкі ўздрыгнулі, закруціліся на месцы,— аказалася, гільзу замацавалі крыва. Раптам санкі развярнуліся і кінуліся на сцірту, якраз туды, дзе сядзелі хлопцы. Ад жаху тыя пападалі, прыкрыўшы галовы рукамі. А санкі, уз'ехаўшы на ўзгорак, спыніліся.

Аказалася, гільза разагнулася, і агонь раптоўна страціў сілу.

— Нешта не тое,— расчаравана пачухаў патыліцу Віктар.

— Якраз тое! — радаваўся Рэнька.— Якраз тое! Бачыў, як санкі закруціліся? Каб гільза не разагнулася і не была крыва прывязана, яны былі б ужо недзе пад лесам... Цяпер усё зразумела. Мы прымацуем не адну гільзу, а ўсе тры. І не проста канцы пазагінаем, а дротам перавяжам, каб не разгіналіся.

Пораху хапіла толькі насыпаць у гільзы.

— Трэба б праверыць, як яно будзе,— прапанаваў Рэнька.

— Праверым, а тады што? Пораху болей няма. Як дагонім лісіцу? — і рашуча сказаў: — Ясна, што санкі пабягуць. А нам болей нічога і не трэба.

Яны запляскалі гільзы, загнулі, абматалі тоўстым дротам. Потым закапалі іх у саломе. З парожнімі санкамі вярталіся ў вёску. Дамовіліся ўвечары лавіць лісіцу.

Пасля абеду Рэнька пайшоў у школу, а Віктар дома залез на печ, каб добра адпачыць, набрацца сіл перад паляваннем. Паляжаць яму не ўдалося. Прыбег Рэнька. Ён быў прыкметна ўзбуджаны. У спешцы зашпіліў свой бастонавы летнік не на тыя гузікі, і цяпер адна пала была вышэй, а другая ніжэй.

— Нас адпусцілі! — яшчэ па дарозе пахваліўся ён.— Сёння канцэрт у школе. Гаварылі, каб усе прыходзілі. Я сваёй матцы сказаў, а сам сюды.

— Распранайся ды лезь на печ,— загадала яму Таццяна.— Паляжыце спакойна, а то не сядзіцца ўсё вам.

— Давай залазь,— папрасіў яго і Віктар.

Рэнька распрануўся, разуўся.

Які час сцішана ляжалі.

Таццяна ўзяла абломак люстэрка, які знайшла ў садзе адразу пасля адступлення немцаў, і сунула яго ў кішэню жакеткі, прысела да стала, прыставіла абломак да карца, каб зручней было глядзецца, доўга і задумліва вывучала свой твар, нібы ўпершыню ўбачыла яго. Потым расчэсвала косы алюмініевым грабянцом — такія ў той час выпілоўвалі з абломкаў самалётаў. Прычасаўшы косы, закруціла іх у куксу на патыліцы. Яшчэ раз уважліва агледзела сябе ў люстэрка. Паднялася, узяла сваю гаруску, накінула на плечы, падышла бліжэй да акна, пацікавала на сябе ў люстэрка, трымаючы яго ў працягнутай руцэ. Ці ад акна, ці ад яркай гарускі твар неяк пасвятлеў, нават памаладзеў. У яго выразе з'явілася

шчырая радасць, толькі вочы засталіся ранейшымі, задумліва-сумнымі.

— А вы на канцэрт не збіраецеся? — спытала ў хлопцаў.— Кажуць, сёння ўсе пойдуць туды.

Віктар паглядзеў на маці, узрадаваўся, што яна прыкметна павесялела.

— Пойдзем,— буркнуў ён.— Толькі з Рэнькам трохі пакатаемся на санках.

— Не можаце вы без санак,— упікнула яна іх.

— Мы трошкі,— запэўніў Віктар маці і шапнуў Рэньку: — Давай збірацца.

— Ты ж гаварыў, што адпачнем, потым...— сказаў Рэнька сябру, калі яны выйшлі з зямлянкі. Яму пасля цёплай чарэні падалося вельмі холадна на вуліцы. Ён натапырыў вузенькі каўнерык летніка, каб не так марозіла шыю, болей адкасаў рукавы.

— Я так і думаў... Але чуў пра канцэрт? Будзем дома, маці павядзе з сабой. І не адпросішся,— і паглядзеўшы на Рэньку, які аж ссінеў ад холаду, здзіўлена спытаў: — Ты што, змёрз?.. Упрагайся ў санкі і трушком!

Яны не проста каталіся, а яшчэ вучыліся і кіраваць санкамі. А санкі не вельмі лёгка было цягнуць, калі руль скародзіў дарогу.

— Ну ўсё, хопіць! — першы здаўся Рэнька.

— Хопіць дык хопіць,— Віктар быў задаволены тым, што санкі вельмі добра слухаліся рулявога.— Паедзем да сцірты?

— Не рана?

— Трэба ехаць. Там пасядзім. А то людзі пачнуць збірацца ў школу, нас убачаць...

Санкі да сцірты цягнулі ўдвух. Не спяшаліся. Часу наперадзе было багата, ды і ногі аж нылі ад стомы, прасілі спачыну. Асабліва звяў Рэнька. У яго быў такі панылы выгляд, нібы ён пад прымусам ішоў лавіць лісіцу, без усялякае ахвоты.

— Маці прыйдзе з канцэрта, а тут, калі ласка, лісіца,— марыў Віктар. І каб як развесяліць сябра, дадаў: — У наступны раз і тваёй маці зловім. Пораху знойдзем. А то, можа, яшчэ і сёння парачку прывалачом.

— І прама ў школу на канцэрт,— усміхнуўся пасінелымі вуснамі Рэнька.

— Здарава будзе! — уявіў Віктар, як здзівіцца Севярына, убачыўшы лісіцу. Яна, можа, ніколі не бачыла жывую. Во налякаецца. Хоць яна не з тых, што баяцца.

Хутчэй за ўсё пачне распытваць, як ім удалося злавіць яе, а то яшчэ папросіць патрымаць у руках.— Абавязкова занясем у школу паказаць. Хай пабачаць!

Прыйшлі да сцірты ранавата. Чырвоны сонечны шар яшчэ палымнеў над лесам. Мароз супроць начы прыкметна мацнеў.

Санкі паставілі на снежную намець перад сціртай, прымацавалі да іх гільзы. А потым зашыліся ў саламянае логава, час ад часу паглядваючы на заснежанае поле.

Цямнела. Захад яшчэ свяціўся ледзь улоўнай ружовасцю. Сінія бязмежныя снягі і неба, здавалася, самкнуліся, і каб не далёкая цёмная палоска лесу, то і граніцы паміж імі не было б. На нізкім небе прабіліся першыя зоркі.

— Рэнька, глядзі,— усхвалявана прашаптаў Віктар, які ўвесь гэты час не зводзіў вачэй з поля.

Лісіца з'явілася знянацку. Быццам вылузнулася з сіняй заслоны. Была зусім недалёка ад сцірты. Здавалася, да яе можна дакінуць каменем.

— Ды яна ж,— вылез з логава і Рэнька. У яго яшчэ больш пасінелі вусны. Было відаць, што ён добра паспеў змерзнуць, туліўся ў свой летнічак так, што шапка аж насунулася на вочы. І ён сачыў за лісіцай, крыху ўзняўшы галаву.

— Хай бліжэй падыдзе,— Віктар намацаў у глыбокай кішэні ватоўкі запалкі, сунуў іх Рэньку.— Я сяду з мяшком на санкі, і як дам знак, падпальвай порах. З дзірачак ён трохі тырчыць, старайся падпаліць хутка і разам усе тры гільзы.

— Ды ведаю,— ледзь пападаў зубам на зуб Рэнька.

— Ты не захварэў? — спытаў Віктар.

— Ды не. Прабеглі, а потым пасядзелі, вось і халадна,— стараўся гаварыць бадзёра Рэнька.

Але Віктар асабліва і не прыслухоўваўся да яго адказу і наогул не глядзеў болей на яго. Ён не зводзіў вачэй з лісіцы. Больш за ўсё баяўся, што лісіца раптам перадумае і скіруе куды-небудзь у другое месца. Ад нецярпення пачаў упрошваць яе ў думках, каб яна бегла сюды, дзе чакае яе ён, Віктар:

«Ой, лісачка, родненькая, разумненькая. Ды не марудзь ты ў полі, ідзі хутчэй сюды. Тут і мышак болей, тут і мы цябе чакаем. Мы зловім, пасадзім у мяшочак, табе цёпленька стане, не будуць мерзнуць твае лапкі на снезе, і ваўкоў баяцца не трэба, не тое што ў полі...»

І лісіца быццам і сапраўды здагадалася пра жаданне Віктара, стала набліжацца хутчэй.

Зусім звечарэла. Праз шэра-сінюю смугу стала горш відаць лісіцу. А тут яшчэ ад напружанага ўглядання слязіліся вочы.

«Ну лісачка, міленькая, ну чаму ты спынілася? Ды бяжы ты хутчэй, родненькая. Ну чаго ты кінулася ўбок, кінулася б наперад, бліжэй да нас, табе ж усё роўна, куды скокнуць. Ну што задумалася? Ну яшчэ адзін крок, толькі адзін-адзінюсенькі крок. Я ж цябе прашу, лісачка».

І калі лісіца раптам скокнула ўбок і крыху назад і там падняла такую мяцеліцу, што з-за снегу не стала яе і відаць, Віктар не стрываў, вылез з логава, падпоўз да санак, усеўся на іх напагатове з мяшком у правай руцэ, левай ухапіўся за руль, кіўнуў Рэньку:

— Давай!

Рэнька акалелымі пальцамі дастаў запалку, пстрыкнуў ёй. Запалка зламалася. Дастаў яшчэ адну. Загарэлася. Ён па чарзе падпаліў порах у трох гільзах і сам адкаціўся ўбок.

Тры тонкія струмені вырваліся з вузкіх шчылін, зліўшыся ў адно доўгае дымнае полымя. У наступнае імгненне раздаўся аглушальны выбух. Віктара падкінула, паставіла на ногі, тыцнула тварам у снег. Дыміліся разарваныя гільзы. Дымілася спіна ў Віктара.

Рэнька падбег да яго, паклікаў. Віктар не варушыўся.

У роспачы Рэнька кінуўся ў вёску.

## 15

На канцэрт сабралася амаль уся вёска. Не хапала месцаў не толькі сядзець, але і стаяць. Дзверы ў клас адчынілі насцеж. Людзі тоўпіліся ў калідоры.

На лаўках перад сцэнай сядзелі танкісты і некаторыя вяскоўцы.

Тут быў старшыня калгаса Аксён Давыдавіч Рукавіца. На шарсцяную афіцэрскую гімнасцёрку ён нацягнуў цывільны шэры пінжак. У нагруднай кішэньцы пінжака пабліскваў нікеляваным наканечнікам аловак і тырчэла алюмініевая расчоска. Яго чыста паголены твар быў худы, вастраносы, больш падобны на дзіцячы, чым на твар дарослага чалавека. Побач са старшынёй сядзеў Саўка, натапырыўшы белыя вусы. Ён не зводзіў вачэй са сцэны, нібы баяўся прапусціць пачатак канцэрта.

Таццяна Раманаўна, з адкрытаю галавою, у квяцістай гарусцы на плячах сядзела таксама на першай лаўцы. Спачатку, як толькі прыйшла ў школу, яна спынілася ля самых дзвярэй. Стаяла разгубленая і засмучаная. Ёй няёмка было, што ўсе, асабліва дарослыя, прыйшлі ў тым, у чым хадзілі штодня, а яна прыбралася. Надзела белую вышываную з кароткімі рукаўчыкамі яшчэ дзявочую кофтачку. Яна яе насіла ў будні, у ёй пабегла і ў лес ад немцаў. Цяпер жа яна была ёй за выхадную. Яна расшпіліла жакетку, і не для таго, каб відаць была гэтая адзіная яе ўкраса, а каб не так кідалася ў вочы яе цёмна-зялёная жакетка з грубога сукна. Жакетка ёй ніколі не падабалася, і яна яшчэ накінула гаруску на плечы, каб болей прыкрыць яе.

Калі прыйшоў камандзір, ён запрасіў Таццяну Раманаўну сесці побач. І цяпер ён, з усмешлівымі сінімі вачыма, расказваў ёй нешта вясёлае, бо яна гучна, як якая гарэзлівая дзяўчынка, смяялася, закідваючы галаву з прыгожым вузлом кос на патыліцы. Нехта, пачуўшы яе смех, сказаў: «Мужык галаву злажыў, а ёй смешна». Але гэтую рэпліку ніхто, здаецца, не пачуў, бо ў памяшканні стаяў нецярплівы гул людской гаманы.

Таццяна Раманаўна часта паглядвала на дзверы, шукаючы вачыма сына: няўжо яшчэ недзе катаецца на санках? Усе дзеці тут, а яго з Рэнькам няма. І дзе іх нячыстая носіць?

Падняўся старшыня калгаса, павярнуўся тварам да людзей, пацягнуў за полы свой пінжак, які, відаць, быў цеснаваты яму, падняў руку і так стаяў, пакуль не ўсталявалася цішыня.

— Таварышы! — нечакана гучным камандзірскім голасам крыкнуў ён, памаўчаў трохі і працягваў ужо спакайней.— Дарагія госці, дарагія аднавяскоўцы!

— На сцэну! — пачуўся гарэзлівы голас з калідора.

— Высокая для мяне, халера,— сказаў спакойна старшыня, усміхнуўся.— Сцэна для артыстаў. А я не артыст. Я толькі скажу некалькі слоў. Прыемна, што мы сабраліся вось зараз. Гэта ж першы раз сабраліся разам за ўсю вайну. Гляджу я на вас усіх, і радасць вялікая ў мяне. Багата нас тут. Хацеў фрыц нас знішчыць, ды рукі аказаліся кароткія. І вось мы сабраліся разам. Галоўную навіну вы ўсе ведаеце. Нашы войскі прарвалі блакаду Ленінграда і працягваюць паспяхова гнаць фашыстаў ад гераічнага горада.

Усе запляскалі ў ладкі, скіравалі позіркі на Касю, якая стаяла ў дзвярах. У жанчыны на вачах былі слёзы. Яна плакала і ўсміхалася адначасова. Нехта ўступіў ёй месца на лаўцы.

— Ой, дзякую. Мне ж трэба Севярынцы памагаць адзявацца,— адмовілася яна.

— Таварышы! — узняў зноў руку старшыня.— Яшчэ трохі цярпення. Што я хачу сказаць яшчэ? Цэлую зіму ў нас жылі танкісты. Рамантавалі танкі. Усе мы адносіліся да іх, як да родных сыноў. Хутка яны зноў паедуць на фронт. Пажадаем жа ім перамогі! Смерць нямецкім захопнікам! — крыкнуў старшыня, а калі воплескі заціхлі, працягваў далей: — А цяпер некалькі слоў пра нашы калгасныя справы. Першая і галоўная ў нас задача адна. Правесці паспяхова веснавую сяўбу. Насення нам дадуць, колькі трэба. Ёсць указанне, каб ніводзін гектар не застаўся пуставаць. Як нам арганізаваць працу, каб справіцца з пастаўленай задачай, пагаворым падрабязна на агульным сходзе ў бліжэйшы час. Падтрымаем, таварышы, нашу гераічную армію гераічнай працай на мірным фронце!..— Аксён Давыдавіч дастаў сваю алюмініевую расчоску, махнуў ёй ля вуха, сеў на сваё месца, нахіліўся за спіною Таццяны да камандзіра, спытаў, ці не хоча той выступіць перад народам. Камандзір адказаў, што ён выступіць пасля канцэрта.

А тым часам артысты, якія тоўпіліся ў пакойчыку настаўніцы, сталі за грубкай падымацца на сцэну. Калі ўсе пастроіліся, выйшаў з гармонікам на плячы і з табурэткай у руцэ Андрэй Чмель, сеў перад хорам, азірнуўся на харыстаў, расцягнуў мяхі, кіўнуў галавой, каб запявалі. Загучала песня. Нясмела, павольна, ціха, паступова набіраючы размашыстую крылатасць.

Среди лесов дремучих, среди лесных полян
Растет семья могучих, бесстрашных партизан.

Пакуль харысты спускаліся са сцэны паўз сцяну за грубкай, наперад выйшаў Колька Салавей. Ён быў у кужэльнай зялёнай сарочцы, падвязанай пояском з кутасамі на канцах. Вера Мінаўна, стоячы ля Андрэя, які перайшоў бліжэй да грубкі разам са сваёй табурэткай, абʼявіла, што вучань чацвёртага класа Мікола Салавей прачытае верш Якуба Коласа «Голас зямлі».

Колька тонкім галаском пачаў:

Я чую голас несціханы —
Зямля мая мяне заве
І кроіць сэрца мне на раны,
Звініць, як звон касы ў траве.
. . . . . . . . . . . . .
Шумяць гняўліва твае пушчы,
Трасуцца помстаю бары.
І дзень твой хмурны змрок расплюшчыць —
Ёсць у цябе багатыры!

Колька закончыў верш, пастаяў у разгубленасці пад дружныя воплескі, успомніў, што трэба ж пакланіцца, пакланіўся і толькі хацеў юркнуць за грубку, як яго падхапілі дужыя рукі, паднялі і апусцілі на падлогу перад сцэнай.

— Дзякую, сынок! — сказаў камандзір.— Пасядзі з намі...

— Не, мне трэба туды! — пачаў адпрошвацца ён, паказваючы на дзверы.

— А майго не бачыў? — спытала ў яго Таццяна.

— Не,— адказаў Колька і вылузнуўся з ласкавых рук камандзіра.

А тым часам Вера Мінаўна аб'явіла пра выступленне Севярыны Бычковай.

Андрэй зайграў вальс. Спачатку на сцэне нікога не было. Але вось з-за грубкі выпырхнула танклявая дзяўчынка ў чорным купальніку, у вязаных шэрых шкарпэтках, з вялікім белым бантам у чарнявых валасах. Яна спынілася сярод сцэны, выцягнула ўперад дзве рукі, углядаючыся некуды ўдалячынь.

— Голая! — нехта хіхікнуў у зале.

Севярына прабегла па сцэне на дыбачках, зноў вярнулася назад, пачала кружыцца, павольна размахваючы рукамі, як крыламі. Усе глядзелі на гэтыя рукі, і ўсім здавалася, што кружыць перад імі легкакрылая птушка. Паступова Севярына зачаравала прысутных сваім незвычайным тут, у вёсцы, танцам. Усе сцішыліся, толькі чулася рэдкае пакашліванне прастуджаных людзей...

І раптам у гэтай цішыні прагучэў, як стрэл, адчайны голас Рэнькі.

— Віктар Батура падарваўся!

Спынілася, як падстрэленая, Севярына на сцэне, захлынуўся гармонік.

— Вады! Хутчэй вады! — крычаў камандзір, трымаючы пад пахі Таццяну, якая з пабялелым тварам ссоўвалася з лаўкі.

## 16

Андрэй пастукаў у дзверы і, не дачакаўшыся дазволу, уваліўся ў пакойчык настаўніцы, кінуў на падлогу вязку нейкіх кручкоў, загнутых тонкіх ломікаў, прабояў, клямак. Каб не было відаць, што ўсе гэтыя штуковіны толькі што адкаваныя — яны яшчэ захоўвалі на сабе сiняваты колер і бліскучыя сляды напільніка,— то можна было падумаць, што гэта нейкае непатрэбнае жалеззе.

Андрэй з палёгкай уздыхнуў — відаць, гэты ўвесь метал быў нялёгенькім — зняў свой новенькі рабрысты танкісцкі шлем, выцер рукою спацелы лоб, расшпіліў таксама новенькую танкісцкую ватоўку.

— Ой, што гэта? — падхапілася Вера Мінаўна, якая сядзела за столікам і правярала вучнёўскія сшыткі. Іх, розных па памерах і колеру — былі яны з плакатаў, папяровых мяшкоў і нават з газет,— цэлы натапыраны стос ляжаў перад ёй.

— Гэта замок,— растлумачыў Андрэй.— На твае дзверы. З вуліцы і ў твой пакой. Як зачынішся, ніхто не ўломіцца...

— Ой, каму тут ламацца? — рассмяялася настаўніца.

— Ці мала каму? Школа пры дарозе... Вось дрэнна, што не паспеў усе гэтыя замкі паставіць. Але нічога, Саўка зробіць. Я яму растлумачыў.

— Да заўтрага не паспееш? — яна ўстрывожана глянула на яго.

— Сёння ад'язджаем,— і ўздыхнуў зноў. Сказаць яму пра гэта было яшчэ цяжэй, чым прынесці абярэмак металу.— Праз гадзіну. Камандзір батальёна атрымаў загад сёння ў 20.00 быць на месцы прызначэння. Чытаў нам.

— А мы ж хацелі Віктара наведаць,— паныла сказала настаўніца.— З табой разам.

— Разам і сходзім... Спынімся ля бальніцы. Я з камандзірам дамовіўся. Так што хутчэй збірайся. На танку пракатаю.

— І Севярына хацела разам з намі схадзіць,— у марудлівым задуменні гаварыла Вера Мінаўна. Сваёй непаспешлівасцю ёй хацелася спыніць бег часу.

— Збірайся хутчэй і ідзі па Севярыну. А я пакуль забягу дамоў, развітаюся са сваімі. Ля танкаў убачымся,— і ён выскачыў з пакоя.

Калона танкаў спынілася на пустыннай заснежанай

вуліцы райцэнтра. Пад старымі таполямі стаяла доўгая драўляная будыніна з высокімі вузкімі вокнамі пад счарнелым дахам з драўлянай гонты. Толькі адна яна і ўцалела на гэтай вуліцы.

Тут і была цяпер раённая бальніца.

З другога танка вылез Андрэй, потым памог выбрацца з люка Веры Мінаўне і Севярыне.

— Не болей дзесяці мінут,— папярэдзіў камандзір, які па пояс высунуўся з вежавага люка пярэдняга танка.

Віктар ляжаў на ложку ля самага акна. Галава была забінтавана. Ён узрадаваўся нечаканым гасцям. Вочы яго заблішчалі, а тонкія вусны на зусім схуднелым тварыку зламаліся ў сумную ўсмешку. Ён паспрабаваў сесці...

— Ляжы, ляжы,— загадала Вера Мінаўна,— і прысела на край ложка ў нагах хлопчыка, бо стаяць паміж ложкамі ў вузкім праходзе ўсім траім было цеснавата.

— Гэта табе ад Саўкі. Сушаныя аўдоткі. Вельмі смачныя.— Андрэй падаў яму невялічкі газетны пакуначак.— Ну як ты тут?

— Зламаная нага не баліць, у гіпсе. Апёкі на спіне трохі смыляць. А галава нічога. Патыліца трохі пашчымела...

— Добры з цябе салдат вырасце,— пахваліў яго Андрэй.— А я вось, Віктар, іду ў армію. Танкісты ўзялі ў сваю часць. Бачыш, выдалі новае абмундзіраванне. А маю ватоўку і шлем я пакінуў табе. Я сваёй маці сказаў, каб аддала, як толькі ты выйдзеш з бальніцы. Вось так. Адным словам, Віктар, застаешся ў вёсцы замест мяне. Камандзірам над усімі падшыванцамі. І каб не вешаў нос, што б у жыцці ні здарылася. І не забывай, зброя — не цацкі.

Андрэй глянуў на Веру Мінаўну, думаў, што тая таксама нешта скажа свайму вучню, а яна сядзела з акамянелым тварам, моцна сцяўшы вусны.

— Во прынесла табе задачнік,— Севярына падышла бліжэй да Віктара.— І агульны сшытак. Я ў ім трошкі пісала, але там яшчэ багата чыстых лісткоў,— і яна паклала на падушку кнігу і тоўсты сшытак у мяккай блакітнай вокладцы.— Мы з мамай едзем у Ленінград. Дамоў,— і, убачыўшы засмучонасць на твары хворага, хуценька пралепятала: — Я табе пісьмо прышлю. Абавязкова. І кніг. У нас дома іх багата...— і, крыху памаўчаўшы, сказала: — А Рэнька яшчэ не ходзіць у школу. Хва-

рэе. Прастудзіўся вельмі. Цяпер яму лепей. Мы ўчора былі ў яго. Як ачуняе, казаў, прыйдзе да цябе.

— І не толькі ён,— усміхнуўся Андрэй.— Вера Мінаўна прыйдзе. Сябры прыйдуць. Саўка прыйдзе. Абяцаў яшчэ аўдотак прынесці. Ну, бывай! — Андрэй паціснуў яму руку. Паднялася і Вера Мінаўна.

— Як убачыце маму, скажыце, што пайду ў школу, як толькі выпусцяць з бальніцы,— папрасіў на развітанне Віктар.

Калі выйшлі на вуліцу, Вера Мінаўна не стрывала, усхліпнула:

— Мне аж страшна стала, калі ён папрасіў цябе перадаць маці, што пойдзе ў школу,— і ўпікнула Андрэя: — Чаму ты не сказаў праўду?

— Хацеў, але ўбачыў, які ён кволы, падумаў, яшчэ не выжыве хлопец. І вы пакуль не гаварыце, што маці яго пахавалі. Хай паздаравее, тады... І хлопцам перадайце, каб раней часу не прагаварыліся.

— Добра,— паабяцала Вера Мінаўна.

— Выпішуць з бальніцы, адвядзеш яго да нас,— папрасіў яе Андрэй.

Спыніліся ля танка.

— Ну, бывайце! — весела ўсміхнуўся Андрэй. Ён моцна паціснуў кволенькую далоньку Севярыне, падаў руку настаўніцы.

Вера Мінаўна нібы не заўважала яго працягнутай рукі, які час напружана глядзела на разгубленага Андрэя, а потым парывіста і моцна абняла яго за шыю...

## 17

Калі Вера Мінаўна, Андрэй і Севярына выйшлі, Віктар раптам пашкадаваў, што нічога не сказаў дзяўчынцы, хоць не ўяўляў, што павінен быў сказаць...

Віктар прыўзняў галаву, спадзеючыся застаць дзяўчынку ў дзвярах і паклікаць. Але дзверы былі зачынены. «Хоць нічога страшнага не адбылося — пачаў суцяшаць ён сябе.— Яна прышле яму кнігі, ён даведаецца пра яе адрас і ў пісьме ўсё раскажа пра сябе. А калі яна нічога і не прышле яму, ён даведаецца пра яе адрас у іхніх родзічаў. Некаму ж яны напішуць з Ленінграда».

Пагартаў задачнік, а потым сшытак. Некалькі лістоў былі спісаны дамашнімі заданнямі. Потым пайшлі чыстыя...

Яму захацелася яшчэ хоць здалёк убачыць дзяўчынку.

Ён натужыўся і, памагаючы сабе рукамі, сеў на ложку. Пасядзеў, сцяўшы зубы, пакуль боль у паясніцы крыху супакоіўся, потым правую нагу ў цяжкім гіпсе асцярожна спусціў на падлогу, павярнуўся тварам да акна, абапіраючыся на здаровую левую нагу, падцягнуўся, устаў, павіс локцямі на падаконніку.

Перад вокнамі бальніцы выцягнулася калона танкаў.

Ля другога танка ад пераду стаялі Вера Мінаўна і Севярына. Ім нешта гаварыў Андрэй. На вуліцы, відаць, было вельмі холадна, бо настаўніца падняла свой цыгейкавы каўнерык. Севярына таксама тулілася ў сваім чырвоным паліто, узняўшы вузенькі каўнер з хваста рыжай лісіцы...

Вось Андрэй развітаўся...

Танкі пусцілі клубы чорнага дыму. Андрэй ускочыў на свой танк, усеўся на вежу.

Вера Мінаўна і Севярына махалі яму рукамі.

Стальныя машыны паступова набіралі хуткасць. Ад іх магутнага руху трымцелі шыбкі ў вокнах.

На вежах танкаў вялікімі белымі літарамі было напісана: «За Савецкую Беларусь».

Віктар доўга не зводзіў вачэй з Севярыны.

У яго аж рукі занылі ад натугі. Ён упаў на ложак, ляжаў, звесіўшы нагу ў гіпсе на падлогу: не было сілы падняць яе.

А перад вачыма плавалі рознакаляровыя кругі, якія звычайна бываюць, калі доўга паглядзіш на сонца. Тут былі чырвоныя, жоўтыя, сінія, зялёныя і нават адзін круг, а больш дакладна не круг, а плямка, рыжая, як хвосцік лісіцы...

# УРОК БЕЗ ПЕРАПЫНКУ

## ТЭЛЕГРАМА

Як толькі світанак пачаў цадзіцца праз густы вінаграднік, якім была аблеплена веранда, Паліна прачнулася, села на ложку, завязала чарнявыя доўгія валасы ў пучок на патыліцы, надзела купальнік, накінула на плечы лёгкі халацік без рукавоў, павесіла на плячо махровы ручнік і ўжо ля дзвярэй абула жоўтыя пластмасавыя пантоплі.

Старыя перакошаныя дзверы скрыганулі ржавымі завесамі.

— Не дасць выспацца,— прабурчаў праз сон Васіль, яе муж, перавярнуўся на другі бок, нацягнуўшы прасціradла на бялявую, выгаралую на сонцы галаву.

Паліна скіравала на вузкую сцежку, пратаптаную праз газон, да густых зараснікаў акацыі і кучаравага тамарыску. Нагнуўшыся, каб не зачапіцца валасамі за калючкі, прашмыгнула праз вузкую і нізкую, як нара, алейку і апынулася на шырокай асфальтаванай дарожцы. Запахла не астылым за ноч асфальтам. Дарожка вяла да вышчарбленых і размытых марам даволі крутых прыступак. Прытрымліваючыся за парэнчы, Паліна спусцілася на пляж.

Усход чырванеў вузкай палоскай. Вышэй віселі кучаравыя, з падсвечанымі жоўтымі бакамі рэдкія воблачкі, а над імі блішчаў чырванню танюткі, як праведзены пад лінейку, след самалёта. Вада яшчэ нейкі час захоўвала свой колер, узяты ад ночы, сіні, нібы разбаўлены малаком. Але нядоўга яна супраціўлялася наступу раніцы, неяк раптоўна і нечакана загарэлася ружовым, а потым проста на вачах пачала мяняць свае адценні. І калі сонца паднялося і кінула свой вогненны слуп прама пад ногі Паліне, мора свяцілася зыркім блакітам.

Жанчына паклала на камень ручнік, халацік і павольна зайшла ў ваду. Яна плыла, не вытыркаючы з вады ні ног, ні рук, каб не пырскацца, любавалася дробнымі хвалямі, якія пераліваліся ружовымі і зеленаватымі адценнямі... А потым яна легла на спіну, плыла не спяшаючыся, адчувала, як усё цела налівалася свежасцю ад

халоднай вады, глядзела ў чыстае блакітнае неба, дзе кудлатыя воблачкі былі белыя, як удзень...

Калі яна выйшла на бераг, сонца ўжо ўзнялося высока, а мора набыло свой звычайны колер, сіні з бэзавым і зеленаватым адлівам удалечыні...

Паліна пахадзіла трохі па мокрым пяску, вышукваючы прыгожыя каменьчыкі, потым узяла два драўляныя лежакі, разаслала на іх махровы ручнік, каб высыхаў, і вярнулася дамоў, бадзёрая і лёгкая.

Васіль, непрычасаны, узлахмачаны, у адных трусах сядзеў на ложку і, нахіліўшыся над крэслам, на якім ляжала раскрытая скураная папка, пісаў алоўкам у тоўстым сшытку. Ён быў так захоплены працай, што нават і не паварухнуўся, калі зайшла жонка і пачала насіць падушкі з веранды ў пакой. Ён толькі ледзь прыўзняўся, калі яна выцягвала з-пад яго прасціралдла.

— Можа, ложкі занясём? — нібы прасіла прабачэння, што яго патурбавала.

— Хвіліначку.— Ён таропка паставіў некалькі плюсоў, мінусаў, падхапіўся, радасны, узбуджаны, кароткімі рукамі штангіста схапіў жонку за тонкую талію, пакружыў вакол сябе, паставіў, потым узяўся за спінку ложка, прапеў: — Пане-е-еслі!.. Падымай!..

— Ой, дай аддыхацца. Не рукі, а клешчы.

— Са слабымі рукамі ў навуцы нечага рабіць. Падымай!..

— І чаго ты толькі сюды паехаў? — сказала яна яму, калі яны вярталіся па другі ложак.— Сядзеў бы дома са сваімі лагарыфмамі... Пражыць два тыдні і ні разу не пабачыць мора на досвітку.

— Не я вінаваты — эпоха! — філасафічна адказаў Васіль.— Жыццё бяжыць хутка. А трэба багата спасцігнуць. Няма часу на досвіткі. Спынюся — і мяне ж адразу даганяць. Але не гэта галоўнае. Галоўнае, што я прывучыў сябе працаваць раніцай. І не хачу адвыкаць. Бо адвыкнуць лёгка, а вось прывыкнуць... Варта толькі раз парушыць біярытмы... А потым толькі раніцай, калі ты бегаеш глядзець сваё мора, я і магу памазгаваць...

— А твае біярытмы не сігналяць, што пара ісці на базар? — засмяялася Паліна.

Яны ўжо аднеслі і другі ложак, і цяпер Паліна стаяла перад люстэркам і заплятала касу.

— Ды намякаюць,— заскакаў на адной назе Васіль, цэлячы другой у калашыну джынсаў.

Кожны дзень да снедання яны хадзілі на базар. І не толькі з-за памідорчыкаў, якія абое любілі і якіх яшчэ не давалі ў сталоўцы іхняга дома адпачынку. Паліна любіла прайсціся па ранішняму гарадку, любіла пашвэндацца па базарчыку, пагаварыць з мясцовымі жыхарамі, выбраць які-небудзь самаробны, часам нечакана арыгінальны сувенірчык,— хай будзе памяць, а то, можа, болей і не давядзецца прыехаць сюды.

Ішлі пасярэдзіне брукаванай вуліцы, засмечанай недакуркамі, пакамечанымі пакецікамі з-пад марожанага. Ісці ў пластмасавых пантоплях было няёмка, але затое вальней, чым па тратуары, па якім «дзікуны» спяшаліся на пляж ці заняць чаргу ў кафэ і не любілі саступаць дарогу стрэчным. Паліна трымалася за мужаву руку, паглядваючы на горы, якія ўздымаліся адразу за гарадком. Яе ўвагу прывабіў беленькі домік, які прытуліўся высока ў гарах, на невялікай седлавіне, якраз там, дзе канчаўся лес і пачыналіся травастоі, што вузкімі языкамі карабкаліся ўверх па шэрых крутых схілах.

— Можа, сёння сходзім да таго доміка? — спытала яна.

— Да якога?

— Вунь да таго, што ў гарах... Да абеду на пляж, а потым, калі спадзе спёка,— у горы. Да самага беленькага доміка. Цікава, хто там жыве, і наогул цікава, як жывуць людзі на такой вышыні, што яны робяць.

Васіль глянуў спадылба сваімі шэрымі глыбока схаванымі вочкамі на жонку, але нічога не сказаў, толькі глыбока ўздыхнуў.

— Чаго ўздыхаеш?

— Ты ж адпачываць, здаецца, прыехала. А носішся... А мне часам хочацца проста пасядзець на верандзе. Нічога не рабіць. Толькі пасядзець...

— Адпачынак павінен быць актыўным. Ці не пра гэта трубяць твае калегі, вучоныя?

— Але ж не ў горы падымацца.

— З мужам можна і ў горы,— яна на які момант павісла ў яго на руцэ.

Ён, здаецца, гэтага і не заўважыў. Паліна рассмяялася.

— Вось што, дарагая. Сёння пойдзем у шашлычную. Пабыць на поўдні і не пакаштаваць сапраўднага шашлыка...

— Добра,— пагадзілася яна.— Сходзім у горы, а потым у шашлычную.
— Багата ж ты хочаш.
— А што рабіць, Васечка, калі столькі цікавага, а жыццё бяжыць хутка. Сам гаварыў.
— Ты ж не хацела ехаць,— упікнуў ён яе.
— Ой, не ўспамінай,— яна моцна тузанула яго за локаць.— Не хачу і думаць, як і што было дома.— І адразу перавяла гаворку на іншае.— Дык што мы сёння купім?
Васіль паглядзеў на жонку, на яе загарэлы і нейкі як памаладзелы тварык, на яе зіхатлівыя вочкі і, можа, упершыню, як яны тут адпачываюць, падумаў, ці не стараецца яна знарок запоўніць увесь час такім чынам, каб не было калі і думаць пра сваіх вучняў, з-за якіх ёй так не хацелася ехаць сюды.
...На пляжы Васіль разлёгся на лежаку, раскінуўшы мускулістыя рукі і ногі. Паліна ж ніяк не магла ўлегчыся, усё было ёй мулка. Урэшце сцішылася, прыкрыла твар газетай. Прыслухоўвалася, як абдае яе цёплымі хвалямі паветра. Але супакоенасці хапіла ненадоўга.
— Гэй, лежабок! — ушчыкнула яна яго.— Пайшлі паплаваем. Праспіш усё...
— Я не сплю,— буркнуў Васіль.— Цела мае спіць, а мазгі працуюць...
— Пайшлі, пайшлі,— яна спрабавала падняць яго за руку.— А то і мазгі расплавяцца ад гарачыні...
У вадзе Васіль нечакана разгуляўся і не хацеў з яе выходзіць нават тады, калі ў Паліны пасінелі вусны і яе пачалі браць дрыжыкі. Яна не стала яго чакаць. На беразе доўга расцірала цела шурпатым ручніком.
— Я яшчэ хацеў паляжаць,— пашкадаваў Васіль, убачыўшы, што жонка аднесла лежакі.
— Уляжашся — цябе потым не зварухнеш. Пайшлі паходзім! — І яна скіравала туды, дзе канчаўся заліў і далёка ў мора выходзіў скалісты мыс. Ля таго мыса ў невялічкай бухце стаяў доўгі чорны рыбацкі човен. Відаць, там выгружалі рыбу. Паліне захацелася паглядзець, якой рыбы налавілі і наогул, як выглядае свежая марская рыба, бо яна бачыла яе толькі салёнай ці замарожанай.
— Ой, як хораша! — захаплялася яна.— Пажыць бы тут цэлае лета.
— Заставайся. Час ёсць.

— А ты?

— Я паеду. Мне трэба абавязкова пракансультавацца ў шэфа, пакуль той не з'ехаў адпачываць.

— А што? Варта падумаць...— Яна спынілася, заглядзеўшыся некуды ўдалячынь, ці не на карабель, які кропкай бялеў там, дзе неба злівалася з вадой. І калі Васіль наблізіўся да яе, схапіла за чупрыну і пачала абпырскваць вадой.— А гэта табе за тое, што хочаш пакінуць мяне адну...

У гэты дзень яны крыху спазніліся на абед.

Васіль пайшоў у сталоўку, а Паліна затрымалася ля скрынкі для пісьмаў, што вісела ў калідоры сталовай на сцяне ля самых дзвярэй. Яна кожны раз спынялася і ў клетачцы, пазначанай пачатковай літарай яе прозвішча, праглядала ўсе пісьмы. Звычайна ёй нічога не было, і яна адыходзіла, здавалася, задаволеная гэтым.

Сёння была тэлеграма. Сэрца ўстрывожана забілася: адразу ж падумала пра бацькоў. Ці не здарылася што з імі?

Разарвала тэлеграму. Там было ўсяго некалькі слоў: «Паліна Сямёнаўна занялі першае месца калектыў сёмага Б».

Яна кінулася ў сталоўку, каб хутчэй падзяліцца навіною з мужам. Убачыўшы яго шырокую спіну ў жоўтай тэнісцы сярод тых, што тоўпіліся ля падносаў з салатай, пайшла за свой столік. Сеўшы, яшчэ раз перачытала тэлеграму. Тая радасць, якая ахапіла яе спачатку, цяпер паменшала. З'явіўся сум, нібы яе спасцігла расчараваннне.

— Ну, што замаркоцілася? — паставіў перад ёй Васіль талерку з буракамі.— Налятай. Апошнія, з самага дна. Затое алею багата,— і ён, смачна прычмокваючы і аблізваючы алей з вуснаў, пачаў есці.— Еш, чаго ты?

Яна моўчкі падала яму тэлеграму.

— Віншую! — прыўзняўся Васіль, выцер папяровай сурвэткай вусны, пацалаваў жонку.— Малайцы твае дзеткі.

— Ты прачытаў тэлеграму?

— А як жа.

— А подпіс?

— Калектыў. Правільна. Не Вовачка, не Пецечка, а дружны спартыўны калектыў.

— А я вось думаю наконт гэтага калектыву. Шчыра напісана ці насміхаюцца? Калі не дзеці, дык фізрук...—

яна глянула на мужа.— Я ўвесь час змагалася за здаровы калектыў у класе. І не ўпэўнена, што свайго дабілася. Ці, можа, што здарылася там? Дык цудаў не бывае...

— Ды не бывае,— Васіль падняў вочы ад талеркі. На жончыным твары была тая напружаная заклапочанасць, якая, здавалася, ніколі не пакідала яе дома, вусны былі сцятыя, вочы крыху прыжмураны, а лоб перасякала застылая маршчына.— Ведаеш, Паліна, давай хоць зараз без праблем. Адпачываць дык адпачываць. Сама ж казала.

## УСПАМІНЫ

Паліна добра памятае той дзень, калі яна ўпершыню ўбачыла сваіх вучняў...

Клас глядзеў трыма шырокімі вокнамі ў школьны сад. Сярод асенняй лістоты віселі чырванабокія яблыкі. Паветра ў класе ад дрэў было зеленаватае. Хлопчыкі сядзелі ў аднолькавых цёмна-сініх гарнітурчыках і белых кашулях. Дзяўчынкі былі ў беласнежных фартушках. Яна толькі і бачыла, здавалася, гэтыя белыя манішкі і фартухі: вельмі хвалявалася, нават болей, чым тады, калі давала першы ўрок у сваім настаўніцкім жыцці.

Але хваляванне адразу ж пакінула Паліну, як толькі яна пачала знаёміцца з вучнямі, выклікаць іх па спісу. Усе былі такія прыгожанькія, прычасаныя, ціхенькія; слухалі так, нібы ніколі і нідзе не чулі цікавейшага за тое, што зараз расказвала ім настаўніца.

Паліна нават не ўяўляла, што могуць быць такія дзеці.

Праўда, яна лічыла, што дзеці такія ў першыя дні вучобы, адразу пасля летніх канікулаў, а потым стануць, як і ўсе; вось толькі асвояцца з ёй, з другімі настаўнікамі.

Але ішлі дні, тыдні, а дзеці былі такімі ж, як і ў першы дзень заняткаў. Яны нават на перапынках, калі вузкія калідоры поўніліся вучнямі ўсіх класаў і станавіліся цеснымі, не бегалі, не скакалі, не тузаліся, не ездзілі адзін на другім верхам, не коўзаліся на слізкай паркетнай падлозе, а застаючыся ў класе, рыхтаваліся да наступнага ўрока, нешта чыталі, пісалі, а калі і выходзілі ў калідор, то станавіліся ля акна, стаялі моўчкі ці гутарылі пра што. Дзяўчынкі дык любілі, узяўшыся за рукі,

прагульвацца, не адыходзячы далёка ад свайго класа... «Ах, які клас, які клас! Там жа проста адпачываеш, такія дзеці...» — толькі і чула Паліна ад сваіх калег. І яна радавалася, што ёй пашэнціла быць класным кіраўніком у такім выхаваным класе.

А хутка, калі Паліна прывыкла да класа, да выключнай паслухмянасці сваіх вучняў, ёй усё часцей здавалася, што дзеці яе нейкія ўжо абыякавыя і, можа, таму такія паслухмяныя. Праўда, яны ахвотна збіралі макулатуру, выпускалі насценную газету, амаль усе спявалі ў класным хоры,— усё гэта рабілі, можа, нават лепей за вучняў іншых класаў, але рабілі толькі таму, што ім загадвалі гэта рабіць. Паліна стала больш пільна прыглядацца да дзяцей. І чым больш прыглядалася, тым больш пераконвалася, што яны не такія, якімі павінны быць дзеці такога ўзросту.

Яна ўспамінала сваё дзяцінства. У іх жа школе вучні, асабліва з таго класа, у якім вучылася яна, звычайна не чакалі загадаў, а самі стараліся рабіць усё. І запісваліся ў гурткі, і хадзілі ў паходы па родным краі, і працавалі ў калгасе.

Паліна неяк пасля ўрокаў зайшла да завуча школы Яўгена Кірылавіча, каб пагутарыць.

Яна верыла завучу не толькі таму, што з яго думкай лічыліся ўсе ў школе, а галоўным чынам таму, што ў яе яшчэ са школьных гадоў захавалася да яго тая вучнёўская даверлівасць, якая толькі і бывае ў вучняў да сваіх любімых настаўнікаў.

Яна і цяпер перад ім адчувала сябе вучаніцай.

...Паліна расла ў вялікай вёсцы, цэнтры саўгаса над Прыпяццю. У іхняй школе дырэктарам быў выкладчык рускай мовы і літаратуры Яўген Кірылавіч. Ён вучыў яе з пятага па восьмы клас. Але тады яна не магла яшчэ ацаніць яго як настаўніка. Патрабавальны, строгі, як і большасць настаўнікаў школы, якія стараліся быць такімі, як і іх дырэктар, ён падабаўся ўсім вучням найбольш сваёй акуратнасцю. Хадзіў заўсёды ў светлых гарнітурах, у беласнежнай кашулі, пад гальштукам.

Яўген Кірылавіч, здавалася, без асаблівых намаганняў дабіваўся таго, што ўсе вучні найбольш любілі яго прадмет. Праўда, злыя языкі і тады сцвярджалі, што ён стараецца не так дзеля вучняў, як дзеля сваёй славы. Але так маглі гаварыць толькі зайздроснікі. Якім быў Яўген Кірылавіч, Паліна, можа, ведала лепей за ўсіх.

Калі ў сёмым класе ў яе па дыктантах пайшлі тройкі, Яўген Кірылавіч ледзь не ўсю зіму займаўся з ёй пасля ўрокаў. Яна тады палюбіла мову настолькі, што пасля дзесяцігодкі, не раздумваючы, паступіла на філалагічны факультэт педінстытута.

Пасля інстытута яна колькі гадоў працавала ў вясковай школе. А калі яе муж абараніў кандыдацкую дысертацыю па матэматыцы, яго запрасілі ў мясцовы педінстытут выкладчыкам. Яны пераехалі жыць у горад. Неяк выпадкова Паліна сустрэла на вуліцы Яўгена Кірылавіча. Ён якраз выйшаў з магазіна. У руках у яго былі авоські з вялізнымі паласатымі кавунамі. Ён стараўся трымаць кавуны так, каб яны не краналіся яго светла-шэрых штаноў. Ад напружання твар крыху пачырванеў, а на бледным незагарэлым ілбе выступілі кропелькі поту. Аказалася, Яўген Кірылавіч таксама перабраўся ў горад, рабіў завучам у сярэдняй школе. Даведаўшыся, што Паліна яшчэ не ўладкавалася на працу, запрасіў яе да сябе ў школу...

...Яўген Кірылавіч сустрэў яе прыязнай усмешкай. Лёгкім хуткім рухам рукі прыгладзіў і без таго акуратна прычасаныя сівыя валасы, падняўся, паправіў гальштук, надзеў свой светла-шэры пінжак, які вісеў у яго на спінцы крэсла, папрасіў Паліну садзіцца на канапу, якая стаяла паўз сцяну насупраць акна, і сам сеў побач.

— Ну, Паліна Сямёнаўна, расказвайце.— І зноў прыязна, неяк па-бацькоўску ўсміхнуўся. У яго былі дробныя, крыху крываватыя зубы, і, можа, таму ён адразу ж патушыў сваю ўсмешку, і толькі яе водбліск яшчэ свяціўся ў яго шэрых, павялічаных шкельцамі акуляраў, вачах.

Яна расказала яму пра свой клас.

— Я, так сказаць, па знаёмству падкінуў вам лепшы клас, а вам не падабаецца,— усміхнуўся зноў, а потым у роздуме дадаў: — А можа, і добра, што вучні спакойныя?

— Занадта ж спакойныя, Яўген Кірылавіч,— але ў яе голасе ўжо не было ранейшай устрывожанасці. Увага, добразычлівасць завуча супакоілі настаўніцу, і яна цяпер нават не так патрабавальна, як яшчэ хвіліну назад, ацэньвала паводзіны дзяцей.— Я не магу паверыць, каб яны ўсе былі такія аднолькавыя.

— Канечне, канечне,— пагаджаўся з ёй завуч.

— Як пазбавіць іх гэтага бяздумнага паслушэн-

ства? — яна была ўпэўнена, што зараз атрымае слушную параду, як паводзіць сябе ў такой сітуацыі.

— А навошта? — Ён цяпер глянуў на яе так, як глядзіць вопытны настаўнік на вучня.— Радуйцеся, Паліна Сямёнаўна, што не папаліся вам разгільдзяі. Дысцыплінаваныя — гэта ж добра. Усе скардзяцца, што не могуць дабіцца дысцыпліны на ўроках. Так што... Падрастуць, з'явіцца ўсё. Разварушацца яшчэ.— Ён падняўся, відаць, у яго не было больш часу на гаворку.— А пакуль паслухмяныя, дык вучыце... Вось так, таварыш Вільчык Паліна Сямёнаўна,— і зноў прыязна ўсміхнуўся.

Паліна выйшла ад завуча супакоеная.

...Не з'явіўся на заняткі яе вучань Іван Баркун. Паліна спытала пра яго ў дзяцей. Ніхто нічога не ведаў. Нават Вова Бялькевіч, які жыў з Баркуном у адным пад'ездзе.

— А чаму ж ты не пацікавіўся? — спытала ў яго настаўніца.

Вова Бялькевіч паслухмяна падняўся. Яго тугія чырвоныя шчочкі яшчэ больш пачырванелі.

— Я ў цябе, Валодзя, пытаюся...

— Мне ніхто не казаў, каб пацікавіцца,— глянуў на настаўніцу сваімі шэрымі і круглымі, як у дзяўчынкі, вачыма.

— А сам не дадумаўся?

Вова Бялькевіч лена варухнуў плячыма.

— Сёння ж зайдзі да таварыша і даведайся, чаму ён не ходзіць у школу.

На другі дзень Вова Бялькевіч яшчэ да пачатку заняткаў сустрэў Паліну ў калідоры і расказаў ёй, што Іван Баркун грыпуе, але яму ўжо лепей і ён хутка зусім ачуняе.

Паліна зрабіла вывад, што яе дзяцей ніхто не вучыў думаць пра іншых. І яна, не чакаючы класнай гадзіны ў суботу, на сваім уроку літаратуры расказала дзецям пра таварыскасць і сяброўства, пра сапраўдную дружбу і калектывізм. Дзеці, як і заўсёды, слухалі ўважліва.

Неяк Паліна, накінуўшы на плечы паліто, стаяла ля акна ў настаўніцкай і пазірала праз запацелыя шыбы, як разыходзяцца дзеці са школы. Сярод школьнікаў яна заўважала і сваіх вучняў. Кідалася ў вочы, што яны, такія ціхмяныя ў класе, нічым не адрозніваліся ад іншых на вуліцы. Такія ж рухавыя, такія ж задзіры, некаторыя нават кідаліся ранцамі. Вось адзін вучань, яна не пазна-

ла яго, відаць, не з яе класа, пагнаўся за Вовам Бялькевічам. Каратканогі Вова Бялькевіч уцякаў даволі хутка, неяк набычыўшыся і не азіраючыся. Ля самых варот ён з разгону наляцеў на маленькую дзяўчынку, што каталася там на трохколавым веласіпедзе. Раззлаваны, відаць, тым, што тая трапілася яму на дарозе, ён ударыў яе. Малая мячыкам вылецела з веласіпеда. Вова Бялькевіч не тое што не спыніўся, ён нават не азірнуўся. Той жа вучань, што гнаўся за ім, падняў дзяўчынку, доўга выціраў насоўкай ёй тварык, усадзіў на веласіпед, памог выехаць са школьнага двара.

Гэты другі вучань, яна цяпер добра разгледзела яго, быў не з яе класа.

У той жа дзень пад вечар яна пайшла дамоў да Вовы Бялькевіча.

Самога хлопчыка не было. Была дома яго маці Уладзіслава Раманаўна, маладая прыгожая жанчына з сумнаватымі вачамі на круглым бялявым твары. Паводзіла яна сябе так, нібы была не ў сябе дома, а ў чужых. Настаўніца падумала, ці не ўстрывожыў жанчыну раптам яе прыход, што яна такая насцярожаная. Ці, можа, не ўпэўнена ў сыне настолькі, што чакае пачуць пра яго толькі дрэннае?

Гаспадыня запрасіла настаўніцу ў залу, усадзіла ў глыбокае мяккае крэсла, папрасіўшы прабачэння, выйшла.

Пакой быў вялікі, з шырокім, ледзь не на ўсю сцяну акном і дзвярыма на балкон. Паўз сцены грувасцілася мэбля пад чорны дуб, аздобленая ўзорамі з зыркай латуні. На паліцах за шклом стаялі кнігі. Паліна ніколі і не бачыла такіх у кнігарнях.

Вярнулася Уладзіслава Раманаўна. Паставіла перад настаўніцай шырокую крыштальную вазу з вінаградам, а сама ўселася насупраць.

— Частуйцеся, Паліна Сямёнаўна,— і сама ўзяла маленькую гронку.— Можа, мой што натварыў?

— Ды не,— Паліна саромелася частавацца.— Не натварыў. Пакуль што...— убачыла, як насцярожылася гаспадыня, завагалася, гаварыць далей ці не, а потым сказала з характэрнай для яе адкрытасцю: — Пакуль што не, але... Бег сёння, ударыў дзяўчынку, не падняў...

Заўважыла, як з палёгкай уздыхнула жанчына, відаць, чакала пакуль нешта болей непрыемнае, усміхнулася, зноў пачала запрашаць частавацца вінаградам.

— Скажыце, Уладзіслава Раманаўна, адкуль у вашага сына такая... ну, жорсткасць?

— Адкуль? — жанчына задумалася, і яе пасвятлелыя ад усмешкі вочы зноў сталі сумныя.— Ад татачкі. Бачыце, Паліна Сямёнаўна, у яго работа такая. Я неяк сядзела ў яго кабінеце, бачыла. Да яго ж ідуць і ідуць людзі, ідуць з рознымі пытаннямі, ідуць усялякія. І памяркоўныя, і злыя. І з усімі ж трэба быць ветлівым, уважлівым. І яму гэта ўдаецца. Усе і думаюць, што ён такі. Адна мая знаёмая неяк сустрэла, пачала охаць ды ахаць, маўляў, які добры і чалавечны ў вас муж. А я слухаю і маўчу. Скажаш праўду пра яго, ніхто ўсё роўна не паверыць. Бо ён сапраўды і ветлівы і ўважлівы. На рабоце. А дома... Дома ён звер. Яшчэ калі не пярэчыць, ва ўсім пагаджацца, дык нічога. А варта што сказаць супраць, адразу ж на крык пераходзіць. Здаецца, што з аднае злосці злеплены. Аж кіпіць. Я разумею, што гэта ў яго ад нервовага перанапружання. На рабоце трымаецца, а сваю раздражнёнасць дамоў нясе. Тут можна, тут усе свае... Хаця наогул ён нядрэнны чалавек. Быў. Ды і цяпер. Калі паедзем адпачываць, мы цяпер разам ездзім з ім адпачываць, дык за цэлы месяц слова дрэннага не пачуеш. Вясёлы, уважлівы, ласкавы. Ці, можа, і ў санаторыі ён заўсёды такі, што там увесь час на людзях? А дома... Ведаеце, іншы раз хочацца, каб і дамоў не прыходзіў. Застаўся б пасля работы з таварышамі, як іншыя робяць, ды выпіў. Глядзіш, можа б, і злосць прайшла. Дык не п'е ж, ды і таварышаў, здаецца, у яго такіх няма. Прызнацца, сорамна, але радуюся, калі едзе куды ў камандзіроўку. Хаця адпачнеш. Ды я што? А сын усё пераймае ў яго. Ён лічыць свайго бацьку самым лепшым... Дык у бацькі ўсё гэта ад нерваў, а ў сына, баюся, усё гэта стане характарам. Не ведаю, што і рабіць.

— А вы растлумачылі б сыну, як мне зараз...

— Гаварыла,— сказала з нейкай безнадзейнасцю Уладзіслава Раманаўна.

— А вы раскажыце мужу, як яго сын абышоўся з дзяўчынкай. Хай ён пагутарыць з сынам. Можа, заадно і над сваімі паводзінамі задумаецца.

Пасля сустрэчы з Уладзіславай Раманаўнай Паліна ішла па прыцемненай вуліцы і думала пра тое, што яна зусім не ведае сваіх вучняў, бо яны дома зусім не такія, як у класе. У класе яны паводзяць сябе так, як іх прывучылі, як трэба сябе паводзіць, а вось за сценамі школы

кожны з іх становіцца самім сабой, жыве сваім жыццём, пра якое яна, іх класны кіраўнік, ніякага ўяўлення не мае.

Каб лепей зразумець сваіх вучняў, Паліна вырашыла пазнаёміцца з той настаўніцай, якая вучыла яе дзяцей у малодшых класах.

— Ці не хочаце вы перайсці працаваць у малодшыя класы? — усміхнулася Іна Віктараўна, калі яна папрасілася да яе на ўрок.

— Я класны кіраўнік былых вашых вучняў, і...

— І хочаце, так сказаць, ісці далей у тым жа кірунку? — перапыніла яе Іна Віктараўна.

Калі яны зайшлі ў клас, дзеці дружным рыўком падняліся, вітаючы іх, а калі садзіліся, то ў некага ляпнула вечка парты.

— Хто там грукае? — спытала строга Іна Віктараўна.

— Пеця Кароткі,— падказаў адзін з вучняў.

— Падлесны, па-першае, трэба падымаць руку, калі хочаш што сказаць, а па-другое, кожны павінен сам адказваць за свае ўчынкі. Хто грукнуў, пытаюся? Мне доўга чакаць?

— Я.— Падняўся нізкарослы няўклюдны таўстунок.— Болей не буду.

— Садзіся, Кароткі,— крыху ўжо мякчэй сказала настаўніца. Хлопчык сеў. І зноў ляпнуў вечкам.

— Кароткі,— падняла зноў яго настаўніца.— Садзіся.

Зноў паўтарылася тое ж самае.

Іна Віктараўна некалькі разоў падымала і садзіла хлопчыка. Усе астатнія вучні ў гэты час сядзелі і не варушыліся. А потым яна правярала хатняе заданне. Вершык ведалі ўсе на памяць. І расказалі яго ўсе з аднолькавай інтанацыяй, відаць, якраз так, як і чытала ім напярэдадні гэты вершык сама настаўніца. Праўда, толькі адзін вучань чытаў яго не так, як усе, а крыху па-свойму. Іна Віктараўна прымусіла яго прачытаць некалькі разоў, пакуль не дабілася, каб ён прачытаў урэшце як і ўсе...

Пасля ўрока, гэта быў якраз апошні ўрок, Іна Віктараўна загадала дзецям выйсці ў калідор і стаць у строй. Дзеці выходзілі спакойна, нетаропка, станавіліся кожны на сваё месца. Вось Іна Віктараўна выйшла з класа, стала наперадзе і павяла дзяцей да выхаду. Яна, высока ўзняўшы галаву, ішла і не азіралася.

Як толькі вучні спусціліся са школьнага ганка, яны адразу ж кінуліся ўроссып, хто куды. Беглі, галёкалі,

штурхаліся. Ды цяпер Іна Віктараўна і не глядзела на іх.

— Ну як? — спытала яна ў Паліны, калі яны вярталіся ў настаўніцкую.

— Нічога, але...

— Што «але»? — у голасе Іны Віктараўны было здзіўленне...

— Не разумею, навошта вы так упарта навязваеце дзецям свае адносіны да таго ж верша? Мне здаецца, лепей было б, каб дзеці выяўлялі свае пачуцці.

Іна Віктараўна не чакала такога. Яна аж спынілася, глянула на Паліну так, нібы ўбачыла яе ўпершыню, прыжмурыла свае вострыя чорныя вочкі і пачала строга і павучальна, як на ўроку:

— Чалавецтва за сваю гісторыю, дарагая Паліна Сямёнаўна, назапасіла не толькі вялікія веды, але і вялізны эмацыянальны вопыт. І мы з вамі абавязаны хаця б трошкі перадаць яго падрастаючаму пакаленню, каб, значыцца, залажыць трывалую аснову, а потым... няхай самі.

— Але так можна выхаваць і робатаў.

Іна Віктараўна, настаўніца з бездакорнай рэпутацыяй, вядомая не толькі ў сваім раёне, але і ў горадзе, не чакала такой дзёрзкасці.

— А ведаеце,— яна на імгненне задумалася, што б адказаць, а потым павучальна сказала ўсё той жа штучнай інтанацыяй,— многія настаўнікі мараць, каб да іх трапілі, як вы кажаце, мае робаты.— І, ганарліва адкінуўшы пасівелую галаву, скіравала ў настаўніцкую, усім сваім выглядам паказваючы, што яна не жадае болей гаварыць з ёй, такой няўдзячнай.

## ГОРЫ

На працягу ўсяго абеду Паліна была маўклівая, нібы чым засмучоная.

— Ну што ты? — не вытрываў Васіль.— Радавацца трэба, а ты...

— Я і радуюся.— Яна паспрабавала ўсміхнуцца, але ўсмешкі не атрымалася.

— Можа, перагрэлася на сонцы? — не адставаў Васіль.— Можа, не пойдзем у горы, адпачнём?

— Пойдзем, абавязкова пойдзем,— адказала яна. Але ў яго голасе не адчувалася ранейшага энтузіязму.

...Шэрая, патрэсканая ад сонца, адпаліраваная ту-

рысцкімі кедамі сцежка даволі крута ўзбіралася ўверх. З аднаго боку яе быў пакаты схіл, з другога — такі кругы абрыў, што страшна было і глянуць уніз.

Першай ішла Паліна. Яна была ў лёгкім спартыўным трыко.

Васіль глядзеў на яе тонкую талію, на худыя рукі і адчуваў, як у ім расце нейкае пяшчотнае замілаванне да жонкі.

— Палінка, ты ж паглядзі навокал. Які прастор! Можа, ад гэтага ў гарах людзі і жывуць даўжэй. Тут усё агромністае. Горы, жыццё... Каб памазгаваць, то, магчыма, можна было б знайсці матэматычную заканамернасць паміж размахам прасторы і працягласцю жыцця горных людзей. Як ідэя?

Яна не адказала. Ён мог і дапусціць, што жонка не чула яго. Васіль абагнаў яе, заглянуў у яе спакойны, крыху задумлівы твар, спытаў, ці не стамілася. Яна толькі ўсміхнулася куточкамі рота і вачыма, якія нібы асвяціліся аднекуль з глыбіні нечым шчаслівым. Васіль супакоіўся, але далей пайшоў побач, трымаючы яе пад руку.

— А ўяўляеш, колькі бачаць тыя, што жывуць у тым белым доміку? — не хацелася маўчаць Васілю.— Для іх свет не такі звужаны, як для нас, а заўсёды шырокі. А галоўнае, на адлегласці яны не бачаць тых дробязей, якія звычайна і псуюць нам жыццё...

І чым вышэй яны ўздымаліся, тым усё больш крутой рабілася сцяжынка.

Гарадок, які прыляпіўся пад гарой на самым беразе мора, цяпер глядзеўся, як з самалёта. Беленькі домік у гарах быў усё ж так жа далёка, як і на пачатку ўзыходжання. А сонца пачынала садзіцца.

Паліна раптам спынілася, азірнулася навокал. Нагнулася, памацала траву, што расла паўз сцежку.

— Можа, адпачнём, Палінка? — Ён адчуваў, што ногі яго аж гудуць ад стомы.— Не ведаю, як ты, а я хутка звалюся.

— Пайшлі назад,— сказала яна.

...Уніз яны ішлі весялей. А там, дзе сцежка не была вельмі крутой, дык нават і подбегам. Васіль стараўся ісці першы, баяўся, каб жонка раптам не паслізнулася і не скацілася ўніз, тым больш што сцежка падыходзіла блізка да самага абрыву. Але Паліна не звяртала ўвагі на яго старанні. Яна падштурхоўвала яго, калі ён апынаўся

наперадзе, а то вешалася яму на плечы, ехала на ім. І ўвесь час залівіста смяялася. Смяялася без усялякай прычыны, як смяюцца вельмі шчаслівыя і бесклапотныя людзі. Але Васіль бачыў, што яе ўзбуджанасць нейкая ненатуральная. Можа, сапраўды перагрэлася на сонцы? Дык не можа быць. А можа, у яе такі настрой, што так лёгка спускаліся ўніз,— саміх несла,— а тут яшчэ надыхаліся горным паветрам.

Але яе весялосці надоўга не хапіла.

Як толькі яны апынуліся на ўкатанай аўтамабільнай дарозе, яна зноў стала маўклівая, нейкая задумлівая і, здавалася, абыякавая да ўсяго.

Тут, унізе, трымалася яшчэ сухая дзённая цяплынь. Дыхалася цяжэй, чым у гарах. Паветра застыла ў шэрай нерухомасці.

— І далёка твая шашлычная? — спытала Паліна.

— У цэнтры.

У шашлычнай сцен не было. Столікі адгароджваліся ад вуліцы драўлянымі, відаць, часовымі, парэнчамі.

Паліна адкінулася на спінку крэсла, рукі паклала на парэнчы, заплюшчыла вочы, сядзела, выцягнуўшы ногі, нібы і на самай справе задрамала.

— Палінка, табе напітку ці, можа, якога лёгкага віна?

— Мінералкі,— адказала яна. А потым, калі прынеслі бутэлькі, яна прагна выпіла шклянку цеплаватай вады.—Ператамілася, ці душна...

— Вось ты мяне не хочаш слухаць...— нібы ўпікнуў яе Васіль.

— Проста мы не разлічылі сілы. Трэба было перад паходам добра адаспацца.

— Ну што ты нос павесіла? — падбадзёрваў яе Васіль.— У нас жа цудоўны дзень. Накупаліся, пабачылі свежую марскую рыбу, пабылі ў гарах. А потым сёння ў цябе свята наогул.

— Не магу ўявіць, як яны паводзілі сябе там,— загаварыла Паліна пра тое, пра што яна, відаць, увесь гэты час і думала.— Асабліва тады, калі даведаліся, што сталі пераможцамі. Дрэнна ведаю сваіх вучняў. Дарэмна ўсё ж не паехала з імі.

«Кончыўся твой, дзеўка, адпачынак».— Васіль уважліва паглядзеў на жонку, спытаў:

— Асудзяць?

— Можа, і асудзяць.

— Хіба яны не ведаюць, што пуцёўкі даюць не кожны месяц?

— Ды ведаюць.

— А што тады цябе хвалюе? Што не пераЖывала славу разам са сваімі вучнямі, дык гэта драбяза... Былі яны такія, як і ўсе. Радасныя, і ад радасці крычалі «ўра». Усе так робяць. А потым, усе ведаюць у школе пра твае старанні і не забудуць твае заслугі.

— Ды я не пра гэта,— дакорліва глянула яна на Васіля.— Мне трэба было быць з імі. Паглядзець на іх. Гэта ж быў незвычайны момант у іх жыцці. Можа, ён ніколі ўжо і не паўторыцца.

— Не шкадуй,— нарэшце ён расправіўся з апошнім кавалачкам мяса, адлажыў убок доўгі драўляны ражончык.— Усё яшчэ наперадзе. Пабачыш не раз, яшчэ абрыдне...

— Ты білеты заказаў?

— Канечне.— Ён разумеў, што яна ўжо не тут, не ў паўднёвым гарадку на беразе мора, а там, у сваёй школе, са сваімі вучнямі. І калі зараз ёй нельга паехаць туды, то хоць бы ведаць пэўна, калі яна паедзе.— Заўтра забяру білеты.

— І ўсё ж мне трэба было хоць самалётам злётаць на якую пару дзён,— са шкадаваннем сказала Паліна.

## УСПАМІНЫ

Паліне хацелася як мага болей ведаць пра сваіх вучняў. Яна вырашыла схадзіць з імі ў паход. Не будуць жа яны і ў лесе, як у школе.

Дзеці абыякава сустрэлі гэтую вестку.

— Вы і не ўяўляеце, як прыгожа ў лесе,— хацела зацікавіць іх Паліна.

— Хадзілі,— адказалі вучні. Пры гэтым некаторыя з іх неяк сумна ўсміхнуліся.

Паліна зразумела, які мог быць паход пад наглядам іх былой настаўніцы Іны Віктараўны.

— Ну, вы тады былі маленькія, настаўніца баялася, каб вы не пагубляліся ў лесе.

— У якім лесе? — хіхікнуў Лёня Ігнатаў і адразу ж заціх, насцярожана чакаючы, што настаўніца не ўхваліць яго выхадку. Паліна маўчала. Хлопчык глянуў на яе дапытліва і смялей дадаў: — На палянцы праседзелі.

— Палянка была ж у лесе,— сказала Света Кулеш і ўсміхнулася толькі блакітнымі вачанятамі.

— З краю лесу,— запярэчыў Вова Бялькевіч з такой нецярплівай катэгарычнасцю, якой ніяк нельга было чакаць ад гэтага ружовашчокага хлопчыка.— Горад быў відаць...

І раптам дзеці, перабіваючы адно аднаго, пачалі ўспамінаць той сумны для іх паход, які ўсё ж пакінуў след у памяці, бо расказвалі пра яго цяпер з ахвотаю.

— Значыцца, дамовіліся. У нядзелю ў паход. Пойдзем у лес.— І дадала: — Я вас завяду на такі востраў, што не паўцякаеце. Навокал вада...

— А я плаваць умею,— сказаў Ігар Корчак, драбненькі чорнагаловы хлопчык, які сядзеў на першай парце перад самым носам настаўніцы і ўвесь час маўчаў.

— А цяпер вада халодная,— заўважыла Света Кулеш.

— Ну, пагаварылі, і хопіць,— сказала строга Паліна, хаця яе і радавала такая ажыўленасць дзяцей.— А цяпер праверым дамашняе заданне...

Увесь тыдзень Паліна рыхтавалася да паходу, рыхтавалася, можа, болей старанна, чым самі вучні. Накупіла рыбных кансерваў, узяла напракат пластмасавых талерачак. Усё гэта склала ў вядро, з якім яны з мужам звычайна ездзілі на рыбалку. Вучням жа нічога не гаварыла пра зборы. Нават не напамінала ім пра паход. І калі ў яе некаторыя пыталіся, а што браць з сабой, нічога пэўнага не адказала. Маўляў, бярыце, што лічыце патрэбным. Ёй хацелася паглядзець, як хто падрыхтуецца, што возьме, а карацей, ведаць, хто на што здатны.

Адным словам, яна багата чакала ад паходу.

Дзень у нядзелю выдаўся сонечны, па-асенняму зыркі. У празрыстым блакіце лётала белае павуцінне, завісаючы на правадах, на маладых дрэвах, якімі была абсаджана школа. На клёнах лісце было жоўтае з адлівам чырвонага, на ясенях толькі пасвятлела, як выліняла, а на таполях нерухома вісела цяжкое, зялёнае.

Паліна акінула дзяцей позіркам: здаецца, сабраліся ўсе. Прыкінула, хто што ўзяў з сабой. У каго былі даволі бухматыя рукзакі, а ў каго толькі невялічкія пакуначкі.

Школьнікі абрадаваліся, убачыўшы сваю настаўніцу ў спартыўным касцюме, у кедах, у вязанай шапачцы, што даволі зухавата сядзела на галаве, з даволі ёмістым рук-

заком за плячыма і з вядром у руках, у якім нешта пазвоньвала.

Першым да яе паспяшаўся на сваіх кароткіх ножках Вова Бялькевіч, папрасіў дазволу несці вядро, чым нямала здзівіў яе: вось табе і эгаіст, як яна думала пра яго. Ці, можа, ён проста яшчэ і падхалімчык?

Праз нейкія двары, завулкі яны выйшлі за горад. Спачатку ішлі купкай па раз'езджанай машынамі дарозе — дарога падсохла, але ў глыбокіх каляінах стаяла зеленаватая вада,— абмінулі разбураныя доты, парослыя палыном і дзядоўнікам, глыбокія ямы, у якіх некалі бралі пясок і якія цяпер завальвалі будаўнічым друзам, і нарэшце апынуліся на пажоўклым вытаптаным поплаве. Толькі ў нізінках, дзе трымалася сырасць, зелянела трава.

Дзеці прыкметна ажывіліся. Асабліва яны разгуляліся пасля таго, як Паліна, убачыўшы нейкага рудога матыля, які ляцеў над самай зямлёй, пагналася за ім. Дзяўчынкі з піскам кінуліся ўслед.

Потым яны перабраліся па хісткім, з сукаватых алешын мастку праз старыцу, якая, ахапіўшы дуброву, злучалася канцамі з Сожам і такім чынам утварала востраў, на які нельга было заехаць на машыне, а з-за крутога абрывістага берага тут рэдка прыставалі турысты. Рыбакі ж наогул тут ніколі не сядзелі з вудамі, стараліся ад'ехаць далей ад горада, у больш глухое месца.

Пад дубамі расла густая трава, не кранутая касой. А нізіны поўніліся густымі зараснікамі ажыны, праз якую нельга было і прабрацца. Палянкі ж былі выкашаны і цяпер зелянелі сакавітай, ненатуральна зялёнай сярод кранутага жаўцізной лесу атавай.

Спыніліся на паляне, шырокай, акружанай высокімі, з цяжкай маўклівай лістотай дубамі. Адзін жа дубок некалі ў далёкай маладосці гарэзліва выскачыў на сярэдзіну паляны ды і застаўся тут. Цяпер ён шырока разросся на прасторы. Галлё на ім было такое густое, што праз яго не свяцілася і неба. Трава пад дубам была ўтаптана. Тут жа ляжала і сена, таксама ўпрасаванае. Ля сена, крыху воддаль, чарнела вогнішча. Ля вогнішча былі ўваткнуты ў зямлю абгарэлыя з бакоў дзве сукаватыя рагулькі. Відаць, не так даўно нехта начаваў тут і варыў сабе, можа, якую юшку.

— Пад гэтым дубам і будзе наш лагер,— сказала Паліна.— Хоць і дождж, дык тут не страшна.

Яна кінула на траву свой рукзак, прысела на сена. За дарогу прытамілася, хацелася адпачыць. Дзеці стаялі купкай, паглядваючы на настаўніцу, якая ўселася і, здавалася, забылася на іх.

— А што нам рабіць? — неяк патрабавальна спытаў Вова Бялькевіч.

— А што хочаце...— настаўніца акінула іх позіркам.— Бегаць, ганяць мяч. А потым раскладзём касцёр, зварым юшку. Хто нам дроў прынясе?

— Дроў прынясём,— засмяяўся Ігар Корчак.— А вось хто нам рыбы наловіць?

— Абы дровы былі,— сказала загадкава Паліна.

— Дровы будуць! — паабяцаў Іван Баркун.— Айда! Хто са мной? — І, нікога не чакаючы, скіраваў у гушчар.

За ім пабег і Вова Бялькевіч. Хутка яны прынеслі сухога ламачча, пайшлі яшчэ. На гэты раз, дастаўшы з рукзака сякерку, пабег услед за імі і высокі танклявы Лёня Ігнатаў. Ён быў у тоўстым, з мудрагелістымі ўзорамі світэры і, магчыма, каб не зачапіцца дзе за сучок, у гушчар не палез, спыніўся перад хмызняком і пачаў падсякаць маладыя кволыя дрэўцы. Паліне прыйшлося спыніць яго. Лёня Ігнатаў вярнуўся, схаваў сякеру ў рукзак і, пакрыўджаны, адышоў убок, дастаў з кішэні пакамечаную газету, улёгся на траву і пачаў чытаць. Цікава, хлопчык выдатна малюе, іграе на скрыпцы, а вось такі абыякавы да прыроды.

А Ігар Корчак ужо арганізаваў футбольную каманду. Хлапчукі зацята ганялі футбол па паляне і ніколькі не цікавіліся, што там робіцца пад дубам.

Дзяўчынкі памагалі развесці касцёр, прынеслі з ракі вады на юшку, рассцілалі газеты, на іх раскладвалі ежу, арэзалі хлеб. Верхаводзіла Света Кулеш. Яна ўмела арганізаваць і падначаліць сабе таварышак. Гаварыла ім, як расставіць талерачкі, як пакласці відэльцы і лыжкі, як пакласці хлеб, і яе ўсе слухалі, нават звярталіся больш да яе, чым да свае настаўніцы.

Аднак толькі Марына Біруля, якая была ў класе самай акуратнай дзяўчынкай, хадзіла на заняткі ў бездакорна адпрасаваных сукенцы і фартуху, якая вучылася толькі на «выдатна», цяпер бездапаможна, з сумнымі вачыма тулялася сярод сяброўак і не ведала, за што ўзяцца. А калі Света Кулеш загадала ёй спаласнуць адну талерачку, дык яна які час стаяла і думала, нібы не магла зразумець, што ад яе хочуць, а потым узяла тую

талерачку двума пальчыкамі і нехаця пайшла да ракі. Света Кулеш, гледзячы ёй услед, толькі ўздыхнула, але нічога не сказала...

У вядры ўжо булькала юшка і па паляне разыходзіўся духмяны водар...

Света Кулеш аб'явіла абед.

Дзяўчынкі сарамліва рассаджваліся вакол «стала». Уселіся і хлопчыкі, што насілі дровы, дапамагалі кухарыць. Прыйшлі чырванатварыя, задыханыя футбалісты. Яны дасталі свае пакункі, пакідалі іх на газеты, а самі, палёгшы на жываты, пачалі сёрбаць юшку. Света Кулеш загадала ім сесці, бо, маўляў, спацеўшы, нельга ляжаць на зямлі: восень, і таму можна прастудзіцца. Яе паслухаліся.

А трое хлапчукоў: Мікола Гамак, Сяргей Бакалаў, Лёня Ігнатаў, што на краі паляны гулялі ў «ножык» і, не дачакаўшыся агульнага абеду, з'елі ўсё, што прынеслі ў невялічкіх газетных пакунках, адмовіліся абедаць разам з усімі. Але ім адным усё ж было сумнавата гуляць нават у любімы «ножык», бо часта ўпотайкі паглядвалі на агульнае вясёлае застолле. Потым яны раптам пачалі дужацца адзін з другім, ганяцца па паляне, але далёка не адбягалі, відаць, спадзяваліся, што іх яшчэ паклічуць.

Паліна папрасіла наліць юшкі і ім.

— Яны ж з намі не захацелі садзіцца,— запярэчыла Света Кулеш.

— Не хацелі адразу — і цяпер не трэба,— падтрымаў яе і Вова Бялькевіч.

— Ім жа таксама трэба гарачанькага,— сказала Паліна і сама паклікала: — Хлопчыкі, ідзіце, а то ваша юшка астыне.

Спачатку яны не звярнулі ўвагі на гэтае запрашэнне, калі ж настаўніца паклікала іх яшчэ раз, прыйшлі, але пры гэтым рабілі выгляд, што ім зусім не хочацца. Яны лена садзіліся ля сваіх талерачак, спачатку елі без усялякай ахвоты. Хутка забыліся на сваю фанабэрыю і сёрбалі, як і ўсе, са смакам і нават ад дабаўкі не адмовіліся.

Паліна спадзявалася, што пасля абеду ўсе так жа дружна, як і ядуць, прыбяруць за сабой. Але дзеці не кінуліся гэта рабіць. Адышлі, разлегліся на сене. Футбалісты сабраліся купкай і ўжо дзяліліся на каманды. Некаторыя дзяўчынкі адышліся і пачалі прычэсвацца.

— Даражэнькія мае,— акінула позіркам сваіх выхаванцаў Паліна, усміхнулася.— Можа, нам пайсці запрасіць, каб прыбралі за намі? — І, трохі счакаўшы, загадала: — Дзяўчынкам памыць посуд, а хлопчыкам сабраць усялякае шалупінне, газеты і спаліць. Каб пасля нас ніякіх слядоў тут не заставалася.

Нельга сказаць, каб усе з аднолькавым стараннем кінуліся выконваць яе загад, але потым гульня зацікавіла ўсіх.

Хлопчыкі, падзяліўшыся на дзве каманды, ганялі мяч па паляне. Варот не было. За гол залічваўся мяч, які вылятаў з паляны ў лес. Атрымалася нейкая незвычайная гульня з кругавой абаронай і кругавым нападзеннем. Усе былі бамбардзіры і ў той жа час варатары. А колькі смеху было, калі даводзілася лезці ў ажыннік і шукаць там мяч.

Дадому вярталіся з песнямі.

Паліна даведалася за адзін дзень пра сваіх вучняў болей, чым за месяц вучобы, убачыла, якія яны ўсе непасрэдныя і якія непаўторныя ў сваёй непасрэднасці.

І іменна тады, калі яна назірала за гульнёй вучняў, за тым, як яны былі ахоплены агульным настроем, яна падумала, што ўсіх іх трэба зацікавіць нечым такім,— чым, яшчэ не ведала,— што мацавала б іх сяброўства.

## АРТЫКУЛ У ГАЗЕЦЕ

Пасля таго, як Васіль прынёс білеты на цягнік і Паліна дакладна ведала дзень і нават гадзіну ад'езду дамоў, яна супакоілася, здавалася, нават перастала думаць пра сваіх вучняў, ва ўсякім выпадку, яна да самага канца адпачынку болей не гаварыла пра іх. І хоць ранейшага імпэту ў яе паводзінах не было,— яна цяпер не падымалася на досвітку,— але ўсё роўна ўвесь дзень, а потым і вечар старалася, каб не прапала дарэмна ніводнай хвіліны. Яны з Васілём яшчэ некалькі разоў хадзілі ў горы, нават адзін раз дабраліся да таго беленькага доміка пад самай вяршыняй,— аказалася, там была метэаралагічная станцыя,— ездзілі на экскурсіі... Васіля, відавочна, прытаміў такі адпачынак. Калі яны нарэшце селі ў свой цягнік, Васіль, не чакаючы вечара, залез на сваю лаўку, накрыўся сыраватым і ад таго прыемна халаднаватым прасцірадлам, папрасіў жонку, каб яна хоць у дарозе не тузала.

— Калі будзем праязджаць прыгожыя мясціны, абавязкова разбуджу,— паабяцала Паліна мужу. І сапраўды, ямчэй усеўшыся, адсунула занавеску, працерла паперай запыленае шкло і стала глядзець.

Прыехалі ў свой горад надвячоркам. І хаця яшчэ было светла, але на прывакзальнай плошчы ўжо гарэлі вулічныя ліхтары. Паліна, як толькі выйшлі з тунеля, з цяжкай сумкай у руцэ, перагнуўшыся ў таліі, заспяшалася адразу на тралейбусны прыпынак.

— А можа, паедзем аўтобусам? — лёгка ішоў за ёй з двума чамаданамі Васіль.— Давязе ж да самага дома.

— Доўга чакаць таго аўтобуса,— кінула яна на хаду.

— Я і забыўся пра школу,— усміхнуўся ён, падумаўшы, што Паліна хоча па дарозе заглянуць туды.

— Яшчэ што выдумаў...

Паліна сапраўды не думала заходзіць у школу, ведала, што ў такі час там нікога не будзе, а вось па дарозе сустрэць каго з вучняў спадзявалася.

Крыху далей за старой школай, якраз насупраць дома, у якім яны жылі, стаяла яшчэ адна школа. Новая. Калі яны ад'язджалі на адпачынак, яе якраз заканчвалі будаваць. Тады вакол яе валяліся абломкі нейкіх абляпаных цэментам дошак, бочкі з-пад смалы, кучы акамянелага шэрага цэменту. Цяпер жа вакол усё было прыбрана. Асфальтавыя дарожкі яшчэ і не запыліліся. Свежы чарназём на газонах паспеў пакрыцца зялёным густым пушком. Металічная агароджа ззяла блакітнай фарбай. Сама ж школа была беленькая, яе шырокія вокны ззялі чырванню толькі што зайшоўшага сонца.

Пакуль Васіль корпаўся ў мудрагелістых замках, адчыняючы дзверы, Паліна паспела ў суседкі ўзяць усю пошту, якая ішла ім увесь гэты месяц. Зайшоўшы ў кватэру, яна ўселася на канапу і, адшукаўшы сярод кіпы газет спартыўныя, пачала праглядаць іх: не маглі ж нічога не напісаць пра яе клас, які заняў першае месца на спаборніцтвах. Вось невялікая інфармацыя пра тое, як у сталіцу з'ехаліся самыя моцныя, самыя дужыя, самыя спартыўныя. Называюцца некаторыя класы. Змешчаны фотаздымкі. Пра яе ж клас ні слова. А вось і першыя звесткі пра спаборніцтвы. І зноў пра яе вучняў ніводнага газетнага радка. І толькі на трэці ці чацвёрты дзень спаборніцтваў звестка пра тое, што вельмі роўна, з неаслабнай упартасцю выступае сёмы «Б». І, нарэшце, артыкул «Дружба перамагла».

— Вася! — паклікала яна мужа, які ўжо на кухні грымеў посудам.— Ідзі сюды, пра маіх напісана. Паслухай!

«З першага дня спаборніцтваў звярнуў на сябе ўвагу сёмы «Б» клас. Не, не спартыўнымі рэкордамі. Спартыўныя дасягненні былі якраз даволі сярэднія. Рэкордамі вучні не радавалі. Але клас вылучаўся сваёй арганізаванасцю, бездакорнай дысцыплінаванасцю. Ніхто з класа ні разу не спазніўся на трэніроўку. Ніхто не бачыў, каб хто з іх патраціў дарэмна хаця б мінуту. Трэніраваліся звычайна з такой адказнасцю, нібы гэтыя трэніроўкі і былі іх галоўным спаборніцтвам. За ўвесь час спаборніцтваў ніхто не атрымаў ніводнай заўвагі. Уражвала не толькі іх дысцыпліна і арганізаванасць, урэшце, любы клас можна прымусіць паводзіць сябе бездакорна, а і тое, што яны свядома ставіліся да сваіх паводзін, ведалі, дзе і як сябе трэба паводзіць. І яшчэ ўражвала абвостранае пачуццё калектывізму. Іменна гэты калектывізм і забяспечыў ім перамогу... Не было выпадку, каб хто з вучняў сышоў з дыстанцыі. Вось канкрэтны прыклад узаемнай выручкі. Іван Баркун падвярнуў нагу. Урач дазволіў яму не выходзіць на стадыён. Але ён выйшаў. Прабег сваю дыстанцыю і сумеў яшчэ скокнуць. А ў час кросу Свеце Кулеш стала блага. Ці далі адчуць сябе трэніроўкі апошняга часу, ці, можа, прычынай таму было сонца, якое ў гэты дзень смаліла вельмі. Дык Вова Бяльскевіч, які першы заўважыў гэта, падхапіў дзяўчынку і панёс. Яму кінуліся памагаць Лёня Ігнатаў, Іван Баркун і іншыя хлопчыкі. Але да фінішу прыйшоў увесь клас. Доўгія апладысменты прысутных былі заслужанай узнагародай дружнаму калектыву. І не дзіва, што па агульнай колькасці ачкоў клас выйшаў на першае месца. І хаця тут не аказалася такіх рэкардсменаў, як у іншых калектывах,— асобныя вучні паказалі сапраўды вельмі высокія вынікі,— але затое клас прадэманстраваў выдатную агульную падрыхтоўку па ўсіх відах спорту.

Дружба і калектывізм перамаглі!».

Апошнія словы Паліна ледзьве змагла прачытаць, нешта даўкае засела ў горле, перахоплівала дыханне.

Паліна зайшла ў ванную, адкрыла кран, счакала, пакуль сыдзе нагрэтая вада, потым падставіла пад халодны пругкі струмень свае далоні, апаласнула твар, які, здавалася, аж гарэў, крыху вады глытнула, каб як прагнаць тое даўкае, што ніяк не праходзіла ў горле. Але прагнаць

не змагла. Яна тады пусціла болей вады, каб Васіль не пачуў яе ўсхліпаў.

У калідоры затупала мноства ног. Яна зразумела, што прыйшлі яе дзеці. Паліна яшчэ раз апаласнула твар халоднай вадой, моцна выцерла яго ручніком, перад люстэркам паправіла валасы, сваю касу, сабрала ў вузел на патыліцы і выйшла.

У калідоры тоўпілася ледзь не палова яе класа.

— Добры вечар, добры вечар, мае вы...— яна некага абняла, некага чмокнула ў шчаку, некага ў скроню, у валасы, прапахлыя рачной вадой.— Ну, як вы тут? Праходзьце ж...

— Мы на хвілінку,— сказала Света Кулеш.

Яна цяпер была ростам ледзь не з настаўніцу. На загарэлым твары ззялі блакітныя вочкі.

— Пабудзьце ж хаця трохі.— Паліна сабрала раскіданыя газеты, паклала іх на спінку канапы: села, моўчкі глядзела, як усаджваюцца вучні, хто побач з ёй, хто на крэслы, хто на дыван, на падлогу сярод пакоя.— Ну, як у вас там было?..

— Нармальна.

— Цяжка, канечне, але...

— Ды нічога.

— Спачатку нам не верылі...

— А потым, як пабачылі нас на плаванні, сказалі, што першае месца наша.

— Дык гэта ж было ў апошні дзень.

— Перадапошні.

— Фізрук нам раней гаварыў, што першае месца...

Дзеці расказвалі разам, перабіваючы адзін аднаго, так што часам Паліна не магла і зразумець, што яны хацелі сказаць.

— Ну, малайцы вы мае! Віншую вас! Я так рада за вас.— Яна яшчэ раз агледзела іх з несхаванай любасцю, усміхнулася.— Цяпер вы будзеце хадзіць на трэніроўкі?

— Канечне,— сказала Света Кулеш, якая сядзела на канапе побач з настаўніцай.— Фізрук казаў, што цяпер прымуць у любы інстытут.

— Толькі ў фізкультурны,— запярэчыў ёй Вова Бялькевіч.

Ён стаяў ля дзвярэй, абапёршыся аб вушак, высокі, з чарнявым пушком пад носам і вакол рота. Ён цяпер быў зусім не падобны на таго адкормленага хлопчыка з дзявочымі вачыма, якім быў некалі ў чацвёртым класе.

Толькі колер твару захаваўся, белы з лёгкай ружовасцю на шчоках.

— Калі ёсць разрад, то бяруць у любы інстытут,— прагаварыў густым баском з нетаропкасцю вопытнага чалавека Сяргей Бакалаў. Замест ранейшай сціплай сарамлівасці ў яго цяпер з'явілася падкрэсленая незалежнасць, самастойнасць.

— А ці будзе ён у цябе, той разрад? — хіхікнула Марына Біруля. У яе была кароткая стрыжка,— вясной яшчэ насіла коскі,— у вушах паблісквалі залатыя завушніцы.

— Будзе,— запэўніў яе Сяргей Бакалаў і затрымаў на дзяўчынцы погляд, можа, даўжэй, чым трэба было, а потым спахапіўся і пачырванеў.

— Яшчэ ж трэба і вучыцца,— без ранейшай бойкасці сказала Марына і апусціла вочы.

— Хаця б трошкі,— засмяялася Паліна.

— Будзем старацца,— паабяцала Света Кулеш і перакінула цераз плячо на спіну сваю касу. Яна адна з усяго класа насіла яе.— Мы ж разумеем, Паліна Сямёнаўна, што галоўнае — вучоба.

— Паліна Сямёнаўна, а нам казалі, што мы яшчэ ў Артэк паедзем,— паведаміў Вова Бялькевіч.

Усе прыціхлі і неяк насцярожана глядзелі на настаўніцу. І яна зразумела, што гэта і ёсць тая галоўная навіна, якую яны і хацелі ёй паведаміць сёння.

— На ўсесаюзныя спаборніцтвы.

— А калі? — пацікавілася Паліна.

— Можа, нават гэтай восенню,— няпэўна сказаў Вова Бялькевіч.

— Яшчэ аб'явяць,— удакладніла Света Кулеш.

— Вось калі там пераможам!..— усклікнуў Сяргей Бакалаў.

— Спорт спортам, але... добрыя веды ў першую чаргу...— пачала Паліна і, спахапіўшыся, замаўчала.

— Нам фізрук казаў, што ўсім нам купяць у «Артэк» новыя касцюмы,— пахваліўся Лёня Ігнатаў, які ўвесь час маўчаў, здавалася, нават не прыслухоўваўся, пра што ідзе гаворка, разглядаў на сценах малюнкі. Паліна ведала, што ён збіраецца стаць мастаком.

«Канечне, для іх цяпер спорт усё...» — падумала Паліна і спытала:

— А дзе ж астатнія вучні?

— Не паспелі сабраць,— сказаў Іван Баркун.— Мы ўсіх аббегалі. Не ўсе дома...

— Ну, якое ўражанне зрабілі твае рэкардсмены? — спытаў Васіль, калі дзеці пайшлі.

— Падраслі, пасталелі. Паспыталі славы.— Яна памаўчала і ў роздуме дадала: — Баюся, каб насы не пачалі задзіраць.

— Га! — хмыкнуў Васіль.— Новую праблему знайшла. Спачатку цябе хвалявала, што няма калектыву, цяпер цябе хвалюе, каб гэты калектыў не заганарыўся.

Гаворку іх перапыніў тэлефонны званок.

Званіў Сяргей Іванавіч, фізрук.

— Паліна Сямёнаўна? Вітаю вас і віншую са шчаслівым вяртаннем дамоў,— пачаў ён нечакана лагодным голасам. Так яшчэ з ёй ніколі не гаварыў.— Што ж вы прыехалі і не прызнаяцеся?

— Мы толькі з поезда, Сяргей Іванавіч.

— Як адпачылі, Паліна Сямёнаўна?

— Ой, я ж і павіншаваць вас забылася, Сяргей Іванавіч, віншую вас!

— Што вы, Паліна Сямёнаўна. Калі ўжо каго віншаваць, дык спачатку вас... І не пярэчце. Усё ж пачалося з вас. Я ўспамінаю, як вы былі супраць, каб памяняць слабейшых вучняў на мацнейшых з іншых класаў. Я толькі потым вас зразумеў. Дзякуючы вам захаваўся калектыў. Вы пабачылі б, як стараліся нашы слабейшыя. Галоўнае, яны паверылі ў сябе, так што некаторыя з іх яшчэ мацнейшых абгоняць. Прызнацца, Паліна Сямёнаўна, я ўсё гэта недаацэньваў. Я атрымаў сур'ёзны ўрок. Урок педагагічнай мудрасці.

— Што вы, Сяргей Іванавіч...— хацела спыніць яго Паліна.

Але фізрук не даваў ёй гаварыць. Ужо заклапочаным голасам спытаў: — Яўген Кірылавіч не званіў вам?

— Не.

Паліна паклала трубку, потым глянула, ці замкнёны дзверы, і пайшла ў спальню, дзе Васіль ужо ляжаў у ложку і чытаў газету.

— І што там за нахабнік такі? — абурыўся ён.— Адпачыць не дадуць.

— Фізрук званіў. Цікава...

— Што цікава?

— Ніколі ж так не гаварыў. Такі падхалімаж...

— Слухай, Паліна,— Васіль кінуў газету за ложак,

некуды на падлогу, павярнуўся да жонкі, прыўзняўся на локаць, паглядзеў на яе так, нібы першы раз убачыў.— Ты вось мне скажы. У цябе хоць раз было такое адчуванне, што ўсё нармальна, што ні пра што не трэба хвалявацца? Я разумею, што ў кожнага з нас заўсёды багата праблем. Адны вырашаюцца, з'яўляюцца другія. Але бывае ж так, што вось нешта зроблена, і ўсё нармальна. Ні пра што не трэба думаць, не трэба турбавацца. Хоць дзень які, хоць гадзіну... У мяне бывае. Вось як у дзяцінстве. Нічога не трэба, сядзіш з яблыкам ля двара, грызеш яго — і самы шчаслівы чалавек на свеце... А ў цябе, гляджу, усё заўсёды нешта не так...

— Што ж, Васечка, рабіць, калі сапраўды нешта не так.— Яна неяк вінавата ўсміхнулася.

У гэты вечар Паліна доўга не магла заснуць, усё не давала ёй спакою гаворка з фізруком.

## УСПАМІНЫ

Пасля таго, як Паліна са сваімі вучнямі схадзіла ў паход, яна многа думала, чым жа зацікавіць дзяцей, усіх і надоўга.

Калі б гэта была вясковая школа, Паліна ведала б, што рабіць. Некалі іх сёмы клас атрымаў у калгасе ўчастак пад кукурузу. Яны павінны былі засеяць яго, дагледзець, сабраць ураджай.

Усе старэйшыя класы мелі такія ўчасткі, і ўсе яны спаборнічалі паміж сабой.

Кожны дзень ледзь не досвіткам яны збіраліся ў школе, бралі капаніцы, драпачы і ішлі на поле, абвіваючы босымі нагамі буйную, халодную расу на лебядзе, сурэпцы, што густа кусцілася на ўзмежках паўз дарогу. Зранку палолі пасевы, а калі сонца прыгравала, беглі на рэчку, купаліся, загаралі, пакуль не спадала гарачыня, а потым зноў ішлі на сваю дзялянку.

Амаль кожны дзень да іх на поле прыходзіў Яўген Кірылавіч. У блакітнай тэнісцы, у белых, з вострымі стрэлачкамі штанах. Калашыны знізу былі пакрэслены зялёнымі пісягамі ад роснай маладой травы. Хадзіў, глядзеў, а часам браў у каго драпач ці капаніцу, падсякаў пустазелле да таго часу, пакуль блакітная тэніска на плячах не цямнела ад поту. Потым спыняўся, выціраў далонню бліскучы лоб, адкідваў чупрыну, усміхаўся ўсім і каман-

даваў: «У рэчку, сябры!» І сам першы заўсёды кідаўся ў ваду...

Умеў Яўген Кірылавіч зрабіць так, каб праца станавілася радасцю.

Гаварылі тады, што за тыя школьныя вытворчыя брыгады і далі яму званне заслужанага настаўніка, абралі дэпутатам абласнога Савета. А можа, і не толькі за тыя брыгады, бо і настаўнік ён быў выдатны. Як бы там ні было, але тады пра іх брыгады багата пісалі ў газетах...

Іменна тады ўзнікла думка застацца пасля школы ўсім класам у калгасе. І, відаць, засталіся б, каб раптам Яўгена Кірылавіча не перавялі ў другую школу. У якую, яна не ведала. Гаварылі, што ў раённы цэнтр ці нават у нейкі горад. Праўда, гаварылі тады і іншае. Хто даказваў, што яго ніхто не пераводзіў, што ён сам уцёк з вёскі. Толькі ў гэта не верыла Паліна: яна любіла свайго настаўніка, лічыла яго самым лепшым, самым высакародным чалавекам на зямлі...

Пасля таго, як не стала ў школе Яўгена Кірылавіча, вытворчыя брыгады хутка распаліся. Чаму распаліся, ніхто толкам не ведаў. Ці калгасу не трэба было сеяць болей тую кукурузу, ці ён не меў патрэбы ў дапамозе школьнікаў. І калі Паліна заканчвала дзесяцігодку, дык пра тыя брыгады ўжо не ўспаміналі.

Паліна паступіла ў педагагічны інстытут...

Цяпер, праз многа гадоў, калі сустракаліся былыя выпускнікі, звычайна ўспаміналі не вучобу, не сваіх настаўнікаў, а школьныя брыгады і, вядома, Яўгена Кірылавіча.

А вось чым можна зацікавіць клас у гарадской школе? Не дадуць жа ім будаваць дом ці асфальтаваць вуліцу. А калі папрасіць участак у якім прыгарадным калгасе, каб вырошчваць там хаця б тую ж капусту? Ці на прышкольным участку пабудаваць цяпліцу, разводзіць зеляніну для школьнай сталоўкі?

— Усё гэта надзвычай цікава,— сказаў задуменна Яўген Кірылавіч, выслухаўшы Паліну. Ён сядзеў, паклаўшы рукі на стол перад сабой. Глянуў на настаўніцу і, відаць, успомніў тыя далёкія дні, калі ён працаваў у вясковай школе. На пацяплелым твары было відаць, што яму вельмі прыемна ўспамінаць тыя часіны, можа, найлепшыя ў яго жыцці.— Парнікі, участак... Цікава, цікава. У прынцыпе, але...

— Мы ж некалі ў тых брыгадах і здружыліся па-сапраўднаму,— старалася Паліна давесці сваё, адчуваючы, што завуч нібы не разумее яе.

— Усё гэта так, але...— На гэты раз яго твар асвяціла добразычлівая ўсмешка.— Кажу: але... Ведаеце, Паліна Сямёнаўна, у жыцці вельмі важна, каб дзеянні, ініцыятыва кожнага з нас супадалі з патрабаваннямі часу. Тады энтузіязм аднаго чалавека, энтузіязм маленькага калектыву падаграваецца ўсеагульным уздымам. А ў сучасны момант вашых дзяцей не захопяць цяпліцы. Не модна.

— А працоўнае выхаванне? Хіба яно «не модна»?

— Не лавіце мяне на слове,— зноў прыязна ўсміхнуўся Яўген Кірылавіч.— Канечне, працоўнае выхаванне на парадку дня было і будзе. Але кожны раз, так сказаць, на новым этапе, яно набывае і новыя формы. Сёння для гэтага ёсць урокі працы, спецыяльныя навучальныя камбінаты... Іншая рэч, як мы гэтыя формы выкарыстоўваем.— І ён зноў дапытліва глянуў праз акуляры на настаўніцу.

— Усё гэта добра,— пагаджалася з ім Паліна.— Але я думаю пра такое, што надоўга аб'яднала б дзяцей.

— А калі зрабіць ваш клас спартыўным? Як, вашы дзеці зацікавяцца спортам?

— А хто ж яго ведае.

— Агульныя трэніроўкі, агульнае імкненне да перамогі на спаборніцтвах. У сучасных умовах становіцца не толькі неабходным, а нават... модным. Паглядзіце, чым займаюцца дзеці ў нашых дварах. Хакей, футбол. А што, Паліна Сямёнаўна? Гэта павінна спадабацца і вашым дзецям. Можа, падумаем? — Завуч выйшаў з-за стала, прайшоўся па кабінеце, спыніўся насупраць Паліны, якая сядзела на канапе.— Ну, дык як? Праўда, мы ўжо вызначылі спартыўныя класы. І наш, так сказаць, вядучы фізрук Марат Міхайлавіч Грыцкевіч працуе з імі. Болей ён сабе нікога не возьме. Але калі вы не будзеце супраць, то я ўгавару маладога фізрука Сяргея Іванавіча. Ён якраз хацеў такі клас узяць, ды Грыцкевіч яму не даў. Я нават не ведаю, як і што там у іх адбылося. Ці, можа, сам Сяргей Іванавіч не ўзяўся. Дык як, Паліна Сямёнаўна?

— Я думала пра гэта, Яўген Кірылавіч. Але...

— І ў вас гэтае «але»? — усміхнуўся завуч.

— Але спорт — гэта ўсё ж крыху не тое што праца.

Гэта ўсё болей для сябе. Для свайго здароўя. Так сказаць, дзейнасць не звязаная з візавочнай карысцю для грамадства. Можна быць выдатным спартсменам і дармаедам. І такіх нямала. А мне б хацелася, каб дзеці рабілі нешта патрэбнае, карыснае.

— Правільна думаеце, Паліна Сямёнаўна. Але...— Завуч глянуў на настаўніцу.— Але на гэта ж скіравана ўсё наша выхаванне. Вучоба. Дзеці павінны разумець, у імя чаго яны вучацца. Плюс спорт. Вырастуць разумнымі, здаровымі... А што яшчэ трэба? Можам вынесці гаворку на педсавет. Я вас падтрымаю. Падумайце...

На педсавеце старшы выкладчык фізкультуры Марат Міхайлавіч Грыцкевіч быў супраць, каб клас Паліны рабіць спартыўным, маўляў, у школе ёсць значна лепшыя, а ў яе вучняў толькі адна якасць — дысцыпліна, чаго, вядома, малавата для спартыўнага класа. А потым, ёсць ужо два спартыўныя класы, і хопіць. Для гэтых купіць форму няма сродкаў, а яшчэ адзін клас, дык тады наогул нічога не будзе.

— Нічога не магу сказаць пра спартыўную форму, якая вам патрэбна. Можа, якая незвычайная форма патрэбна. А ў нашых вучняў ёсць форма, каб нармальна займацца фізкультурай,— абараняла свой клас Паліна.— І дзеці самыя звычайныя, якімі яны і бываюць у такім узросце. Дарэчы, любяць спартыўныя гульні. І таму я не гаварыла б пра адсутнасць у іх спартыўных здольнасцей. Канечне, калі нічога не рабіць, нічога і не будзе.— Яна замаўчала, не ведаючы, што яшчэ можна сказаць, бездапаможна глянула на завуча.

— Я тут гаварыў з нашым маладым фізруком,— пачаў Яўген Кірылавіч, які ўвесь час сядзеў і маўчаў. Сказаўшы першыя словы, ён агледзеў усіх, нібы гэтым самым патрабаваў да сябе асаблівай увагі. Дачакаўшыся, пакуль сціхлі ўсялякія перашэпты, працягваў: — Сяргей Іванавіч згодзен працаваць з класам. Як вы, Сяргей Іванавіч, не перадумалі?

— Як жа я магу перадумаць, калі вы самі гаварылі са мной пра гэта,— падаў голас з самай апошняй парты фізрук.

— Калі малады выкладчык фізкультуры бярэцца, а класны кіраўнік абяцае памагаць яму, то мы проста не маем права перашкаджаць ім, павінны, так сказаць, блаславіць,— падвёў вынікі дыскусіі завуч.

Рашэнне педагагічнага савета не задаволіла Паліну.

Наадварот, з'явілася ўстрывожанасць, нават сумненне. Ці правільна яна зрабіла? Ці зможа яна такім чынам дабіцца таго, чаго хацела? Ці захопяцца вучні спортам? І наогул, адкуль у яе гэтая няўпэўненасць? Можа, і сапраўды няма веры ў вучняў?

Яе сумненні вельмі хутка спраўдзіліся.

Вучні на ўроках былі па-ранейшаму ўважлівыя, паслухмяныя, а вось на трэніроўкі амаль не хадзілі. Фізрук жа нічога не рабіў, каб як зацікавіць іх. Ён праводзіў з імі заняткі, а пасля трэніроўкі ледзь не кожны раз прыносіў доўгі спіс усіх, каго не было, клаў яго перад ёй на стол і выходзіў; маўляў, сама заварыла гэтую кашу, сама і расхлёбвай. Паліна разумела, што калі і далей пойдзе так, то хутка Сяргей Іванавіч проста адмовіцца ад яе класа. Можа, ён якраз і хоча гэтага, што так паводзіць сябе?

Яна не ведала, што рабіць. Спачатку была кінулася да Яўгена Кірылавіча, ды перадумала: не хацелася ёй выглядаць перад ім такой бездапаможнай. Не, нешта трэба самой прыдумаць. Расказала пра ўсё мужу. Васіль неяк здзіўлена спытаў у яе, навошта ёй усё гэта. Яна зразумела, што ён ёй не дарадчык.

А фізрук па-ранейшаму ледзь не кожны дзень прыносіў Паліне спісы тых, каго не было, і па-ранейшаму нічога не гаварыў ёй. І толькі аднойчы, калі яна, раззлаваная яго абыякавасцю, сказала, што і ён павінен быў бы неяк пастарацца зацікавіць школьнікаў, ён сказаў, што працаваць з дзецьмі не супраць, але бегаць за імі не збіраецца.

Паліна ж адступаць не магла. Яна яшчэ лічыла, што не ўсё зрабіла, што можна. І яна працягвала каго прымушаць, каго ўгаворваць. Хадзіла па кватэрах, сустракалася з бацькамі...

Але толькі пасля таго, як яны на раённых спаборніцтвах спартыўных класаў ледзь не занялі першае месца,— не хапіла літаральна некалькіх ачкоў,— блізка адчулі дыханне перамогі, іх ахапіў спартыўны азарт. Было відаць, што школьнікі паверылі ў сябе, а галоўнае, фізрук паверыў у спартыўную будучыню класа.

Стала больш самастойнасці ў іх паводзінах, у адносінах да вучобы. Гэта радавала Паліну, нягледзячы на тое, што настаўнікі ўсё ж скардзіліся ёй, што яе дзеці часам дрэнна слухаюць іх, даносілі дырэктару школы, што яна як класны кіраўнік не прымае ніякіх мер, каб павысіць

паспяховасць у класе, падцягнуць дысцыпліну. Нарэшце пра яе клас узнялі гаворку і на педагагічным савеце. Асабліва старалася Іна Віктараўна. Яна заявіла, што такія гора-педагогі, як Паліна Сямёнаўна, толькі разбураюць тое, што ствараецца ў школе самаадданай працай вопытных кадраў.

Наогул Сяргей Іванавіч, як толькі сам па-сапраўднаму зацікавіўся класам, увесь час падтрымліваў яе на педсаветах, на прафсаюзных сходах. «Спеліся»,— пачалі гаварыць злыя языкі пра яе з фізруком.

Канфлікт з Сяргеем Іванавічам узнік потым, значна пазней, ужо гэтай вясной, калі яе сямікласнікі закончылі вучобу і рыхтаваліся ехаць на рэспубліканскія спаборніцтвы.

Сяргей Іванавіч надумаў замяніць некалькіх слабейшых вучняў мацнейшымі з іншых паралельных класаў. Пра гэта, праўда, спачатку фізрук ёй нічога не сказаў, нават не параіўся, а пабег адразу да дырэктара, а той, вядома, не быў супраць, але хацеў узгадніць такую замену з класным кіраўніком. Паліну Сямёнаўну паклікалі ў кабінет дырэктара.

Ігар Аляксандравіч Савачкін, дырэктар школы, у тэнісцы з кароткімі рукавамі і ў паношаных джынсах — ён якраз тады набыў сабе аўтамабіль,— стаяў ля акна і, паглядваючы ў двор, дзе ў цяньку маладых канадскіх клёнаў стаялі яго «Жыгулі», нешта расказваў фізруку, які ў сінім спартыўным трыко і кедах стаяў сярод кабінета, апусціўшы круглую, з маленькім чубчыкам галаву на кароткай моцнай шыі, нібы думаў пра нешта сваё.

— Паліна Сямёнаўна,— усміхнуўся дырэктар,— вось мы з Сяргеем Іванавічам глядзім у акно і бачым бліскучыя спартыўныя дасягненні вашага класа.

Дырэктар заўсёды, калі хацеў сказаць нешта надзвычай сур'ёзнае і нечым непрыемнае, дык пачынаў з падобных жартаў. Пра гэта ведалі ўсе ў школе.

— Я вось прыглядаюся да вас і думаю, якая непрыемнасць мяне чакае,— пастаралася адказаць жартам і Паліна.

— Вы такая разумная, што нам з Сяргеем Іванавічам нечага гуляць з вамі ў хованкі.— І ён сказаў, што хоча зрабіць фізрук.

— Ды хто ж так робіць? — толькі і спытала разгублена Паліна.

— Усе,— хмыкнуў фізрук.

— І няхай! А я не дазволю! — ледзь не закрычала яна.— Калі так, дык і спорт ваш і спаборніцтвы вашы мне не трэба.

— Клас не ваша ўласнасць,— зноў хмыкнуў фізрук. Ён, відаць, не разумеў яе ўзрушанасці.

— І гэта гаворыце вы!.. Вы?..— Яна болей не знаходзіла слоў.

— Вы ж яшчэ маладая настаўніца, Паліна Сямёнаўна. Калі ўсё так будзеце прымаць да сэрца, то вас на доўга не хопіць,— усміхнуўся дырэктар і падаў ёй шклянку вады.

— Ігар Аляксандравіч,— пачала Паліна, глынуўшы вады,— мы ж развалім калектыў...

Якраз у гэты момант зайшоў у кабінет завуч школы Яўген Кірылавіч. Убачыўшы разгубленую настаўніцу, спыніўся, не паспеўшы за сабой зачыніць дзверы, акінуў хуткім позіркам набычанага, з пачырванелым тварам фізрука, дырэктара з нейкай бездапаможнай і нібы сарамлівай усмешкай на твары, хацеў быў павярнуцца ўжо і выйсці.

— Яўген Кірылавіч! — папрасіла яго застацца Паліна і звярнулася да фізрука, загаварыла спакойна і ўпэўнена.— Што падумаюць тыя дзеці, якіх мы адлучым ад класа? Яны ж стараліся разам з усімі. Яны ж пасля гэтага страцяць веру ў сябе, у справядлівасць, нарэшце. Хіба для нас галоўнае — спартыўныя паказчыкі?

— У даным выпадку — галоўнае,— стаяў на сваім фізрук.

— Яўген Кірылавіч, памажыце мне пераканаць іх,— звярнулася яна да завуча.— Нельга ж так з дзецьмі. Яны ж сама вучацца жыць...

— Канечне, гэтага не варта рабіць.

— Крычалі — давай спартыўны клас, а цяпер у яго не вераць,— абурыўся фізрук і ўжо ў дзвярах кінуў Паліне: — Ніколі не дарую вам, калі прайграем...

Разам з класам у Мінск павінна была ехаць і Паліна. І раптам пуцёўкі.

Завуч раіў ёй адпачыць, маўляў, пуцёўкі не так часта бываюць.

Дырэктар школы таксама не затрымліваў яе.

Фізрук жа пакрыўдзіўся.

— Я здагадваўся, што вас спорт нікольні не цікавіў і не цікавіць... Вам проста трэба была нянька ў класе,— сказаў ён.

І раптам учора такая нечаканая гаворка па тэлефоне. Няўжо ён раптам палагоднеў, што клас выйграў? Дык у тым, што клас выйграў, у першую чаргу яго заслуга, і ён добра ведае гэта. Не, з-за гэтага ён не стаў бы з ёй так гаварыць. А з-за чаго?

...У акно глядзеў маўклівы месяц.

## РАНІЦА

Паліна прачнулася раптоўна, устрывожана.

Так яна звычайна прачыналася ў дзяцінстве, калі збіралася ісці ў грыбы ці ягады і баялася праспаць, а потым у школе і інстытуце — напярэдадні экзаменаў, а калі пачала рабіць настаўніцай, то заўсёды перад адкрытымі ўрокамі. Цяпер жа яна нічога такога не чакала. Пра клас, аб якім апошні час нямала думала, яна ведала ўсё. А можа, яе так устрывожыў учарашні званок фізрука? Дык не можа быць. Цяпер, раніцай, адчувала, што яе не хвалюе тая гаворка. А можа, яна перажывае за мужа, які сёння пойдзе да свайго шэфа са сваімі разлікамі. Дык і гэтага не можа быць, бо сам Васіль надзвычай спакойны і ўпэўнены ў сабе. Вунь як спіць. На якім баку заснуў, на тым і зараз ляжыць... І не думае прачынацца. А можа, проста што грукнула на вуліцы ці ў суседа, вось і падхапілася?

Паліна паправіла на мужу коўдру, той толькі пацмокаў смачна, выцягваючы губы, і зноў спаў глыбока. Не паварухнуўся і тады, калі яна, пахадзіўшы па пакоі, зноў лягла побач з ім, прытулілася да яго, каб сагрэцца і паспаць яшчэ.

Зазваніў тэлефон. Паліна Сямёнаўна кінулася басанож у калідор, каб тэлефонныя званкі не разбудзілі мужа.

Званіў Яўген Кірылавіч.

— Прашу прабачэння, калі разбудзіў.— Голас вясёлы, без ніякай вінаватасці.

— Я не спала,— пазяхнула яна і прыкрыла рот рукою, нібы завуч мог яе ўбачыць.

— Дык з прыездам, Паліна Сямёнаўна!

— Дзякую!

— Калі на работу?

— Тыдні праз два. А што?

— Хацелася б пагаварыць, Паліна Сямёнаўна.

— Магу падысці. Калі будзеце ў школе?

— У школу не трэба. Зойдзеш туды, абавязкова знойдзецца што-небудзь тэрміновае. Навошта ж вам адпачынак псаваць? — Ён, можа, на якую секунду замаўчаў, відаць, абдумваў, што ёй сказаць. У трубцы чулася яго дыханне з тонкім ледзь улоўным посвістам, як дыханне прастуджанага чалавека ці заядлага курыльшчыка. Здаецца, Яўген Кірылавіч не курыў.— Вось што, Паліна Сямёнаўна... Вы ў магазін пойдзеце?

— Ды трэба...

— Калі?

— Не ведаю,— глянула на гадзіннік.— Можа, мінут праз сорак.

— Нармальна. Буду чакаць вас.

Заварочаўся Васіль, пад ім зарыпеў ложак.

— Які там нахабнік не дае спаць? — крыкнуў ён.

— Спі паболей, дык даспішся,— адказала яму з залы, адзяваючыся.— Мне ўжо спатканне прызначылі.

— Толькі дзвярыма не грукай,— папрасіў ён.

«Вось каму лёгка жывецца»,— з зайздрасцю падумала яна пра мужа.

Паліна села на канапу, задумалася. Учарашні званок фізрука, яго гаворка, а галоўнае, яго пытанне, ці не званіў Яўген Кірылавіч, і, урэшце, званок самога Яўгена Кірылавіча — усё гэта наводзіла на думку, што нешта адбываецца ці павінна адбыцца, і гэтае нешта, відаць, не зусім прыемнае, і перш за ўсё для яе, бо каб было інакш, то і фізрук і завуч не гулялі б з ёй у хованкі, а сказалі ўсё адразу. І калі яе не вельмі здзівіў Сяргей Іванавіч,— яна ведала яго здольнасці на хітрыкі,— то Яўген Кірылавіч сваім званком выклікаў недаўменне. Яна ж заўсёды лічыла яго адкрытым чалавекам, і раптам ён хоча пагаварыць з ёй так, каб пра гэта не ведалі ў школе... Што ж яны там задумалі з фізруком? А ў тым, што між імі ёсць нейкая дамоўленасць, яна не сумнявалася.

Глянула на гадзіннік — часу заставалася мала. Яна хуценька надзела сукенку, касу заматала ў куксу на патыліцы, накінула лёгкую касынку, узяла гаспадарчую сумку...

Яўгена Кірылавіча яна ўбачыла яшчэ здалёк. Апусціўшы галаву, ён сядзеў у белай тэнісцы на лаўцы ля свайго пад'езда. Параўняўшыся з ім, яна павіталася. Яўген Кірылавіч глянуў праз акуляры, кіўнуў галавой,

адкінуўшы назад чупрыну, нетаропка паклаў газету на лаўку, падняўся насустрач ёй, падаў руку.

— Віншую, віншую вас, Паліна Сямёнаўна! Я знарок не віншаваў вас па тэлефоне, хацелася паціснуць вам руку.

«Ой, божачка, і гэты хваліць»,— падумала з нейкім незразумелым для яе самой адчаем.

— Дзякую, дзякую,— яна адчувала, што чырванее.

— Спяшаецеся? — пастараўся Яўген Кірылавіч перавесці гаворку на другое, убачыўшы яе сарамлівасць.

— У магазін вось...

— А як адпачылі? Бачылі сваіх вучняў?

— Заходзілі ўчора...

— Чаму засмуціліся? — улавіў яе настрой Яўген Кірылавіч і падрыхтаваўся слухаць.

— Памятаеце, Яўген Кірылавіч, я некалі прыходзіла да вас параіцца. Мае вучні былі яшчэ ў чацвёртым класе. Мяне тады трывожыла іх залішняя паслухмянасць, іх эгаізм. Мне хацелася, каб у іх была свядомая дысцыпліна, каб яны раслі калектывістамі, смелымі. Вы тады параілі зрабіць клас спартыўным, і з часам усё пайшло нядрэнна.

— Цудоўна! — сказаў ён і з бацькоўскай ласкавасцю крануў рукой яе плячо.

— А ўчора яны раптам загаварылі пра спорт як пра нешта выгаднае для іх. Спорт, маўляў, адкрые ім дарогу ў інстытуты. Не паспелі вылупіцца, а ўжо пра выгаду...

— Вы дарэмна, Паліна Сямёнаўна, завастраеце,— усміхнуўся паблажліва ён.— Гэта ў вас ад маладосці. Цудоўныя ў вас дзеці. А што гавораць... Нехта ім сказаў, вось і гавораць. Паступаць цяпер цяжка, конкурсы вялікія, вось і радуюцца, што, можа, будзе палёгка. Гэта так натуральна.

— Мяне хвалюе гэтая псіхалогія. Многія свету не бачаць без выгады. Вучацца з выгадай, сябруюць з выгадай, потым кватэру па блату, мэблю па блату... Няўжо і нашы вучні прыйдуць да гэтага, Яўген Кірылавіч? Чаго ж тады варты нашы з вамі старанні?

— Канечне, жыццё ўносіць свае карэктывы ў наша выхаванне. Але...— Ён памаўчаў, зноў ласкава ўсміхнуўся аднымі толькі вачыма.— Будзем спадзявацца, што з нашых вучняў вырастуць сапраўдныя людзі. Гэта мы раслі ў беднаце. Дык для нас і мэбля і дываны чортведама чым здаюцца. А нашы дзеці растуць сярод гэтай рас-

кошы. Так што гэтай хваробай самі перахварэем, дзецям не пакінем.

Яна хацела запярэчыць яму: лепшыя людзі самі па сабе не з'яўляюцца, іх трэба выхоўваць, выхоўваць дома бацькам сваім прыкладам, у школе — настаўнікам, таксама сваім прыкладам, але толькі сказала:

— Аптыміст вы, Яўген Кірылавіч.

— Я заўсёды веру ў лепшае.— Ён цяпер усміхнуўся адкрыта і шырока, паказаўшы зубы, потым глянуў на яе крыху прыжмуранымі вачыма, нібы прыцэльваўся да нечага праз шкельцы акуляраў, і яна зразумела, што ўсё, пра што яны гаварылі да гэтага,— не галоўнае, а пра галоўнае яшчэ будзе сказана.— Пасядзім, Паліна Сямёнаўна, а то сталі на дарозе...— і, не дачакаўшыся яе згоды пасядзець, узяў за локаць і павёў да лаўкі, счакаў, пакуль яна сядзе, а потым сеў і сам.— Вось так, Паліна Сямёнаўна.— Дарэчы, вы бачылі новую школу?

— Насупраць маіх акон стаіць, так што паспела заўважыць.

— Ну і як?

— Здаецца, прыгожая школа.

— Як дырэктару мне гэта прыемна пачуць...

— Віншую, Яўген Кірылавіч!

— Дзякую, дзякую! — ён прытрымаў яе мякка рукою за плячо.— Я, прызнацца, не вельмі і пагаджаўся. Ну навошта мне гэты клопат пад старасць? Але падумаў, падумаў і пагадзіўся. Угаворвалі вельмі. Два разы выклікалі. Там лічаць, мой вопыт спатрэбіцца новай школе. Практычна, тут усё трэба пачынаць з нуля. Трэба ствараць калектыў настаўнікаў. Класы таксама будуць зборныя. Іх трэба арганізаваць, аб'яднаць. Праблем багата. І вялікіх і малых. І ўсе іх трэба вырашыць, і не абы-як, а на адпаведным узроўні. На мяне спадзяюцца. Ды і самому хочацца, каб школа была не апошняй у горадзе. Калі ўжо ўзяўся рабіць, дык трэба рабіць па-сапраўднаму. І ў той жа час, адзін у полі не воін... Паліна Сямёнаўна, можа, ніякай школе не патрэбен так ваш вопыт, як новай. Мы ўсе класы зробім спартыўнымі. А ваш клас для ўсіх — узор, прыклад. У лідэрах не лёгка быць, разумею, але пастараемся стварыць усе ўмовы. Сяргея Іванавіча зробім старшым выкладчыкам. Малады, энергічны. Ён ужо і заяву падаў аб пераходзе.

«Вось у чым соль»,— цяпер усё зразумела Паліна.

— Я хачу, каб вы мне памаглі,— не таіў сваіх наме-

раў Яўген Кірылавіч.— Вы мне патрэбны ў новай школе. Як прыклад, паўтараю. І наогул я хачу сабраць у школу лепшых настаўнікаў горада.

— А дзеці?

— Я ж казаў, дзеці будуць розныя. Па месцужыхарства. Тут не падбярэш.

— Я пра свой клас...

— Мне здаецца, ваш клас дзяліць не стануць. Яго ці пакінуць цалкам у старой школе, ці цалкам перавядуць у новую. Але калі вы з фізруком пяройдзеце, то і клас перавядуць разам з вамі. А вам ёсць сэнс перайсці. Па-першае, блізка ля дому. Для жанчыны гэта важна. Мая падтрымка таксама што-небудзь ды значыць. Так што падумайце...

— А што тут думаць? Калі клас пераводзяць, думаць нечага.— Яна нават узрадавалася: сам жа Яўген Кірылавіч упрошвае яе, сваю ўчарашнюю вучаніцу. Толькі яна не разумела, навошта ж усё гэта было так абстаўляць, гуляць у хованкі. Можна было сказаць адразу. Нават таму ж Сяргею Іванавічу. Яшчэ ўчора. Яна ледзь стрымалася, каб не спытаць пра гэта ў Яўгена Кірылавіча. Але спахапілася і сказала: — Дзякую вам! Будзе загад аб пераводзе, ці як?

— Трэба вам, Паліна Сямёнаўна, напісаць заяву ў районa. Без гэтай фармальнасці...

— Калі?

— Чым хутчэй, тым лепш.

— Можа, нават сёння паспею.

— Вось і дамовіліся,— падняўся Яўген Кірылавіч і пачаў збіраць свае газеты.

Паліна скіравала дамоў.

— А магазін? — спыніў яе Яўген Кірылавіч.

— Я і забылася,— засмяялася яна.

Васіль з гантэлямі хадзіў вакол стала ў зале, размахваў рукамі, прысядаў, часам спыняўся, праглядаў адну-дзве старонкі сшытка са сваімі разлікамі, потым, спахапіўшыся, зноў махаў гантэлямі.

— Ты як той Цыцэрон. Толькі не хапае табе яшчэ трэцяй справы.

— Вось гляджу свае формулы і не перастаю здзіўляцца, як я мог да гэтага дадумацца. І радасна і страшна, што раптам болей ніколі ні да чаго падобнага не дадумаюся. Такое ж было ў навуцы не раз... Што там у цябе?

Паліна расказала пра гаворку з Яўгенам Кірылавічам.

— Хоча, кажаш, школу зрабіць спартыўнай? — перапытаў Васіль, а потым пакруціў галавой, хмыкнуў.— Трэба ж. Не дае людзям спакою слава.

— Яўген Кірылавіч не такі,— запярэчыла Паліна.— Ён дбае пра выхаванне вучняў.

— Так і паверыў. Каб у наш век, калі ўсе такія рацыяналісты, знайшоўся адзін дзівак. Не веру. Каб ён думаў пра выхаванне вучняў, навошта б яму спатрэбіўся твой клас? Вучы тых, што ёсць, выхоўвай. Дык не. Дай яму твой. І клас гатовенькі, і слава гатовенькая. Ёсць чым пахваліцца ўжо сёння.

— Можа, пра каго так падумала б, толькі не пра Яўгена Кірылавіча.

Убачыўшы, як яму падалося, яе разгубленасць, Васіль дадаў:

— Можа, я і памыляюся. Людзі заўсёды былі складаныя. Асабліва цяпер. Калі некаторыя робяць адно, а гавораць другое. Што ты адказала?

— Пагадзілася. Трэба толькі заяву занесці.

— Вось разам і пойдзем. Ты заяву панясеш, а я да свайго шэфа.

Усю раніцу, і калі рыхтавала сняданак, і калі снедалі, і потым, калі яны з Васілём крочылі па тратуары, Паліну не пакідала адчуванне нейкай няёмкасці. Гэтае адчуванне нечым нагадвала пачуццё чалавека, які супраць сваёй волі зрабіў вельмі прыкрую памылку, якую, можа, ніхто і не заўважыў, але за якую сорамна.

Яна паглядвала на Васіля і не заўважала ў яго ніякіх праяў трывогі. А ён жа нёс шэфу сваё матэматычнае даследаванне, з якім звязваў сваю будучыню ў навуцы. А ідзе бесклапотны, гарэзлівы, нават блазнуе. Падскочыць, каб дастаць зжаўцелы лісток на дрэве, з нізкім паклонам паднясе яго ёй як першае прывітанне ад блізкай восені. Можа, гэтай гарэзлівасцю ён прыкрывае сваю ўзрушанасць?

— Ты не хвалюешся? — спытала яна, бо не верыла ў яго спакой.

— Чаго?

— Невядома, што скажа шэф.

— Ха! А мяне гэта не турбуе. У мяне не аповесць, не вершы. Гэта яны могуць спадабацца ці не. І не дакажаш. А ў мяне матэматыка. Логіка лічбаў. Мне ацэнка шэфа

не трэба. Пакажу, каб ведаў, што зрабіў яго падапечны. Галоўнае, параюся, у які часопіс паслаць. Ці ў якое акадэмічнае выданне, ці, можа, у нашым інстытуцкім выпуску надрукуем...

— А ў мяне такое адчуванне, нібы я не тое раблю...— паскардзілася яна.

— Навіну адкрыла. Ды ты колькі жывеш, столькі і сумняваешся. Я ўжо прывык да гэтага,— сказаў ён.— Да вечара!

Жанчына, якая ўзяла заяву ў Паліны, нічога не сказала ёй, некуды выйшла, хутка вярнулася і паклікала яе з сабой. Завяла ў кабінет загадчыка райана. Той, у сінім гарнітуры, строгі і манументальны, сустрэў яе насмешлівым пытаннем:

— Значыцца, бяжым, таварыш Вільчык? Ну, няхай фізрук бяжыць, дык зразумела. Там яны не паладзілі з Грыцкевічам. А вы? З кім вы не паладзілі?

— Ні з кім,— нічога не разумела Паліна.

— Ні з кім? — аж нахіліўся праз стол загадчык, нібы не пачуў добра, што сказала, ці хацеў лепей прыгледзецца да Паліны.— Тады не разумею, як вы можаце адмовіцца ад класа, якому столькі аддалі сваіх сіл, часу? Мы ж ведаем...

— Клас таксама пераводзяць.

— Хто вам сказаў?

— Яўген Кірылавіч.

— Яўген Кірылавіч? — зноў нахіліўся над сталом загадчык райана.— Цікава, цікава... Ён усё ніяк не мог супакоіцца.— Потым падняў тэлефонную трубку, набраў нумар, спытаў у некага: — Хіба вы не сказалі Яўгену Кірылавічу, што спартыўны клас цалкам застаецца ў старой школе? Сказалі? Так, так... Ясна.— Паклаўшы трубку, сказаў Паліне: — Яўген Кірылавіч хацеў забраць ваш клас, але яму не далі. У рэспубліцы ўсе ведаюць, з якой школы гэты клас, і мяняць нічога не будзем,— цвёрда заключыў ён. Потым сеў на сваё месца, адклаў яе заяву ўбок, зусім іншым голасам спытаўся: — Вы самі надумаліся пераходзіць ці вас упрасілі?

— Прапанавалі.

— Яўген Кірылавіч?

— Ыгы,— як школьніца, адказала яна.

— Ну і Яўген Кірылавіч! — усміхнуўся загадчык.— Мудрыла гэты, ваш Яўген Кірылавіч. Але ніхто яму кла-

са не аддасць. Няхай выхоўвае ў сваёй школе такія класы. Вы настойваеце аб сваім пераводзе?

— Клас застаецца?

— Вядома.

— Тады і я застаюся.

— Правільна. Я ад вас гэтага і чакаў,— ухваліў яе рашэнне загадчык.— Жадаю вам поспехаў!

Паліна з прыёмнай загадчыка пазваніла Яўгену Кірылавічу і сказала, што клас пакідаюць у старой школе і яна, вядома, застаецца з класам.

— Ну што ж,— ёй падалося, што ён быццам уздыхнуў.— Калі пакідаюць, дык, канечне, заставайцеся. Правільна робіце. Хаця, прызнаюся, шкада. Хацелася б мець у сваёй школе такую настаўніцу, як вы...

Паліне карцела хутчэй расказаць пра ўсё Васілю. Зайшла ў інстытут. Яго на кафедры не было. Юны барадач, які перабіраў нейкія папкі ў шафе, сказаў, што Васіль Кузьміч са сваім шэфам пайшлі да рэктара. У прыёмнай жа паведамілі, што ніхто да рэктара не прыходзіў. Паліна пахадзіла па доўгіх прыцемненых калідорах, выйшла на вуліцу. Зырка ўдарыла ў вочы сонечнае святло. Аж закружылася галава. Закружылася моцна. Каб не ўпасці, яна абаперлася аб калону. На лобе выступіў пот.

Увечары, падрыхтаваўшы вячэру, Паліна яшчэ доўга сядзела перад тэлевізарам, чакала мужа. Дзе ён прапаў? Хаця б пазваніў, дык не, ніколі не здагадаецца. А тут, як назло, фільм такі сумны, што немагчыма было глядзець яго. Нарэшце не вытрымала, выключыла тэлевізар, узяла кніжку, прылегла на канапу. Але не чыталася.

Васіль прыйшоў позна.

— Жонка, сустракай аркестрам свайго акадэміка. Будучага,— яшчэ не зачыніўшы за сабой дзверы, закрычаў ён.

— Напіўся?

— Ты што? Ты ж ведаеш мой прынцып. Але п'яны. П'яны ад радасці. Ну і крыху... ад каньячку. Сам шэф пачаставаў. Паглядзеў мае разлікі, а потым доўга хадзіў па кабінеце. Думаю, што з ім, чаму так расківаўся? Потым спыніўся перада мной, павіншаваў, кажа, што я малайчына, што дадумаўся да такога. Доўга мы гаварылі пра матэматыку.

— Цэлы дзень толькі пра яе і гаварылі? — Паліна

прысела на ложку, пачала пераплятаць касу, пaглядваючы з недаверам на мужа, які стаяў у дзвярах, узяўшыся рукамі за вушакі.

— Мой шэф толькі пра матэматыку і можа гаварыць.

— Я ж раніцай заходзіла. Вас на кафедры не было. Потым і званіла некалькі разоў.

Васіль пастаяў моўчкі, уздыхнуў, пайшоў на кухню, пачулася, як лілася вада з крана. Вярнуўшыся, прысеў побач з жонкай.

— Ну што замаўчаў? — спытала дакорліва.— Не прыдумаеш, што сказаць?

— Не падабаецца мне, калі ты вось так...— Васіль пільна паглядзеў на яе, нібы хацеў пераканацца, ці разумее яна, пра што ён гаворыць.— Я да цябе, як кажуць, з адкрытым сэрцам, а ты як халоднай вады на галаву.

— Пахваляваўся б ты цэлы дзень, як я, яшчэ б не так загаварыў,— але цяпер у яе голасе было болей памяркоўнасці.

— Я ж хацеў усё расказаць, дык перапыніла,— павесялеў і Васіль.— Слухай жа... Адным словам, мой шэф так расчуліўся, што запрасіў да сябе ў госці. Праўда, спачатку мы з ім пахадзілі па вуліцах, а потым зайшлі да яго. Пасядзелі. Шэф аж расплакаўся. Кажа, калі сустракаешся з такой з'явай,— гэта ён так маю працу ахрысціў,— дык разумееш, што жыццё сваё пражыў не дарэмна... Адным словам, вырашылі паслаць мой артыкул у акадэмічны часопіс. Хай ведаюць нашых! Так і сказаў шэф. І яшчэ вырашылі, што заўтра едзем на рыбалку. Я, шэф і яшчэ некалькі матэматычных геніяў. Так што давай збірацца. Дзе мае вуды? Паедзем, пажывём на прыродзе. У рукі не вазьму ні паперы, ні алоўка! І ніякіх думак! Будзем жыць, як дзікуны.

— А як жа твой жалезны распарадак? Твае біярытмы, якія ты так доўга выпрацоўваў?

— Якія могуць быць біярытмы, калі сам шэф запрашае на рыбалку? А потым трэба апустошыць галаву так, каб аж вецер там гуляў. І не думаць, пакуль не стукне зноў якая геніяльная ідэя. Нечаканая. На пустым месцы заўсёды вырастаюць нечаканыя расліны. Я даўно заўважыў, што найбольш каштоўныя ідэі прыходзяць тады, калі заняты чым-небудзь вельмі далёкім ад гэтай ідэі. Памятаеш, як мы з табой схаваліся ад дажджу пад сціртай? Ты тады сагрэлася і заснула. А я сяджу, слухаю, як лапоча ў траве дождж, і ні пра што не думаю, абсалют-

на ні пра што... І раптам, як маланка, ідэя!.. Памятаеш, я разбудзіў цябе? Хацелася хутчэй дамоў. А дома ноч пасядзеў за сталом. Раніцай было ясна, што мне ўдалося знайсці падыход да вылічэння размеранасцей Гаўсдорфа некаторых мностваў. Справа ў тым, што ранейшыя метады толькі ацэньвалі іх, а атрымаць дакладныя значэнні не дазвалялі. А цяпер... Але я не пра гэта хацеў... І вось сёння мой шэф пытаецца, адкуль у мяне раптам такая нечаканая ідэя. З-пад стога, кажу. Паглядзеў на мяне ўважліва і болей не падліваў каньяку. А ў яго, канечне, не можа быць такіх ідэй. Ён жа ніколі не начаваў пад стогам. Я сказаў яму пра гэта. Трэба, кажу, пажыць трохі дзікуном, вызваліць сваю галаву ад сучаснай тарабаршчыны, якую ўсе чамусьці называюць інфармацыяй. Геніяльная ідэя стварэння кола некалі ж прыйшла ў галаву дзікуну. Карацей, шэф пажадаў паехаць на рыбалку. Табе не здаецца, што я разгаварыўся? — засмяяўся ён.

Зазваніў тэлефон. Васіль падняў трубку, сказаў жонцы:

— Ідзі. Нейкі сярдзіты таварыш цябе просіць.— І сам пайшоў на кухню.

— Дык вы не хочаце пераходзіць? — абураўся ў трубцы Сяргей Іванавіч, забыўшыся і павітацца.— Сам Яўген Кірылавіч вас прасіў, а вы...

— Клас жа застаецца.

— Яшчэ пабачым, застанецца ён ці не. Яўген Кірылавіч не абы-хто, а аўтарытэт. З ім лічацца. Яму пойдуць насустрач.

— Мне сказалі...

— Сказалі, сказалі... Мала што дзе гавораць.— Чулася, як фізрук перадыхнуў і далей загаварыў нечакана спакойна і разважліва: — Зразумейце, Паліна Сямёнаўна, я не магу застацца ў гэтай школе. Вы ж ведаеце, як мы з Грыцкевічам ладзілі. Ён так хацеў, каб мы прайгралі. Нахапаў сабе лепшых класаў і нават на рэспубліканскія не папаў, а мы — на ўсесаюзных. Ён жа не вітаецца са мной. А калі разабрацца, то хто ён такі?.. Не, з ім у адной школе я не буду. Здаецца, я ўсім даказаў, што я не апошняя спіца ў коле.

— Я разумею вас, але... клас застаецца...

— Вам як чалавеку гаворыш, а вы...— Ён памаўчаў, нібы чакаючы чаго ад Паліны, а потым спытаў: — Вы застаяцеся? Гэта канчаткова?

— Канечне.

— Ну што ж... Але паглядзім, застанецца клас з вамі ці пойдзе за мной. Вучні разумеюць, што я зрабіў для іх.— І ён паклаў трубку.

Паліна стаяла ля тэлефона, ашаломленая такой гаворкай, разгубленая.

Выйшаў з кухні Васіль.

— Я хутка гэтую трашчотку выкіну на памыйку. Жыцця няма. Гэтыя тэлефоны, скажу табе, горш за тараканаў... Ну што, будзем збірацца?

— Я проста не ведаю,— сказала яна.

— Што не ведаеш?

— Ехаць мне ці не...

— А што? — насцярожыўся Васіль.

— Нешта робіцца незразумелае... З класам...

— Драбяза! — не стаў ён і слухаць яе.— Запомні, у наш час чалавек ніколі не вызваліцца ад праблем. Ён абрастае імі, як снежны ком, кожны дзень. Хочаш адпачыць — кідай усё і без роздуму ўцякай... Усё будзе нармальна. Ты вось паехала адпачыць. І што? Абышліся. А цяпер тым больш абыдуцца. Усё будзе як трэба. Ці будзеш ты тут, ці не. Свет даўно жыве па непарушных жалезных законах, толькі пра гэта не ўсе ведаюць, акрамя нас, матэматыкаў.

— А потым... Сёння я адчула... Здаецца, адбылося тое, чаго мы так доўга чакалі.

— Дык цудоўна! — ён прыхінуў яе да сябе, яна адчула яго цёплае дыханне ў сябе за вухам.— Каб ведаў, раней бы з'ездзілі на поўдзень. Я рады... Народзіцца малое, можа, меней будзеш думаць пра чужых дзяцей. А як адчуваеш?

— Ды нібы нічога.

— Тады абавязкова паедзем на рыбалку. Ідзі кладзіся спаць, я сам збяру ўсё. Дарэчы, ты не ведаеш, дзе мае вуды?

## У ШКОЛЕ

Палатку паставілі пад раскідзістымі вербамі, якраз там, дзе далёка ад берага адыходзіла ў рэчку пясчаная каса. Пясок на той касе быў ажно белы, так яго вымыла вадою. З касы і закідвалі донкі. У самым жа канцы яе, вузкім і такім нізкім, што праз яе вецер перавальваў

прыпяцкія хвалі, раніцай заўсёды, а часам і пад вечар стаялі чаплі.

На той канец касы ніхто не хадзіў.

— Не трэба трывожыць птушак,— прасіў Васіль.— Яны сваім выглядам нагадваюць матэматычныя знакі.

Паліна і тут, на беразе рачной нерушы, іншы раз успамінала свой клас, але цяпер яна думала пра яго без усякай трывогі. На фоне ціхаплыннай ракі, санліва паніклых вербалозаў на берагах, застылых воблачкаў на небасхіле, нерухомых птушак у канцы касы, на фоне ўсяго гэтага першабытнага спакою і сцішанасці верылася, што не толькі з яе класам, а ў цэлым свеце нічога не можа адбыцца дрэннага...

Ды і матэматыкі былі настолькі вясёлыя людзі, што нельга было не паддацца іх настрою. Адразу ж, як толькі сышлі з цеплахода на бераг, яе як адзіную жанчыну яны аб'явілі сваёй каралевай.

Гульню гэтую распачаў сам шэф, загадчык кафедры Павел Мікітавіч, якога Паліна ведала заўсёды строгім, засяроджаным, нават крыху манументальным у сваім чорным гарнітуры. Ён, кінуўшы на поплаў свой рукзак, стаў на калені і, падняўшы над галавой сваё вудзільна, урачыста сказаў:

— Ваша вялікасць, Паліна Сямёнаўна, клянуся ўсёй рыбай у рацэ Прыпяць і ў яе шматлікіх прытоках, што я і мае калегі аддана будзем служыць вашай вялікасці, адзінай і непаўторнай на гэтым пустынным беразе.

А потым усе, перш чым што рабіць, звярталіся да яе.

— Ваша вялікасць, дзе загадаеце збудаваць храм, які ў тутэйшых мясцінах называюць палаткай? — пытаўся Павел Мікітавіч.

— Тут,— і яна паказала рукою на тое месца, дзе ён стаяў на каленях.

— Ваша высокасць, скажыце, якой травы назбіраць у чай? Чабору ці бруснічніку? — схіляў пакорліва перад ёю галаву барадаты аспірант Барыс — па бацьку яго ніхто не называў.

— І таго, і таго,— загадвала яна.

— А якую загадаеце лавіць рыбу, ваша светласць? — горбіў перад ёю вузкую спіну дацэнт Васькаўцоў.

— Свежую! — усклікнула Паліна.

І ўвесь час, пакуль яны жылі ў палатках, усе строга прытрымліваліся гэтае гульні. Звярталіся да яе з усімі нават самымі дробязнымі пытаннямі, карацей, не давалі

ёй нічога рабіць, а ўсё рабілі самі — і варылі, і прыносілі з крыніцы ваду, і мылі посуд...

Пасля вечаровага вогнішча, ля якога нямала было сказана тостаў у гонар каралевы і нямала было праспявана яе любімых песень, уладкоўваючыся ў палатцы на маладым сене, якое спецыяльна было дастаўлена з-за ракі дзеля яе, Паліна сказала:

— Добрыя хлопцы ў вас на кафедры.— І ўпікнула мужа: — Ці не расказаў чаго лішняга пра мяне, што не даюць і кроку ступіць самой?

Васіль, відаць, і ўвагі не звярнуў на яе словы, бо пачаў зусім пра іншае:

— Як тут здарава! Здаецца, час спыніўся. Вось дзе пажыць бы з месяц...

— А якая розніца, месяц ці адзін дзень, калі час спыніўся?

— А ў гэтым нешта ёсць,— заўважыў глыбакадумна Васіль.

Паліна чакала, што ён зараз пачне вышукваць у яе словах нейкі аднаму яму вядомы сэнс, але ён раптам пачаў пасвістваць носам — заснуў.

Вярнуліся дамоў надвячоркам. У дзвярах свае кватэры Паліна знайшла запіску. Пісаў яе вучань Іван Баркун.

«Паліна Сямёнаўна! Я некалькі разоў прыходзіў да вас, хацеў расказаць, якая агітацыя вядзецца сярод вучняў нашага класа».

Прачытаўшы запіску, хацела бегчы да Івана Баркуна. Кінула ў калідоры на падлогу рукзак з рыбай,— рыбацкія прылады і палатку нёс муж,— глянула ў люстэрка, паправіла валасы і ўжо скіравала да дзвярэй, але яе затрымаў Васіль.

— Можа, людзі спяць дзе... Цёмна ж.

— Цяпер рана цямнее,— спынілася ў дзвярах.

— Як ні рана, а ўжо каля дзесяці вечара.— І, заўважыўшы яе нерашучасць, сказаў больш цвёрда: — Заўтра сходзіш. За адну ноч нічога не здарыцца.

— Яно то так, але хацелася б ведаць,— усё не рашалася пайсці, але і не вярталася назад.

— Заўтра па дарозе на работу зойдзеш, даведаешся,— параіў ёй Васіль.

— Можна і так,— пагадзілася яна.

...Ліфт быў заняты. Паліна не стала чакаць, пакуль ён вызваліцца, часта пастукваючы абцасікамі, узбегла па лесвіцы на чацвёрты паверх, перадыхнуўшы, націсну-

ла кнопку званка. Ніхто не адчыніў. Яна пазваніла яшчэ. Ведала, што Баркуны любяць паспаць. Нарэшце выйшла суседка. Пазнаўшы настаўніцу, сказала, што дома ў Баркуноў нікога няма, што прыехаў сам гаспадар, вось толькі не ведае, зусім прыехаў ці толькі на адпачынак, прыгнаў «Жыгулі», а сёння прыцемкамі яны ўсёй сям'ёй некуды паехалі. Калі вернуцца, яна не ведала.

— Вы не можаце сказаць малому Баркуну, што я яго чакаю. Добра?

— Перадам, перадам,— паабяцала жанчына.

Калі Паліна падыходзіла да школы, яна ўбачыла наперадзе дзвюх дзяўчынак са свайго класа. Яны ішлі з белымі бітончыкамі, відаць, па малако ў магазін ці па квас — ля магазіна заўсёды стаяла бочка з хлебным квасам. Паліна — за імі, спадзеючыся, што яны ведаюць пра тое, пра што хацеў расказаць ёй Іван Баркун. Раптам адна з дзяўчынак азірнулася, штурханула ў бок сяброўку, азірнулася і тая. Паліна сцішыла хаду, упэўненая, што дзяўчынкі яе пачакаюць. Школьніцы ж, падалося, нырнулі ў магазін. Зайшла ў магазін і Паліна. Там дзяўчынак не было. Зірнула праз шырокае акно на чаргу каля бочкі з квасам, іх не было і ў чарзе. Падумала, што, можа, пайшлі ў абход ці затрымаліся чаго, хутка зойдуць. Вырашыла пачакаць ля магазіна. Прастаяла, можа, з паўгадзіны, але так і не дачакалася іх. Няўжо схаваліся знарок?..

Відаць, Паліну ўбачылі з акон школы, бо калі яна паднялася на другі паверх, то ў калідоры яе перастрэла сакратарка і сказала, што яе чакае дырэктар.

Савачкін у беласнежнай тэнісцы, відаць, першы раз адзетай, і ў тых жа джынсах, у якіх быў і вясной, цяпер толькі больш заляпаных машынным маслам і ў нешта зялёнае, нібы коўзаўся па маладой траве, некаму даказваў у тэлефонную трубку:

— Ды адрамантавалі мы школу, адрамантавалі, Максім Філіпавіч. І ўлічыце, што адрамантавалі без дапамогі бацькоў, не тое што ў іншых школах. Вядома, шэфы. Праўда, калідор не дафарбавалі. Не хапіла фарбы... Ну што вы мяне ўпікаеце? Я ў час адпачынку кожны дзень прыязджаў у школу, а вы... Не чакаў такога. Колькі кілаграмаў фарбы? Ды кілаграмаў дваццаць. Ну дзякую, Максім Філіпавіч... Якая рыбалка? Добра. Мой намеснік сёння ж пад'едзе. Усяго! — ён абыякава кінуў на апарат

тэлефонную трубку, выйшаў з-за стала насустрач настаўніцы.

— Вітаю вас, Паліна Сямёнаўна, вітаю! Якая вы сталі юная ды прыгожая! Як загарэлі! Адным словам, відаць, што адпачылі добра. Ну а цяпер...— Ён задумаўся і дадаў больш будзённа: — За справу. Прашу садзіцца.— Счакаў, пакуль яна села ў крэсла, што стаяла перад сталом, а потым сам усеўся на сваё месца.— Ну, якія навіны, Паліна Сямёнаўна?

— Усе ж навіны ў вас, Ігар Аляксандравіч.

— Ды ў нас жа.— Ён памаўчаў, нібы раздумваў, што сказаць далей.— Пра свой клас нічога не ведаеце?

— Ведаю, што перамаглі. Болей нічога: учора толькі з вёскі прыехалі, так што...— Яна ўспомніла Баркуна і насцярожылася. Відаць, яе прадчуванні апраўдаліся. Сапраўды, з яе класам робіцца нешта дрэннае.

— Фізрук ад нас пайшоў.

Паліна з палёгкай уздыхнула.

— Клас жа застаўся. Але...— ён замоўк, відаць, яму нялёгка было сказаць тое, што хацеў.

— Што — «але»? — не вытрывала Паліна.

— Вашы вучні таксама хочуць у новую школу.— І дапытліва паглядзеў на настаўніцу. Яна ж як сядзела, так і сядзела. Нават не варухнулася. Навіна для яе была такой нечаканай, што яна не паспела яе і ўсвядоміць.— Многія прыходзілі па дакументы. Не аддаў, вядома. Пачалі хадзіць іх бацькі. Ім, аказваецца, усё роўна, ёсць рашэнне ці не пакінуць клас цалкам у нашай школе. Там, маўляў, і школа лепшая, і выкладчыкі, і дырэктар заслужаны-перазаслужаны. І гэтак далей. І самае агіднае, што ўсе гэтыя чуткі распускаюцца толькі для таго, каб любымі сродкамі пераманіць нашых вучняў. Ніколі не думаў, што Яўген Кірылавіч здольны на такое.

— Не можа быць, каб Яўген Кірылавіч,— не магла яна паверыць у такое.

— «Не можа быць...» Вы яго добра ведаеце?

— Ён мяне некалі вучыў. З шостага класа па восьмы. Лепшага настаўніка я не сустракала. Ён за вучняў заўсёды гарой...

— Гарой, гаворыце? — ледзь прыкметна ўсміхнуўся Савачкін і дакорліва сказаў: — За славу сваю гарой, за кар'еру.— Убачыўшы, што Паліна насупілася, прымірэнча сказаў: — Ды бог з ім, можа, ён і сапраўды ні пры чым... Можа, адзін Сяргей Іванавіч заварыў гэтую кашу...

Паліна разгублена маўчала. Толькі цяпер яна пачынала ўсведамляць пачутае.

— Ясна адно, Паліна Сямёнаўна, што недзе мы недапрацавалі з вамі. Захапіліся фізкультурай, а пра выхаванне забыліся. Навука, так сказаць, наперад... А што можна зрабіць сёння?

— Можа, сустрэцца з кожным, перагаварыць?..

— Не. Не паспееце. Па-першае, мала дзён да заняткаў засталося, а па-другое, гэта не метад — упрошваць. Пачняце ўпрошваць, насы пазадзіраюць, што ні з якога боку не пад'едзеш. І ў той жа час мы не павінны аддаць клас. Гэта для нас з вамі — баявая задача. Што для гэтага рабіць? Не аддаваць вучням іх асабовыя справы. Я ніводнай не аддаў. Схаваў у сейф, і ўсё. А каб не прыставалі, гаварыў, што яны ў вас, у класнага кіраўніка. Так што, Паліна Сямёнаўна, чакайце гасцей, думайце, як абараняцца.

— А справы?

— Справы застануцца ў маім сейфе. Вось тут.— Ён кіўнуў у бок высокай зялёнай металічнай шафы, якая стаяла ў кутку, засланяючы сцяну і частку акна.—А ключ у мяне. Але ніхто пра гэта не ведае. Вы таксама. Так сказаць, запасная лінія абароны. Калі не ўстаіце перад кім, таму прыйдзецца мець справу і са мной. Вось так. Але старайцеся не паддавацца. Каго ўгаварыце, каго адпраўляйце ў райана. Але туды адпраўляйце ў выключных выпадках. Раптам не ўстояць там перад грамадскай, так сказаць, думкай. Гэта мы з вамі зацікаўлены ў гэтым класе, а там адносна... Усё ясна?

— Усё,— паднялася Паліна.

— Што сёння думаеце рабіць? — не спяшаўся развітацца дырэктар.

— Як вы сказалі, адбівацца ад бацькоў,— усміхнулася Паліна.— Займацца з вучнямі, у якіх было заданне на восень.

— Добра,— ён кіўнуў на развітанне галавой і, не дачакаўшыся, пакуль яна выйдзе, падняў тэлефонную трубку, пачаў набіраць нумар...

У настаўніцкай нікога не было. Відаць, многія настаўнікі яшчэ не вярнуліся з адпачынку. Паліна села за столікам ля самага акна, дастала падручнік, пачала гартаць яго, каб падабраць дыктант для вучняў. Але засяродзіцца ніяк не магла. Часам забывала, што яна шукае ў гэтым падручніку, механічна перагортвала старонкі, меха-

нічна прачытвала некаторыя тэксты. З галавы не выходзіла гаворка з дырэктарам.

Ёй не верылася і не хацелася верыць ва ўсё тое, што расказаў ёй Савачкін. Ну, няхай некаторыя вучні яе класа сапраўды захочуць перайсці ў новую школу. Некаму бліжэй хадзіць ці ў каго брат ці сястра ідуць у новую школу, а бацькам хочацца, каб іх дзеці хадзілі разам. Але каб хацелі перайсці ўсе, ды яшчэ так упарта, што прыходзіцца абараняцца ад іх бацькоў, у гэта яна не магла паверыць. Відаць, Савачкін усё ж перабольшвае... А можа, сапраўды ўсё зайшло вельмі далёка? Ці не пра гэта ёй хацеў расказаць Іван Баркун? Ці не таму столькі нахабства было ў фізрука пры апошняй гаворцы па тэлефоне?.. Хаця раздражнёнасць Сяргея Іванавіча можна зразумець. У яго сапраўды вельмі дрэнныя адносіны са старшым выкладчыкам Грыцкевічам. Грыцкевіч таксама да славы не абыякавы, але рабіць лянуецца, хоча жыць спакойна. А побач з Сяргеем Іванавічам, маладым, няўрымслівым, нельга рабіць абы-як. А тое, што дзеці пацягнуліся да Сяргея Іванавіча, нават вельмі зразумела. Яны даўно забыліся, як яна, Паліна Сямёнаўна, іх класны кіраўнік, ці класуха, як называюць яе паміж сабой вучні, прымушала іх хадзіць на трэніроўкі. Апошнім часам яны наогул усё болей знаходзіліся са сваім фізруком. І на трэніроўках, і на спаборніцтвах. А тут яшчэ іх чакае Артэк. А што яна для іх сёння? Патрабуе дысцыпліны, стараннай вучобы, хоча, каб яны выраслі сапраўднымі людзьмі. Ды хіба яны цэняць гэта цяпер? Можа, калі-небудзь зразумеюць, толькі не цяпер.

У вызначаны час Паліна выйшла ў калідор. Ніхто з вучняў на занятк і не прыйшоў. Відаць, забыліся ці, можа, іх яшчэ няма ў горадзе. Вучні былі не з яе класа, яна не ведала ні іх бацькоў, ні дзе яны жывуць. Дастаўшы леташнія класныя журналы, пачала выпісваць тэлефоны і адрасы, каб каму пазваніць, а да каго зайсці па дарозе.

Спачатку недзе ў калідоры за прыадчыненымі дзвярамі пачуўся жаночы голас: «Можна?», а потым у настаўніцкую зайшла загарэлая, у асляпляльнай квяцістай сукенцы жанчына з высокай прыгожай прычоскай, так што Паліна не адразу пазнала маці Вовы Бялькевіча.

— Ой, як добра, што я вас застала, Паліна Сямёнаўна.— Яна прыязна ўсміхнулася, падала сваю руку ў залатых пярсцёнках.— Гэта ж мой Вовік сказаў сёння, што вы выйшлі на работу. Ну, як адпачылі?

— Дзякую, Уладзіслава Раманаўна. Добра. А як вы? Сын?

— Сын Артэкам толькі і жыве. У Артэк Сяргей Іванавіч павязе?

— Відаць, не. Сяргей Іванавіч пайшоў ад нас.

— А вы засталіся?

— Куды ж я ад свайго класа?

— Хіба клас застаецца?

— Вядома.

— А я па асабовую справу сына....— неяк расчаравана сказала жанчына.

— Клас застаецца тут, Уладзіслава Раманаўна.

— Цікава,— нібы не верыла яна настаўніцы.— А нам казалі зусім іншае.

— Райана так вырашыў.— Паліна загарнула журналы, паклала іх назад у шафу.

— А можа, гэта вы так захацелі? — раптам са здзеклівай ветлівасцю спытала жанчына.

— І я так хачу, вядома.

— А калі мне хочацца адправіць сына ў новую школу? — зноў абаяльная ўсмешка на прыгожым твары.

Спачатку Паліна не знайшла што сказаць, а потым спыталася:

— Ваш сын гэтага хоча?

— Што сын? — яна неяк здзіўлена глянула на настаўніцу.— Усе дзеці з нашага дома ідуць у новую школу.

— Правільна, ідуць. А мой клас застаецца, я ж вам сказала.— Паліну пачынала раздражняць гэтая саладжавая няшчырасць жанчыны, яе ветлівая агрэсіўнасць.

— Няхай клас застаецца. Хіба я супраць? — раптам прымірэнча сказала Уладзіслава Раманаўна, а потым усміхнулася і цвёрдым голасам загадала: — А справу майго сына аддайце, калі ласка!

— Я ж сказала.

— Не маеце права, калі бацькі хочуць.

— А я без усялякага права вазьму і не аддам,— засмяялася ёй у вочы Паліна.— Што вы мне зробіце?

Уладзіслава Раманаўна не чакала такога, яна аж пабялела тварам, але стрымала сябе, сказала спакойна:

— Як паехаць з дзецьмі на спаборніцтва, дык вас няма. А цяпер усім хочацца да славы прымазацца?

— Не атрымоўваецца ў нас сёння з вамі гаворкі, Уладзіслава Раманаўна.

— Другога разу не будзе, даражэнькая. Вы, здаецца,

забываецеся, з кім маеце справу.— Яна ганарліва адкінула галаву назад.

— Для мяне ўсе бацькі маіх вучняў аднолькавыя,— сказала знарок Паліна, разумеючы, што самае горшае для Уладзіславы Раманаўны — гэта быць аднолькавай.

— Не навучыла вас жыццё, але нічога, навучыць яшчэ.— Яна змерала настаўніцу зняважліва-насмешлівым позіркам і ўжо ў дзвярах прыгразіла: — У зубах прынесяце мне гэтую справу.

У голасе Уладзіславы Раманаўны было столькі жорсткасці, што яна цяпер ніяк не была падобная на тую пакрыўджаную і няшчасную жанчыну, якой Паліна запомніла яе, калі тая некалі скардзілася на свайго мужа.

Паліне здавалася, што яе вочы так набраклі слязамі, што варта ёй выйсці на вуліцу — і ўсе ўбачаць гэта. У вестыбюлі яна мімаходзь глянула ў люстэрка, якое вісела на сцяне ля століка дзяжурнай,— яе вочы былі такія ж, як і заўсёды, толькі крышачку прыжмураныя і нібы пацямнелі.

У двары школы Паліне сустрэліся яшчэ некалькі жанчын.

— Мы да вас,— сказала адна з іх.

— Заўтра,— настаўніца не спынілася ля іх, а яшчэ і паскорыла крок, хаця разумела, што трэба было б спыніцца, пагутарыць, але адчувала, што сілы ў яе не хопіць на гэта. Варта ёй пачуць ад іх хоць трошкі крыўднае слова, яна не стрывае, расплачацца.

Васіль быў дома. Ён, відаць, толькі што вярнуўся, бо плашч яго ляжаў у зале на канапе, а сам ён як быў у гарнітуры і пры гальштуку, так і выйшаў на балкон, дзе на вяровачцы для бялізны развешваў лешчыкаў.

— Некаторыя адсырэлі, хай праветрацца.— І спытаў: — Ну, як там у цябе? Хваліся...

— Нічога.— Яна стомлена села на канапу, разула свае на высокіх абцасах туфлі, у якіх за дзень разбаліся ногі.— А ў цябе якія навіны?

— Анічога вясёлага. У першым семестры далі дадатковы курс па алгебры. У верасні едзем на бульбу. Мяне прызначылі адказным за першыя курсы. Намеснік дэкана развёўся з жонкай, сышоўся з нейкай завочніцай, таксама замужняй. Будзе звальняцца. Пра мае даследаванні ўсе маўчаць, нібы нічога не адбылося. Відаць, зайздросцяць. Але нічога, загавораць. У мяне наклёўваецца такая ідэя, што ўсе ахнуць. Калі, вядома, зразумеюць. Ну,

як адчуваеш сябе? — апошнім часам пра што б ні расказваў Васіль, заўсёды свой расказ закругляў цікавасцю пра яе самаадчуванне.

— Ды нічога,— адказала Паліна.

— Можа, сходзім у кіно? А то пачнуцца заняткі, тады...

— Павінен жа прыйсці Іван Баркун. Яго раніцай я не застала.

— Нікуды не дзенецца твой Баркун...

## УСПАМІНЫ

Яшчэ тады, калі Паліна толькі што прыняла чацвёрты клас і пачынала знаёміцца з вучнямі, Іван Баркун нічым не выдзяляўся. Вучыўся амаль на пяцёркі, быў такі ж паслухмяны, як і ўсе. І ў сям'і Баркуноў, як падалося ёй спачатку, было ўсё нармальна.

Жылі Баркуны ў трохпакаёвай кватэры. Ва ўсіх пакоях стаяла цёмна-карычневая стандартная мэбля. У Івана быў свой пакой — у большасці яе вучняў свайго пакоя не было,— там стаяў драўляны вузкі ложак, пісьмовы стол, паліца для кніг...

Пры першым знаёмстве спадабалася настаўніцы і маці, Еўдакія Пятроўна. Спакойная, нетаропкая ў рухах, хударлявая, з абветраным адкрытым тварам.

Яна рабіла тынкоўшчыцай на будоўлі. У яе былі мускулістыя рукі, шырокія шурпатыя далоні. Пра сына яна нічога не сказала тады.

— Хай стараецца, хай вучыцца. Для сябе ж.— І пачала расказваць пра сваю дачку, якая вучылася ў медыцынскім вучылішчы, вучылася выдатна, атрымоўвала павышаную стыпендыю.

— За дзяцей я не баюся, добрыя дзеці ў мяне растуць,— закончыла свой расказ Еўдакія Пятроўна звычайна, будзённа.— Любяць вучыцца, будуць любіць і працаваць. А што яшчэ трэба?

Паліне спадабалася тады гэтая працавітая сям'я, дзе проста няма месца лайдакам. Праўда, з бацькам Івана Баркуна ёй не ўдалося сустрэцца, яго не было дома.

Якая ж яна тады была наіўная, як не ўмела разбірацца ў людзях! І зусім яна не разабралася ў сям'і Баркуноў. Лічыла, што там усё нармальна, не заходзіла да іх так часта, як да другіх, ды і не было патрэбы. Праўда, хлопчык часта хварэў, але гэта не вельмі насцярожвала

яе, бо ён, нягледзячы на пропускі, вучыўся лепш за моцных сераднякоў. Быў амаль выдатнік. Толькі ў шостым класе пачаў займацца горш, дык усе дзеці ў шостым класе знізілі сваю паспяховасць з-за частых спартыўных трэніровак.

Відаць, Паліна не зведала б усёй праўды пра сям'ю Баркуноў, каб не адзін выпадак.

Неяк вясной Іван Баркун некалькі дзён запар не з'яўляўся на занятқі. Паліна асабліва не ўстрывожылася, думала, што хлопчык зноў захварэў: той парою якраз хадзіў грып. Қалі ж яна папрасіла вучняў занесці Баркуну дамашняе заданне і наогул праведаць яго, то ёй сказалі, што ён сышоў з дому...

Дзверы адчыніла сама Еўдакія Пятроўна. Яна сустрэла настаўніцу зусім абыякава.

— Праходзьце,— запрасіла яна, спынілася ў калідоры, чакала, што ёй скажуць.

Яна была ўсё такая ж хударлявая, з моцнымі далонямі, з загарэлым тварам, толькі на гэты раз на ёй быў нейкі стракаты замежны халат з мноствам мудрагелістых карункаў, якія ніяк не пасавалі да яе твару.

— Вашага сына няма два дні на занятках,— сказала разгублена Паліна, збянтэжаная такой негасціннасцю гаспадыні.

— Яго ж дома няма,— нават здзівілася такой прэтэнзіі Еўдакія Пятроўна.— Як жа ён можа быць у школе?

— Вы яго куды паслалі? — настаўніца была ўпэўнена, што маці ведае, дзе яе сын.

— Не, не пасылала. У двары гаварылі, нібы ў лес з хлопцамі пайшоў.

— І вы так спакойна...

— А чаго мне хвалявацца? Не маленькі. Ведае, што робіць.

— Ён жа можа адстаць у вучобе, і наогул, ці мала што можа з ім там здарыцца?

— Пойдзе на будоўлю, я меней за яго скончыла — і вось,— яна развяла рукамі, нібы запрашаючы Паліну паглядзець, чаго яна дасягнула ў жыцці і са сваёй невялікай адукацыяй. Паліна міжвольна акінула праз адчыненыя дзверы залу, там стаяла тая ж мэбля, якая была і тады, калі яна прыходзіла першы раз. Толькі ў буфеце было аж цесна ад крыштальнага посуду ды сярод пакоя стаяла высокая керамічная ваза з вялізным пучком карычневых пуховак.

— Ён жа здольны ў вас.

— А здольным усюды добра.

— Але ж адукацыя... Яна...— Паліна не знаходзіла патрэбных слоў у абарону адукацыі, адчувала, што гэтую жанчыну не пераканаеш ніякімі словамі.

— Адукацыя...— хмыкнула Еўдакія Пятроўна.— Ой, ды што ж мы так стаім? Праходзьце.— Яна прайшла ў залу, усадзіла настаўніцу на канапу, сама села на крэсла, што стаяла ля сцяны насупраць.— Дык я кажу, што ад той адукацыі жыць лепей не станеш. Не веру я ў гэтую адукацыю. У мяне яе няма, у мужа — таксама. А жывём не горш за іншых адукаваных. У нашым пад'ездзе жывуць адукаваныя. Студэнтаў вучаць. З тоўстымі партфелямі ходзяць. А паглядзелі б у кватэры. Пуста. Ды адкуль яно ў іх будзе? У іх жа зарплата, і ўсё. А я маю столькі, колькі трэба. Кожны ж хоча сваю кватэру адрамантаваць, але не кожны ўмее. Вось і бягуць да мяне. А я яшчэ падумаю, да каго пайсці. Адукацыя...— Яна не магла вымаўляць гэтае слова без адкрытай насмешкі.— Мая дачка закончыла тэхнікум. Адзінаццаць гадоў галаву сушыла. І што? У горадзе нават работы не знайшлося. Паехала ў вёску.

Вось і прыходзіцца неадукаванай маці памагаць адукаванай дачцэ. Дык ёй жа мала таго, што адзінаццаць год жыцця не бачыла, яна яшчэ хоча ў інстытут паступаць. Зноў маці ды бацька памагай. Я ў яе пытаюся, калі ж ты, дачушка, жыць думаеш? Маўчыць. Яна думае, што сто гадоў жыць будзе. Маладая яшчэ. Так што мне няма як за сына журыцца. Хоча вучыцца, няхай вучыцца, не хоча — не трэба. А работы ў нас усім хопіць. І вучоным і невучоным. Рабочыя заўсёды трэба. Галоўныя людзі. Мой муж таксама просты рабочы. Электрамеханік, дызеліст, токар, электразваршчык, будаўнік. Усё можа. А цяпер недзе ў акіяне рыбу ловіць. Праз год прыедзе. Машыну будзем купляць. Гараж купілі. Яму сказала, ніякай машыны, пакуль не будзе гаража. Нечага, каб кроўна зробленыя ржавелі пад дажджом. Ды гаражы дарагія. На машыну не хапае. І наогул, хай пазарабляе, пакуль рыба водзіцца... Яно на простую машыну хапіла б, але мы хочам «Волгу». Прыедзе, пойдзе працаваць на любы завод. Возьмуць. Спецыяліст добры, не п'е. А на заводзе — гэта не ў вашай школе. Там адрабіў сваё — і дамоў. Галава ні пра што не баліць...

Паліна спадзявалася, што лёс сына яе ўсё ж хвалюе, і таму сказала:

— А раптам сядзецца з якой кампаніяй? У шкоду якую трапіць? Сапсуе сваё жыццё на самым пачатку...

— Нічога,— махнула рукой жанчына.— Школа, міліцыя, грамадскасць не дадуць звіхнуцца. Ды і я. Ды і сам, здаецца, не дурны.

— Але трэба зараз памагаць яму, падказваць, як жыць, калі яго вучоба вас не хвалюе.

— Хай сам вучыцца жыць. А то паглядзіш на іншых, дарослыя, а як дзеці. Прывыклі, каб іх няньчылі... Пажэняцца, дзяцей пазаводзяць, а ім усё бацькі памагай... У мяне ёсць адна знаёмая. Трымціць над дзецьмі, як курыца. Дакудахталася да таго, што дзеці не тое што хату падмесці не ўмеюць, а ў магазін па хлеб схадзіць не хочуць. А як жа? А раптам там чарга?.. А таго не ведаюць, што цяпер без чаргі нідзе нічога. Жыццё такое, што рахманым нельга быць. Прападзеш. У нас у брыгадзе хто рахманы, маўчыць, дык і заробкі такія. А хто не маўчыць, яму і нарад, і ўсё.

— Еўдакія Пятроўна, няўжо жыццё толькі ў тым, каб болей зарабіць? — Паліну пачыналі раздражняць разважанні жанчыны.— Няўжо вы хочаце, каб ваш сын стаў хапугам? — спытала Паліна і разгубілася, падумаўшы, што, можа, гэтым пытаннем пакрыўдзіла жанчыну. Але гаспадыня не пакрыўдзілася, а нават з нейкай адкрытасцю прызналася:

— Не хачу, каб мой сын быў горшы за людзей, але і лепшым не трэба быць. Няхай расце такім, як усе. Не хоча вучыцца, няхай не вучыцца. Потым у вячэрнюю будзе хадзіць.

— Хаця б прасачылі за ім, як ходзіць у школу. Апошнім часам пачаў хадзіць неахайны...

— А можа, адразу з лесу. А вы не пускайце яго такога,— папрасіла жанчына.— Хай прыйдзе дамоў, пераадзенецца. А то ў мяне не заўсёды час ёсць прыглядзець за ім. Цэлымі днямі на рабоце, асабліва ў канцы месяца, ад цямна да цямна...

— Ну добра, Еўдакія Пятроўна, не будзем з вамі спрачацца,— спакойная разважлівасць жанчыны супакоіла і настаўніцу.— Добра, што вы прывучаеце сына да самастойнасці. Але ён яшчэ не такі дарослы, каб зусім за ім не глядзець. Вы ўсё ж прышліце яго ў школу, як вернецца. Я пагавару з ім...

— Я таксама з ім пагавару, няхай толькі вернецца,— паабяцала Еўдакія Пятроўна.— Прыбяжыць у школу як міленькі.

Назаўсёды запомніла Паліна тую сустрэчу. І не толькі таму, што яе ўразілі погляды Еўдакіі Пятроўны, а таму, што яна, настаўніца, вучыць сваіх дзяцей, і вельмі часта нават не ўяўляе, як і чаму дзяцей вучаць дома бацькі. Аказваецца, не аднаму і таму ж. Каму ж дзеці вераць? Настаўнікам ці бацькам? А можа, вераць і тым і другім? І паводзяць сябе адпаведна. І вырастуць раздвоенымі, прыстасаванцамі. Не, так нельга выхоўваць, трэба добра ведаць ёй, настаўніцы, чым жыве сям'я кожнага яе вучня. А без гэтага ўся работа ў школе можа страціць усялякі сэнс і прывесці не да таго, да чаго імкнешся.

Паліна тады ж надумала пабыць яшчэ дома ў кожнага вучня, распытаць у бацькоў, чаго яны чакаюць ад сваіх дзяцей, каб ведаць, як адносіцца да кожнага вучня, на што звяртаць увагу, што ад яго патрабаваць. Яна часцей стала бываць у школьнікаў дома, часцей праводзіла бацькоўскія сходы. З жахам заўважала, што ў яе на ўсё гэта не хапае часу, што пра ўсіх усё ведаць немагчыма, ва ўсякім выпадку, у тыя тэрміны, якія яна вызначыла сабе. І таму яна абрала некалькі вучняў, на якіх трэба было звярнуць найбольшую ўвагу, і большасць часу аддавала ім.

Іван Баркун быў у яе на першым месцы. Яна разумела, што маці ніякая не памочніца ёй у выхаванні сына, а толькі можа яшчэ нашкодзіць, і таму старалася, як умела, сама, каб Іван Баркун зусім не адбіўся ад рук, не страціў цікавасці да вучобы...

Пасля некалькіх дзён бадзяння немаведама дзе Баркун прыйшоў у школу. Ва ўсёй яго паставе была нейкая баязлівая насцярожанасць. Ён, бясспрэчна, ведаў, што настаўніца была ў яго дома, і цяпер баяўся, што праверыць, як ён падрыхтаваў урок. Але Паліна ні пра што не стала ў яго пытацца, а толькі тады, калі збіралася выклікаць каго да дошкі, выразна паглядвала на Баркуна і бачыла, як той нізка апускаў галаву, нібы ўвесь урастаў у парту, і выклікала другога вучня. Яна і іншых настаўнікаў папрасіла, каб у гэты дзень яго не чапалі. А пасля ўрокаў пайшла да яго дамоў.

Яшчэ здалёк Паліна ўбачыла Баркуноў партфель з вялізнай чарнільнай плямай, які стаяў прыхілены да

спінкі зялёнай, з тонкіх жэрдачак лаўкі ля пад'езда. Самога ж гаспадара партфеля нідзе не было відаць. Яна села на лаўку і стала чакаць. І сапраўды, Іван Баркун хутка прыбег. Ён ішоў у расхрыстаным плашчыку з прапаленым унізе крыссем, апусціўшы галаву, пра нешта сам з сабой разважаў, узрушана размахваючы адной рукой, быццам нешта некаму даказваў. Убачыўшы настаўніцу, спыніўся, ад нечаканасці прыкметна разгубіўся.

— А я тут партфель твой вартую,— усміхнулася яна.

— Я да маці на работу бегаў. Па ключ. Недзе згубіў свой.

— Узяў?

— Не. Кажа, сама хутка прыйдзе. А гэта пасля чатырох будзе. А ў пяць трэніроўка.

— А чаму ж яна не дала табе ключ?

— А каб свой не губляў, кажа.

— Не абедаў?

— А дзе ж я паабедаю? — усміхнуўся ён.

— Вось што,— Паліна паднялася.— Бяры свой партфель і пайшлі да мяне. Пайшлі, пайшлі, да чатырох яшчэ далёка. Не ісці ж табе на трэніроўку галодным.

Па дарозе маўчалі. Яна ні пра што ў яго не распытвала, каб не насцярожыць хлопчыка. За абедам яны, праўда, разгаварыліся, але не пра вучобу і яго ўцёкі ў лес, а пра любімыя справы, пра тое, чым яго звычайна корміць маці. Яна даведалася, што Еўдакія Пятроўна ў выхадныя дні пячэ смачныя пірагі з мясам ці рыбай, а то і з грыбамі, а ў будзённыя дні абеды бярэ на дамавой кухні, бярэ тое, што ёсць. Пасля абеду хлопчык падышоў да кніжных паліц у зале і стаў разглядаць кнігі. Некаторыя даставаў, гартаў.

— А ў цябе ёсць дома якія кнігі? — спытала Паліна, калі выйшла з кухні, памыўшы посуд.

— Мала. Ды і тыя абы-якія. Каб паліцы не пуставалі. Маці недзе купіла некалькі. Кніжкі прыгожыя. Там яблыкі, вішні ўсялякія намаляваны, а чытаць нецікава.

— У бібліятэцы бярэш?

— Бяру, але мала.

— Не любіш чытаць?

— Дарослых не даюць, а дзіцячыя ўсе перачытаў.

— Ваня, а час у цябе на кнігі ёсць?

— Абы кніжка цікавая...

— А якую цікавую ты апошнім часам прачытаў?

...Тады яны доўга гаварылі з ім пра кнігі, гаварылі і

пра тое, што кніга такая рэч, якая цаны не мае. Вось прачытаеш, напрыклад, пра Сцяпана Разіна, і нібы сам разам з ім ваяваў з царскімі прыгнятальнікамі. І на ўсё жыццё тыя падзеі застаюцца ў памяці. А што такое жыццё? Гэта ж наша памяць. Ну і тое, што пра цябе людзі помняць. І наогул, калі багата ведаеш пра гісторыю, пра людзей, пра нашу зямлю, то смялей жывеш, адчуваеш сябе, як у абжытым доме, а не ў гасцях. І ўсё — кнігі. Дзякуючы ім пражывеш не толькі адно сваё жыццё, а яшчэ сотні іншых...

— Ды што гэта мы з табой усё пра кнігі ды пра кнігі,— засмяялася Паліна.— У школе пра кнігі, тут пра кнігі. Давай лепей у шашкі.

Згулялі два разы, і два разы Паліна прайграла. Івану Баркуну было сорамна, што абыграў настаўніцу, і болей гуляць адмовіўся, падняўся, сказаў, што яму пара дамоў.

— Хочаш што ўзяць пачытаць?

— Калі можна,— не адмаўляўся Іван Баркун.

Яна выбрала кнігу.

— Спадабаецца, возьмеш новую.

На наступны дзень Паліна зноў пайшла міма дома, дзе жыў Баркун. Ні яго, ні партфеля на гэты раз не было. Ці хлопчык быў дома, ці, убачыўшы настаўніцу, схаваўся куды. Не бачыла яна яго і на трэці дзень. А на чацвёрты яна сустрэла яго ля свайго пад'езда.

— А я вам, Паліна Сямёнаўна, кніжку прынёс.

— Добра. Прачытаў?

— Ыгы.

— Яшчэ возьмеш?

— Калі можна...

— Ну зойдзем,— запрасіла яго да сябе.

Іван Баркун кнігу ўзяў, але абедаць адмовіўся, запэўніў настаўніцу, што ён і дома паабедае, што ў яго ўжо ёсць ключ,— маці заказала слесару,— ён нават выняў з кішэні і паказаў жоўценькі ключ на матузку.

— Дык ты заходзь, не саромейся, як захочацца пагуляць у шашкі ці пра кнігі пагаварыць,— запрасіла яго Паліна.

Ён падзякаваў за запрашэнне і развітаўся. Яна праводзіла яго позіркам, стоячы ў адчыненых дзвярах, пакуль ён не знік на лесвіцы ніжэйшага паверха. І з радасцю заўважыла, што ў Баркуна адбыліся прыкметныя змены нават знешне. Плашч быў усё той жа, з прапалі-

най, але штонікі былі адпрасаваны, што аж стрэлачкі былі добра відаць, і чаравікі са стаптанымі абцасамі былі наваксаваны да бляску.

Паступова Іван Баркун асвоіўся і пачаў часцей бываць у Паліны. Цяпер ён не толькі мяняў кнігі, а часам і пра што-небудзь распытваў, закідваў пытаннямі Васіля.

— Яшчэ аднаго такога цікаўнага прыручыш, і мне хоць з дому ўцякай,— бурчаў той, але ўсё ж любіў пагуляць з Баркуном у шашкі.

А аднойчы, гэта ўжо было ўзімку, Іван Баркун пазваніў ім у дзверы вельмі позна, пасля дзесяці гадзін вечара. Папрасіў прабачэння, потым доўга абцярушваў са сваіх лыжных чаравікаў наліплы снег — на вуліцы якраз мяло,— спытаў, ці можна трошкі пабыць у іх.

— Я вось тут трошкі пасяджу,— і ён усеўся ў калідоры на скрынку для абутку.

— Ды праходзь жа, Ваня,— запрасіла яго Паліна.

— Не, дзякую,— і паказаў позіркам на свае ногі.— Толькі слядоў нараблю. На вуліцы такі мокры снег, ліпне...

— Нічога, снег не гразь.

— Ідзі сюды, перад сном у шашкі згуляем,— паклікаў яго Васіль.

Іван Баркун пачаў разувацца.

— Не трэба, падлога халодная,— сказала яму Паліна і вынесла з ваннай анучу,— вось вытры ногі, калі ўжо такі акурацiст, ды і праходзь.

Іван Баркун гуляў у той вечар няўважліва. Прайграў раз і другі. Васіль сабраў шашкі ў скрыначку.

— Нешта сёння ў нас гульня не клеіцца. Расказвай, што там у цябе здарылася...

— Ды бацька з маці...— неахвотна прамовіў Іван Баркун. Відаць, яму зусім не хацелася расказваць пра свае сямейныя справы.

— Ваня, твой бацька прыехаў? — спытала Паліна, адарваўшыся ад сшыткаў, якія яна тут жа за сталом у зале правярала.

— Прыехаў учора. Ноччу. З раніцы спаў, а пад вечар агледзеўся, што маці крышталю накупіла ды талерак усякіх, ну і раскрычаўся. Што грошай не хапае на машыну, што ў яго здароўе не жалезнае. Там такі скандал цяпер... Я не магу, калі лаюцца.

— І правільна зрабіў,— сказаў яму Васіль.— Ты заўсёды так рабі, як што — ідзі да нас. Я і то ад свае бегаю,

калі пачынае на мяне бурчаць. Падымаюся і іду гуляць вакол дома, пакуль не выбурчыцца... Так і павінны рабіць сапраўдныя мужчыны.

Пасля таго вечара паміж настаўніцай і вучнем узнікла сапраўдная шчырасць. Іван Баркун заўсёды расказваў ёй усё, што яго турбавала, заўсёды слухаў яе парады.

На твары хлопчыка не было цяпер той насупленасці, якая станавілася ўжо прывычнай, а часцей ён свяціўся па-дзіцячы адкрытай усмешкай....

## РАНІЦА

Доўга не спалася Паліне ў гэтую ноч.

Калі яна была ў школе, гутарыла з дырэктарам, спрачалася з ганарлівай і капрызлівай Уладзіславай Раманаўнай, а потым хадзіла з мужам у кіно, яна не так пакутліва думала пра ўсё тое, што адбывалася з яе класам. Цяпер жа, калі была ноч, Паліну апаноўвалі сумненні, крыўда на ўсіх, хто не разумеў яе і быў, аказваецца, абыякавы да яе старанняў...

Узяць хаця б бацькоў яе вучняў. Хадзілі на бацькоўскія сходы, слухалі лекцыі, гутаркі, віншавалі яе са святамі, не скупіліся на кветкі, у сябе дома сустракалі, як родную, запрашалі за стол, частавалі... А цяпер, калі іх дзяцей накіроўвалі ў Артэк, калі іх павінен быў везці туды Сяргей Іванавіч, многія з іх адвярнуліся ад яе, больш таго, лічаць, што яна стала на дарозе іх дзяцей, яна, Паліна, якая, можа, больш за ўсіх у школе зрабіла, каб клас стаў спартыўным. А можа, яе намаганні ніхто і не заўважыў, можа, яны і сапраўды нікому не патрэбны? Можа, трэба было паслухаць мужа, які раіў ёй асабліва не старацца, усё роўна ніхто дзякуй не скажа.

Сам жа Васіль так і жыве. Пойдзе, адчытае студэнтам свае лекцыі і ніколі не турбуецца, слухаў яго хто ці не слухаў, зразумелі яго ці не. Маўляў, дарослыя, не зразумелі чаго, дык хай пытаюцца, за вушы цягнуць іх не збіраецца. Усе свае веды пакажуць на экзаменах. Не хоча каторы вучыцца, не трэба, а хоча — няхай вучыцца. І калі ён з-за чаго трывожыцца, дык толькі з-за сваіх матэматычных разлікаў, асабліва калі ў яго не сыходзяцца канцы з канцамі. Тады працуе як вол, не спіць начамі.

Можа, у навуцы так і можна?

Але што ж будзе з грамадствам, калі ўсе пачнуць так жыць?

Асабліва ў школе... Чаму навучаць яны, настаўнікі, дзяцей, якія возьмуць заўтра жыццё ў свае рукі?

Хіба была б Паліна такой сёння, каб не сустрэўся на яе жыццёвым шляху такі настаўнік, як Яўген Кірылавіч? Гэта толькі зайздроснікі гавораць, што ён усё жыццё ганяецца за славай, робіць сабе кар'еру, а ён заўсёды аддаваў сябе дзецям, школе. І гэта бачылі ўсе, цанілі... Пры чым тут кар'ера? Выходзіць, лухту ёй гаворыць Васіль, калі даказвае, што за яе старанні ніхто і дзякуй не скажа. Скажуць... Ды хіба дзеля гэтага яна працуе?

Паліна перавярнула падушку. Можа, ёй не спіцца, што падушка разагрэлася?

Яна перавярнулася і сама на другі бок, улеглася ямчэй, пастаралася ні пра што не думаць. Але думкі самі лезлі ў галаву яшчэ з большай упартасцю. Тады яна пачынала лічыць, але недзе пасля сотні збівалася і зноў думала пра вучняў.

Прачнулася на досвітку з цяжкай галавой. Падымацца было яшчэ рана, і яна, каб не разбудзіць Васіля, ляжала ціха, не варушылася нават, спадзеючыся яшчэ заснуць...

Чула, як на вуліцы за вокнамі шоргае дзеркачом дворнік.

Напружвала слых, калі чула якія крокі на лесвіцы...

Няўжо яна і сапраўды так чакае Івана Баркуна? Што ён можа новага сказаць ёй цяпер, калі яна фактычна ведала ўсё? А можа, і не ўсё? Калі Баркун хоча сустрэцца з ёй, значыцца, ён не думае пераходзіць у новую школу? А можа, ён і не адзін такі? Можа, большасць вучняў не хочуць пераходзіць? Да яе ж прыходзіла, можа, якая толькі трэць бацькоў. Чаму ж яна раней так не падумала, не пацікавілася, колькі вучняў хоча застацца ў старой школе? Тады б, можа, не было ніякіх праблем. Урэшце, можна і адпусціць тых некалькі чалавек, якія ўжо так хочуць бегчы за фізруком. Ніхто ж не гаварыў ёй, што ўсе хочуць перайсці. А дырэктар? Ён таксама гэтым не цікавіўся. Ён проста не хоча адпускаць ніводнага вучня. Прыйшло некалькі бацькоў па асабовыя справы, вось і падняў паніку...

Але і такія разважанні мала супакойвалі яе.

Зразумеўшы, што ёй сёння болей не заснуць, падня-

лася. Паспрабавала зрабіць некалькі гімнастычных практыкаванняў, але ўсё цела было як не сваё. Аблілася пад душам цеплаватай вадой, добра расцерлася махнатым ручніком. Стала лягчэй. Знікла цяжкая лянота, млявасць у целе, неяк пасвяжэла ў галаве. Прычэсваючы валасы перад люстэркам у калідоры, яна разглядала свой твар, па якім цяпер нікольki не было відаць, што яна не выспалася,— круглы, ружовашчокі ад вады і ручніка. Можа, толькі вочы блішчаць крыху больш, чым звычайна... Ёй прыемна было бачыць сябе маладой, прыгожай, прыемна было расчэсваць свае доўгія, густыя косы. Такіх кос не было ні ў кога ў школе. Адна настаўніца, якая раней часу пачала лысець на патыліцы, відаць, ад празмернага ўжывання касметыкі, доўга хадзіла ўслед, усё ўпрошвала Паліну прадаць ёй сваю касу на шыньён. Успомніла тую настаўніцу, міжвольна ўсміхнулася. Усмешка атрымалася нейкая занадта ўжо бяздумна-радасная... «А мы яшчэ паваюем»,— сказала ўслых. І ці ад гэтае свае нечаканай усмешкі, ці ад таго, што ў пакоі было светла і сонечна, яна не так пакутліва думала цяпер пра сваіх вучняў, пра іх бацькоў...

Дзынкнуў званок, кароткі, асцярожны.

Паліна кінулася да дзвярэй, адчыніла. У дзвярах стаяў Іван Баркун у сінім спартыўным трыко, у замурзаных кедах. Бялявыя ад сонца, даўнавата не стрыжаныя валасы тырчалі ў розныя бакі. Відаць, як прачнуўся хлопец, так і не прычэсваўся.

— Заходзь, заходзь,— запрасіла яна яго ў кватэру, правяла на кухню. Ручніком выцерла свае рукі, падсунула вучню табурэтку.— Ну, сядай, калі ласка...

— Дзякую, я хуценька,— адмовіўся ён садзіцца.— Я ўчора да вас заходзіў увечары. Ды цёмна было. Не стаў званіць, каб не будзіць. Учора мы позна прыехалі.

— У грыбы ездзілі?

— Ыгы.

— Можа, чаем пачаставаць?

— Дзякую, Паліна Сямёнаўна. Мы зноў у лес едзем, дык я на хвілінку.

— Грыбоў багата? — яна ўсё ж наліла чайнік і паставіла на пліту.

— Як дзе. Не пападаюцца ў адным месцы, пераязджаем у другое. На машыне, дык добра. А ўчора не адзін лес аб'ехалі, і ўсюды пуста, а потым ужо вярталіся дамоў, заехалі ў беразнячок сярод поля. Невялічкі такі...

Ніхто не падумаў бы, што там грыбы,— яго вочы гарэлі захапленнем.— Цэлы кошык нарэзалі! Адных чорнагаловікаў! Ды моцныя, як каменні...

— Цяпер табе і вучыцца не будзе калі,— заўважыла Паліна.

— Буду. Бацька сказаў, каб вучыўся. Сказаў, каб дзесяць канчаў, а потым у інстытут. Кажа, паездзіў па свеце, паглядзеў, вучоным лягчэй жывецца...

— Цікавей,— паправіла яго настаўніца.

— Я разумею,— ахвотна пагадзіўся Іван Баркун.— Гэта бацька так кажа. Я сам вучыцца хачу. Каб усё ведаць.— Раптам без усялякай паўзы выпаліў: — А ведаеце, Паліна Сямёнаўна, наш фізрук ходзіць па кватэрах і ўгаворвае ўсіх нас, каб пераходзілі ў новую школу.

Паліна, каб схаваць сваю разгубленасць, нагнулася над чайнікам, паглядзела, ці не закіпела вада, спакойным голасам спыталася:

— І што ж ён кажа?

— Абы-што,— неяк вяла сказаў Іван Баркун, не ўбачыўшы зацікаўленасці ў настаўніцы.

— А ўсё ж? — яна дапытліва глянула на школьніка, не зразумеўшы яго нясмеласці.— Што?

— Ну і што школа там лепшая, і што настаўнікі там лепшыя, што ён нас зробіць разраднікамі, што нам будзе адкрыта дарога... А ў старой школе ніхто з намі вазіцца не будзе. І наогул... Гаворыць усялякую лухту. Праўда, Паліна Сямёнаўна,— Баркуну, відаць, падалося, што яму не верыць настаўніца.— Толькі мы яму не вельмі верым. Некаторыя хочуць пераходзіць. Хто, я не ведаю. Усіх не ведаю. Я не хачу. Я фізруку адразу сказаў, што нікуды не пайду. Кажу, каб яшчэ Паліна Сямёнаўна пайшла, тады б, а так не... Света Кулеш таксама не пойдзе, не пойдзе Вова Бялькевіч...

— Бялькевіч? — не паверыла Паліна.

— Ыгы,— пацвердзіў Іван Баркун.— Маці яго хоча перавесці, а ён яе не слухае. Ён там, дзе і Света Кулеш. А Света Кулеш не пойдзе, яна хоча быць настаўніцай, як і вы... Яна і касу такую носіць, як у вас... Але трэба, каб усе засталіся. Вы, Паліна Сямёнаўна, прыдумалі б што...

— Прыдумаем, прыдумаем,— ціха сказала яна.

Паліна не магла гаварыць гучней, не хацелася выдаваць свайго хвалявання.

— Не хвалюйся, Ваня, усё будзе добра.

— Вы таксама не хвалюйцеся, Паліна Сямёнаўна.

Нас таксама ніхто з курсу не саб'е,— сказаў весела Іван Баркун.

Відаць, гэтыя словы ён пераняў у бацькі, бо яна раней ніколі не чула іх ад яго.

— Вось і чайнік зашумеў, пакуль мы тут гаварылі...

— Дзякую, Паліна Сямёнаўна. Пабягу. А то мяне ж недзе чакаюць. Сёння паедзем па ажыну. Учора спыніліся перад мостам, што праз Дняпро, спусціліся з бацькам уніз, а там зараснікі ажыны. А ягад аж чорна. Сёння туды з раніцы. Ягады спелыя-спелыя.

— Ну шчасліва! — яна зачыніла за ім дзверы, на кухні выключыла газ. Пачула, як муж зашамацеў газетамі, з якімі ўчора лёг ды і заснуў адразу, а яны так і праляжалі ў галовах усю ноч.

— А да мяне Баркун заходзіў,— заглянула яна ў спальню.

— Чуў,— ён кінуў адну газету на падлогу, разгарнуў наступную.— Гэта нейкі бандытызм.

— У газетах?

— У вас. Я не вельмі кемлю ў вашай педагогіцы, але здаецца, што яго трэба гнаць са школы. І што пра вас, настаўнікаў, падумаюць цяпер іх бацькі, ды і самі вучні? Ва ўсякім выпадку, болей паважаць не стануць.

— Можа, пазваніць Яўгену Кірылавічу? — спыталася Паліна.— Можа, ён і не здагадваецца, што ў яго пад бокам робіцца?

— Канечне. Абавязкова пазвані і раскажы ўсё. Хай спыніць гэтага дурня. Так і скажы, не саромейся. Трэба называць рэчы сваім імем.— І філасафічна закончыў: — Людзі, грамадства шмат трацяць у сваім развіцці, што развучыліся называць белае белым, чорнае чорным. Блытаніна і недакладнасць вядзе да вялікіх непаразуменняў.

Паліна глянула на гадзіннік, бадай што, Яўген Кірылавіч ужо прачнуўся. Ён жа заўсёды рана прачынаецца. Казаў неяк, што з раніцы паўтары гадзіны займаецца фізкультурай. І сапраўды, як толькі яна набрала нумар, адразу ж ён адгукнуўся, нібы стаяў ля тэлефона і чакаў яе званка.

— Што ў вас новенькага, Яўген Кірылавіч? — неяк не адважылася яна адразу загаварыць пра фізрука.

— Нармальна. Вось учора завезлі абсталяванне для кабінетаў. Нават для філалагічных. Шафы, магнітафоны, тэлевізары, экраны. Усім настаўнікам значна будзе аблег-

чана работа. Так што, калі ласка! Сур'ёзна. Трымаю месца, спадзяюся, што вы яшчэ перадумаеце. Шкадаваць не будзеце, Паліна Сямёнаўна.

— Дзякую, Яўген Кірылавіч. Я ведаю, што горш не будзе. Але...— Яна не знайшла, што сказаць у сваё апраўданне.— А як там Сяргей Іванавіч?

— Здаецца, стараецца.

— Стараецца... А вы ведаеце, што ён ходзіць па кватэрах і агітуе маіх вучняў пераходзіць у вашу школу?

Яўген Кірылавіч адказаў не адразу, а потым загаварыў падкрэслена раздражнёна:

— І не здагадваўся, Паліна Сямёнаўна. Гэта ж чорт ведае што, калі толькі праўда,— здавалася, Яўген Кірылавіч не знаходзіў слоў для абурэння.— Я не магу нават паверыць, што ён здольны на такое. Які ж ён педагог пасля гэтага?

— Вось іменна,— падтрымала яго і Паліна.— А ўяўляеце, як падзейнічае гэта на школьнікаў? Больш антыпедагагічнага нічога і прыдумаць нельга. Гэта ж бандытызм, як кажа мой муж.

— Праўду кажа ваш муж, Паліна Сямёнаўна. Абяцаю тэрмінова прыняць меры...— і загаварыў зноў спакойна і нават ласкава: — А вы ўсё ж, Паліна Сямёнаўна, падумайце... Перайшлі б у нашу школу, не было б ніякіх праблем.

— Іх і так не было б, каб не фізрук.

— Ну, гэтага мы спынім, Паліна Сямёнаўна,— паабяцаў Яўген Кірылавіч.— Дзякую за падказку! Усяго добрага вам!

Была звычайная жнівеньская раніца. Сціхана стаялі дрэвы. Ружавелі сарамліва гронкі на маладзенькіх арабінах. На клумбах гарэлі астры і гваздзікі. Высокія дамы паглядвалі чыстымі да бляску вокнамі.

Але для Паліны дзень здаваўся не такім, як заўсёды. Нібы ў наваколлі было болей зыркасці і нейкай празрыстасці, чысціні.

Здавалася, нічога незвычайнага не адбылося. Іван Баркун расказаў, што многія вучні хочуць застацца з ёй, класным кіраўніком, Яўген Кірылавіч паабяцаў суняць няўрымслівага фізрука, муж збегаў раніцай у магазін па прадукты,— ён не дазваляў насіць ёй цяжкае, нават па малако бегаў у магазін сам,— і ў жанчыны з'явілася радасная ўпэўненасць у сабе, вера ў тое, што ўсё будзе добра.

Дырэктар школы Савачкін ляжаў пад сваім аўтамабілем у школьным двары. Паліна прастаяла некалькі хвілін, а ён як заснуў. Нават не паварухнуўся.

— Вас, можа, прыціснула чым, Ігар Аляксандравіч? — не вытрывала яна.

— А-а, гэта вы... А я думаю, чые гэта такія прыгожыя ногі. Гляджу і ніяк не здагадваюся. Нібы ў нашай школе і няма ні ў кога такіх...

— Паляжыце даўжэй пад машынай, дык, можа, яшчэ нямала чаго адкрыеце для сябе нечаканага,— засмяялася яна.

Савачкін вылез з-пад машыны, выцер анучай рукі, паскардзіўся:

— Працякае, хвароба, хваставік. Добра, што ўгледзеў, а то б пасадзіў каробку перадач...— І спытаў нечакана: — Значыцца, смяёмся, Паліна Сямёнаўна? Ну, калі мы смяёмся, дык не такія ўжо і дрэнныя нашы справы. Га? Як клас? Яшчэ не разбегся?

— Не ведаю.

— Учора цэлая дэлегацыя ажно дамоў да мяне прыходзіла. Скардзіліся на вас, Паліна Сямёнаўна. Казалі, што вы размаўляць з імі адмовіліся.

— Не захацела,— прызналася яна.

— Я сказаў, што прыму самыя рашучыя меры,— глядзеў з вясёлым прыжмурам дырэктар на настаўніцу.

— Абавязкова трэба прыняць. Толькі не да мяне, а да былога нашага фізрука. Ён, аказваецца, ходзіць па кватэрах і агітуе вучняў у новую школу. Ад яго і ідуць чуткі...

— Я так і здагадваўся,— ён спытаў заклапочана: — Дык якія прымем меры, Паліна Сямёнаўна?

— Не ведаю... Але трэба нешта рабіць. Можа, і мне пахадзіць па кватэрах, перагаварыць... Фізрук жа не саромеецца? Ці, можа, сход бацькоўскі склікаць?

Дырэктар які час маўчаў: ці ён разглядаў свой аўтамабіль, якім усё ніяк не мог налюбавацца, ці сапраўды думаў, што рабіць.

— Вось што,— пачаў ён і зноў замаўчаў, а потым сказаў як даўно вырашанае, абдуманае: — Па кватэрах хадзіць не трэба. Ні ў якім разе. Фізрук бегае, а потым услед за ім вы... Што вучні падумаюць пра нас, педагогаў? Ды і пра вучняў трэба думаць, дзе б яны ні вучыліся. У нашай ці ў іхняй школе. Яны павінны паважаць сваіх настаўнікаў. І ў гэтай справе мы павінны з вамі

трымацца на вышыні. Не апусціцца да агіднага інтрыганцтва. Бацькоўскі сход таксама не трэба. Цяпер позна.

— Я раніцай пазваніла Яўгену Кірылавічу, каб спыніў фізрука,— сказала Паліна.

— І што ён сказаў?

— Паабяцаў.

— Колькі вам год? — іранічна спытаўся дырэктар.

— Дваццаць шэсць,— адказала яна, разгубіўшыся крыху ад нечаканага пытання.

— У дваццаць шэсць, Паліна Сямёнаўна, можна было б быць і не такой наіўнай,— сказаў Савачкін з такой мяккасцю і без асуджэння, што на яго нельга было і пакрыўдзіцца.

— Дарэмна вы так пра Яўгена Кірылавіча,— толькі сказала яна.

— Не буду, не буду,— развёў ён рукамі, потым абышоў вакол машыны, правёў далонню па пярэднім шкле, нібы хацеў пераканацца, ці чыстае яно, спыніўся перад Палінай і неяк ваяўніча, задзірыста сказаў: — І ўсё ж у іх нічога не выйдзе. І дарэмна фізрук бегае. Я гаварыў... Нас рашуча падтрымліваюць. Так што, Паліна Сямёнаўна, спакойна працуйце і не хвалюйцеся. Калі ў вас заняткі з адстаючымі? Зараз? Ну і добра. Вось што зрабіце...— Ён крыху падумаў і потым не так параіў, як загадаў: — Пасля заняткаў каб у школе не сядзелі. Ідзіце дамоў. Жадаю вам поспехаў...

Паліна падымалася на другі паверх па лесвіцы і думала, ці не баіцца дырэктар, што яна перадумае і пяройдзе ў новую школу. І ад гэтага ўяўнага недаверу да яе на твар найшла хмурнасць, але ненадоўга. Так часам на які момант наплывае на сонейка лёгкае воблачка, кідаючы на зямлю ледзь улоўны цень, пасля чаго тое ж сонейка здаецца яшчэ ласкавейшым.

Дзень пачынаўся нібы няблага...

## ПЕРШЫ ЎРОК

Паліна ў цёмна-шэрым гарнітуры, у белай кофтачцы, закруціўшы сваю касу ў тугую куксу, урачыста засяроджаная, строгая, сядзела ў настаўніцкай за сваім столікам і праглядвала ў класным журнале спісы вучняў, хаця яна іх не раз праверыла напярэдадні. Ні з кім не хацелася гаварыць, вось і сядзела над класным журналам.

Яна адчувала на сабе частыя насмешлівыя позіркі настаўнікаў, асабліва Іны Віктараўны. Тая нават з некім перашэптвалася спецыяльна так, каб і ёй, Паліне, было чуваць. Канечне, цяпер Іна Віктараўна адкрыта радуецца. Учора на ўрачыстую лінейку, прысвечаную пачатку новага навучальнага года, з яе сёмага «Б» амаль ніхто не з'явіўся.

Паліна стаяла, не ведаючы, што рабіць: застацца на лінейцы ці наогул пайсці адсюль? А тут яшчэ Іна Віктараўна зусім сапсавала ёй настрой, падышла і з такой жорсткай, здзеклівай усмешачкай сказала: «Ну што, дайгралася? Так табе і трэба».

Паліна ледзь стрымлівала сябе, каб не расплакацца.

— Без панікі,— падышоў да яе дырэктар.— Глядзіце, каб добра падрыхтаваліся да першага ўрока. Не хвалюйцеся, усё будзе нармальна.

Але гэта не толькі не супакоіла, а яшчэ больш раздражніла. Ёй падалося, што дырэктар наогул насміхаецца з яе. Яна павярнулася і, закрываючы твар рукамі, пабегла ў школу, узяла ў дзяжурнай ключ ад свайго класа, узбегла на другі паверх, таропка адчыніла дзверы, кінулася за першую парту, упала тварам на рукі, дала волю слязам...

Паліна не чула, як нехта зайшоў у клас, асцярожна крануў яе за плячо. Яна падняла галаву — перад ёй стаяў дырэктар і моўчкі глядзеў на яе.

— Усё? Выплакалася? — І ледзь улоўная ўсмешка кранула яго тонкія сцятыя вусны.

— Гэта ўсё праз вас,— сказала Паліна.— Гэта вы ва ўсім вінаваты. Гэта вы мяне ўсё супакойвалі. Я хацела сгутарыць з вучнямі, а вы мне забаранілі. Я хацела склікаць бацькоўскі сход, вы не дазволілі. А цяпер што? Я — пасмешышча для ўсёй школы. Якая ж я настаўніца пасля гэтага? Я проста не маю права вучыць дзяцей. Цяпер усе з мяне смяюцца. Хіба я не бачу? Цяпер мяне можна абвінаваціць ва ўсім. Канечне, я не ўдарыла палец аб палец. А ўсё таму, што вас паслухала. А мне трэба было не слухаць. А так засталася без класа. Разбегся клас. А каб вы не забаранілі, гэтага не было б... Падставілі мяне, а цяпер вам смешна. Канечне, вам добра смяяцца. Не ад вас вучні збеглі...

Дырэктар паглядзеў на яе, выйшаў, вярнуўся са шклянкай вады, паставіў яе перад ёй на парту, зноў накіраваўся да выхаду.

— Вось што, Паліна Сямёнаўна,— спыніўся ў дзвярах.— Я яшчэ раз пераканаўся, што вы сапраўдная настаўніца. Лепшы доказ таму — вашы слёзы. І я вельмі хацеў бы, каб у маёй школе было болей такіх, як вы... Глядзіце, каб заўтра не спазніліся на заняткі...

Яна прасядзела ў класе, пакуль не разышліся ўсе са школы.

Празвінеў званок на ўрок.

Паліна ўзяла журнал, свой партфелік з падручнікамі і разам з усімі настаўнікамі выйшла ў калідор, кіруючыся ў свой клас. Яна знарок не спяшалася; хацелася крышачку спазніцца, каб хто з нецярплівых вучняў выглянуў у дзверы,— тады б яна загадзя ведала, што клас не пусты...

Нецярплівыя вучні былі ў кожным класе, і цяпер яны сачылі за калідорам праз адчыненыя дзверы.

Дзверы ж у яе клас былі зачынены...

Перад дзвярамі яна затрымалася, прыслухалася, ці не чуваць там якой гаманы. Было ціха. Анямелай рукой адчыніла дзверы і, раней чым убачыць, пачула, як скрыганулі вечкі парт,— падняліся вучні, вітаючы яе.

Іх было сямёра. Іван Баркун сядзеў на тым жа месцы, як і ў мінулым годзе, на другой парце каля акна. Ён быў у новенькім цёмна-сінім гарнітурчыку, у белай кашулі пад гальштукам. Твар быў смуглы ад загару, а выгаралыя на сонцы і звычайна непакорлівыя валасы былі коратка падстрыжаны, і толькі наперадзе быў невялічкі прыгладжаны чубок.

На сваім месцы сядзела і Света Кулеш. Засяроджаная, сур'ёзная. Ці, можа, гэтай сур'ёзнасці надавала ёй каса, якраз такая, як і ў самой Паліны. Побач з ёй — Вова Бялькевіч. Хлопец прыкметна выцягнуўся за лета. Нос, здаецца, падаўжэў, і таму твар зараз выдаваў крыху хударлявым. Хлопец адпусціў доўгія валасы, відаць, беручы прыклад з нейкага папулярнага спевака. Ва ўсёй яго патанчэлай постаці ўгадвалася жаданне выглядаць дарослым, самастойным юнаком. І толькі вочы заставаліся ранейшымі — шэрыя, круглыя, як у дзяўчыны. Вова Бялькевіч не сеў, пакуль не села суседка, а сеўшы, нешта прашаптаў ёй на вуха, тая ж не жадала яго слухаць, кіўнула галоўкай так, нібы адганяла якога камара.

Хаця Іван Баркун гаварыў ёй, што Вова Бялькевіч не пойдзе ў новую школу, але Паліна не вельмі верыла ў гэта. Яго маці яшчэ некалькі разоў прыбягала ў школу

да яе, ды не заставала. А дырэктар школы гаварыў, што яму званіў сам бацька Бялькевіча і прасіў перадаць асабовую справу яго сына ў новую школу. Дырэктар і хацеў перадаць, нават тую справу аддаў сакратарцы, каб аднесла яе, ды сакратарку перахапіла Паліна, забрала справу, сказала, што сама аднясе, і схавала яе ў сваім стале. А справай болей ніхто не пацікавіўся...

Былі і яшчэ школьнікі, якія лічыліся слабымі спартсменамі і якіх перад спаборніцтвамі фізрук хацеў замяніць на мацнейшых. Відаць, яны ведалі пра намеры фізрука і цяпер не захацелі ісці да яго, а можа, ён і не запрашаў іх. Хутчэй за ўсё яно так і было. Ён не любіў дзяцей, якія больш думалі пра вучобу, чым пра спорт.

Правёўшы ўрок, Паліна аб'явіла, што ў канцы заняткаў у іх будзе класны сход... Яна, праўда, не ведала яшчэ, пра што будзе гаварыць на тым сходзе, але сёння класныя сходы праводзіліся ва ўсіх класах, праўдзе і яна...

Выходзячы з класа, ля дзвярэй сустрэла яшчэ двух сваіх вучняў.

— Што гэта вы? — не змагла схаваць радасці яна.— Першы дзень — і спазніліся.

— Мы не спазніліся,— і не думалі таіцца дзеці.— Мы пайшлі ў тую школу, а там нас не бяруць без дакументаў. Мы пастаялі, пастаялі ды сюды. А ўсе яшчэ там. І Сяргей Іванавіч там. Ён казаў, каб не разыходзіліся...

— Ідзіце ў клас,— сказала яна і сама пайшла да дырэктара.

Савачкін кіўнуў Паліне, каб тая садзілася, а сам гаварыў у тэлефонную трубку:

— Трэба было, Яўген Кірылавіч, раней думаць пра дзяцей... На вялікі жаль, нічым не магу памагчы. Усяго!..— дырэктар паклаў тэлефонную трубку, сказаў: — Там якраз у яго ўсе твае бацькі, штурмуюць. Яны ўжо не просяць перавесці дзяцей у новую школу, а просяць, каб і фізрука вярнулі сюды... Цікава, з якімі вачыма ён сюды з'явіцца? На яго месцы, я назад ніколі не пайшоў бы...

— Ён, можа, і не пойдзе.— Паліна таксама не верыла, што пасля такога можна вярнуцца назад.

— Ён? — усміхнуўся дырэктар.— Дрэнна вы яго ведаеце. Ну добра, пажывём — пабачым...

Пасля апошняга ўрока, занёсшы ў настаўніцкую журнал, Паліна адразу ж падалася ў свой клас. Яна адчыніла

дзверы і спынілася ашаломленая — усе вучні, як адзін, на сваіх месцах. За сталом перад класам стаяў Сяргей Іванавіч і нешта гаварыў. Усе так уважліва слухалі яго, што не адразу і заўважылі свайго класнага кіраўніка. А потым, заўважыўшы, падняліся, але падняліся без ахвоты, нібы незадаволеныя, што ім перашкодзілі.

— Сядайце,— павітаўшыся, сказала яна.

— Бачыце, Паліна Сямёнаўна, усё як і было,— засмяяўся фізрук. Яму, відаць, хацелася ўсё звесці да жарту.— Я тут якраз пачаў расказваць, калі едзем у Артэк. Часу засталося мала, трэба напружана рыхтавацца.

— Працягвайце.— Паліна ўзяла табурэтку, села.

Яе ахапіла нейкая нечаканая стомленасць і абыякавасць да ўсяго. Спачатку неяк павяло, закружылася ў галаве, а потым моцна пацягнула на дрымоту. Відаць, дало сябе адчуць нервовае напружанне апошніх дзён. Яна нібы праз сон чула, як Сяргей Іванавіч тлумачыў школьнікам, якія ў іх шанцы выйграць першынство там, у Артэку, і што цяпер трэба ўвесь час аддаць напружаным трэніроўкам, каб гэтыя шанцы павялічыліся. Ён прадыктаваў і графік трэніровак. Паводле таго графіка атрымлівалася, што ўрокі дзецям рабіць не будзе калі. Але школьнікі, здавалася, былі толькі рады, што яны будуць так багата трэніравацца, а потым паедуць у Артэк, дзе ў іх ёсць шанцы выйграць. А потым яны задавалі пытанні. Задавалі іх толькі аднаму фізруку, а на яе, Паліну, не звярталі ўвагі, нібы і не бачылі, што яна сядзіць тут, у крэсле. І калі выходзілі з класа, то развітваліся толькі з фізруком, у яе бок і не глядзелі...

— Ну, што вы такая сумная? — спытаў фізрук, калі яны засталіся ўдваіх.— Клас вярнуўся, як вы і хацелі. Так што толькі радавацца трэба, а вы...

— Я і хачу радавацца, Сяргей Іванавіч, ды сілы не хапае радавацца,— прызналася яна і, гледзячы на вясёлага, загарэлага і крыху збянтэжанага фізрука, спытала: — Мяне цікавіць адно пытанне, Сяргей Іванавіч. Як вы маглі хадзіць па кватэрах? Любымі сродкамі да мэты? Так?.. Але чаму мы так навучым дзяцей? Прыстасоўвацца? Яны ж перастануць верыць ва ўсё святое, не толькі нам з вамі. Яны ўжо і цяпер не хочуць з намі лічыцца, бо падумалі, што мы без іх нішто...

Сяргей Іванавіч усміхнуўся, відаць, лічыў, што апошнія словы настаўніцы яго не тычацца.

А Паліна працягвала:

— Ды і як жа тут не задраць нос, калі да цябе дамоў прыходзіць педагог, упрошвае кінуць адну школу, бо ў ёй сабраліся дрэнныя настаўнікі, і перайсці ў новую, бо там добрыя настаўнікі. І яны, гэтыя добрыя настаўнікі, не могуць жыць без школьнікаў з сёмага «Б». Як вам, Сяргей Іванавіч, не сорамна пасля гэтага глядзець мне ў вочы? У вочы дзецям?

— Канечне, сорамна,— сказаў ён са штучнай, як падалося, скрухай у голасе.— Яшчэ і як сорамна.— І больш весела дадаў: — Век жыві, век вучыся, Паліна Сямёнаўна. Вы мяне не раз вучылі і цяпер добра правучылі. І калі задумацца, дык я вам шчыра прызнаюся, мне вельмі пашанцавала, што я працую з вамі. Вы, так сказаць, не дазволіце збіцца з дарогі.

— Здзекуецеся? — яна паднялася, паставіла табурэтку на месца, да дошкі, дзе яна і стаяла.

— Што вы, Паліна Сямёнаўна? Шчыра! — аж прыкметна захваляваўся Сяргей Іванавіч.— І наогул я не хацеў усяго гэтага. Калі я даў згоду пайсці ў тую школу, дык быў пераканаHы, што і вы пойдзеце. Не з-за класа, дык з-за Яўгена Кірылавіча. А вы не пайшлі. А без класа я не змог застацца. Не вам расказваць, колькі яму аддадзена. Хацелася, каб і клас перайшоў. А потым думаў, калі клас пяройдзе, дык і вы завагаецеся... А вы не завагаліся. А назад я ўжо і не мог, ды і не хацелася. З-за гэтага Грыцкевіча. Я, калі хочаце, і ўзяўся за ваш клас тады толькі таму, што Грыцкевіч быў супраць. Спачатку не верыў у вашых дзяцей, гэта потым паверыў, а спачатку... Цяпер для мяне ваш клас — усё. Я толькі з-за класа і вярнуўся. Выпушчу яго і, калі Грыцкевіч будзе тут, перайду ў другую школу. Канечне, я нарабіў глупства, але...— І ён на гэты раз сапраўды сказаў шчыра, з вінаватасцю, як школьнік: — Больш такога не дапушчу, Паліна Сямёнаўна. Чэсна. Калі можна, то даруйце.

— Дарую,— яна задумалася, а потым усё ж адважылася спытаць: — Дарую, калі адкажаце мне на адно пытанне. Чэсна.

— Чэсна, Паліна Сямёнаўна.

— Яўген Кірылавіч ведаў пра ўсё гэта?

— Канечне,— нават узрадаваўся фізрук. Відаць, ён чакаў больш цяжкага для яго пытання.— Калі хочаце, дык гэта ён мне падказаў пагаварыць з вучнямі і іх бацькамі.

Паліна моўчкі выйшла ў калідор, забыўшыся і развітацца з Сяргеем Іванавічам...

«Няўжо ён, Яўген Кірылавіч, так змяніўся? А можа, ён і заўсёды быў такі? Не, не быў ён такім раней... Не быў!.. Відаць, змяніўся. А яна не заўважыла гэтага, усё верыла яму... І чаму так мяняюцца людзі? Не лепшымі становяцца, а горшымі?» — ішла і думала Паліна.

## ПЕРШЫ СТАРТ

Света Кулеш, высокая, танклявая, у блакітнай лёгкай сукенцы, стаяла на тэрасе другога паверха і, абапёршыся на металічныя парэнчы, зачаравана глядзела перад сабой. Такое яна бачыла ўпершыню. Злева горбілася гара, пакрытая зялёнай шчоткай лесу. Яна, здавалася, была зусім блізка. Можна было нават разгледзець асобныя дрэвы. Другая ж, крыху далей, дымілася празрыстым туманам, нібы там, на яе вяршыні, нараджаліся воблакі. Прама — раскінулася мора. Сцішанае, супакоенае, без адзінай хвалі. Яно пералівалася блакітным, сінім і светла-фіялетавым колерамі.

Праз густыя зараснікі вастраверхіх кіпарысаў віднеліся на беразе нейкія збудаванні пад блакітным шыферам...

Моўчкі падышоў да дзяўчыны Вова Бялькевіч. Ён нібы прагульваўся па тэрасе, і выпадкова ўбачыўшы Свету, спыніўся ля яе. Нейкі час стаяў моўчкі.

— Здарова! — знайшоўся, нарэшце, што сказаць.

— Каб прыехаць сюды не на спаборніцтвы,— задуменна адказала Света.— А то фізрук і агледзецца не дасць.

— Усё роўна нямала пабачым.

— Калі? — яна паглядзела на яго так, нібы ён сказаў глупства.— Вучоба, трэніроўкі, спаборніцтвы...

— Слухай, Света, давай прыедзем сюды на канікулы. А што? Я папрашу свайго продка, каб памог з пуцёўкамі. Ён усё зможа, калі захоча. Нам толькі з вучобай пастарацца, каб адны пяцёркі... Як ты?

— Мне здаецца, што прыгажэйшай мясціны за гэтую проста не можа быць,— нібы і не чула яго дзяўчынка.

Раптам з-за вугла выскачыў на тэрасу Іван Баркун, спыніўся, агледзеўся. Убачыўшы іх, падбег, задыхана прагаварыў:

— Хутчэй у фае! Фізрук збірае. А дзе нашы? Не ведаеце? — і пабег далей.

— Пайшлі! — Света перакінула касу праз плячо, быццам яна перашкаджала ёй.

— Чаго спяшацца? — хлопцу хацелася пабыць з дзяўчынкай.

Вучні збіраліся марудна. Сяргей Іванавіч у тонкім блакітным трыко, у белых кедах узрушана хадзіў па фае, нервова паглядваючы на гадзіннік.

Калі нарэшце сабраліся ўсе, ён спыніўся, пакалыхаўся на спружыністых нагах, перавальваючыся з наскоў на пяткі, абвёў усіх дакорлівым позіркам:

— Та-а-к, курортнічкі... Спартсмены, называецца. Забыліся, для чаго прыехалі? — і потым прагаварыў цвёрда, націскаючы на кожнае слова: — Напамінаю. Вы прыехалі на спаборніцтвы. На спаборніцтвы! Спаборніцтвы — вось ваша мэта. Усё астатняе выкінуць з галавы. Больш нічога зараз для вас не існуе. А вы?.. Вас цікавіць усё, акрамя спорту... Усё! Часам, замест таго каб спаць і набірацца сіл, некаторыя Рамэо пад вокнамі ў піянерак усю ноч швэндаюцца. Але не будзем высвятляць, каму гэта не спалася, хто сярод вас такі лунацік... Вы павінны ўсе помніць адно — дамоў мы абавязаны вярнуцца пераможцамі. Я паглядзеў тут на некаторых... Далёка ім да вас. Адным словам, у вас ёсць шанцы, і нядрэнныя. Але... Што трэба? Не спазняцца на трэніроўкі. Раз. На спаборніцтвах не хваляваца. Два. Калі калені трымцяць, асабліва не разгонішся. А калі закончацца спаборніцтвы, у вас будзе час палюбавацца пейзажыкамі, а каму захочацца, то і лунацікамі пабыць. Дамовіліся? Ну і цудоўна.

Сяргей Іванавіч расказаў дзецям пра расклад трэніровак, спаборніцтваў і ўрокаў, пажадаў ім поспехаў.

Нягледзячы на ўпэўненасць Сяргея Іванавіча ў іх сілах, у саміх вучняў такой моцнай веры не было. На трэніроўках яны бегалі, плавалі, кідалі мячык горш, чым гэта рабілі дома. Асабліва ў першыя дні. Потым, калі асвоіліся, прывыклі да новага месца, яны выраўняліся, але ўсё роўна не вельмі верылі ў сябе. І так было да самых спаборніцтваў. Калі ж яны прабеглі дыстанцыю лепей за ўсіх,— толькі на некалькі ачкоў адсталі ад пераможцаў, заняўшы другое месца,— яны не сумняваліся ў сваёй перамозе, ведалі, што толькі выпадковасць перашкодзіла ім перамагчы. І яны б перамаглі, каб не гэтая

акуратыстка Марына Біруля. Каб яна, спатыкнуўшыся, адразу падхапілася і пабегла, а то спынілася і пачала выціраццa, нібы хто забараняў ёй бегчы да фінішу з бруднымі каленямі.

— Ну, што я гаварыў? — сказаў вучням Сяргей Іванавіч, сабраўшы іх адразу ж пасля спаборніцтваў.— Я вельмі задаволены вашым першым стартам. Праз дзень — крос. Вы бегаеце выдатна. Помніце гэта. Толькі не трэба на дыстанцыі затрымлівацца. Падвіхнуў нагу — скачы на адной, падвіхнуў абедзве — паўзі. Не спыняйся, дабярыся да фінішу. Дамовіліся?

Цяпер не трэба было ўпрошваць вучняў хадзіць на трэніроўкі. Самі прыбягалі раней, чым трэба было, а з пляцоўкі дык іх проста прыходзілася праганяць. Гатовы былі і на ўрокі не хадзіць з-за трэніровак. Там хоць і не вельмі ганялі іх настаўнікі, але не любілі, каб вучні прапускалі заняткі.

Пасля кросу яны вырваліся на першае месца. Клас, які быў перад кросам першым, цяпер адставаў толькі на тры ачкі. На спаборніцтвах па кіданню мяча вучні Сяргея Іванавіча страцілі яшчэ два. Цяпер разрыў быў толькі ў адно ачко. Лёс першага месца цяпер цалкам залежаў ад вынікаў па плаванню. Сяргей Іванавіч увесь час больш за ўсё трывожыўся за плаванне. Наогул, вучні плавалі нядрэнна. Але было ў класе некалькі такіх, што толькі маглі трымацца на вадзе. Горш за ўсіх, як гэта ні дзіўна, плаваў Вова Бялькевіч. Ён часта хварэў на ангіну, і маці не пускала яго на рэчку, аберагала ад прастуды. Навучыўся ён плаваць тады, калі клас стаў спартыўным. Але добра так і не навучыўся. Дрэнна плавалі таксама Марына Біруля і Сяргей Бакалаў. І цяпер як ні стараліся яны на трэніроўках, але нічога не маглі дабіцца за лічаныя дні, толькі дарэмнаператамляліся. Фізрук нерваваўся. Крычаў. Гэтая яго ўзрушанасць перадавалася ўсім. І тады яны пачыналі ў вадзе мітусіцца, горш плаваць.

Гледзячы на іх, Сяргей Іванавіч хапаўся за галаву, стагнаў:

— Вы мяне без нажа рэжаце. Вам не плаваць, а яшчэ манную кашу есці трэба.

Ва ўсіх пасля такіх трэніровак быў сапсаваны настрой. Школьнікі чамусьці саромеліся глядзець адзін аднаму ў вочы.

Аднаго разу, калі фізрук раскрычаўся на Вову Бяль-

кевіча, які толькі блытаецца і перашкаджае астатнім, Света Кулеш не вытрымала:

— Чаго вы крычыце! — сказала яна ўзрушана фізруку, расплакалася і пабегла па беразе.

— Мамчыны дзеткі, а не спартсмены,— прабурчаў Сяргей Іванавіч, спыніў трэніроўкі і адразу ж некуды знік. Усе падумалі, што ён пайшоў супакойваць Свету.

Свету ніхто не бачыў. Усе кінуліся шукаць яе. Пайшоў шукаць і сам Сяргей Іванавіч. Першым яе ўбачыў Вова Бялькевіч. Света сядзела на пірсе, які быў далёка ад іх лагера. Падышоў, узрадаваўся.

— Плаваеш як цурбан, а смяешся,— напала на яго дзяўчынка.— Ты ведаеш, што мне сорамна за цябе, ці не? Завалім спаборніцтвы, тады пасмяешся, лунацік!

— Не завалім,— зусім не пакрыўдзіўся на яе Вова.

— Ты, можа, раптам плаваць навучышся?

— Не,— бесклапотна ўсміхнуўся ён.

— Можа, табе Хатабыч паможа?

— Сяргей Іванавіч,— адказаў Вова.— Наш Сяргей Іванавіч мудрэй за сотню Хатабычаў... Ведаеш, што я чуў? — і, нахіліўшыся да дзяўчынкі, ціха, быццам баяўся, што яго падслухаюць, прашаптаў: — Ён дамовіўся з адным фізруком, што той пазычыць нам трох добрых плыўцоў. Замест мяне, Бірулі, Бакалава. Адзін з іх, што будзе пад маім прозвішчам, прыходзіў. Я з ім гаварыў. Хлопец на Волзе вырас. Уяўляеш? Казаў, Волгу пераплываў...

— І ты радуешся? — абурылася Света, глянуўшы на хлопчыка круглымі ад здзіўлення вачыма.

— А што? Клас зойме першае месца. Слава, гонар. Хіба гэта дрэнна?

— І табе сорамна не будзе? Што ты тут ні пры чым?

— Чаму ні пры чым? Я ж выступаў. Бегаў, кідаў... І не горш за іншых...

— Не, гэта не чэсна. Гэта агідна! Была б тут Паліна Сямёнаўна, яна б ніколі такога не дазволіла,— задумалася, а потым рашуча заявіла: — Не, гэтага я не дапушчу. Ведаеш, што я зраблю? Я скажу Сяргею Іванавічу, каб ён адмовіўся ад гэтага. А калі не адмовіцца, не пайду на плаванне. Не пайду, і ўсё.— Яна падхапілася і пабегла па беразе да лагера.

— Ты што? Ты спачатку падумай,— гнаўся за ёй Бялькевіч.— Думаеш, адзін наш фізрук такі? Я чуў, як тут робіцца. Света! Ды пачакай жа!..

У гэты вечар доўга не спалі вучні сёмага «Б» класа. Спрачаліся, перашэптваліся... Дзяжурная па корпусу некалькі разоў заходзіла ў палаты, супакойвала... Але так і не супакоіла, пакуль не вярнуўся аднекуль позна ноччу Сяргей Іванавіч, які спаў у адной палаце з хлопчыкамі.

Раніцай, адразу ж пасля зарадкі, фізрук сабраў сваіх вучняў у глухім кутку парку, дзе на вузкай дарожцы насупраць адна адной стаялі дзве доўгія лаўкі. Сяргей Іванавіч счакаў, пакуль дзеці ўсядуцца, потым, часта азіраючыся, ціха пачаў:

— Я хачу з вамі сур'ёзна пагаварыць. Я ведаю, што вы ўчора доўга спрачаліся, абураліся... Па тварах нават відаць, што не выспаліся. Дык вось што я вам скажу. Выходзіць, што вы ўсе сумленныя, а я адзін не чэсны. Хіба не? Так, я хачу замяніць трох плыўцоў. Я хачу, каб нашы вучні не крыўдзіліся. Ніхто іх гэтай заменай не хоча абразіць. Гаворка ідзе пра гонар класа, гонар школы, нашага горада, урэшце. Мы зараз на першым месцы. Цяпер уявіце сабе, што з-за трох чалавек мы завалім спаборніцтвы. Уявіце сабе, як будуць адчуваць сябе гэтыя трое, з-за якіх мы пацерпім паражэнне. Не вельмі прыемна ім будзе ведаць, што яны падвялі ўсіх нас. Ды і вы ўсе, як вы будзеце глядзець на іх? Вы падумалі пра гэта? Яны ж невінаваты, што мы іх не навучылі плаваць. Так што давайце сур'ёзна падумаем, як нам быць. Я яшчэ не прыняў канчатковага рашэння. Я хачу, каб прынялі яго вы. Толькі не забывайце, што я вам сказаў. Дарэчы, Бялькевіч, Біруля, Бакалаў, вы не супраць, каб замяніцца?

— Не-е,— нясмела адказалі тыя.

— А да наступнага спаборніцтва я абяцаю навучыць вас плаваць не горш за астатніх. Складу спецыяльны для вас графік і сам буду вадзіць вас у басейн круглы год. Дамовіліся? — Ён звярнуўся да ўсіх: — Ну, дык як? Падумалі? Можа, прагаласуем? Хто за маю прапанову, прашу падняць рукі. Нешта не вельмі актыўна. Ну, цяпер бачу, што ўсе за. Дзякую вам! Само сабой разумеецца, што пра гэта ніхто не павінен ведаць. Дамовіліся?

Спачатку Сяргей Іванавіч не дазволіў Бялькевічу, Бірулю і Бакалаву ісці глядзець спаборніцтвы па плаванню. Маўляў, нечага там лішні раз мазоліць вочы, раптам хто пазнае іх. Тады... тады ўсім будзе дрэнна. Але дзецям не цярпелася паглядзець заключныя спаборніц-

твы, і яны не адставалі ад фізрука, пакуль не дабіліся свайго. Сяргей Іванавіч сам іх адвёў на самую апошнюю лаўку, папрасіў сядзець ціха і ні з кім не размаўляць, адным словам, старацца быць непрыкметнымі. Яны так і рабілі. Але толькі да таго часу, пакуль не выйшлі на старт іх таварышы.

Першымі бралі ўдзел у плаванні хлопцы. Наперад спачатку вырваліся Іван Баркун і Мікола Гамак. Але іх адразу ж абагнаў трэці.

— Хто гэта? Хто гэта? — тузала Бялькевіча за рукаў Марына Біруля.

— Хто? Хто? Я! — адказаў Бялькевіч.— Бачыш, як здорава плыву.

— Гэта той, што Волгу пераплываў,— падаў голас Сяргей Бакалаў.

— І не адзін раз,— смяяўся Вова Бялькевіч.— Я такі, што захачу і акіян пераплыву.

Калі той незнаёмы наблізіўся да фінішу, яны ўсе ўтрох падхапіліся, запляскалі ў далоні, закрычалі «ўра!». Яны так гучна радаваліся, што Сяргей Іванавіч, які быў на другім баку басейна, паглядзеў на іх.

Незнаёмага спартсмена адразу ж акружылі карэспандэнты з фотаапаратамі, мікрафонамі, з разгорнутымі блакнотамі. Потым некуды павялі пераможцу.

За імі ўслед паспяшаўся і Сяргей Іванавіч. Але гэтага ніхто з траіх не заўважыў. Яны сачылі за плывунамі. Амаль усе плывуны нядрэнна прайшлі дыстанцыю Побач чуліся зайздрослівыя галасы: «Гэтыя першае месца сабе забяспечылі», «Іх ужо не абставіць».

Калі вучні сёмага «Б» закончылі спаборніцтвы і нашы трое балельшчыкаў накіраваліся да выхаду з басейна, раптам гучна шчоўкнула ў радыёдынаміку, а потым пачуўся жаночы голас: «Паслухайце паведамленне штаба спаборніцтваў. У сувязі з тым, што ў сёмым «Б» (фізрук Сяргей Іванавіч) выяўлена падмена плывуноў, спартыўныя вынікі гэтага класа анулююцца, месца не прысуджаецца...»

— Чулі? — спытаўся Вова Бялькевіч.

— Няўжо пра нас? — не верыла Марына Біруля.

— А пра каго ж? — не мог схаваць свае разгубленасці Сяргей Бакалаў.

— Дарэмна падмяніліся,— шмарганула носам дзяўчынка. Яна ледзь не плакала.— Што ж цяпер будзе? Такі сорам...

— Думаеш, нам не было б сорамна, каб мы прыплылі апошнімі і падвялі клас? — не цярпеў слёз Вова Бялькевіч.— Проста нас выдаў нейкі зайздроснік. Каб знайшоў яго, не ведаю, што зрабіў бы.

— Як жа яны там? — спахапілася Марына Біруля.

— Айда да нашых! — Вова Бялькевіч першым кінуўся ў раздзявалку. Там ужо нікога не было. На мармуровай лаўцы ляжаў забыты некім ружовы мокры купальнік. З яго капала на падлогу вада.

— Можа, у другой дзе? — падумала ўслых Марына Біруля.

— Не, яны тут раздзяваліся. Бачыў сам. Відаць, пайшлі ў корпус,— глянуў Бялькевіч на свой электронны гадзіннік, які яму падарыў бацька перад паездкай у Артэк.— Канешне, у корпус. На абед яшчэ рана.

Яны паспяшаліся наўспрамкі па вузкай сцежцы паміж высокіх кіпарысаў. На скрыжаванні сцежкі з алеяй, якая вяла на пляж, твар у твар сутыкнуліся з высокім бялявым хлопчыкам. Ён ішоў, паныла апусціўшы галаву, нібы што вышукваў пад нагамі.

— Волгу, значыцца, пераплываеш? — перагарадзіў яму дарогу Вова Бялькевіч,— а язык трымаць за зубамі не ўмееш? Можа, навучыць?

— Пры чым тут я? — ледзь не хныкаў хлопчык.

— Ты што, забыў маё прозвішча? — наступаў Вова Бялькевіч.

— Не-е-е.

— А хто выдаў?

— Ніхто.

— Як ніхто? А адкуль даведаліся?

— Мяне пазнаў лысы з кінакамерай. Ён крычаў, што за трэцюю каманду плаваю, а я толькі другі раз плыў...

— Добра,— адстаў ад яго Вова Бялькевіч.— Нашых не бачыў?

— Не. Нас з фізруком адразу ж павялі ў штаб. Дзе вашы, не бачыў.

А дзеці ў інтэрнаце збіраліся дамоў. Апустошвалі тумбачкі, пакавалі рукзакі. Хто сабраўся, адразу ж выходзіў у калідор.

— Што за паніка? — пацікавіўся Вова Бялькевіч.

У гэты момант з палаты, дзе жылі дзяўчынкі, выйшла Света Кулеш. Яна была ў зялёнай кофтачцы і пацёртых джынсах — сабралася ў дарогу. На плячы вісела бухматая скураная сумка.

— А ты чаго стаіш, не збіраешся? — адразу ж накінулася яна на Вову Бялькевіча.— Мы едзем дамоў. Мы не хочам, каб з нас смяяліся. Няхай з Сяргея Іванавіча смяюцца, калі ён такі...

— Не таратор,— перапыніў яе Вова Бялькевіч.— Як мы паедзем? Ты падумала? Білеты ў фізрука. Цягнік наш праз тыдзень.

— Няхай бярэ ён білеты нашы на памяць,— абуралася Света Кулеш.— Як-небудзь даедзем, не прападзём. Але тут не застанёмся. Нам сорамна! Разумееш? Нам усім сорамна! Ну што глядзіш? Ідзі збірайся! — загадала яму дзяўчынка.

— Вова, вазьмі,— выйшаў Іван Баркун і падаў яму яго новенькі зялёны рукзак.— Я ўсё тваё паклаў.

— Гатовы? — звонка крыкнула Света Кулеш. Па ўсім было відаць, што яна тут верхаводзіла.— Усе? Пайшлі!

Сяргей Іванавіч прабыў у штабе болей за гадзіну. Ён спрабаваў угаварыць суддзяў спаборніцтваў, каб не крыўдзілі дзяцей, бо яны, маўляў, не пры чым. Але свайго не дабіўся.

Быў якраз пачатак абеду, і Сяргей Іванавіч са штаба скіраваў у сталоўку, спадзеючыся знайсці там сваіх выхаванцаў. Сталоўка гудзела дзіцячай гаманой. Сталы, за якімі абедалі яго вучні, былі пустыя. Хлеб у талерках ляжаў некранутым. Значыцца, школьнікі вось-вось павінны былі прыйсці. Ён прастаяў на ганку ўвесь абед. Але іх так і не дачакаўся. Адчуўшы няладнае, кінуўся ў інтэрнат. У палатах нікога не было. Дзе ж дзеці? Сяргей Іванавіч аббег усе тэрасы корпуса, нікога не знайшоў. Дзе ж яны дзеліся? Не маглі ж пайсці на аўтобус? А чаму б і не? У іх розуму хопіць. Можа, у каго са школьнікаў былі грошы, вось і вырашылі паехаць. Кінуўся на бліжэйшы аўтобусны прыпынак. Дзяцей не было. Перахапіў таксі, паехаў на аўтавакзал.

Уцекачы, падклаўшы пад галовы рукзакі, адпачывалі ў цяньку пад кустамі акацыі ля касавага будынка.

— Што гэта значыць? — агледзеў іх фізрук.— Што за свавольства? Нам яшчэ тыдзень жыць, а вы... Падымайся, пайшлі назад.— Ніхто не варухнуўся, усе насуплена маўчалі.— Ну што вы як глухія? Ці замест абеду языкі свае праглынулі?

Прыйшлі Света Кулеш і Вова Бялькевіч. Яны нават не глянулі на фізрука.

— Білетаў няма,— сказала Света Кулеш.— Можа, выйдзем на дарогу і на спадарожных да Сімферопаля?

— Я пытаўся, можна дабрацца,— сказаў Вова Бяльkевіч.

— Ніякіх спадарожных! У вас ёсць білеты. Зразумела? — Сяргей Іванавіч ледзь стрымліваў сябе, каб не перайсці на крык. Яго кароткая шыя налілася чырванню. Лоб абрасіўся потам. Губы ацвярдзелі і, здавалася, варушыліся праз сілу...— Падымайцеся і пайшлі абедаць! Там разбяромся.

— Нікуды не пойдзем, Сяргей Іванавіч,— спакойна і неяк стомлена сказала Света Кулеш.— Нам сорамна! Вы разумееце гэта ці не? Вам не сорамна, вяртайцеся. А мы... Не дастанем білеты, пешшу пойдзем...

І столькі было рашучасці і перакананасці ў яе інтанацыі, што Сяргей Іванавіч зразумеў: загадваць зараз дзецям вярнуцца няма ніякага сэнсу. Але і не пакідаць жа іх тут. Білетаў у дзяцей няма, і іх зараз не купіш. Ды навошта купляць? Яны даўно куплены на цягнік, які ідзе праз тыдзень. Але як вярнуць дзяцей у лагер? Што зрабіць, каб яны яго паслухаліся? Як вярнуць іх веру ў сябе? Што ім сказаць?

— Вось што, дзеці,— пачаў ён ціха. Задумаўся. Азірнуўся, ці не чуе яго хто з пабочных.— Жыццё складанае. Часам нас не хапае, каб чэсна і цярпліва ісці па абранай дарозе. Я таксама збочыў, пагнаўся за лёгкай славай. Вам нечага тлумачыць, які гэта ганебны ўчынак. Мой учынак — не ваш. Я гэта вельмі добра разумею. Падвёў сябе, падвёў вас. Вашы старанні прапалі, пайшлі на глум. Што мне сказаць у апраўданне? Нічога. Магу толькі паабяцаць, што болей такога не дапушчу. Як вам даказаць гэта?.. Прызнаюся, хацеў пасля спаборніцтваў тут, у Артэку, звольніцца з вашай школы. Ведаеце, якія ў мяне адносіны з фізруком Грыцкевічам? Цяпер застануся. Буду весці ў вас фізкультуру, пакуль вы не скончыце школу. Я хачу, каб вы пераканаліся, што я зрабіў для сябе вывады з таго, што адбылося. Вучацца не толькі дзеці, вучацца разам з імі і настаўнікі. Сённяшні ўрок мне на ўсё жыццё. Я веру вам. Прашу паверыць і мне. Свавольства не ўпрыгожвае нас з вамі. Праявім вытрымку да канца. Пойдземце ў лагер...

## ЭПІЛОГ

Адразу ж раніцой Паліна схадзіла па газеты, прагледзела іх. Пра спаборніцтвы спартыўных класаў нічога не знайшла, акрамя кароткай інфармацыі, што спаборніцтвы закончыліся. Праўда, у піянерскай газеце называліся пераможцы...

Уключыла радыё.

Хутка ў дзвярах з'явіўся Васіль. Ён пацягнуўся, махнуў рэзка рукамі, спытаўся:

— Ну, што там?

— Назвалі пераможцаў. Хто заняў першыя тры месцы. Пра маіх ні слова,— неяк расчаравана сказала Паліна.— Цікава. Займалі ж першыя месцы, і раптам... Ніякага месца. І што там здарылася?

— Ты ж гэтага хацела.

— Можа, яны занялі якое чацвёртае месца?..

— Каб занялі, то пахваліліся б.

— Я таксама думаю. А то ні гу-гу... Каб не сказала маці Светы Кулеш, то не ведала б, калі і прыедуць.

— Пойдзеш сустракаць?

— Пайду,— яна выключыла радыёпрыёмнік.

— Слёзкі выціраць?

— Цікава паглядзець, якія яны пасля паражэння. Задумаюцца яны над сваімі паводзінамі ці не? Акрамя ж спорту, нічога і ведаць не хацелі. Перасталі зусім вучыцца. Настаўнікаў не прызнавалі. З вучнямі другіх класаў не размаўлялі. Я і не думала, што так можна задавацца. А тут яшчэ карэспандэнты падлівалі масла ў агонь. І з тэлебачання, і з радыё, і з газет. Я ўжо і з дырэктарам лаялася, званіла ў абком камсамола. Аказваецца, там таксама не супраць славы. Дырэктар папрасіў настаўнікаў не ставіць ім перад спаборніцтвамі двойкі, каб, значыцца, не траўміраваць. Уяўляеш, да чаго дакаціліся? А каб ты бачыў, як дырэктар з фізруком насядалі на мяне, каб падмяніць слабейшых мацнейшымі вучнямі з іншых класаў... Цяпер, вядома, я буду вінаватая, што яны прайгралі. Ды няхай што хочуць думаюць. Мне галоўнае — дзеці. Можа, яшчэ возьмуцца за розум.

— Слухай, Поля, мне часта прыходзіць у галаву думка, што ты нарадзілася не ў свой час. Цяпер усе стараюцца праявіць сябе, заняць нейкае пэўнае месца ў жыцці, нешта зрабіць для сябе, а ты... Нібы ў цябе і ня-

ма свайго жыцця, толькі пра іншых і думаеш. Табе б сястрой міласэрнасці быць. Ідэальная сястра была б. Ты ж проста не можаш, каб не няньчыцца з якім лайдаком... Хутчэй бы ты дзіця нарадзіла, можа, болей пра сям'ю думала б, а не пра чужых.

— Я ж педагог.

— Я таксама педагог.

— Ты? — глянула праз плячо на яго насмешліва.— Ты ведаеш, які ты педагог? Ты з тых педагогаў, якіх у хуткім часе заменяць машыны. Ты ж зайшоў у аўдыторыю, адчытаў і пайшоў. Механічная перадача ведаў. Семінарскія са студэнтамі праводзіць твой асістэнт... А ў школе мы не толькі вучым, але і выхоўваем.

— Гэта добра, што ў нашым інстытуце няма такіх, як ты,— засмяяўся Васіль.

Была сонечная зыркая раніца. На каштанах карабацілася парыжэлая лістота. Свяціліся клёны празрыстай жаўцізной. Нерухома, у нямой яшчэ зялёнай астыласці драмалі таполі. На траве ляжаў іней. Там жа, дзе не было ценю, куды заглядвала нізкае сонца, трымалася цяплынь як успамін пра лета.

Былі апошнія дні кастрычніка.

Паліна і Васіль ішлі пехатою. Час у іх быў, ды і прыемна было падыхаць ранішняй свежасцю.

— Можа, пад'едзеш тралейбусам? — спытаўся ён у жонкі ля інстытута.

— Не, пайду,— сказала яна.— Зайду яшчэ ў магазін — букецік куплю...

— Ну, а я пайшоў механічна перадаваць студэнтам веды,— ён усміхнуўся, потым прыхінуў яе да сябе і ўжо наўздагон параіў: — Ты ж глядзі, не вельмі хвалюйся там...

Паліна з букетам ружовых асенніх астраў праходжвалася па пероне вакзала, часта паглядваючы на вялікі белы гадзіннік, што вісеў над уваходам у падземны тунель.

Паказаўся цягнік. Спачатку гэта быў чорны прамавугольнік, які хутка павялічваўся, набліжаючыся. Потым паказаліся зялёныя вагоны.

Спачатку вокны мільгалі так, што нельга было ні на адным з іх спыніцца позіркам. Але вось скрыганулі тармазы, вагоны спыніліся. У дзвярах паказаліся правадніцы...

Паліна Сямёнаўна ўбачыла сваіх. Вучні стаялі ў пра-

ходзе. Ці не выспаліся, ці стаміліся, ці былі засмучаныя, што вяртаюцца без перамогі. Нейкія панылыя, сумныя. Першым на прыступках паказаўся Іван Баркун. Заўважыўшы Паліну Сямёнаўну, ён радасна крыкнуў:

— Класуха!

Было відаць, як школьнікі ўскалыхнуліся, заспяшаліся да выхаду. А потым сыпаліся з прыступак як боб у абдымкі свае настаўніцы. Яна раздавала ім кветкі, цалавала іх у такія зіхатлівыя вачаняты.

Паліна Сямёнаўна і не заўважыла, як выйшаў з вагона Сяргей Іванавіч, нечакана апынуўся перад ёй, паднёс букет руж.

— З Крыма вязём. Прывялі, але ў халоднай вадзе адыдуць.

— Мне? Хіба я?..

— Вам, Паліна Сямёнаўна,— схіліў галаву Сяргей Іванавіч.— Вялікі дзякуй вам! За дзяцей, за тое, што вы ёсць!..

ЗМЕСТ

*Леонид Иванович Гаврилкин*

**УРОК БЕЗ ПЕРЕРЫВА**

**Повести**

Для среднего
и старшего школьного возраста

Минск, издательство «Юнацтва»
На белорусском языке

Рэдактар *С. С. Панізнік*
Мастацкі рэдактар *У. М. Жук*
Тэхнічны рэдактар *Г. Ф. Дуброўская*
Карэктар *Л. С. Зіза*

ІБ № 462

Здадзена ў набор 04.09.84. Падп. да друку 07.01.85. АТ 07012. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 9,24. Ум. фарб.-адб. 9,55. Ул.-выд. арк. 9,66. Тыраж 12 000 экз. Зак. 706. Цана 40 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Гаўрылкін Л.**

Г 24 Урок без перапынку: Аповесці. [Для сярэд. і ст. шк. узросту/ Маст. А. А. Крохіна].— Мн.: Юнацтва, 1985.— 173 с., іл.

40 к.

Кнігу складаюць два творы. У аповесці «Рыжая лісіца» расказваецца пра вучобу дзяцей у першыя месяцы пасля вызвалення Беларусі ад фашыстаў.

У аповесці «Урок без перапынку» аўтар раскрывае сучасныя праблемы школьнага выхавання. У спартыўным класе адной сярэдняй школы адбыліся важныя падзеі. Для адных герояў галоўнае — паказчыкі, рэкорды. Другіх хвалюе, як змены ў класе падзейнічаюць на характары дзяцей. Таму што выхаванне не заканчваецца пасля званка, выхаванне — без перапынку.

$Г \frac{4803010200-048}{М 307(05)-85}$ 63—85

ББК 84 Бел 7
Бел 2

**Мінск**
**«Юнацтва»**
**1985**

---

**КНІГІ**
**ДЛЯ СЯРЭДНЯГА**
**ШКОЛЬНАГА ЎЗРОСТУ**

---

*Місько П.*
ГРОТ АФАЛІНЫ
*Аповесць*

*Камейша К.*
БУСЛЯНКА
*Вершы і паэма*